**Лукаш Калюга**

# Ні госьць ні гаспадар

*Аповесьць*

V

Заўвідна ўстаў Ігналя. Зачэрпаў кубак воды, памыўся, уцёрся й пашоў ў вадрынку Хвядоса будзіць.

Гумно толькі пазаўчора як скошана. Сена нанач былі ў копы зла-жылі. Памацаў Ігналя адну-другую капу: ці ні сагрэлася? А яно хоць-бы што! Толькі пах сенажатні чуваць: чабаром, купальлем і рознымі другімі краскамі.

Жанкі яго высушаць за дзень.

Дзе сьцежкі таптаныя штогоду, там каса ня возьме малой травы — муравы ды трыпутніку. Цяпер яны па пакошы зялёнымі межамі ад варот да кожнага будынку разыходзяцца па гумне, а самая шыршая з іх, зрэзаная глыбокімі каляінамі, вядзе на навозы ды адтуль на сядзібную ніву й паваротка на пыльную папярочную сьцяну. Цяпер на сьцежках дробная раса. Босыя ногі прыемна адчуваюць слабы халадок.

— Хвядос!—клікнуў Ігналя, тузаючы варота.

Адказу ня чуваць.

— Хвядос!—мацней гукае, стукае кулаком.

— Хто там?—пытаецца голас з адрынкі.

— Зараз!—мацней кажа, раскурстаўшыся.

— Ня зараз, а ўставай! Барзьдзей-жа! . Кабылу на пашу завядзі.

Зашастала за дзьвярыма салома. Чуваць—пазяхнуў. Тады падаліся дзьверы ў сярэдзіну. З грукам выскачыў крук з прабою. Адчыніў Хвядос адну фортку дзьвярэй. Ідзе гумном паціраючы вочы, а яны -- неслухі спаць хочуць — позна ўчора ўвечары з вуліцы прышоў.

З двара чуваць, як бацька косы клепле.

Узяў на вобраць кабылу. Памалу паехаў.

На дварох дзе-ні-дзе праходзяць адзінокія сонныя мужчыны, хлопцы, кабеты... Наперадзе ў Хвядоса выехаў з двара малы на сівым кані з гарчыцаю ў адзнаку старасьці. Сьцішка на язык вытылінгуе сам сабе пад нос нейкую гульню, чутую на вясельлі ці дзе на зборні маладзяжу. Толькі з вуліцы ў пагонку выехаў Хвядос, пераваллок путам каштанку па рэбрах і патрухаўся. Ззаду пакінуў малога. Напаткаў двух мужчын. Пораўне едуць яны і жарабята пры боку на вобратках вядуць. Мусіў і Хвядос цішэй за імі паехаць. Паабапал пагонкі, пораўне з ёю йдуць нівы рознай шырыні ўдаўжкі да самага балота. З правага боку блішчыць на сонцы росны авёс. З левага—палетак мяшанага збожжа: там і бульба, і ячмяні, гарахі, віка й усякая рознасьць на патрэбу гаспадару.

Спуталі коні ля самай пагонкі. Пастух пачародні гэты раз вораней на балота свае коні прывёў (што варта ў газэты запісаць, як вялікую рэдкасьць).

Дамоў іці сабраўся гурт. Вядзе перад Ігналя (ня Хвядосаў бацька, а той, што з канца ля самай пагонкі жыве). У шарачковай капоце,

трымаючы рукі ў кішэнях, спаважня пэхкае ён папяросу. Калі-ж толькі ззаду зачынаюць гаворку пра цікавае што, дык паварачваецца бокам і на хаду выказуе, што мае. Толькі ногі, хворыя на раматус, ня высока ў гору йдуць. Тонкім туманом ідзе пыл з-пад іх ды за плот на аўсы сьцелецца.

У гурце адзін мужчына казаў, як яму надарылася на соннага зайца найці, а той:

— ... Калі гальдане вышай маей галавы, ды кулём на балота ў хмызьнёг...

З пагонкі ўсім гуртам, апрыч канцавога Ігналі, павярнулі на навозную сьцяну, што каля самых гумён. На гумне вышчыкнуў Хвядос з грады тры пярцы цыбулі й еў, ідучы да хаты. Па ўсёй вёсцы з комінаў валіць густы дым. Ад суседняй хаты вецер сьцеле яго па Чвардоўскіх гумне.

У хаце маці ломіць лучыну на чатыры часткі кожную, у печы ёю толькі што падпалюе. Ксеня з злосным адбіткам недаканчанага сну на твары, наравіста ададзьмуўшы губы, скрыляе скрэбеную бульбу ў гаршчок.

Хвядос адкраіў скібку хлеба, разламаў яе на чатыры часткі ды ў кішэню кладзе.

— Бацька не казаў, куды пашоў?

— Хто яго ведае—не казаў.

А Ксеня мацеры паправіла:

— Пад рэчкаю, татка.

Зьняў з шастка пад хатаю толькі што паклёпаную касу. Ускінуў на плячук і пашоў вуліцаю.

Чэрвень месяц настаў. Самая касавіца. Пякучае сонца ня сушыць потных кашуль на сьпінах касцоў. Сенажаць кішыць людзьмі. Куды ні зірні—там і касец. Адзін касу запускае ў мурог. Другі меньціць, толькі звон наўкол ідзе. Хто спазьніўся прыці, ставіць тычкі па межах, роўную сьцежку, як пад шнур, вытоптуе ад суседа. З рэчкі чуваць, як плюхае нехта купаючыся. У беразе на кустох дробнага алешніку вісіць, сохне нейчая адзежа. Мяняюцца у ваччу рознакалёрныя кашулі касцоў. Збоку відаць саламяны Мікалаеў, Хвядосавага сябрука, капялюш.

Ігналя скінуў на першы пракос сваю, у блізны тканую, кашулю. У ваднэй белай сарочцы, расшпыліўшы прушчыновыя каўнерчыкі й каўнер, завіхаецца каля сваей паласы. Да Хвядосавага прыходу шэсьць пракосаў прайшоў быў.

А потым—бацька йдзе наперадзе. Хвядос за ім. Удвух і баржджэй і ахватней. Раса ʻшчэ ня спала, дык лёгка касіць. Слова не прамовіць Ігналя,—толькі, як заходзіць, каб новы пракос заняць, дык зірне на сына, лёгенька зварухнецца вус ад усьмешкі. Паменьціць касу ды зноў за сваю працу бярэцца.

На тры качаргі сонца ўвысь узьнялося, як зглядзілі касцы Ігналіху з спарышамі ў ваднэй руцэ й невялікім вандзэлкам у другой. Нясе жанка́ сьняданьне. Зварачуе з дарогі на сьцежку, утоптаную па сенажаці. Дае таму-сяму, хто бліжэй к сьцежцы.

— Памажы божа!

Падышла к сваім. І ім кажа тое самае пажаданьне.

— Дзінькое!—адказуе Ігналя.

Яна ставіць спарышы ля пракосу. Побач з імі кладзе касьцёр бліноў, увязаны ў скарач.

— Хадзеце мужчыны сюды!—кліча. і

— Пракос хаця скончым,—адзываецца Ігналя. 'Шчэ разоў кольк замахнуў касою. Абцірае на ёй прыліпшую траву—драбязу ды кладзе на пракос.

Падыходзіць бліжэй.

— Што ў цябе тут ёсьць?

— Зацірка й яечня.

— Разьвязуй!

Усьлед за бацькам, паўтараючы яго рухі, моўчкі падыходзіць к спарышом Хвядос.

Ігналіха пазірае ўсьцяж свае паласы, азіраецца назад. Дрыжаць яе блядыя шчокі, шырай рассовуюцца.

— Але-ж вы й многа аблажылі! Да паўдня маеце да рэчкі пракасіцца?

Ігналя адказу не дае. 'Шчэ й сам прамярае на вока: праўда гэта ці не?

— Чаму-ж не?—скосім,—харобра пацьвердзіў Хвядос.

Гэта самае й бацькі хацелі казаць.

Прыляглі касцы наўкола стравы. Збоку сядзіць Ігналіха ў сінім паркалёвым каптане, на тым тыдні набраным у местачковым коопэратыве, пакручуе ў руках цыбінку травы-званца. Вецер кудлачыць кароткую польку на гналевай галаве. У спарышы з яечняю хутка дно стала відаць. Асталося 'шчэ чатыры бліны й дзьве палавінкі. На зацірку гарт адсеў. Павальней ходзяць лыжкі, ня з сьпехам сёрбаюць.

— Ну й гарачая!—толькі што з печы, мусіць?

— Але-ж! Засланку засланіла ды панесла.

— А Хвядос злосьці набраўся, пакуль сьняданьня прычакаў,—сьвеціць бацька кплівымі вачыма ў сынскі бок:—Аж дрыгва ля канавы ходарам ходзіць, гэтак бярэ.

— Гэта-ж я, каб за вамі пасьпець: надта-ж вы жвавыя!

Ігналя сьмяецца.

— Добра! добра, сынку, йдзецца ў нас. Збоку зірнуць—любата. Глядзі-ж, каб гэтак і надалей было.

Ня шырок, але довяг прасьцяг Чвардоўскіх сенажаці.

— Гэтакая дэўж!..—кажа Ігналя.—Ахвота шыбе пры дружнай рабоце. Дзе-б я адзін насілу-насілу да вечара пракасіўся к рачной луцэ, ато да павудня гуляючы сапстрыкаем.

Уцеха бярэ старых, што лад ёсьць у гаспадарцы. Здаецца Ігналісе, што яна сама мужыковы словы гаворыць.

Па сьняданьні падабрала рэшту стравы. Ідзе дамоў, мінаючы пракосы, й так аж пакуль за густым плотам жыта не хаваецца яе шэрая хустка.

Па сьняданьні прыляглі касцы на ўзлакотках адпачыць, выбраўшы сабе сухі грудок. Пракосы агарнулі іх. Там яшчэ сочны мурог, званец, белыя краскі-купальле, а радзей—прастрэл. Скачуць жвавыя конікі рознага колеру: большыя, даўгалыгія—зяленыя, а што драбнейшага сорту, дык тыя рудыя, як руда на балоцістай сенажаці ў равох. Па зямлі, у сене поўзаюць, варушацца масьці рознай і йменоў, ато й проста мошкі ды й толькі. Ад дарогі, 'шчэ зялёнае, але ёмкае ў саломе й ядранае ў коласе жыта пад павевамі ветру шуміць, думы навявае рупнаму гаспадару...

## VI

Сабрацца першы раз на рэпэтыцыю было назначана ў суботу ўвечары на гэтым тыдні. Прыстарацца патрэбных кніг падрадзіўся Хвядос. Гэты яго абавязак і ў пратакол завялі.

— Схадзем, Бладзік, у чытальню да Камлёва!—сказаў ён аднаго разу ў прысьвятак Мотузу,—можа тамака й расстараемся чаго. Аднак час ёсьць.

Той памяркаваўся. Сена сушыць ня было. А ад хатняй работы льга адкасьніцца на адзін дзень. Падумаў ды й кажа:

— Пойдзем!

Да Камлёва дарога невялікая: усяго восем вёрст. Што значыць на маладыя ногі? У гаворцы прайшлі, як прабеглі.

На чвыраватай камлёўскай вуліцы каб душа дзе была! Няма ў каго хлапцом папытацца, як у чытальню патрапіць. І ў хату к каму зайсьці ня добра. А тут, як на ліха: выткнецца дзе хто з двара, праскочыць на другі бок вуліцы ці ступіць у дарогу хлапцом крокаў колькі й прападзе за вуглом незнаёмае хаты.

Ідуць яны ды па бакох разьзіраюць:

„Ці ня будзе якой запаметкі?“

Бачаць—вывеска белым па чырвоным напісана: ~~БССР~~, Камлёўскі сельскі савет.

— Зайдзем папытаемся.

— Давай!

У савеце гурт мужчын каля стала трэцца. Нізенькі, чарнамазы, з суконнаю жакеткаю на апашку, хлапец сьпіраецца пра свой інтарэс:

— Ну добра!.. Добра! Сенажаць абчэсьцьвеная?

— Абчэсьцьвеная!—сьцьвярджае сельсаветчык з-за стала.

— Дзяліць трэба на бедных, а ніякім там цясьцём, кумом...

— Братка!.. дзе-ж ты ўсім?..

— А я хто? Ну хто я?- ня бедны? Калі карову аблезлую й канядэрбу маю ды зямлі тры дзісянціны, дык ня бедны я?

— Ну, трэба!.. і табе трэба!.. Але-ж сенажаць не гумаляст—не расьцягнеш,—хрыпіць сельсаветчыкаў голас. Абрыдала яму. Каб адчапіцца, выпраўляе хлапца:—Ідзі, братка, з сваімі справункамі ў камітэт узаемадапамогі. Ён-жа старшыня ~~бядняцкі~~, абаронца ваш.

Другі маладзейшы крыху за яго збоку сядзіць. Піша нейкую карталюшку памерам—як скруціць чатыры разы па памяркоўнай папяросе. Пад локцем „Справа № 14~~“ аднасьнікі з РВК“.~~ Да таго яна напакована. што абы крануў з месца, дык і пасыплецца папяровая мяцеліца. Да маладзейшага сельсаветчыка й падступіліся жыздрыцкія хлопцы. Пытаюцца:

— Дзе гэта ў вас чытальню знайсьці?

— Цераз сенцы ў другія дзьверы,—коратка адказаў. Ужо хлопцы й паціснуліся паміж людзей, каб выйсьці. Хвядос за нечым паправіў у хлапца брыль. Ажно пісару нешта ў галаву прышло. Ля парога заўняў іх сваім запытаньнем:

— Адкуль самі?

— З Хатні~~цкай~~ныч ~~ячэйкі касамэ.~~

Гэта пачуўшы, к ім абярнулася некалькі цікавых галоў з натоўпу. А дагэтуль і ня бачылі! І што-ж? Хлопцы, як хлопцы. Зірнулі й адвярнуліся ў другі бок.

Цераз сенцы ў вялікім кáмары, абстаўленым каля сьцен доўгімі 'шчэ не замурзанымі зэдлямі, загадчыка чытальні яны засталі ядучы. Густая пара з міскі фіранкаю захінала яго твар.

Прывіталіся хлопцы. Часу не марнуюць. Адразу кажуць, чаго прышлі.

— П'ес хочаце растарацца? Ёсьць!.. ёсьць у нас крыху.

— Ці нельга-б было выбраць?

— Чаму-ж не?! Чудныя вы! Дам тыя, што самі ставілі.—Гэтак гаворачы спаражніў міску. Тады адчыніў шафу й паставіў міску ўнізе, разам з вокладкамі ад кніжак рознага колеру й памеру. Потым парыўся на высшых паліцах. Дае на выбар дзьве кніжкі „сцэнічных твораў". Адну, больш пакудлачаную, дзе у п'есах менш людзей бярэ ўдзел, і п'есы самыя карацейшыя, Хвядос адлажыў сабе.

— Гэту возьмем.

— Дык трэба запісаць. Як прозьвішча?—пытае, расстараўшыся алоўка й паперы.

— ~~Гэта на ячэйку~~.

— ~~Дармо! Трэба на таго, хто бярэ~~.

Потым пытаюцца хлопцы:

— І ~~сабе~~ мне можа можна ўзяць што?

— Чаму-ж не?! Можна. Толькі, чорта!.. Няма добрага нічога. Вось якое стар'ё!—стаў перабіраць адну паліцу. А тамака: некалькі рудых, што кара альховая, брашур. ~~выданьня Заходняга камітэту РКП з 1918-19 гадоў~~. Трохі кніжак—бліноў з зашмальцованымі лістамі. А пачынаюцца каторая на дванаццатай старонцы, каторая на дваццаць сёмай. Гэтулька сама не хватае й з канца. Самая лепшая й чысьцейшая сярод іх „Думкі аб рэлігіі" Сьцяпанава.

— Можа, каб пакапаўся, дык і знашоў-бы што. Але, чорта!—паразьбіралі,—жаліцца загадчык, перакідаючы сваю мізэрную бібліотэку.—Ня ўловіш у чытальні ніводнай. Калі прынясе каторы здаваць, дык з ім прыходзіць і другі, што ўзяць ахвотнік.

Узяў загадчык у рукі адну іржавую брашурку. Пакруціў. Паглядзеў. Ды папусьціў уніз, дзе міску толькі што паставіў. У яго руках папера мела трохі кніжную форму, а зьляцела ўніз мяцеліцаю, абсыпала міску па лістку.

— Толькі гэта балота й засталося,—у той бок рукою павёў, гэта кажучы.

— Выбірайце самі!—дазволіў хлапцом.

„Думкі аб рэлігіі" ды 'шчэ па пары ўзялі яны сабе. Загадчык перш Хвядосавы запісаў, а потым у Бладзіка пытае:

— Як цябе па прозьвішчы зваць?

Бладзік добра адказаў. Зірнуў на запісы, Хвядоса локцем у бок таўхануў. Скіўнуў галавою у загадчыкаў бок. Неўзапаметку ўсьміхнуўся. Толькі Хвядос у гэтым не разабраўся. Бладзікавых знакаў не зразумеў.

Калі-ж загадчык папытаўся, адкуль ён, Бладзік упэўнена адказаў:

— З Хатнікаў.

Хвядос ужо быў і рот адчыніў, каб паправіць яго. Думаў, што Бладзік не дачуў. Загадчык вёскі пытае, а ён яму адказаў якога сельсавету. Ды заўчасьне Бладзік яму даў зразумець. Локцем гэтак пад бок пачаставаў, што аж калацьцё закалола. Падмаргнуў—маўчы!

Толькі дамоў ідучы ўжо ў паўдарогі ўспомнілі пра гэта.

— Я сваіх кніжак не панясу здаваць.

— Ат!.. каб што добрае. А ўрэшце, ты думаеш, што калі вёскі не сказаў, дык і ня знойдуць?

— А ці-ж я—Котуз?

— Ён гэтак запісаў?

— Але.

— Малайчына, Котуз!—засьмяяўся Хвядос, а за ім і Бладзік.

Вырагатаўся ён ды й кажа:

— Дармо! Чорт казны ня возьме. Ды хай і сам дурань ня будзе. Трэ' было-б яго ня гэтак навучыць. А мы вось зьбяром крыху сякіх-такіх кніжак ды ў Жыздрыцы сваю чытальню зробім. Чорт яе бяры з ячэйкаю.

— Хіба чырвоны куток? Не разганяйся ты вельмі!

— Хай сабе й куток... Ня ўсё адно!?

— Паглядзім потым.

— І глядзець няма чаго.

Прычакаўшы суботы й павячэраўшы, ахінуўся Хвядос у свой картовы фрэнч. Зьняў з трамы „сцэнічныя творы“. У лямпе падкруціў агонь.

Ігналя схадзіў замкнуць хлеў. З ключом вярнуўся ў хату. Бачыць—зачытаўся сын.

„Пэўне, нешта цікавае, калі гуляць ці спаць ня йдзе“—падумаў і спаважна пашоў к ложку.

А той прагледзяў з большага „Зьбянтэжанага Саўку“—п'есу з зборніка. Скруціў кніжку ў скрутак, як у кішэню ўлезьці, уваткнуў яе ў штаны. К дзьвярам падаўся.

— Куды ты?

— Выйду дзе...

— З кніжкаю... поначы?..

Тымчасам Хвядос апыніўся ў сенцах. Бацькавых слоў не пачуў і адказу ня даў.

Аддаў „дабрывечар“ на вуліцы двум гуртом маладзяжу, а сам джгае далей.

— Куды сьпяшаешся?—папыталіся былі з аднаго гурту.

— У вадно месца.

— Зайдзі сюды!

— Нямашака часу... потым!

К Мотузавым за агнём прышоў. На ложку ў запяку сядзіць стары Мотуз, Бладзікаў бацька. Пакурує пяпяросу ў доўгім папяросьніку. Мотузіха з вілкамі палезла ў печ па гаршчок. Бладзік сядзіць у канцы стала. Спусьціў галаву на булку хлеба. Падапёр яе кулакамі. Шапку на вочы насунуў: нечага надзьмуўся. І жакетка на яго плячох накінута.

— На, злосьнік, еж, ды йдзі сабе, куды зьбіраўся,—прагаварыла да яго маці. Паставіла міску стравы пад самы нос. У століку знашла лыжку й палажыла яму пад рукою. А Бладзік—каб крануўся!

— Бадай на цябе ўпадак!—жартам скляла Мотузіха:—што ты шчырым постам наважыў гэту суботу спасьціць, ці што? Калі канечне наважыў, дык трэ' было-б учора, як пятніца была, а то ўчора скароміліся, а сягоньня—пост у цябе. Гэта-ж ні перад Вялікаднем: богу даходна ня будзе! Еж! На нас не ўважай. Нам хваціць часу. Трэба 'шчэ картоплі ў куцьцю наскрэбці й у бліны садраць. Сёрбай ды бягай, куды табе трэба.

— Адыйдзеце, к чорту!—ні з таго, ні з сяго голасна рыкнуў Бладзік пэўне, на навозах чуваць было, а што на вуліцы—нізаводня. Падняў вышэй галаву. Нямашака яму, на ком злосьці спагнаць. Грозным поглядам абгледзеў усё, што было наўкола. Бачыць—міска стаіць пад рукою. Капянуў яе, што доле аж на сярэдзіне хаты апынілася.

‘Шчэ добра, што ліміневая была, а то-б на друзы пасыпалася; каб гліняная, і чарапкоў бы не сабраў. Усьлед за ёю й лыжку папусьціў... пацяклі па гразкай падлозе белыя рагі забеленай куцьці. Кошка-рыска счула пажыву, кулём кінулася з печы, каб зьлізаць. І ўсё гэта ў вадзін момант.

— Каб ты здохла! — у другі раз рыкнуў Бладзік. Раптоўна саскочыў з лавы... так капянуў кошку нагою, што тая пабіла бок аб парог і супэнду перш кінулася ў дзьверы, ня ведаючы, дзе дзецца, а раскурстаўшыся, драпянула, як ногі вынесьлі, у куток пад ложак.

Што больш рабіць ня ведае Бладзік. Хвілін тры прастоіў сярод хаты. Шырокімі вачыма, бачачы адну-адным белую пляму на падлозе, паглядзеў на міску, на разьлітую страву. Унурыўся і памалу пашоў к сталу. Сеў на ранейшае сваё месца. Зьвесіў галаву над абрусам укрытаю булкаю хлеба.

Не чакала гэтага Мотузіха. Не затым закідала жарты яна. Думалася старой, што разьвесяліцца Бладзік перад чужым хлапцом і ня ўдасьць, што хатняя спрэчка ў іх гэтак зацята йшла ад самага змроку. Надзеі потым не траціла... Як была, гэтак і скамянела, трымаючы ў адведзенай у бок руцэ хвартух, каторым бяруць гаршкі. Само па сабе вырвалася з грудзей:

— Во-о!..

Стары як сядзеў, так стаіць. А калі ўстаў ні напамкі нікому. Выпрастаўся, быццам з-за людзкога натоўпу хоча зірнуць, што наперадзе робіцца. Злосна на сына глядзіць. Пусьціў дыму, колькі ў роце льга было зьмясьціць, як зацягаваўся. Тады давай сварыцца:

— Добра, сынок! Старайся! Але дзе-ж цябе дзець, кабыліна, пасьля гэтага?!.

Карцела й Хвядосу нешта сказаць. Ні ў старых—ні ў Бладзікаву руку, а так... каб да міру ўходзіла яго слова. Рупіла ўткнуць язык у чужую кашу. Ды адумаўся.

„Не праз мяне пачалося, не канечне мне й цешыць“.

Змоўчаў. І добра зрабіў, бо не на сьмех распачалі.

— ...пад‘еў!.. пад‘еў!.. сваё, дзяўбла старая.

І стары разбубніўся, як мае быць: сыпаў лаянкі, праклёны...

— ...чаго табе трэба ад нас? Ідзі к чорту з маёй галавы. Ня дуры яе. І так яна надурана. Ідзі, каб і не сьмярдзеў тут на гэтым грунце, на праклятай Мотузаўшчыне. Бачыш? — разбухаўся!.. Нейкай яму халеры трэба! З ядою хаваешся ад яго... ня добра садзяеш... Гад ты кручаны!.. кабыльнік ты! Ня сьцягуйся з дому без пары. Садзіся за стол... вужака ты!.. ды еж тое, што маці нагатавала. А дзеля цябе ніхто гаршкоў асобных ставіць ня будзе, не захоча дроў дарма паліць. Многа ты іх навазіў?! Каб цябе на могліцы вывезьлі! Ды ня чакай, каб на могліцы!.. на выгане, як сабаку валачашчага, дзе завернуць. А садзяваць. . Сам бачыш... Каб ты сьцежкі ня бачыў! каб панавалакала! каб панацягавала!.. ня ў шоўку-ж ходзім.

— Агні вас хай спаляць з вашым з усім!!! праз сьлёзы кажа, але голас моцны ў Бладзіка. Нехта вуліцаю йшоў у гэты час. Заўняўся. Паслухаў і далей памалу пасунуўся.

Потым Бладзік:

— Эх-х!—сашчапіў зубы.

— Чаго-ж усхадзіўся?!—харобра ступіў стары Мотуз на два крокі бліжэй к сталу.—Зараз гукну людзей. Зьвяжым рыштанта.—Сышліся бровы ў яго над пераносіцаю. Глядзіць на сына, што грош дае. Ня жарты

былі дагэтуль, а цяпер саўсім у сур'ёз увашло. Усхваціўся й Бладзік. Грудзі наперад і правую руку адвёў. Адно слова толькі патрэбна і ў загрудкі ўзяцца гатоў.

У мацеры сьлёзы... коцяцца па бабовым каляве. Выцірае рогам хусткі мокрыя вочы свае. А яны не высыхаюць.

— Хай цябе аднаго, сынок, пяруны спаляць дзе сярод чыстага поля, водалей ад добрых людзей.

І ня ўважыў-бы Мотуз. Але жончын плач... Узяў на яго ўвагу стары. Асядае гарт яго злосьці.

— Ды вельмі й не разбухавайся! А то як пайду ды заяўлю, дык ураз рыштанта забяруць. Нябось! на бацьку лепшая паверка.

— Ня той час. Скулу табе..

— Чуеш, маці? Скулу сынок зычыць.—Злосны сьмех дрыжыць на яго губах.—Што садзяваў яго, што карміў, на руках насіў малога... во!—маеш.

— А чаго-ж ты надта?!—усхапіўся Бладзік зноў на ногі. Твар парабіўся на пляшы: шатанская злосьць яго шыбе.

— Патыкаўся рубля не прапіўшы!—усё ня сыходзіць з бацькавага твару дрыгучы сьмех.

Дваіцца агонь у Бладзікавых вачох. Зноў сеў. Узапёрся на булку хлеба.

Папытаюся: хто, разам у ваднэй хаце жывучы ня сварыцца пры нашай бытнасьці? Аб'едзь—абыйдзі ўсе вёскі Беларусі нашай і ня знойдзеш таей хаты, дзе-б злагада штодзень была. Спрачаюцца, сварацца... ды ўсё сьцішка, каб у чужыя вушы ня ўнесьці хатнія сьпіраньні, каб не разбрахалі людзі, ў дзесяць столак далгаўшы. Раззлуюцца, разбрэшуцца бывае, у далёкае—трацяголедняе палезуць успамінаючы. А скрыпне хто дзьвярыма—і сьціхнуць. Потым, калі чужы ўвашоў, маўчаць сьціхатою, а як свой—вінаватага нанава пачынаюць шукаць. Кожан сам за сябе апраўдаецца. Пачынаецца сварка зноў. І ў Мотузавых гэтага ня купіць. Сварыліся ды й ці раз, а назаўтрае забіваліся й злагадна жылі. Толькі ў апошні час мае Бладзік закалец на Зьмітру, старэйшага брата свайго. Разьеліся адзін на аднаго, што каты. Малячка што, дык і выкідаюць на вока. І гэты вечар пачалося з Зьмітром, а з бацькамі канчаць Бладзіку давялося.

Ды збрыдала яму слухаць бацькава спавяданьне—брахню. Так і карціць: ой, даў-бы!.. Ды трэба ўважыць. Як сабе ня было, а бацька яму прыходзіцца.

— Н-ну!—скрыгнуў ён зубамі й пайшоў на двор. З усяе сілы калі бразьне дзьвярыма за сабою зачыняючы, што аж вокна звонам сваім паўтарылі, заматлялася лямпа над сталом.

— Зубамі, кабыліна!—прасоп бацька, як пасьля цяжкай працы.

— Бладзік, Бладзік, што ты гэта людзей сьмяшыш?—апомніся ты,—аказалася маці.

А ён адазваўся з сянец:

— Хвядос, ідзем!—і апошнія дзьверы зачыніў 'шчэ шчыльней, як перша.

Хвядос усхапіўся з лавы. Борзда рушыў к дзьвярам. У парозе яго за рукаў сутрымала Мотузіха.

— Бачыў, што робіцца?—зірнула яму ў вочы, папытаўшыся, як-бы вінаватая была.

— Што-ж?—пацiснуў ён плячыма.—Я тут ні пры чом! Ня ведаю, што й сказаць вам на гэта.

— Яно гэтак чужому чалавеку.

— Самы бачыце.

На дварэ, узапершыся на варота. яго Бладзік чакаў.

— Дык гэта вайна ў вас сёньня?

— А маўчы ты!

Ідуць у садок цераз вуліцу, а адтуль на сьцежку па загародзьдзі ды ў Хатнікі. Бладзік—наперадзе, Хвядос—за ім. У Мотузавых садок невялічкі: усяго два рады дрэў. па сярэдзіне сьцежка. Вялікаваты хто йдзе сюдэю дык і ўгінаецца, каб не зачапіцца ды вачэй не павымаць. Кучарыстыя яблыны пасплятала гольле. Ігрушы—тычкі над імі. А ўнізе ў зацені мучаная трава. Касу ў яе запусьціць і думаць няма чаго.

— Хвядос!—вось дзе салодкая!—сьпераду заве Бладзік, сышоўшы з сьцежкі на бок. А сам тымчасам завіхаецца кішэні напіхаць.

— Каб цябе халерая! Што ты з іх пажывішся? Гэта-ж завязь яшчэ

— Чорт яе бяры, што завязь. От рві!

Бліжэй падыходзіць Хвядос. Поўна гальля пад яблынаю. У ногі муляецца.

— Кінь, Бладзік! Ты, дык—ты, а й на мяне будуць маракаваць.

— І... іх мацьі Я ім пакажу.

— А ну цябе! Я пайду адзін.

— І каціся к чорту на вячэру.

Хвядос пашоў. Ды зараз чуе—Бладзік гукае астаўшыся:

— Пачакай, я йду.

Заўняўся. Азірнуўся назад. Бачыць—нечага порыцца той у сьцірце кулёў, што страхою суседняга току. Па плячо ўсуне руку ў вадно месца, у другое, а ўсё нямашака таго, чаго трэба.

— Прапала—у голас Бладзік падумаў.

— Што прапала?

— Штучка адна.

— Украў нехта?

— Украсьці ня ўкраў, але ціхенька ўзяў—жартам сьпярша Бладзік адказаў, а потым:

— Н-ну!—сашчапіў зубы - папомніш! .

Хвядосу цікавасьць: нешта-ж было там! Карціць, каб вынайдаваць—што.

— Можа, я ў каго тваю штучку бачыў. Скажы, што за яна!

— Глупства.

— А такі-ж што?

— Адразанка ў мяне тамака схована была. Адабраў яе летась на Пятра ў Чыпаўскага хлапца.

— Спрытны ты хлапец!—пахваліў Хвядос.

— А чаму-ж не?!

Мінуўшы брод, стаў Бладзік расказаваць, як гэта было:

— Пашоў я на Пятра ў Чыпаўшчыну. Тамака фэст у гэта сьвята. З фэсту пазвалі сваякі ў госьці. Трохі падчубэрыўся я ў іх. А ўвечары ў ваднэй хаце музыку зрабілі. Зайшоў і я туды. Перш ішлося ўсё як трэба: іргалі, гулялі. А потым і сашчапіліся ў двух хлопцы за гулі. Адзін быў закамандаваў польку йграць. Ня даўшы й зллажыцца музыку, падбягае другі раскол. Хвайт за цымбалы зьверху рукою. „Іграй мне казака!“ крычыць. Ды й той, што польку йграць загадаваў, хлапецні прамах. Гэтага загрудзі ды поўху. „Сядзь—кажа—сысун!“ А гэты яму назад смальнуў. Той ямчэйшы, потым—удвая аддудзенчыў. Што казака хацеў, у зад падаўся. Бачыць—крапок не́прыяцель. „Сюды, хлопцы!

На помач!"—давай сяброўстваззываць. Ды й полячнік растаропны па гэтай часьці. Смаргануў сяго-таго. „Знай дзела, паможаш, калі не паўздужаю". А сам як у воду пашоў: недзе прапаў у людзях. Неўзабаве вярнуўся назад. У руках адразанка. „Разыйдзіся,—гукае: а то зараз мяса нараблю". Ды ўсё гэта на маіх вачох. Бачу—файная штучка ды ў дурня ў руках. Кароценькая такая (самы раз пад крысо ўзяць), з прыкладам, магазыннаю скрынкаю... Усё як мае быць! „Каб гэта мне падхваціць?" думаю. Ды ўсё роўна як хто шэпча: адбяры! І не адважуся: 'шчэ зубы паб'е. Урэсьце расхрабрыўся. Папрабую!, што-б там ні было. Можа-б гэтак і не зрабіў, каб ад сваіх вышаў цьвярозым. Добра там падчубэрыўся. За стол не пашоў: „Ня п'ю, кажу—~~я камсамолец~~"! Але дзядзька на выхілкі здацен. Скеміў, як мне пасуліць. Трохі пачакаўшы, за мяне ды ў кухню. „Пойдзем,—кажа—пагаварыць. Я нешта маю да цябе". Ня ўпіраюся, йду. Тады ён карафінку з паліцы. Наліў. Абяцае да мяне. Пробаваў я адказавацца. „І слухаць ня хочу", замахаў дзяцька рукамі. Так мы памаленьку й асушылі з карафінкі кварты паўтары на двух. Мера не малая, але на нагах устоіць льга й языком куды трэба 'шчэ паўздужаеш пакіраваць. Ад гэтага мне й падпаў такі настрой, што ўсё пабок і сам—губарнатар. За гэтым і ў кашу на музыцы ўлез. „Дзе ваш калавурны?" пытаюся ў малых. Паказуюць мне. ~~Я яму свой камсамольскі білет пад нос~~. „Вось хто я такі!" Потым кажу: „Хадзі сюды на помач". І ўсё гэта гавару такім голасам, бы загад аб мабілізацыі на вайну чытаю. Ня цёрты чалавек Чыпаўскі капавурны: слухае мяне. „Стой!" кажа ён расколу, толькі той адвёў руку, каб аплявуху загрэць. І я ў помачы: „Пакаж дазвол на права нашэньня аружжа!" Бачыць той: ня мудыкаюцца з ім. Мусіць, мае права: начальнік нейкі. Прайшоў яго задзёр Прапала адвага. Зьбялеў хлапец. Слова не прамовіць. Аддае адразанку. А рукі трасца носіць. Я ўзяў. „Прыдзеш—кажу—у сераду ўвечары ў Хатнікі, ~~зойдзеш на бюро ячэйкі~~. Тамака зложым пратакол і справу накіруем у гапаву. А тут на зборні п'яных ня месца гэтакія сур'ёзныя справы разьбіраць".І сам тымчасам не сапу надта, каб ня ўсякі дурань чмыхаў, чым дышу. У гаворку словаў як найбольш палітычных умешую. Ану, можа, падумаюць, што з цэнтру які прадстаўнік. Трэба-ж холаду задаць. На гэтым і канец быў. Прайшла адна серада, ідзе другая, за ёю трэцяя—ня паказуецца на вочы Чыпаўскі раскол: пасьмялеў, мусіць! А я, ад тых дат, нікому нічога ня кажучы, і трымаў яе дома. Гэта ўвесь мой спрат быў у кулёх, дзе шукаў. Ды, мусібыць, паехала, падглядзеў...

— А на што яна табе сёньня спатрэбілася?—папытаўся Хвядос. Бладзік як і ня чуў.

— Папо-омніш!—скрыгнуў зубамі.

Тымчасам ужо відаць быў і сірочы агонь у вокнах школы, дзе хатніцкія ~~камсамольцы~~ чакаюць іх. На дарозе, пад бляск месяца, убачылі хлопцы нейкі гурт. Тамака гукаў адзін:

— Барзьдзей бяжы, ато баяцца будзеш.

Другі цішэйшы крыху голас казаў:

— На чорта ты казаў яму. Яшчэ спалохаецца, як будуць што страшное датвараць.

Першы голас ізноў гукаў:

— Вярніся, Аньцік! Гэта-ж недалёчка. Пастукаеш у вакно—маці дзьверы адапрэ, у хату пусьціць. Вярніся!—просьбаю прасіў.

— Не хацю! — адазвалася здалёку малое дзіцянё. — Пацякай кліську!

— Позна-ж яны зьбіраюцца, халерая на іх!—вылаяўся Бладзік, пятае цераз дзесятае пачуўшы з галасоў.

— Дзе-ж гэта ваш Зьмітра?—собіла Хвядосу папытаць.

А таго ня ведае ён, што Бладзіку такія словы, як на больку соль. Ня люба яму мова пра брата.

— Пацягнуся,—нездаволена адказаў.

— Куды?

— Ня ведаеш куды?

— А хто яго ведае!

— Да паненкі. Гэта-ж другі год ужо пашоў, як у Юзікавых днюе й начуе. І як гэта ты ня ведаў?

— Ды такі-ж, што ня ведаў! Хто яго. Не прыглядаўся.

— Два гады ўжо, браце... Ды мусіць прыстараўся... нахадзіў, бо аднаго разу ў таку я найшоў, як у бацькі прасіў каб заручыны зрабіць. Наверх выходзіць! суду баязно!.. Га-га-га-а!

З ума тронуўся хлапец—можна было падумаць, збоку гледзячы. Гэтакі дзікі быў яго сьмех. Спалохаліся малыя, што йшлі пад акно глядзець рэпэтыцыі. Далі дзёру яны з-пад школы.

— Ага!.. Цюга!.. Лаві іх!..—гукнулі хлопцы. А тыя гэта самае чулі ўжо. Такім здаўся ім Бладзікаў рогат.

Не маўчаць ~~камсамольцы~~ хлопцы сабраўшыся ў школу. Штукуюць. Выскіляюцца. Жыздрыцкіх чакаюць—не счакаюцца. Няма занятку бяз іх. Забавіліся недзе дома ці ня думаюць прыйсьці. У многіх гэта на вуме. Асыкаюцца нецярплівыя:

— Каго ты прычакаеш сёньня?

— Ня тая пара.

— Каб думалі, дык даўно-б тутака былі. Нябось, тыя разы першымі прыходзілі.

Андрэй-жа з двума хлапцамі больш рашуча хацеў зрабіць. Па слову прыкінуўшы к дзьвярам падаліся. Ды папалі на вочы сэкратару. Бачыць той: непарадкі, дысцыпліны няма.

— Куды гэта вы?

— Мы так сабе.

— Ведаю гэта „так сабе“! Трэба чакаць. Раз ім загадалі і ў пратакол завялі, чаго трэба, каб растараліся, дык з-пад зямлі вырві—а споўні абавязак і на рапярціцыю зьявіся. Што гэта за ня прыдуць? Ня прыдуць, дык і мы па іх ня пойдзем, і пасланцоў не пашлём. ~~Выкасуем з ячэйкі й квіта!~~

Сакратаровы словы такі мелі павагу. Адступіўся ад дзьвярэй Андрэй. За ім сьледам яго дружакі, бы на шнурку зьнізаныя.

Бладзік з Хвядосам адчынілі дзьверы ў клясны пакой такім часам, калі іх ніхто не чакаў. Але згледзелі хутка.

— Тут яны!

— Прышлі!

— А я што казаў?

Так хлопцы дуду-дуду ды што раз мацней. Усякі нешта мае сказаць. Кожны нейкім словам хоча адазвацца. І нарэсьце хоць вушы затыкай. Аж мусіў сакратар пра сваё вяршэнства ўспамянуць.

— Хлопцы!—гукнуў.

Нікому ня чуваць, што сказаў ён. Тады 'шчэ ў другі раз паўтарыў:

— Хло-опцы!

— Чаго цябе дрэнчыць?—ня ўцерпеў Андрэй. Трохі быў у яго на сэкратара закалец.

— Хай вас халерая! Цішэй вы крыху. Ня раз-жа казаў, што на мае рукі школа здадзена. Я за яе адказ даю. Мы ў гэтым камары раўём як на жывот, а там—паказаў рукою на сьцяну—сьпіць настаўнік з сям'ёю.

— Распанелі вельмі, ліханька ім!

— А каб к твайму бацьку ў сенцы прышоў ды гэтакі вэрхал узьняў, дык паглядзеў-бы ён на цябе?

— На гэта ў майго бацькі чапяла ў качарэжніку стаіць.

— Вось бачыш!

Але-ж то яго хата, а тутака казённы дом!

— Усё адно: захоча—прапсюрыць і адгэтуль.

— Ня мае права. ~~А ячэйка—нашто?~~

— Такое й права.

Далей апраўвдацца сэкратар не захацеў. Падсеў к жыздрыцкім. Усё, чаго не забыліся, расказалі тыя яму. Чытальню з надворку й з сярэдзіны апісалі. Бладзік яшчэ такое заключэньне зрабіў:

— Няма нічога такоўскага. Дур нам свае ня мець.

— Трэба будзе пастанову зрабіць. ~~ды прасіць райкома.~~

Гэтым часам нейчае кемнае вока згледзіла, што ў Мотуза паадтаркаўшы кішэні. Перш шэпты былі. Потым сьцішка памацаў адзін, другі...

— Яблыкі,—сьцішка перадаюць адзін другому.

Потым моцна сказалі:

— Адабраць!

— Ізноў ўзяліся?—зазлаваў сэкратар—зараз выштыру!..

А да Бладзіка мякчэй загаварыў:

— Дзялі, Мотуз!—Наставіў прыгаршчы.

Таму й просьбы ня трэба. Усім дае. Гуртам абступіў яго маладзеж. Бяруць, ядуць, хваляць, што:

— Смачныя!

— Салодкія!

— Цукровыя!

Некаторыя здагадуюцца.

— Дзіва, што забавіліся: па садох чмарылі.

— Зірні: і яблыкі з лісьцем.

— Ірвучы, сьпяшаліся.

Сэкратар скончыў тыя, што ад першага разу прышліся. Просіць:

— Дай яшчэ:

А як даў, дык і кажа:

— Кепска гэтак хлопцы рабіць. Гэта добра, калі за ўдачу вышлася. А ўвабраў-бы хто...

— Ня хочаш—і трасцу! болей ня дам,—з касою ўсьмешкаю на твары, перабіў Бладзік яго мову.

Сэкратар тады ўзад. Ня рад свайму слову.

— Я ня тое... абы толькі ніхто не застаў.

— Што-ж той маўчыць? Ці многа ў яго давай паглядзім,—кажуць на Хвядоса.

Памацалі ў кішэнях, за пазухаю.

— Няма.

— Хаты мусіць вартаваў, каб ня вышаў хто.

На руку Бладзіку, што веры не даюць, каб з дому гэтулькі садавіны прывалок. Злосная ўсьмешка здаволенасьці кранула вуглы губ. „Хай ведаюць, от!..“ Ды сьмяецца з хлапцоў:

— Гэта-ж нашы яблыкі, з дому. Казаў і яму,—матнуў галавою на Хвядоса,—дык не захацеў. І чорт яго бяры! А можа даць?—раптам стаў ласкавейшым, спакусьліва пакруціў, у два пальцы ўзяўшы, зялёны яблык перад Хвядосам.

— Давай, калі раздабрэў вельмі.

— ...дома чорт лысы скарыстае... хай лепш хоць таварышы зьядуць.

— ~~Гэта па-камсамольску~~ таварыску,—пахвалілі Бладзіка.

— Табе толькі сёньня ў галаве закруціла, як дома...

Ды ня даў Бладзік Хвядосу больш казаць.

— Маўчы лепш... Заўсёды я цяпер...—і гэтага ня скончыў, другое закамандаваў:—годзе! Чытай. Хвядос, тое, што мне паказваў, каб усе чулі. Раніца нас тут агорне.

— Праўду кажаш.

Дастаў Хвядос з кішэні ў скрутак скручаныя „сцэнічныя творы“. Разгарнуў на таей карце, дзе рог з дому заламаў. Прабег вачыма пад загалоўкам. Паглядзеў на хлапцоў. Нешта замармытаў сам сабе пад нос.

*(Працяг будзе)*

# За бяседным сталом

Прамчаліся шляхі і вёрсты,
Ня лезе ў вочы золь-слата.
Бацькі, браты і сёстры
Наўкол бяседнага стала.

Я сёньня з імі, ў іхнім коле,
Якая радасьць на душы!
У вокны зьвесілася гольле
І неяк ласкава шуміць.

Ківае ветліва лістамі,
І быццам просіцца за стол.
Мяне ў сям'і яно вітае,—
Схіляю голаў яму ў дол.

Ўзьнімаю чару за бяседу,
А слова з вуснаў аніяк.
Ну ці-ж аб гэтым мог я ведаць?
Ў жыцьці здараецца ўсяляк.

Учора сум авейваў скроні,
А сёньня—скупасьць горкіх слоў.
Я цісну сам сабе далоні
І апушчаюся на ўслон.

Бацькі глядзяць на ўсё зьдзіўлёна,
І за здароўе п'юць браты.
Вясновым вечарам зялёным
Сьмяюцца казачна лісты.

Такога вечару ня помню,
Глядзець мне хочацца ў вакно,—
Якраз-жа трэці тыдзень—поўня,
Над лесам іскрыцца віно.

Я п'яны вечарам вось гэтым,
Ў чужых краёх такіх ня стрэць.
Даўно ня быў я так сагрэты,
Ня ўмеў вясёласьцю й гарэць.

Заўсёды у настроі грэшны,
Як нейкі вырадак людзкі;
Таму і лаялі за вершы
Ў натоўпе дзіка—гарадзкім.

Бацькі ня ведалі нічога,—
Ня ім услужлівасьць газэт.
Прыехаў неяк нейкі шчогаль
І вось сказаў, што сын поэт.

Зьдзіву і ўцешыў ён ня вельмі,—
Ну што у слове гэтым ёсьць?
— Хаця каб толькі быў ня шэльма,
Скажы яму, наш добры госьць.

Ня варта ўспамінаць былога...
Няхай забудзецца зусім.
Прайсьціся хочацца мне логам,
Абняць дрыжачую там сінь.

Заўсёды я ў настроях вострых,
З якімі ня ўсплысьці на мель.
Мае бацькі, браты і сёстры,
Як п'яніць голаву мне хмель!

## Ня стлеў, ня згас!

Вярнуўся зноў да родных берагоў, —
Тут хвалі дзён па іншаму шумяць,
Тут хвалі дзён пайшлі у карагод —
Плыве чубоў зялёных сенажаць.

Гады мае, майго юнацтва дні,
Ня ведалі вы ўцешнасьці часін!
Прайшоў я з вамі скрозь людзкой ганьні,
Бы вецер—шэлестам сівых асін.

Прайшоў і рукі ў далях распасьцёр,—
Маіх сустаў ня ўкурчыў яшчэ курч.
Пачаў гукаць там да сваіх сясьцёр:
Нясеце мне залочаны мой ключ!

— Я сёньня адамкну ім Сьпеў Зямлі,
Азорацца мэлёдыі жыцьця.
Лістамі клёны ў сіні разьвялі
І сонца мне разьвесіла свой сьцяг.

На ім тады пакінуў надпіс я,—
Пачалі ўчытвацца ў яго здалёк.
Сачылася па сонцы кроў з пісьма,
Як-бы з параненых багнэтам шчок.

Затрэслася істота ўся мая,
У ваччу паўзьлі зьмяіныя вякі...
Якраз тады пясьнярская сям'я
Ішла аздобліваць чало ў вянкі.

— Як многа зьяе у тумане зор,
Праслявіць хай іх ода, гімн!—
Які пабожны і пакорны хор
Ім славіць толькі з кліраса багінь.

Ня хочу я складаць на гэты лад,—
Для ўцехі старасьці пакіну вам.
Ах, як шуміць запушчаны наш сад!
Яму свой сьпеў засмучаны аддам.

Пайшла сям'я да славы лёгкіх слоў,
А я спрачаюся з сабой, з людзьмі.
Няўжо шляхі да песьні занясло,
І пыл назойлівы яе зацьміў?

Няўжо так сталася, няўжо?
О, не! Зьняверуся й на гэты раз.
У садзе ліст апошні не ажоўк,
А ў песьні жар ня стлеў, ня згас!

---

## Забралі людзі

Шмат народу каля весьніц,
Над далінай вецер юдзіць.
Ад старой ваўчыхі ў лесе
Ваўчанят забралі людзі.

Ўсе сышліся, як на дзіва,
Як на хмельную бяседу.
Ўсіх і кожнага тут дзівіць,
Як дабраліся да сьледу.

— Як знайшлі гняздо такое
Ў час, калі нікога дома;
Гэта-ж не падаць рукою,
Не за двое, трое гоняй.

Ці-ж было ўжо так суцішна
У лясной тады гушчарні?
Мабыць матку голад сьціснуў—
І дзяцей згубіла марна.—

Так гамоняць, разважаюць,
І ніяк ня дойдуць тропу.
Ня сьціскае грудзі жалем,
Не паўзе жалоба кротам.

Тры браты—ваўчкі сівыя—
На людзей глядзяць па-воўчу.
Па іх матка ў лесе вые,
Выцірае лапай вочы.

Тры сыны ў палон узяты...
З-пад ілба блішчаць разрэзы.
У ваўчыхі боль заўзяты,—
Смокча сок з старых бярэзін.

---

Разрывае вецер хмары,
Сутаняе змрок вячорны;
Ён ня мае часу марыць
Пад крысом над ночы чорнай.

Шалясьцяць лістамі далі,
Ў сумятні даліны, поле.
Дрэвы гольле разгайдалі,
На зялёным іх прыполе.

Разыходзяцца дарогі
Ї вядуць на ўзьлесьсе.
Зашумелі пералогі,
Быццам вобразы у песьні.

Скрыжаваліся пуціны
На ўскурганеным узгор'і.
Ля сялянскае хаціны
Жаль каго з людзей агорне?

Ўсьціша хто пагляд суровы
Ї ўсьміхнуцца вочы ласкай?
Хто завыў так на дуброве
Ї губамі так заляскаў?

Хлебча змрок хто дзікім чмыхам?
Хто вачыма гэтак іскрыць?
Гэта сівая ваўчыха
Разьдзьмухае яру пыркі.

Агайсала лес і пожні,—
Ад крыві раздуты ікры;
Даравацъ ніяк ня можа—
Гнеў назойлівы і прыкры.

За сынамі мчыцца з лесу,—
Сьцежку зьнюхала зладзеяў.
Не сарваць дзьвярэй з завесаў.
Не хадзіць больш да людзей ёй.

З. Бядуля

# Язэп Крушынскі

**Аповесьць**

*(Працяг)*

IX

Дзяўчаткі Крушынскага, Настачка і „Мзей", займаліся рыбацтвам. У апошнія дні гэта было іх галоўнай забаўкай.

Праўда, рыбацтва—хлапцоўскі промысел, усталяваны даўно, але сямігадовая Настачка і чатырохгадовая „Мзей" увесь час забаўляліся з хлопчыкамі і пераняли ўсе іх манеры, усю кемнасьць і спрыт маленькіх мужычкоў. Разам лазілі на дрэвы, разам разьбівалі птушыныя гнёзды, пільнавалі дробных куранятак і качак ад каршуноў і наогул знаходзіліся ўвесь час у кампаніі хлопчыкаў.

Пасьля вялікага працоўнага дню дзяўчаткі Крушынскага заўсёды варочаліся да хаты падрапаныя, параненыя, мокрыя, выпацканыя ў рудаўках і лужах. Прыносілі з сабою жаб, яшчарак, птушак, вожыкаў.

Часам кідалі на матку гэтым дабром, каб паглядзець „як мамка пужаецца".

Пані Ганна пішчэла ад страху. Дзеці сьмяяліся.

Пані Ганна была вельмі нездаволена паводзінамі дзяцей. Бывала на цэлы дзень не адпускала іх ад сябе, каб яны не сябравалі з вясковымі „хамамі", каб не навучаліся ад „іх" брыдкіх слоў і ўчынкаў.

У часы такіх „арыштаў" дзяўчаткі вельмі сумавалі, плакалі і адмаўляліся ад яды. Галадоўкай ламалі ўпартасьць маці. Пані Ганна не магла даць рады. Скардзілась мужу. Язэп Крушынскі сьмяяўся, радаваўся, што ў яго дачушак хлапцоўскі нораў.

— Як раз у мяне пайшлі—ганарыўся бацька.—І я такім у маленстве быў.

— Але-ж яны дзяўчаткі!

— Я ў гэтым не вінават. Калі няма хлапцоў, дык няхай дзяўчаткі гадуюцца як хлопцы.

— Сапсуюцца дзеці,— стагнала пані Ганна.—Што з іх будзе? Што з іх будзе?

— Нічога кепскага ня станецца. Трэба толькі даць ім волю, тады будзе добра.

— Волю, волю!—перадразьніла яна мужа пісклівым галаском.—Ліха наробіш гэтай воляй. Нават дарослыя людзі распусціліся ад тваё волі. Табе на галаву лезуць. Зараз курам і індыкам волю дасі.

— Захачу—і дам. Не твая бабская справа.

Так заўсёды канчалася гутарка паміж Крушынскім і жонкай аб выхаваньні дзяцей і волі.

Гэтае пытаньне паднесьлі на грамадзкі суд „Івана Мацьвеевіча".

— Цікава, што скажа Іван Мацьвеевіч: ці мая праўда, ці твая?—гаварыла пані Ганна.

Пры гэтым яна пазірала на „Івана Мацьвеевіча“ як на збаўцу, як на чалавека шляхотнага, вучонага, які добра разумее, што яна, панні Ганна, мае рацыю.

— А праўда, няхай Іван Мацьвеевіч вытлумачыць табе, што ты дура, што ты нічога ня цяміш у выхаваньні дзяцей, ні бэлмэса не разумееш.

Сказаўшы гэта, Крушынскі хітра міргнуў „Івану Мацьвеевічу“.

„Іван Мацьвеевіч“ павінен быў вырашыць вельмі цяжкую проблему, нават не адну, а некалькі.

Ён разважаў сам з сабою:

— Калі, паводле майго вырашэньня, права будзе за Язэпам Сымонавічам, тады пані Ганна пачне на мяне касавурыцца. А гэта справа ня выгадная, бо ніхто, як пані Ганна, так не ўмее мяне карміць смачнай і сытнай ежай. Калі пані Ганна возьме перавагу, паводле майго прысуду, тады Язэп Сымонавіч ня будзе мець на мяне добрага вока. Гэта будзе яшчэ горш. Калі іх абодвых вінаваціць і зрабіць так, каб я асудзіў іх - гэта зусім не гадзіцца. Зьб‘еш іхні гонар—і мой пацерпіць.

Такія развагі прамільгнулі ў думках „Івана Мацьвеевіча“ хутка, у мігаценьне вока.

— Па-мойму,—казаў „Іван Мацьвеевіч“ павольна, расьцягнута і кожнае слова шліфаваў, нібы дарагі камень і спынкі між словамі цадзіў, як малако праз цадзілку,—па-мойму, Язэп Сымонавіч гаворыць праўду.

Пані Ганна выставіла на яго пару зьдзіўленых і пакрыўджаных вачэй.

Язэп Крушынскі зазьзяў ад радасьці іківаў галавою ў знак згоды.

— Справа ў тым,—гаварыў далей „Іван Мацьвеевіч“,—што дзецям, бязумоўна, патрэбна воля. Гэта раз. А падругое, нельга іх адрозьніваць ад іншых дзяцей. Трэба выхоўваць у іх ад маленства пачуцьцё колектыву, сяброўства, бойкасьці, адвагі. Трэба, каб дзеці, ці хлопчыкі, ці дзяўчынкі, загартоўваліся і целам і думкамі. Словам, Язэп Сымонавіч у даным выпадку разумна разважае.

Пані Ганна стрэльнула на „Івана Мацьвеевіча“ атрутаю злосных вачэй.

Язэп Крушынскі спагадліва кіўнуў „Івану Мацьвеевічу“ і пальцамі правай рукі зрабіў жонцы доўгі нос ў знак перамогі, сказаўшы адно толькі слова—кплівае, абражаючае, атруйлівае:

— А-г-га!

„Іван Мацьвеевіч“ спакойным дасьледчым вокам зірнуў у адзін і ў другі бок.

Ён правяраў на практыцы эфэкт сваіх слоў, праўдзівасьць сваёй тэорыі.

— Так. Я не памыліўся.

І дзеля таго, што не памыліўся, яму стала вельмі прыемна. Яшчэ раз зірнуў на Язэпа Крушынскага і на пані Ганну, яшчэ раз упэўніўся, што яго тэорыя правільная: выразы іхніх твараў застылі ў тых характэрных масках, якія ён на іх насунуў сваімі развагамі.

„Івану Мацьвеевічу“ было вельмі цікава глядзець цяпер на Крушынскіх. Нібы гэта ён сваёю рукою намаляваў два портрэты. Нібы пані Ганна і Язэп Сымонавіч—яго ўласныя творы.

Гэты досьлед заняў у яго зноў-жа толькі частку хвіліны. Ніякіх спынкаў у гутарцы ня было.

„Іван Мацьвеевіч“ пачаў гнуць кій у другі бок:

— Але калі мы будзем разважаць глыбей, калі мы ўнікнем у самую істоту справы выхаваньня дзяцей, дык выйдзе, што пані Ганна дарэчы гаварыла. Дай дзецям волю, пусьці іх бяз догляду—сапсуюцца. Дзіцё за свае ўчынкі не адказвае. Цяпер наконт сяброўства з іншымі дзяцьмі, у даным выпадку з дзяцьмі суседніх сялян. Факт, што сялянскія дзеці гавораць брыдкія словы. Яны заўсёды запэцканыя, брудныя. Факт, што яны не раўня да вашых дзяцей. А кепскаму заўсёды лягчэй навучыцца, чым добраму. Кепскае сяброўства шкодна і для дарослых. На мой погляд, пані Ганна мае рацыю.

„Іван Мацьвеевіч“ зноў давай правяраць новы эфэкт. У яго быў такі выгляд, нібы граў на музычным інструмэнце і прыслухоўваўся пры гэтым, ці не фальшывіць.

Не, ён не фальшывіў:

Язэп Крушынскі і пані Ганна памяняліся ролямі.

Язэп Крушынскі паглядзеў на „Івана Мацьвеевіча“ як на здрадніка, як на шальмяца самага нізкага гатунку.

Пані Ганна кінула спагадлівы ўзрок шчырай удзячнасьці на „Івана Мацьвеевіча“, а свайму мужу вярнула яго тавар у дубальт: зрабіла яму нос доўгі-доўгі—не на пяць пальцаў, а на ўсе дзесяць...

Тут „Іван Мацьвеевіч“ у поўнай меры адчуваў сваю ўладарнасьць над людзьмі: ён перарабляе чалавека паводле ўласнага хаценьня; надае двуногаму формы паводле свайго капрысу ня менш таленавіта за бога, які стварыў Адама і Эву.

Гордасьць блішчэла ў вачох „Івана Мацьвеевіча“.

Ён пакіраваў шалі чалавечых пачуцьцяў у адзін бок, у другі; нацешыўся сваёй ігрою злосна, па-разбойніцку—і годзе. Цяпер трэба наладзіць роўнавагу. Роўнавага—гэта залаты якар жыцьця. Роўнавага—жалезна-бэтонны мост чалавечага дабрабыту.

Кароткія спынкі, якія „Іван Мацьвеевіч“ даў раней Язэпу Крушынскаму, а пасьля—пані Ганне для таго, каб кожны з іх часова цешыўся сваёй перамогай над другім, хвілёвасьцю займалі ня больш часу, чымся шыпеньне гарачага папяроснага акурку, кінутага ў лужыну: акурак, акунуты ў вільгаць, пшыкне разок і змоўкне. Толькі бледны дымок пакружыцца над ім і расьсеецца ў нявідочнасьць.

„Іван Мацьвеевіч“ пачаў тушыць акуркі:

— Так. Але тут такая справа, што калі праў адзін, дык гэта яшчэ ня значыць, што другі ня праў. Правы і Язэп Сымонавіч і пані Ганна. Насы выстаўляць адзін аднаму, выбачайце, зусім лішняя турбота. Можна і бяз гэтага... І абодвы вы ня правы...

Язэп Крушынскі і пані Ганна ў гэту хвіліну сапраўды выглядалі, як патушаныя папяросы. Напружанасьць перамогі аднаго над адным аслабла ў халоднай вадзе разважаньняў іхняга прыяцеля. Яны цяпер абодвы няпрыязна глядзелі на „Івана Мацьвеевіча“. Ён зьбіў аўтарытэт кожнага з іх.

— Толькі ня крыўдуйце на мяне, мае дарагія!—прасіў літасьці „Іван Мацьвеевіч“.

— Калі ласка, калі ласка! (Словы Язэпа Сымонавіча).

— Проша, проша! (Словы пані Ганны).

— Як муж бяз жонкі—ня муж, а жонка бяз мужа—ня жонка, бо адзін надае сабою годнасьць і магчымасьць другому, таксама і правата кожнага з вас, пані Ганна і Язэп Сымонавіч, можа быць праватою моцнай, практычнай і жыцьцёвай, калі яны будуць зложаны разам у адно. Як гэта зрабіць? А зусім проста. Язэп Сымонавіч кажа,

што дзеці павінны мець волю, павінны гуляць разам з мужыцкімі дзяцьмі, бо цяпер зусім іншы час настаў—вельмі правільна! Пані Ганна даводзіць, што ад сялянскіх дзяцей навучацца вашыя шляхотныя дзеці брыдкіх учынкаў, што лішняя воля сапсуе дзяцей—згодзен і з гэтым! Дык зноў-жа, як зрабіць, каб усё было добра?—А вось як: выбраць з сялянскіх дзяцей самых лепшых, ну, скажам, тых, якія маюць багацейшых бацькоў... Наняць для іх разам з вашымі настаўніцу (у Менску многа такіх знойдзецца, якія да вас у Курганішча ахвотна паедуць) і яна займецца выхаваньнем. Пад наглядам настаўніцы будуць ня толькі вучыцца, але і забаўляцца ў пакоях або ў полі, разумна і карысна.

Гэты проект спадабаўся і Язэпу Крушынскаму і пані Ганне. Такое меркаваньне перакінула кладку па канаве, пракопанай між імі частымі сваркамі аб выхаваньні дзяцей.

Выбар настаўніцы выклікаў у Крушынскіх зноў-жа цэлы шэраг пытаньняў, меркаваньняў і спрэчак. У сувязі з гэтым разгорталіся новыя кругавіды.

Першым чынам, настаўніца ў хаце гэта ня хатняя працаўніца, ня кухарка, ня жнейка і не пастушка. Мала таго, што ёй трэба даць асобны пакой, а ня куток у пакоі, прыдзецца ўсім у хаце падцягнуцца, пераіначыць хатні быт, глядзець зусім іншым вокам за сабою, каб ня было сорамна перад гарадзкой дзяўчынай. Апрача таго, прыдзецца пакласьці трохі энэргіі, пакуль яна зробіцца сваім чалавекам—шчырым сябрам сям'і.

І вось будучая настаўніца (кантроль сямейнага ладу Крушынскіх) прымусіла Язэпа Крушынскага, паню Ганну і „Івана Мацьвеевіча“ аб многім думаць кожнаму паасобку і разважаць разам.

Язэп Крушынскі думаў:

— Які ў мяне густ? Ад гэтага залежыць выбар настаўніцы. Галоўным чынам, яна павінна быць маладою. Гэта—першая карысьць ад жанчыны. Падругое, яна павінна быць прыгожай. Гэта—добры дадатак да яе маладосьці. Тут я павінен даць адказ на запытаньне аб маім гусьце: блёндынка, шатэнка, чарнявая, брунэтка, бялявая, голас, манеры, фігура і гэтак далей, і гэтак далей.

Перад уяўленьнем Язэпа Крушынскага праходзіла цэлая галерэя знаёмых дзяўчат, якія яму падабаліся. Некаторых ён кахаў. З іншымі меў прыязныя зносіны. З нямногімі былі ў яго самыя блізкія, самыя прыемныя хвіліны ў жыцьці. Праверыўшы такім чынам свой мужчынскі густ, ён прышоў да пэўных вывадаў:

— Хараство кабеты не аднолькавае і вельмі багата па сваёй рознастайнасьці. У мяне ў гэтым пытаньні погляды вельмі шырокія.

Язэп Крушынскі круціў элегантныя вусы і многазначна ўсьміхаўся, думаючы аб багатых пэрспэктывах, якія чакаюць яго ў сувязі з настаўніцай.

Пані Ганна меркавала:

— Самае лепшае, калі настаўніца сярэдніх гадоў, няпрыгожая, а то—павер мужчынам: мой Язэп вельмі лёгкадумны, зноў наробіць мне сораму, як у мінулым годзе са служанкай. Калі настаўніца сталая кабета, тады яна будзе вучыць дзяцей і богу маліцца. А то прыходзіцца мне самой кожную раніцу з імі малітвы шаптаць. Абавязкова настаўніца павінна быць каталічкай.

„Іван Мацьвеевіч“ разважаў:

— Курганішча набудзе новыя прывабы. Мне куды прыемней стане кожны раз пажыць тут некалькі дзён, калі фальварак аздобіцца маладой і прыгожай дзяўчынай.

Але войканьне мала памагала. Яно толькі зьвярнула ўвагу ўсі хатніх на хваробу старога гаспадара і дало магчымасьць яму самом як-бы кінуцца ў рукі гэтай хваробе, аддацца ёй і казаць: „рабі са мнок што хочаш“.

Толькі лёгка сказаць „рабі са мною, што хочаш“, калі нехт піліць па сківіцах, сьвідруе мозаг, выбівае іскры з вачэй. Лёгка та казаць, калі зубы ў роце вырасьлі ў паркан, цесна ім там, ныюць Вось здаецца, выбіў-бы іх, размалоў-бы на муку, каб толькі вызваліцц ад гэтай агіды.

— Во-о-ой, во-о-ой...—стогне стары Цыпрук.—А ніколі-ж яны шэльмы, не балелі, ліха на іх!

Пробаваў паласкаць зубы самагонам: добрае лякарства, лепшага ня трэба.

— Трасца нейкая, ці што?

І гарэлка не памагае.

Тады баба ахутала яму твар цёплай хусткай.

Стары сеў на лаву, абапёрся вострымі локцямі аб стол, сьціснуў далонямі твар і гудзеў ціханька, працягла, нібы камар:

— В-в-в-вой... Во-во-о-о-о...

— Ліха яе бяры з работай!—прамарматаў Цыпрук праз цёплую хустку,—паеду да хвэльчара, ці што?

— А праўда, згадзілася баба,—усяго пяць вёрст да Моркаўкі!

Стары Цыпрук сам запрог каня.

Паехаў.

У дарозе зубы яшчэ мацней разгуляліся.

— Ня ведаў я дагэтуль, што ў мяне зубы ёсьць, ці што?—мармытаў у дарозе сам з сабою Цыпрук.—А во маеш сабе пацеху на старасьць—зубы!

Цыпрук заплыўшымі ад болі вачыма злосна паглядаў на крыж каня.

Прыехаў.

На шчасьце ў старога фэльчара ня было пацыентаў.

Стары, адзінокі фэльчар сядзеў пры стале супроць недапітай пляшкі гарэлкі. На канапе адпачывала гітара.

На высьлізнуўшае з-пад хусткі „дзень добры!“ фэльчар падняўся, пільна зірнуў на Цыпрука і сказаў:

— А, зубы? Штука прывычная!

— Якая там прывычная?—прамарматаў Цыпрук.

Фэльчар пачаў разважаць спакойным тонам:

— Спачатку абмазгуем, як і што, а потым возьмемся за дзела. Ого—зубы! З болем яны вырэзваюцца ў дзіцяці, з болем іх прыходзіцца вырываць у сталага чалавека, каб на той сьвет пайсьці бяззубым. Быццам перад сьмерцю чалавек толькі што нарадзіўся.

— Навошта гэты боль?—запытаўся Цыпрук.

— Як навошта?!—зьдзівіўся фэльчар.—А з чаго-б наш брат жыў? Падыходзь бліжэй, дружа!

Цыпрук пасунуўся да фэльчара.

— Ды скінь анучы з цэры! Абматаўся імі, як тая баба. Не падобен жа ты, пане дабрадзею, да чалавека, а да нейкага ня тое ды ня сёе, ня тут кажучы. Ну, годзе стагнаць...

Цыпрук разматаў хустку. Бародка зьлямцавалася, падрабнела.

— А-а-а-у-вой-у-вой...

— Пакажы, пакажы, дружа! разьзяў ляпу!

— А-а-а! у-у-у!

Цыпрук матае галавой, расчыняе рот і паказвае закарэлым крывым пальцам у правы бок роту:

„Во-во-во...“

Фэльчар падводзіць селяніна бліжэй да вакна. Доўга ўглядаецца ў яго цёмны рот. Ківае галавою. Жмурыць маленькія вочы і як-бы сам з сабою гаворыць:

— Штука прывычная. Гнілы зуб—трэба вырваць.

— У—гум, у—гум.

Фэльчар дастае з шафы бутэлечку і пучок ваты. Наматвае кавалачак ваты на кончык запалкі, макае ў бутэлечку з лякарствам і затыкае гэтым хворы зуб Цыпрука.

— Цяпер адпачні трохі.

Цыпрук сеў на табурэт, а фэльчар заспацыраваў з кута ў кут, мармочучы пад нос і калечучы украінскую песьню:

І шумэ і гудэ,
Дробэн дождык ідэ,
А хто мэнэ молодэнку
Тай да дому довэдэ?

Праз колькі часу фэльчар пытаецца:

— Ну што? Палягчэла?

— У—гум!

„Пашумеўшы і пагудзеўшы“, фэльчар зноў пытаецца:

— Адпаў боль?

— Адпаў! Дай вам бог здароўя, ці што? Цяпер і гаварыць магу. А то проста бяда. Як вострым шылам калола сківіцы, галаву. Прабаваў самагонам лячыць.

— Ну, і як?—зацікавіўся фэльчар,—гарэлка часам памагае.

— Дзе там!—махнуў рукою Цыпрук.

— Зараз вырвем—і гэты зуб ніколі балець ня будзе, бо яго самога ня будзе... За іншыя, суседзе, ня ручаюся... Калі не заразіліся ад хворага, тваё шчасьце. А то, ведаеш, часам нападзе на зубоў пошасьць усёроўна, як на курэй.

Фэльчар дастаў з шафы бліскучыя абцугі. Наліў вады ў шклянку, кінуў туды некалькі драбінак нейкай солі, ад чаго вада пачырванела, і падышоў да селяніна.

— Ты толькі глядзі, дружа,—пападзіў фэльчар,—сядзі спакойна. Як буду рваць, ня круці галавою і не хапайся за мае рукі. Разумееш, пацярпі. Ну, як-бы не ў цябе рвуць зубы, а ў мяне...

— Ужо, ці што?—запытаўся Цыпрук.

— Разьзяў рот шырэй, яшчэ шырэй. Во так!

Фэльчар сам разьзявіўся: паказаў Цыпруку, як гэта трэба рабіць.

— А-а-а-а! разьзявіўся Цыпрук.

— Добра! Пачынаю! І шумэ і гу... Толькі дружа, глядзі, дзяржыся рукамі за тубарэт—і ні з месца! Штука прывычная...

Фэльчар яшчэ раз паглядзеў селяніну ў рот.

— Ну і зубы ў цябе, конскія, здаровыя. Ага! вось ён! гад гэты... зладзюга... Мы яму зададзім дыхту!

Усунуў тонкія сталёвыя абцугі.

— Ківаецца шэльма, як стары жыд пры малітве. Мы яго... Цап! штука прыв...

— Ой, ой,—нямым голасам крыкнуў Цыпрук і схваціўся рукамі за рукі фэльчара.

— Такога ўгавору ў нас ня было, — пакрыўдзіўся фэльчар. Мудрыя церпяць. І пан Езус цярпеў. . І вісеў на крыжы, як камуніст у белагвардзейскім лягэры.

Фэльчар зноў прыняўся за работу.

Селянін пакрыўся потам, цяжка сапеў.

— Вуай!—крыкнуў Цыпрук, як дзіцё, якое толькі што нарадзілася, і падскочыў на месцы.

— Ох, ты!—зазлаваўся фэльчар,—сам вінават, што зуб даўся папалам. А, здаецца, ня той, за які браўся... Штука прывычная. Паласьні рот гэтай чырвонай вадою. Адсапніся...

Фэльчар падсунуў шклянку.

Цыпрук палыскаў рот і пачаў выць, скагытаць дзікім, нямым голасам.

— Што сеяў, тое і жні,—апраўдваўся фэльчар,—казаў-жа табе сядзі спакойна. Трэба было сядзець!

— Такімі абцугамі і сківіцы мог мне выкруціць, ня толькі здаровы зуб паламаць,—сыпаліся праз выцьцё словы Цыпрука.

— Дай сюды! Я цяпер ужо ведаю, дзе хворы зуб...

Цыпрук падняўся моўчкі. Акуратна абматаў хусткай твар.

— Прышлю табе праз унука старыя граблі, дык будзеш зубы рваць у грабель.

Цыпрук выняў з кішэні дзьве грыўні і палажыў на стол.

Фэльчар марматаў:

„І шумэ і гудэ...“

Цыпрук стукнуў дзьвярмі і выйшаў.

Сеў на воз.

Ад вялікай злосьці на фэльчара зубны боль як-бы сьцішыўся.

Едучы да хаты, Цыпрук злаваўся ўжо не на фэльчара, а на сына, які часта гаварыў, што калі чалавек захварэе, дык трэба лячыцца у доктара, а не ў шаптуна.

... Во як доктар памагае. Узяў-бы гэтыя абцугі ды адкруціў-бы яму нос, гэткаму доктару!

Ад злосьці Цыпрук моцна сьцебануў каня. Конь з няпрывычкі падскочыў заднімі нагамі, навастрыў вушы і пабег шпарчэй.

Слава Сымона Чарнюка, бацькі Язэпа Крушынскага, разносілася па ўсёй ваколіцы.

Ён лячыў ад усіх хвароб зёлкамі і нашэптанай вадою.

Хворыя езьдзілі да яго за многа міль. Ня толькі звычайна хворыя, але вазілі да яго вар'ятаў, „пакручаных“ падвеем. Езьдзілі бабы, у якіх ня было дзяцей, мужчыны з сакрэтнымі хваробамі. У селяніна ўкралі каня—ішоў да шаптуна, каб даведацца, хто ўкраў. Даведваліся ў яго, хто хату падпаліў. Езьдзілі на розныя сямейныя парады.

Цёпкаліся да яго па гразі і ў глухую восень, у вясеньнюю паводку па чаўнох перабіраліся. І ў зімовыя завеі, і ў летнюю гарачыню да яго хадзілі і езьдзілі розныя людзіі, ня толькі простыя сяляне, але нават і шляхта, і з мястэчак. Адукаваныя людзі з гораду хоць рэдка, але таксама прыяжджалі да яго.

Вельмі ня любіў Сымон Чарнюк, калі гарадзкія людзі нешта ў кніжках запісвалі пры ім. Аднаго разу такі гарадзкі чалавек хацеў яго сфотаграфаваць, дык шаптун ледзь фатаграфічнага апарату не зламаў.

— Хочаш мяне са сьвету зьвесьці!—злаваўся Сымон Чарнюк,— праколеш потым шпілечкай маю картачку. і ў мяне грудзі забаляць, сэрца заные...

Спачатку Сымон Чарнюк прабіраў сваіх пацыентаў самымі брыдкімі лаянкамі, а пасьля ўжо „лячыў“ вадою.

Калі прыходзіў да яго чалавек, у якога ўкралі каня, ён звычайна распытваўся аб усіх суседзях, з якімі той сварыўся ў апошні час, даведваўся аб ваколіцы, аб кірмашовых мястэчках, аб усіх лясох і дарогах вакол, потым доўга думаў, меркаваў і часта правільна паказваў, дзе шукаць каня.

Пры гэтым шаптаў на ваду і даваў „пацыенту“ піць.

Па судовых справах ён таксама даваў піць „лякарства“ і ўважліва, па-адвакацку, знаёміўся з судовай справай. Сухотнікаў, раматузных і іншых хворых ён, апрача вады, лячыў яшчэ і зёлкамі. Вельмі намагаў людзям, „сапсутым нячыстай сілай“. Іх ён лаяў, часам нават і біў. Пры гэтым яго чорныя вочы страшна блішчэлі

Сымон Чарнюк дзяліў усе хваробы на тры катэгорыі:

1) калецтвы цела зьверху. 2) нутраныя і 3) калі чалавек сапсаваны „нячыстай сілай“.

Першае лякарства—нашэптаная вада—ужывалася пры хваробах усіх катэгорыяў.

„Вада ачышчае чалавека“,—гаварыў часта Сымон Чарнюк.

Узьверхнія калецтвы цела лячыў травамі і „замаўляў кроў“, каб „ачышчалася“.

Усе нутраныя хваробы ён таксама лячыў зёлкамі.

— Нутраныя хваробы,—гаварыў Сымон Чарнюк,—ад чарвячкоў, якія кішаць у чалавечым целе. Гэтыя чарвячкі—дробненькія. Іх не заўважыш. Яны грызуць чалавека—ён сохне, марнее і гіне. Тое самае бывае з капустай, са збожжам на полі, з дрэвамі, калі нападзе рабак.

Паводле Сымона Чарнюка, яго зёлкі і нашэптаная вада рабілі тое, што хворы выплёўваў пошасных чарвячкоў, выпаласківаў іх з цела. Тады чалавек здаравеў.

Дактары, па ягонаму, кепска лечаць людзей, бо яны сваімі лякарствамі труцяць гэтых маленькіх чарвячкоў. Спачатку чалавек як-бы ачуняе, але гэта толькі спачатку, бо атручаныя чарвячкі асядаюць у целе, ня вылазяць наверх. Ад розных хвароб іх набіраюцца там цэлыя кучы, вось як магільнік усё роўна... Яны пачынаюць гніць у чалавечым целе. І вось раптам, пасьля доктарскіх лячэньняў, чалавек паміpae.

Лепш за ўсе іншыя хваробы Сымон Чарнюк лячыў людзей, „сапсутых нячыстай сілай“.

Цыпрук пакінуў дома каня і, праклінаючы фэльчарскую пароду на ўсім сьвеце, пехатой пусьціўся ў дарогу да Сымона Чарнюка зубы лячыць.

Пайшоў ён пехатой па дзьвюх прычынах: каб каня не адрываць на два дні ад гаспадарчай працы, а таксама каб пільней прыглядацца да таго-сяго, што на дарозе робіцца... Паглядзець, як ідзе праца ў людзей на полі, а часам з чалавекам, пры выпадку, пагаварыць.

Да Сымона Чарнюка па-вандроўніцку з торбай за плячыма і кіем у руках Цыпрук прышоў пад вечар.

Дробны, рэдкі ельнічак быў пазалочаны заходнім сонцам. Маленькія вакенцы Сымонавай хаткі праменіліся ад сонца, і здалёку здавалася.

што гэта знутры хаткі сьвеціцца агонь. Уся хатка—і трухлявыя, ні кія сьцены і заросшы рознымі травамі дах—была таксама ахварбова у празрысты бледна-ружовы колер заходу.

На дзядзінцы буяла бахматая і рослая крапіва, попельнага колер палын. Каля самых сьцен прымасьціліся густыя кусты маліньнік Сьцены абвешаны жмутамі драўляных абручоў. Кучкамі навален дубовыя клёпкі. Яны сохлі і на даху. Каля дзьвярэй – недароблены асінавыя начоўкі.

Недалёка ад хаты, пры дрывотні, стаяла фурманка. Калмат сялянскі конік ня выпрэжаны, задумёны, апусьціў галаву над аха кам сьвежага сена. Ружовыя колеры сонца адлюстроўваліся ў ях застыглых як-бы няжывых вачох дзьвюма плямкамі. Між мяккімі губа каня дрыжэў пучок сена. Конь забыўся глынуць, і жмуток сена выгл даў сьмешнай казьлінай барадою, якая расьце, на дзіва, між губ у роц

З хаткі пачуліся крыкі. Нехта заходзіўся ў плачу і прарэзьлівы голасам пішчэў:

„Ратуйце, ратуйце... душыць... ой, душыць“...

Стары Цыпрук зьдзівіўся, трохі занепакоіўся. Праз цёмныя сенц скуль пахнула на яго сьвежым дрэвам, зьмешаным з вільгацьцю многагадовай трухляцінай, ён дабраўся да сьцяны вобмацкам і п галасох знутры трапіў да дзьвярэй. Адчыніў.

На тапчане ляжала маладая, гадоў восемнаццаці, дзяўчына.

Яна глядзела перад сабою затуманенымі ад сьлёз вачыма і як-бы нічога ня бачыла. Зрэнькі, павялічаныя ад затаёнага сполаху, дрыжэл ў сваёй бязьмернай чарнаце. Вейкі трасьліся хутка і лёгка, ніб крыльлі матылька. Прыпухшы ад плачу твар дзяўчыны быў бледн з шэравата-зялёнымі плямамі на шчоках і ілбу. З-пад белай хустк выбіваліся чорныя валасы. Рукі яна моцна прыціснула да грудзей.

Каля дзяўчыны на тапчане сядзела кабета гадоў пад сорак пяць поўная, паважная. Аднэй рукой абыймала тонкі стан дзяўчыны, а дру гой выцірала сьлёзы з сваіх вачэй.

Час-ад-часу дзяўчына дрыжэла ўсім целам і стагнала:

„Мамка... мамка“...

А вось яна ўскочыла з тапчана:

— Ратуйце! Душыць! Паміраю! Ой, канец надыходзіць... зараз... зараз...

Яна кінулася на грудзі маці, тулілася да яе і трапятала ад страху

Сымон Чарнюк строгімі вачыма зірнуў на яе і затупаў нагамі:

— Ціха, ты,—крычаў ён,—не памрэш! Гэта табе так здаецца Ціха, а то...

Ён сьціснуў кулакі і як-бы намерыўся біць.

Дзяўчына пад яго крыкамі супакойвалася і, ня здымаючы з яг вачэй, зноў апусьцілася на тапчан.

Сымон Чарнюк пытаўся ў сталай кабеты спакойным голасам:

— А даўно яна так?

— Некалькі месяцаў.

— Яна можа спалохалася?

— Здаецца не. Мне прынамсі нічога не казала.

— У вашай сям'і, у сваякоў няма хворых?

— У мяне старшая сястра так вырабляла. А як выйшла замуж дык ачуняла.

— Ага...—сказаў многазначна шаптун.

Наліў з вядра вады ў вялізную бутэльку. Доўга шаптаў.

Даў напіцца хворай. Пры гэтым зноў зрабіўся злосным, наставіў на хворую бліскучыя чорныя вочы і прагаварыў строгім голасам:

— Будзеш здаровай! Будзеш здаровай! Будзеш здаровай!

Дзяўчына глядзела на яго, як зачараваная.

— Калі не ачуняеш, біць буду!

Затрос над ёю кулаком.

Палез на печ, дастаў адтуль засушаны пучок зёлак і даў кабеце.

— Вось гэта напарыш у гаршку, увальлеш сюды вады з бутэлькі і будзеш паіць яе гэтай настойкай два разы ў дзень перад усходам і заходам сонца. Няхай вып‘е кожны раз з поўшклянкі. Перад сном будзеш ёй націраць грудзі і плечы халоднай вадою з сольлю.

За ўвесь гэты час на старога Цыпрука ён не зварочваў ніякай ўвагі, нават ні разу на яго ня зірнуў.

Цыпрук аглядаў курную старасьвецкую хату.

Яна была чорная ад дыму і пахла нейкай гаркатою, ня так, як усе сялянскія хаты. Хоць была застаўлена featured рознымі мяшкамі, пасудзінамі і скрынямі, але аддавала нейкай пусткай, няжылым будынкам.

Стары Цыпрук з сялянскай зацікаўленасьцю і мужыцкім гаспадарчым вокам паглядаў на рэчы ў хаце. Скрыні, цаберкі, кублы, начоўкі былі ўсе прыкрыты дошкамі або палатном. Відаць, ўсё гэта было нечым запоўнена, напакавана, бо з пасудзін, прыкрытых палатном, нешта падымалася ўверх, тырчэла коптарам, і берагі палатна былі ўсунуты ў пасудзіны. Вока старога Цыпрука заўважыла, што нешта сыпучае і пругкае знаходзіцца ў пасудзінах.

Ён пробваў цягнуць носам, каб пазнаць паводле паху, што тут знаходзіцца. Але пахаў было ў хаце так многа, што цяжка было з іх вызначыць нешта адно пэўнае: пах дыму, розных траў, яблыкаў, грыбоў—усё было зьмяшана.

Цыпрук да таго захапіўся гэтым усім новым для яго, што нават забыўся пра зубны боль.

Яго зацікавіла таямніца:

— А што ў хаце так многа напакавана?

Кожны цаберак, мяшок, кубел і скрыня, здаецца, таксама і на Цыпрука глядзелі з няменшай зацікаўленасьцю. Вось як глядзяць на чалавека жывёліны, толькі такія дзівацкія, што ня можаш уцяміць, дзе ў іх вочы, нос, рот. ногі ці іншыя адзнакі жывых істот. Адно толькі пазнаеш: паасобны характар кожнай з гэтых істот. Некаторыя з іх надаюць вясёласьць, іншыя нібы кпяць, а то наводзяць сум, страх і розныя неадчэпныя настроі. Няжывыя рэчы ў хаце Сымона Чарнюка здаваліся Цыпруку жывымі, разумнымі. Яны ведаюць многа, многа і нешта такое, чаго стары ня ведае.

Селянін адчуваў, што знаходзіцца пад іхняй незразумелай ўладай. Яны нешта да яго гаварылі, гаварылі тымі галасамі, тэй мовай, якой гаворыць да яго заўсёды пустая дарога, дзе ён стаіць каля сваёй хаты цэлымі гадзінамі і чакае навін...

На ўсіх хатніх начэньнях марудна і ў надзвычайна прыгожым суме памірала сонца.

Самы малейшы ўздрыг сонечнай сьмерці адчуваўся ў ігры колераў на ўсім вакольным. Зморшчынкі на мяшкох запоўніліся сьветаценямі. Варсінкі на грубай тканіне адлівалі золатам. Месцамі на сьценах сонечныя водблескі здаваліся кропелькамі крыві. На скрынях і кублах вызначаліся слаі дрэва, паводле чаго Цыпрук мог у выабражэньні дамалёўваць, як гэтыя дошкі і кавалкі дрэва, якія ператварыліся цяпер

у новыя формы, у новае жыцьцё, зьмяшчаліся раней у жывым це
хвоі, асіны ці дуба. Цыпрук, паводле слаёў, здагадваўся—ці з кам
ўзяты кавалак, ці з сярэдзіны, ці зьверху. Старым спрактыкаваны
вокам ён мог вызначыць, паводле слаёў, якога веку было гэтае дрэв
Адчувалася сувязь між першапачатковай і цяперашняй формай рэча
якія ў выабражэньні селяніна жылі асабістым жыцьцём.

Памірала сонца.

Праз вокны прасейваліся ў хату апошнія жаўтаватыя праменьн
Дробныя пылінкі ў асьвечаных кволым сонцам дарожках гойдаліс
цэлымі роямі, млелі, заміралі ў паветры мільёнамі бліскучых крапіна

Недалёка за сьцяною хрыпела балотная птушка. Яе голас ур
ваўся ў колеры сонечных адсьветаў гукавай ілюстрацыяй.

Колеры пачыналі бляднець, вянуць і губляцца ў шчылінах. Здав
лася, што сымфонія фарбаў адыходзіла ў далячыню на многа-многа міл
гублялася нейдзе ў прасторах, дзе, нявідочная для вока, жыла ране
шым жыцьцём.

Сонца сканала.

У рэдкім ельніку вандраваў паўзмрок.

У хаце пацямнела.

Ціха, бяз слоў і бяз спрэчак расплацілася кабета за лекі: вынял
з-за пазухі кавалачак палатна, у якім былі заверчаны грошы, палажыл
на стол Вывела на двор супакоеную дзяўчыну.

Толькі цяпер Сымон Чарнюк зьвярнуў увагу на Цыпрука.

Толькі цяпер Цыпрук зьвярнуў увагу на свае зубы: старому зр
білася нялоўка. Зубы цяпер зусім не балелі... Ён пачаў прыслухоўвацц
да іх, давай зьлёгку скрыгатаць імі, усунуў палец у рот—зубы як-б
ніколі не балелі...

Сымон Чарнюк на яго грозна зірнуў:

— Ну, чаго прышоў?

Ад вачэй Сымона, ад іх калючых праменьняў Цыпруку стала н
па сабе.

— Зубы баляць...—прамарматаў ён і адвярнуўся ад Сымонавы
вачэй, нібы ад няпрыемнага дымнага агню.

— Маніш, падла, дылда старая!—захрыпеў ад злосьці Сымон.—
Мяне не падвядзеш

— Раніцай балелі...— пачаў апраўдвацца Цыпрук.

— Ведаем гэткія казкі. Учора раса вочы ела.

— Дальбог балелі,—бараніўся Цыпрук, - цяпер, ліха іх бяры, пад
вялі мяне, перасталі балець, ці што?

— Добра, калі перасталі балець. Здаровых я не лячу...

— Палячы, братку, дык мо' трывалыя будуць...

– Трывалыя, трывалыя. Нашто табе трываласьць? Няхай полу
дзень на сенакосе будзе трывалым.

— Пашапчы мне на зубы...—не адставаў Цыпрук.

— Вон з маёй хаты! Ведаю вашых. Прышоў нюхаць, што я раблю
як народ абманваю! Хто цябе прыслаў, качарэжка крывая?

— Ніхто не прысылаў...

— Ідзі к доктару. Многія прыходзяць ка мне, каб выведаць. Ідзі

Сымон Чарнюк адчыніў дзьверы і паказаў на іх сухой чорна
рукою.

Цыпрук зьбянтэжаны, згорблены высунуўся за дзьверы.

— Ну і людзі бываюць на сьвеце!—дзівіўся Цыпрук.—Чорт і
няньчыць. Гэта-ж трэба адважыцца чалавека з хаты гнаць...

Цыпрук плюнуў, вылаяўся і пацягнуўся ў вёску шукаць прытулку нанач.

— Вось і жывы цяпер на сьвеце... Вось і лячыся. Адзін д'ябал кіруе і фэльчарам і шаптуном...

Доўга Цыпрук марматаў лаянкі.

Нанач ён астаўся ў вёсцы „Дразды і Дзятлы" у аднаго старога селяніна. Але і тут яму не шанцавала. Стары гаспадар вельмі моцна, ад усяго сэрца, прабіраў свайго сына.

Цыпрук у яго запытаўся:

— Што за сьвет настаў? Цяпер і старыя перайначыліся, ці што? Усе людзі такія злосныя, што хоць ты іх...

Тут ён спыніўся, бо ня ведаў, што з такімі „злоснымі людзьмі" рабіць.

— Так,—згадзіўся стары гаспадар,—настаў такі паганы сьвет, што хоць ты яго...

На гэтым і стары гаспадар спыніўся, бо і ён ня ведаў, што рабіць з такім „паганым сьветам".

Старыя трапілі адзін аднаму ў тон гэтым няведаньнем, што рабіць з злоснымі людзьмі і паганым сьветам.

Старыя пільней зірнулі адзін на аднаго і пачулі блізасьць...

Іх зьвязала ў гэты міг нейкая захаваная сымпатыя, нібы ў хлапчукоў-падлеткаў, якія апынуліся ў кампаніі дарослых людзей.

— Адна бяда не бяда, але калі іх нападзе цэлая капа, дык ня ведаеш, дзе дзецца,—казаў стары гаспадар,—зьнімі, дзядзька, торбу з плеч!

— Бойся бога, пане гаспадару, гэта-ж праўда, што адна бяда не бяда,—узрадаваўся Цыпрук: да яго чалавек па-чалавечаму загаварыў...

— А якая ў мяне бяда?—як-бы запытаўся стары гаспадар у Цыпрука,—такая, братку, бяда, што і людзям брыдка казаць, як скула на паганым месцы. Вось, прыкладам, сын у мяне. Марцінам завецца...

— І дзякаваць богу...—ус̧таўляе слова Цыпрук.

— За ўсё мы павінны дзякаваць богу. Але сын мой во ўчора жаніўся...

— Гэта кепска, ці што?

— Жаніўся, але ня так, як людзі жэняцца.

— А што?—запытаў Цыпрук,—бяз шлюбу?

— Горш таго. Вунь глянь—сядзяць абняўшыся на дварэ, каб іх ліха ды бяда абдымалі!

— Ня можна так, пане гаспадару! Маладыя яны—няхай цешацца. Самая любасьць цяпер у іх. І мы былі маладымі.

— Але мы так ня дурэлі. Гэта-ж мой Марцінка за жонку сабе жыдоўку прыдбаў...

— Жыдоўку?..—выставіў Цыпрук на старога спачуваючыя вочы.

— Во то-та-ж. Кажу я сыну: гэта яшчэ поўбяды, але-ж яе, жыдоўку, хрысьціць трэба—тутэйшага каваля Лейбы дачка.

— Так, хрысьціць трэба. Згодзен...—згаджаецца Цыпрук.

— Ты дык згодзен, але яны, каб на іх тры пагібелі і адна трасца то мала, ня згодны...

— Во гэта горш... Новы сьвет настаў, ці што?

— Гэты новы сьвет нанёс сюды сын шаптуна, Язэп Крушынскі.

— Ці ня той самы, да якога аграмон езьдзіць, ці што?—запытаўся Цыпрук.

— Той самы. Ён-то чалавек ня кепскі, сыпіць грошы направа і налева, але ліха яго з грашыма! Баламуціць народ. І ўсе тут за яго стаяць. Рызыкоўны ён чалавек, гэты Крушынскі, рызыкоўны, кажу я, і спрытны. Але да пары жбан ваду носіць. Каб ня ён, дык і Лейба каваль тут ня жыў-бы і яго дачка не закруціла-б мазгоў майму сыну.

— Усё гэта „каб ды каб", як капнуць цябе па галаве, дык і ня ведаеш, дзе дзецца,—сказаў Цыпрук.

— Разумны ты чалавек, як бачу,—уздыхнуў стары гаспадар.

## XII

Кепска праспалі гэту ноч „Іван Мацьвеевіч" і Язэп Крушынскі.

„Івану Мацьвеевічу" ўсю ноч сьніўся чалавечы чэрап, які прынёс Язэп Крушынскі з кургана. Чэрап рагатаў, яміны вачэй у ім сьвяціліся двума фосфорычнымі аганькамі. На цемяньніцы вырасталі валасы, зноў павылазілі. Аграном часта прасыпаўся, а як засьне—зноў у яго снах фігураваў чэрап у розных вар'янтах: то на агародзе качаны капусты растуць, прыглядаецца ён, ажна гэта не капуста, а па градках натыканы чарапы. Кожны чэрап мае свой выгляд, сваю асаблівасьць жывой чалавечай галавы. А то бачыў ён у натуры „апотэоз вайны"—малюнак Верашчагіна: вялізная піраміда з чалавечых чарапоў. Каля чарапоў сядзеў „Леў Талстой", з якім ён удзень пазнаёміўся, і пісаў нешта на пажоўклым пэргаміне.

Усю ноч кідаўся „Іван Мацьвеевіч" з боку на бок, засыпаў, прасыпаўся і ўвесь час адно і тое самае—сон пра чэрап.

Язэп Крушынскі сноў ніякіх ня сьніў. Яму проста ня спалася. Курыў папяросы ўсю ноч. У яго было такое адчуваньне, нібы ў таго купца, караблі якога знаходзяцца ў бурным моры. Ён рупіўся аб трох вазох сена і трох вазох дроў, якія павезьлі ў Менск на рынак Дразды і Дзятлы...

Ні Крушынскі, ні аграном не расказалі адзін аднаму аб кепска праведзенай ночы. Па звычайнаму пасьнедалі. „Іван Мацьвеевіч" з большай стараннасьцю, чым заўсёды, расказваў сьмешныя анэкдоты. Язэп Крушынскі з большай пільнасьцю слухаў іх і так шчыра сьмяяўся, ажна жонка яго, пані Ганна, зьвярнула на гэта ўвагу:

— Ня сьмейся так, Язэп, бо мне нядобра ад твайго сьмеху.

Пасьля сьняданьня гаспадар і аграном выйшлі на двор.

Пачаўся агляд гаспадаркі.

Самым слабым месцам у культурнай гаспадарцы Курганішча быў сад. Калісьці добры сад, які займае некалькі дзесяцін зямлі, быў цяпер вельмі запушчаны. Старыя яблыні і грушы ня мелі догляду і давалі мала пладоў. Месцамі пад дрэвамі было навалена шмат ламачча. На пустых палянках у садзе пасьвіліся цяляты. Пасярод саду красавалася вельмі прыгожая сажалка. Правільны круг сажалкі быў абсаджаны маліньнікам. Калісьці тут у вадзе вяліся карасі. Цяпер сажалка была пакрыта зялёнай плёўкай, у якой плюхаліся жабы.

„Іван Мацьвеевіч" строгаківаў галавою, запісваў нешта ў блёк-нот і паўтараў адно і тое самае:

— А-я-яй, Язэп Сымонавіч! А-я-яй!

— Усё няма калі гэтым займацца,—апраўдваўся Язэп Крушынскі,—заняты я ўвесь час полем, жывёлай і living рознымі іншымі справамі.

— А-я-яй, Язэп Сымонавіч! Такое дабро прападае. Я вам прышлю садоўніка. Ён дорага ня возьме. Няхай прывядзе ў парадак сад. А то я буду мець наганяю, як даведаюцца.

„Іван Мацьвеевіч“ усё пісаў ў кніжцы.

Язэп Крушынскі пачаў жартаўліва вырываць блёк-нот з рук агранома.

— Ня пішэце, Іван Мацьвеевіч, яшчэ год—і не пазнаеце гэтага саду.

— Памала, блёк-нот парвецё. Вы ўсё адкладваеце з году на год.

— Затое паглядзеце маё пчалярства. Пятнаццаць калод маю. Сам даглядаю іх. Вельмі пчол люблю.

— Дзякую за прыемнасьць,—сказаў „Іван Мацьвеевіч“,—пакусаюць мяне, як у мінулы раз. Яны ў вас ня вельмі гасьціныя, вашыя пчолы. Сколькі новых раёў сёлета?

— Не шанцуе мне з гэтым. Улятаюць маладыя раі. Ёсьць тут за пару вёрст адзін стары бортнік, дык хваліцца, што такую замову ведае. Як толькі шэпне,—усе раі на яго вульлі апускаюцца.

— А гэта што за новая будыніна?—запытаўся „Іван Мацьвеевіч“, убачыўшы ў канцы сада маленькую беленькую хатку.

— Лазьню паставіў. Другім разам як прыедзеце, нагрэем для вас лазьню, Іван Мацьвеевіч. Вы толькі не запісвайце нічога дрэннага аба мне.

— Дзе там дрэннае напішаш, калі ў газэту даў аб вас такі добры артыкул. Ня буду-ж пісаць, Язэп Сымонавіч, супроць самога сябе.

За садам разгортвалася вялікае поле канюшыны.

— Вось гэта ў мяне сёлета добра ўрадзіла!—хваліўся Язэп Крушынскі.

— Так, але вунь авёс вельмі мізэрны,—крытычным тонам сказаў аграном.

—Калі тут поле такое камяністае, што ліха яго ведае. Вунь глядзеце, сколькі каменьняў выбралі. Два чалавекі працавалі ў мяне над этым дабром некалькі месяцаў. Бачыце тры вялізныя крушні. Усе межы завалены каменьнямі. Ты іх выбіраеш, а яны зноў як-бы выратаюць з зямлі. Плуг псуецца.

„Іван Мацьвеевіч“ запісаў.

— А як карняплоды?

— Можна паглядзець,—сказаў Язэп Крушынскі,—сёлета ўрадзіла. Шмат гною даў.

— Не пайду: сонца пячэ,—тлумачыў аграном.—Галоўным чынам, хвалю вас, Язэп Сымонавіч, за жывёлагадоўлю. Учора агледзеў хлявы. Проста на нямецкі лад. Бачыў вашых кавалераў: бугая і жарабца—чэрды ангельскія. Толькі монокляў не хапае.

— Разьбілі-б моноклі, Іван Мацьвеевіч. Жартачкі з усёй вакольцы прыводзяць кароў і кабыл. Бугай яшчэ малайцом, а жарабец як-бы засумаваў, страціў жвавасьць.

— Трэба асьцярожна. Праз меру не гадзіцца. Сапсуецца. Ага, я і бачыў яшчэ, як у вас вядзецца запіс удою.

— Самая акуратная бухгальтэрыя, Іван Мацьвеевіч. Жонка запісвае кожны раз. Пакажу сягоньня.

Яны выйшлі ў малады дубняк.

Дзе-ня-дзе высіліся рослыя дубкі, а месцамі стаялі густымі шэрамі тонкія, бы пугаўі, дубочкі, нібы насаджаныя рукою чалавека. Самым цэнтры дубняка разгарнуліся ўшыр і ўвысь два волаты-дубы.

— Нічога сябе сямейка,—сказаў аграном і любаваўся на дубняк.—Вось два дубы роданачальнікі, а вакол іх гадуюцца дзеці, ўнукі, праўнукі і пра-праўнукі. Гэта самае поэтычнае з усёй вашай культурнай спадаркі, Язэп Сымонавіч!

— Мабыць, дзеля таго, што я дубняку зусім не гляджу. У мяне быў адзін знаёмы, дык ён заўсёды гаварыў: „ня трэба нічога рабіць, тады ўсё будзе добра“.

— Яго філёзофію практыкуеце на запушчаным, адзічэлым садзе, Язэп Сымонавіч? Аднак, нічога не рабіць—не па вашай натуры.

— Вось дзеля гэтага, што многа раблю, ня маю часу дбаць аб гэтым садзе. Затое вось сельска-гаспадарчыя машыны ў мяне ў парадку.

— Так і ёсьць, але цяпер маю ахвоту пад цяньком пасядзець пад гэтымі дубамі,—лянівым і рахманым голасам сказаў „Іван Мацьвеевіч“. А вось і курганы недалёка. Адгэтуль вы чэрап прынесьлі?

— Не. Тыя курганы на другім баку, пад самым лесам.

— Вось дзеля чаго вы ўчора так марудзілі. А чэрап мне ўсю ноч сьніўся.

— Я сягоньня раніцаю закапаў яго ў садзе. Болей сьніцца не будзе. Вы тут, Іван Мацьвеевіч, пасядзеце ў цяньку, а я пайду. Зараз вярнуся.

Язэп Крушынскі пашоў на хутар.

Над галавою „Івана Мацьвеевіча“ шапталіся старыя дубы – „бацькі“ дубняка.

Дубняк быў над самай рэчкай. На гэтым месцы бераг стромкі, абрывісты. Жоўты пясок слаісты, з прымешкаю чырвонай гліны ледзь ня роўнай сьцяной вісеў над вадою. Маленькія плотачкі цэлымі стадкамі мітусіліся ў чыстай вадзе, блішчэлі серабром. Дно рэчкі залаціцілася жоўтым пяском. Па другім беразе па сьцежцы вясковыя бабы несьлі мяшкі з травою. Дзяўчынка, гадоў дзесяці, загарэлая ад сонца, з закарузлымі худымі ножкамі несла за імі, нібы зброяноша, тры сярпы. Бабы сьмяяліся, жартавалі і гаварылі аб учарашняй бітве Драздоў і Дзятлаў.

„Іван Мацьвеевіч“ прытаіўся пад дубам, чамусьці не хацеў, каб вясковыя бабы яго тут заўважылі.

Калі бабы адышлі далёка, „Іван Мацьвеевіч“ скінуў з сябе вопратку, адышоў у бок, дзе бераг ня быў такім крутым, і спусьціўся ў рэчку. Улез па пояс у ваду. Вада была яшчэ халодная.

„Іван Мацьвеевіч“ сьцяў зубы ад холаду, даў нурца, трохі паплыў і выскачыў на бераг. Тут ён успомніў, што ня мае чым выцірацца. Сеў на сваю бялізну пад сонца, каб сагрэцца.

— Холадна, Іван Мацьвеевіч?—запытаўся Язэп Крушынскі здалёку.—Зараз будзем грэцца.

Язэп Крушынскі нёс пару бутэлек віна, два кілішкі і белую сарвэтку з закускаю.

— Ну, і практычны вы чалавек, Язэп Сымонавіч!—узрадаваўся аграном.— Гэта-ж трэба так умець наладзіць справы, каб усё было на месцы і ў пору... Хутчэй, дарагі, налейце віна, а то ўсё нутро трасе ад холаду.

Язэп Крушынскі наліў віна ў кілішак.

— Яшчэ!—крыкнуў аграном.

Выпіў яшчэ кілішак.

— Яшчэ на закуску адзін!

Выпіў.

— Цяпер пацяплела!

Аграном хутка апрануўся.

Пад ценем дубоў яны разлажылі сарвэтку і ляглі адзін супроць аднаго, апіраючыся лакцямі аб зямлю.

Віно хутка выпілі.

— Вось тут на беразе думаю млын будаваць, паравы млын. Гэта музыка будзе каштаваць каля пятнаццаці тысяч рублёў. Яшчэ не хапае палавіны.

Так разважаў як-бы сам з сабою Язэп Крушынскі, паглядаючы у даль на сенажаць і поле.

— Няма добрага млына па ўсёй ваколіцы. Проста бяда. За пятнаццаць вёрст прыходзіцца езьдзіць.

— Так... Так...—лянівым голасам марматаў „Іван Мацьвеевіч“.

— Мая культурная гаспадарка яшчэ больш праславіцца, калі тут будзе добры млын. Для сялян вялікая карысьць.

— Так...

Язэп Крушынскі падрабязна гаварыў аб пляне будоўлі млына. Доўга разважаў аб выгадах для вакольных вёсак і не заўважыў, што „Іван Мацьвеевіч“ спаў ціха і смачна, падлажыўшы пульхлыя рукі пад правую шчаку, як дзіцё, якое яшчэ не пакаштавала смаку дабра і зла на грэшнай зямлі...

---

Стары Цыпрук зноў у дарозе.

Торба за плячыма, кій у руках. Даўно не вандраваў. А вось, ні з таго, ні з сяго, прыходзіцца рабіць такі маршрут...

Зуб трохі ныў, але ня так, як учора раніцаю.

— І фэльчар не лячыў, і шаптун не шаптаў, а вось хаджу сабе, як бяздомны, па шырокім шляху. І ў хаце нават няма чым пахваліцца...

Стары памалу рухаўся наперад.

На дарозе было мала людзей. Часам пройдзе стары вярсту-другую і жывой душы ня сустрэне. А калі-ні-калі між жытамі на лагчыне бліснье каса: селянін лужок косіць.

— Ня будзе чым у хаце пахваліцца...

Стары аглядаўся па бакох, прыслухоўваўся адным вухам, другім...

Ён увайшоў у звычайны смак назіраньня.

Дарога сама па сабе яго надзвычайна вабіла, вельмі цікавіла. Тыя вербачкі, бярозкі і ляскі, якія бачыў учора, сягоньня сустракалі яго абапал дарогі, як добрыя сябры.

Цішыня дарогі, пасьля ўчарашняга кірмашовага грукату, была ўрачыстай і глыбокадумнай.

Селянін павольна ішоў наперад. Яго цікавіла таксама, што робіцца за яго плячыма з-заду...

Раптам спыніўся.

Пачуў грукат калёс з-заду. Адвярнуўся. Праз воблака дыму заўважыў фурманку. Яна хутка параўнялася з ім. Спынілася.

З возу ветла ўсьміхнуўся „аграмон“, які пазаўчора ў яго начаваў. Побач з „аграмоном“ сядзеў другі чалавек.

— Зараз наедземой фурман; вы, таварыш, з ім пад'едзеце,—сказаў аграном да Цыпрука.

„Іван Мацьвеевіч“ з Язэпам Крушынскім паехалі далей, пакідаючы за сабою белаваты пыл.

— А настаўніцу я абавязкова цяпер з Менску прывязу! А то сапраўды дзеці распусьціліся. Цягаюцца ўсюды, па лесе капаюцца... Адно гора з гэтымі дзяцьмі...—казаў Язэп Крушынскі, успамінаючы аб учарашнім „скарбе“.

— Так... так... заўсёды мяне слухайцеся і ўсё добра будзе!

Насупроць іх здалёку ехалі конныя.

Язэп Крушынскі пабляднеў.

— Пагранічнікі вечна ёрзаюць,—прагаварыў ён і няпрыкметна для „Івана Мацьвеевіча“ выкінуў з каляскі мяккі пакунак.

— Калі „свае“ пагранічнікі, тады яны мне самі прынясуць гэты пакунак,—падумаў Язэп Крушынскі,—а калі „чужыя“—чорт з імі!

Пагранічнікі пад'ехалі бліжэй.

Язэп Крушынскі хацеў сажмурыць ім адно вока ў знак сяброўства.

— Не... „чужыя“, ліха на іх...

— Стойце, таварышы!—крыкнулі пагранічнікі.—Куды едзеце?

— У Менск.

— Што вязеце?

— Паглядзеце!—сказаў сьмела Язэп Крушынскі.

Пагранічнікі саскочылі з коняй і падышлі да фурманкі. Запыталіся докумэнтаў. Падазрона зірнулі на вопратку агранома, на яго портфэль, ператрасьлі чэмодан, сена на фурманцы, закурылі ў Язэпа Крушынскага, ветла разьвіталіся і селі на коняй.

---

Фурманка схавалася з вачэй старога Цыпрука, яе грукату ўжо ня чуваць, а пыл на дарозе яшчэ ня ўлёгся.

Стары селянін ішоў наперад па вузкай сьцежцы на мяжы і прывычным гаспадарчым вокам паглядаў на ўсе бакі.

— Што за чорны камок ляжыць на дарозе?—запытаўся ён сам у сябе.

Зацікавіўся, падбег да „камка“. Разгарнуў пакунак прагавітымі рукамі.

Кавалак сукна...

Ад радасьці горача ўнутры зрабілася.

— Вось і адплата за вандраваньне...

Сарваў з плеч сьвітку, абкруціў пакунак і рушыў шпаркім крокам.

Аглянуўся па бакох.

Захацелася, каб да яго прыходу дамоў дарога была пустая, мёртвая, забытая ўсім сьветам...

Дзе там! Цяпер як наўмысьне... Во новы пылок коціцца здалёку насустрач...

Конныя едуць.

Селянін супакойвае самога сябе:

— Што мне да іх, і што ім да мяне?..

Ідзе вельмі павольна: „каб чаго не падумалі“...

Не глядзіць па бакох, вохкае ад старасьці...

Параўняўся з „імі“.

— Што, стары, цяжка?

— Старасьць—ня радасьць, дзеткі мае.

Сьмяюцца вайсковыя, дабрадушна, па-здаравецку рагочуць:

— Го-го-го!

Ад гэтага сьмеху старому лягчэй на душы.

— Шчасьлівай дарогі, дзеткі мае! Ці што?

— Бывай здароў, дзядок!

— Якія добрыя хлопцы!

Цыпрук шчыра расчулены.

Конныя ад'яжджаюць на некалькі крокаў.

Стары дае ходу.

— Гэй, дзед! дзед!!—крычыць з-заду адзін з іх,—з тваёй сьвіткі нешта чорнае цягнецца.

— Ой, дзеткі мае!—спалохаўся селянін і зьняў сьвітку з плеч.

Выпаў чорны пакануча́к.

Коньнікі пад‘ехалі.

— Пакажы, дзядок, што ў цябе?

— Гэта я купіў, дзеткі мае, у аднаго чалавека на вопратку сыну... Жэніцца сын мой...

— Ня хітры, стары!—строга казаў адзін з іх,—гэта-ж контрабанда!

— А ліха яго ведае. Я-ж купіў у чалавека, дзесяць рублёў заплаціў.

Стары пачаў божкацца.

— Кажы, у каго купіў?—грымнуў злосна адзін з вайсковых.

Рэдзенькая бародка старога траслася.

— Усю праўдачку скажу, дзеткі мае, ці што? Гэта я знайшоў тут на дарозе...

— Не мані, а то горш будзе!

— Дальбог, знайшоў тут.

— Бог табе з неба кінуў, мабыць! Эх ты! Ідзём з намі!

— Мне да хаты трэба, дзеткі мае, вазьмеце сабе гэты пакунак, ці што?

— Ідзём, стары, ты арыштованы!

— А людцы мае!—зьдзівіўся Цыпрук,—я-ж ня ўкраў... знайшоў на дарозе.

— Ідзём, а то...

Стары апусьціў галаву і паплёўся за коннымі пагранічнікамі ў другі бок.

— Каб скрозь зямлю праваліласяя такая дарога!

Зноў занылі зубы...

*(Далей будзе).*

Максім Лужанін

# Рабінавае шчасьце

*Трыклініьне*

## I

### Дні бяскрайнай тугі

Вам семнаццаць гадоў...
Я
штовечар прыходжу ў тэатр...
Кожны вечар
такія хвіліны...
Хай пасьля—
адзінота шуканьняў
ў прасторах глыбінь
і дасюль невядомых турбот.
Потым сны...
А цяпер
будзе стрэча і ростань,
будуць белыя строі
маўклівай,
як кветкі,
тугі.
Прыдзе роспач сама
выпадковай, як ноч,
непазнаўкай
ў тонкіх рухах плячэй
і бязмоўнай пагардзе вачэй.
Гэта-ж
ёй
высьцілала пасад
на ўзвышшах вясна маладая,
быццам восень лісты,
быццам
белыя ночы і дні.

---

Вам семнаццаць гадоў...

---

Сноп агнёў...
Заля ў снох адзіноты.
Словы ў сьлед:
— Беларускі поэт...
Я суцішваю
сэрца
і крокі,
што ў далёкія дні
Заклікаюць ісьці.
У маім
сеньнішнім „Я“

так даўно ўжо няма чалавека,
засталося аблічча
і бедныя крохі душы.

Вось цяпер-бы ў стэп,
дзе, напэўна,
ніхто не пазнае!
Валацуга—таварыш,
а кожны сабака—
сваяк...

---

Вам семнаццаць гадоў...

---

Вострай згадкай
ударыла памяць.
Роўным крокам
іду
на знаёмае месца...

Першы рад.
Адзінаццаты нумар.
Гэты лік,
быццам сымбаль
мае адзіноты...
Дзьве адзінкі
пагоджаных дзіўнай рукой.
Адзінаццаты нумар...
Адзін і адзін...
Разам—два...
Быццам—
Я
быццам—
Вы.

Цішыня ў цішыні...
Асядае цяжкое маўчаньне
на пялёсткі мімоз
і на гордыя сны анэмон...
Разам з імі
маўчу...
Я маўчу
і вандрую вачыма
па ўскраінах плеч
і паўвыспах дзявоцкіх грудзей.

Праз хвіліну—
шасьценьне знаёмага шоўку...
Вам семнаццаць гадоў...
Вы прыходзіце з маткаю,
ў колерах чорнай тугі...
Дзьве касы
і
ражок беласьнежнай хусьцінкі...

Як далёкая здань...

А каб можна
стагодзьдзі вярнуць,
ажыўляючы цені
на нашем экране,—
лесьбіянкай
насустрэч выходзіла-б дню,
у косах рымлянак
белаю ружай канала-б...

Вы прышлі...
І агні заміраюць трывожна...
І бляднеюць
прад сумам
хвілін хараства...
Трэйці тыдзень гульні...
Вы шукаеце поглядам
постаць,
што трымае букет
ледзь распушчаных наквецей
руж...

Погляд стрэўся з маім...
Так ударыў
балюча і востра...
Мой паклон
і адказам—
пагарда маўчаньня...

Я заву хлапчука,
аддаю яму гэныя ружы
і кажу:
— Перадайце паненцы ў чорным
ад таго,
што прыслаў
і заўчора
і ўчора..

---

Ля сьцяны ў калідоры...
Трывога
і першы сыгнал...
Вы йдзіцё...
Гэтак хочацца
ўслухацца ў крокі,
сьмелым рухам
крануцца
халодных страёў.

Тры званкі—
і пагасла сьвятло...
Адчуваю ля вуснаў дыханьне...
У ціхім полымі рук,
ў пурпуровай халоднасьці губ—
пацалунак
і словы:

— Заўтра ў восім...
Чакаю... —
Кідаеце хутка ў твар...

---

І як быццам, знарок
штосьці ўспомнілі струны...

---

Заля сьціхла
ў трывожным чаканьні заслоны...
Колькі соцень вачэй
з нямігаючым поглядам тут...
Гэта—
дзеці зусім
з маладой нечапанасьцю
твараў,
са слаўнотай вачэй
ў захапленьні
юнацкай крыві.
Так— адны...
А у іншых—
напісана ўсё.
І расказваюць хмурыя рысы
дні распусты
маны і віна
і ўсьмешкі
прадажных гэтэр.

Вось...
Яна падымаецца
ціха і роўна...
Лёгкі холад адтуль...
— Добры вечар, Кармен!
Але гэтыя мукі?
Гэты крык і туга
за...
рублёвы білет!

Не пазбыцца трывог,
а яны
не дадуць супакою,
хоць і прыдуць
інакшымі
шчасьце і дні...
Я такою пакутаю
сёньня ўспоен,
каб узьняцца вышэй
міжплянэтных глыбінь.

---

Я мужык...
А яна?
Мо ня бачыла поля?
Ёй ніколі ня знаць,
як растуць ячмені.

Не зьмяніць ёй шаўкоў
на маіх спадзяваньняў
куколі,
паліроўку нагцей
на адкрытасьць
вясковай радні.

---

Вам семнаццаць гадоў...

---

Расьцьвітае туга
і каханьне.
Нікне блізкае.
Стала чужое
сваім.

---

„Заўтра ў восім“
Прыходжу...
Гублюся ў кілімах і дзьверах...
Холад вечнай зімы...
Некранёнасьць
трапічных расьлін...
Звонка крадучы ціш
мармуровых халодных усходаў,
хтосьці лёгка ідзе..

— Сапраўды?
І на плечы мае
кінуў змрок
свае белыя крыльлі...
— Вы прышлі?
Вось слухмяны і добры!
Я чакала ўвесь дзень...
Што-ж так холадна?
Першая стрэча?

Ну цалуйце руку!
І ня ўмее...
Эх, вы!
Нават шкада...
Беларускі мядзьведзь!—

... А пунсовыя вусны
пацьвельваюць,
дражняць
і шукаюць маіх,
і туга без краёў...

Дайце Літасьці!
Радасьці!
Кволасьці!
Суму!

Я хапаю ў абдымкі...
Дзіцёнак зусім...

На руках прыгарнулася
стомлена к шыі
пад бязмоўную музыку
чорных вачэй...

Нікне ўсё...
Прападае ў гарачым тумане...
Быццам плаваюць зоры
між нас,
каля нас...

---

І як быццам знарок,
успамінам парваліся струны...

---

Потым—
кволасьць плячэй...
Ўздрыгі тонкага шалю..
Холад рук...
Пурпуровая матавасьць губ...
Як суцешыць яе?
Не магу...
І не знаю...
Бо і жалю свайго
не зьбяру,
не зьвяжу...

Потым сьціхла...
Знаходзіла звонкія кпіны
над маім цьвёрдым „р“,
мягкім „г“
над няўмеласьцю рук...
Шчырасьць вершаў маіх
абзывала мякінай
і сьмяялася так,
як сьмяюцца патраціўшы ўсё...

— Мне смешно..
Была Русь!
В ней один
и язык и природа.
Красотою одной
зажигается русским душа...
А теперь
по частям—
Белорусь, Украина,
разделили страдалицу
бедную Русь...

— Вось якая ты радасьць?
Павісьлі міжвольна дакоры...
Часткай земляў чужацкіх
краіну назаўжды зрабіць?
За усьмешку вачэй
ты
аддаў прысяганьні на зоры:

заўжды з роднаю
песьняй
ў жыцьцё і ў труну...

Я ўстаю..
Падымаюся з белага змроку...
Словы кволасьці ветлай
так просяцца з губ...
Я-ж у думках
жыцьця за яе не шкадую,
але ў голас:
— Я вас не кахаў!

— Так і знала!
Ўзьляцелі трывожныя вейкі...
— Злы!
— Нядобры!
... Пашла...
Сэрца плача:
— Вярніся!
— Вярніся!

Вось нанова расьпяты Хрыстос!
Тут поэт на радзіму забыўся!
Галасі, галасі!
Галасі!
І ў адказ—
смутак
злоўленай птушкаю біўся
і крычаў—
Галасі! Галасі! Галасі!
Ўсё аддаў і сям'ю і айчыну
на ахвярнік
за рук яе сум і тугу...
Ён забыўся,
што ёсьць і такая дзяўчына
сьветлакосая радасьць—
сама Беларусь...

---

Як шалены па вуліцы...
— Стой, дарагі!
— Можа хочаш каханьня?
Станьнела зусім...
— Ах, туга!
Ноч тугі...
Хтосьці йшоў...
І другі.
Цень упаў
а за ім:
Колькі год?
Колькі зім?
— Ты куды?
— Узяць паўлітра настрою!
— Я... вось бачыш!
Туга...

Дзесьці п'яныя скрыпкі рыдалі,
выпяваючы сум
простытутчыных сьлёз.

---

Цераз тыдзень у „Вечерней Москве“,
у аддзеле жыцьцёвых здарэньняў:
„М. А. Д.
атруеньне цыаністым калі“.

---

Час ідзе...
Гэта лекар
на ўсякія раны,
але раны душы
не згаіць,
не забыць...
Я ахвяр ня люблю...
Скажа ціхае слова
краіна—
ёй жыцьцё!
Не шкада!
Каб хварэлі
душою жывыя
за шляхі,
за
няпэЎна-пастаўлены крок!...

Зноў прышла цішыня...
З тэй крыніцы,
дзе дні пачынаюцца,
расьцякліся струмені
яскравых і радасных дзей...
ў рупнай працы маёй
непазнаўкі
тугі
прачынаюцца,—
беларускія раніцы
ў золаце рос
і вясны...

Хутка прыдзе яна,
што хусьцінка
чырвоная з сінім.
Наля дзён маіх новых
і весьніца велічы дум.
І ў вачах прынясе
акавіты вясновае подых
ад Мазырскіх вазёр
і ад Слуцкіх шумлівых гаёў!

25/XII—27—25/V—28 г.
Менск.

# Сястра

*Роман у чатырох частках*

## Частка трэцяя

### XI

Нечаканая сьмерць Цівунчыкавае сястры здарылася якраз напяр дадні выхаду студэнта Макарчука з больніцы. Яна, памытая і пр адзетая суседкамі, начавала дома, а назаўтра Радзівон Цівунчык, як мо хаваў яе. Насьця ня прыехала. Цівунчык разважаў:

— Тэлеграму я даў ёй—каб льга было ёй, дык нейк-жа прыехала- А калі ня прыехала—значыцца нельга было ёй.

Пасьля думкі яго пайшлі ў іншы бок:

— Як гэта так—колькі год ня было Насьці, ня бачыўся гэтулы часу; вельмі далёка заехала яна, а гэта раптам магла-б прыехаць. Зн чыцца, яна й так можа прыехаць, каб хацела адно мяне старога паб чыць... Забываюць цяпер дзеці бацькоў.

Яму стала горка, і ён пачаў глядзець, як чорна каля куткоў ро ў нябожчыцы. На могілках ён застаўся адзін пасьля ўсіх, агледзеў н зграбна насыпаную магілу, пагаспадарску абышоў яе і вылажыў халодным жвіры з каменчыкаў крыжык. Ішоў дадому паволі, нічога думаючы і адчуваючы ўсё надзвычайна лёгкім, прасторным і пусты А дома застаў кватаранта свайго Макарчука. Узрадаваўся:

— А божа-ж мой, гэта-ж вы ўжо дома.

Пасьля ад дабраты свае падумаў, што таму, можа ня зусім добр бачыць яго такім гаваркім пасьля пахаваньня. І сказаў:

— З могілак прыйшоў, сястру сваю хаваў. Гэта, што на Прыб ражнай вуліцы была.

— А з чаго-ж яна памёрла?

— Хто ведае! Прыйшла пара памерці, мой божа. Днём рабіла, вечарам жывот ёй нешто забалеў. А назаўтра гарачка падскочыл Чатыры дні паляжала і богу душу аддала. Шмат хваробы чалавеку трэба, калі на сьмерць ідзецца.

І цяпер яму зусім стала горна і крыўдна:

— Гэтая, хоць і сястра мая—жыла, гаравала, прасьветлае часін ніколі ня бачыла, а як памёрла, дык і хавалі чужыя людзі. Уся адзін я і быў, брат родны. Сын недзе ў Польшчы, другога—жыво няма. Божа-ж мой, божа... А вы як?

— Паправіўся.

— Значыцца, зусім з больніцы прыйшлі?

— Зусім.

— Будзеце давучвацца?

— Але.

— От і добра. А мне той, што заходзіў тады раз, ліст прысла Успомніў мяне, старога.

— Хто?

— Я й забыўся, як ён завецца. От пачытайце.

Ён даў Макарчуку пачытаць ліст Ваці Браніслаўца.

— Чаму гэта ён вам піша?

— А от гэтакі чалавек. Далікатны. Праўдзівы. Успомніў мяне. Гэтакіх людзей цяпер мала.

Раптоўна ўспомніў:

— Тут ваш белы хлеб быў застаўся пасьля таго, як вас у больніцу забралі. Дык я яго на сухары высушыў, а то ён дагэтуль сьцьвіўбы. Сапсаваўся-б. Я вам прынясу.

Ён пайшоў у сенцы і прынёс адтуль талерку з дробнымі белымі сухарамі.

— Можаце есьці. Зусім як сьвежыя. Тут адзін былі мухі запэцкалі, дык я яго, прызнацца, выкінуў. А рэшта—усе цэлыя. Вам цяпер праішца трэба. Бач, які худы. Састругала як хвароба. Хвароба—ня свой брат, каго высушыць. Я от нагрэю вам гарбаты. Ды, прызнацца, і сам разам з вамі шклянку вып'ю... От табе й на, от і адзін зусім я на сьвеце застаўся. Няма, мой божа, і пайсьці да каго, парадзіцца, каб прышлося, ці што якое іншае. Нікога свайго не засталося тут у мяне. Жыла—жыла, ды й памёрла. Чалавечая доля. І ніхто ўсёроўна, каб і хацеў, не перайначыць. Вы дзе будзеце гарбату піць—у сябе ці, можа, у кухні са мною?

— У кухні з вамі.

— Добра, я адно трохі з стала тут прыбяру. Вельмі-ж рыштункаў усялякіх повен стол. І адкуль яно бярэцца, ліха яго ведае. Здаецца-ж, я стараюся ўсё на сваё месца класьці... Вы добра ведаеце гэтага, што напісаў мне ліст? гэтага...

— Вацю Браніслаўца?

— Але, гэтага Вацю Браніслаўца.

— Ня то што добра, але трохі ведаю.

— Можа, гэта ён зноў сюды ў горад пераяжджаць думае, дык калі патрэбна яму кватэра, дык няхай-бы ў мяне тут асталяваўся, калі выгодна яму тутака будзе. Я-ж кажу. З гэтакім чалавекам і пажыць разам добра. А то часамі пападзецца такі, што ты дню з ім ня ўбудзеш. На добрага чалавека ты мала дзе трапіш. Ён-та табе ўсякі будзе добрым, калі ведае, што ў цябе грошы ёсьць. А ты вазьмі ды так мне будзь добрым. Бяз грошай. Тады я скажу, што ты запраўды добры. Праўда, ці не? А гэта чалавек, калі ён мяне ўспомніў...

Пасьля зноў на яго найшла хваля горнасьці з прычыны сьмерці сястры. І да самага вечару ён горніўся, бедаваў, тужыў. Алесь Макарчук пад вечар пашоў паволі ў бок гораду, і Цівунчык, стоячы ў браме, гаварыў яму ўсьлед:

— От пацягнуўся. Няма каб адпачываў пасьля хваробы, дык не. Што ты яму зробіш...

Глядзела скрозь ветравыя хмары сонца на зямлю. Апошнія гадзіны дню паглыблялі ўтрапеньне Цівунчыкавага настрою. От ужо берагі неба засінелі вечарам, але сонца яшчэ ляжала на сьцяне цівунчыкавае кухні. Ува ўсім доме была цішыня. І на двары было ціха. Дзіцячыя галасы адно павялічвалі гэтую цішыню. Цівунчык доўга стаяў пасярод кухні, залажыўшы рукі ў кішэні. Варушыў тварам і дробна міргаў вачыма. Сіняя муха, што ўляцела знадворку, сіратліва білася ў сонечную шыбу. Цівунчык, раздражнены гэтым гулам яе, замахнуўся на яе ручніком. Яна адляцелася ад акна. Тады ён адчыніў акно і выгнаў яе ім-жа ручніком. Праз акно дыхнула пахам гарадзкое твары. Цівунчык сеў на лаву за сталом, палажыў рукі на стол і моцна засумаваў

## Частка чацьвёртая

### I

Даўно прайшоў той дзень, калі конка прывязла была да вагза Казімера з лістом да Мані. Даўно адыйшлі ў вечнасьць хвіліны перш сустрэчы іх—Казімера і Мані. І дым ад паравікоў над вагзалам М. Б. ужо раставаў не ў веснавым чыстым небе, а ў шырокім—цяжкім—ле нім. Колер гэты неба сьведчыў аб блізкім канцы лета.

Радзівон Цівунчык даўно пакінуў сваю кватэру пад нагляд с дэнта Макарчука, а сам падаўся некуды ў сады вартаваць яблы Раз у два тыдні зьяўляўся ён дадому—выпіць з Макарчуком піва прывагзальнай піўной і пасьля доўга гаварыць яму аб выгодах і н выгодах жыцьця.

За ўсё лета ён, апроч Макарчука, толькі і бачыў аднаго знаём раз—гэта Абрама Ватасона, былога кватаранта свайго. Той неку сьпяшаўся, выціраючы на хаду хусткаю спацелы лоб. Гэта было ў н дзелю. Цівунчык, адвартаваўшы ноч, адпрасіўся да вечара дадо І цяпер, у гарачы поўдзень, стаяў на вуліцы, раздумваючы, куды-б п дацца. Абрам ішоў па другім баку вуліцы. Цівунчык гукнуў:

— Пачакайце!

Абрам азірнуўся і падышоў.

— Хаця скажэце, дзе-ж вы цяпер паварочваецеся?

Абрам нешта сказаў аб сваёй новай рабоце, даведаўся, што Ціву чык вартуе цяпер яблыкі, і хацеў ісьці. Цівунчык пакрыўдзіўся.

— Што-ж вы гэтак уцякаеце адразу? Гэтулькі жылі разам, і г тулькі ня бачыліся. Як-жа вам жывецца цяпер? Ці добрую кватэ маеце? Чаму-ж ня хваліцеся?

— Кватэра нішто.

— А ў драўляным доме ці ў муры?

— У муры.

— От гэта нядобра.

— Чаму?

— Зімою вільгаць будзе. Няхай-бы вы дзе стараліся сабе кватэ ў драўляным доме.

— Там добры мур

— Мала што ён добры. Але-ж цэгла, якая-б яна ні была, трымае сабе холад.

Ватасон хацеў нейк апраўдацца перад Цівунчыкам за тое, што жыве ён у драўляным доме, але нічога ў яго ня выйшла і ён, сьпя ючы, разьвітаўся і пайшоў. Цівунчык разьвёў рукамі яму ўсьлед.

— Так, забыўся, значыцца. Чалавек!

Пасьля дадумаўся:

— Цяперашні—дык у яго гэта няма, што там свой ці ня св знаёмы ці не знаёмы. Усялякі ў яго можа быць прыяцелем і ўсяляк ён можа заўсёды забыць і нават не пазнаць пасьля.

Пасьля таго дню ён вельмі доўга ня мог быць дома і ўвесь меў у сабе крыўду на Абрама. І ўсё параўноўваў яго з Вацем Браніс цам, расказваючы вартаўнікам суседніх садоў, як ён прыслаў бы ліст—хоць і вучоны, але без ніякага гонару, папрыяцельску.

Доўга яшчэ трэба было быць яму ў садзе, да самых замараз І чамусьці не цягнула яго нікуды цяпер адтуль. Ён адчуваў ней стомленасьць усё лета. Адно пад восень стала яму лепш.

У той самы час на яго кватэры студэнт Алесь Макарчук рыхтаваўся канчаць унівэрсытэт. На тэтай пустой кватэры зьбіраліся студэнты, што засталіся летаваць у горадзе. Утомленыя за мінулую зіму, яны стараліся цяпер як мага хутчэй скончыць сваю кніжную работу.

Адзін раз Макарчук сядзеў адзін дома. Адчыніўшы вакно, ён слухаў, як да вагзалу зьяжджаліся з гораду людзі—к вячэрняму поезду. Тады зьявіўся перад вакном Вацця Браніславец. Яны спаткаліся суха, як мала знаёмыя. Вацця гаварыў:

— Праўду кажучы, дык я гэта хацеў-бы пабачыць самога гаспадара—Цівунчыка.

— А ён недзе сады вартуе. Няма яго.

— І ня будзе сёньня?

— Не.

— А я думаў, што паначую ў яго. Прызнацца, як ад'яжджаў, дык з гаспадыняю пасварыўся быў. Нядобра ісьці цяпер... Ну, добра, пайду ў горад. Бывайце.

Макарчук затрымаў яго:

— Дык вы начуйце. Цівунчык нават і ўспамінаў, што калі, кажа, будзе, дык няхай-бы на кватэру застаўся. Ліст усё паказваў той. Вельмі рад стары.

Вацця пачырванеў і пайшоў у кухню. Гаварыў:

— Пасьлязаўтра зноў паеду назад. Пабуду два дні... Ішоў дзесяць вёрст пехатой—лясы прыгарадныя аглядаў. Стаміўся вельмі. Пасьпеў толькі папалуднаваць у піўной.

Зьмяркалася. Ён сеў на запасны ложак каля куханнае сьцяны і пачаў разьдзявацца. Макарчук пакінуў яму ключ ад кватэры.

— Куды?

— Прайдуся пайду. Калі што якое, ды ключ можна з сабою ўзяць—у мяне другі ёсьць.

— Я нікуды не пайду.

— А, я, мусіць, не забаўлюся ў горадзе.

Аднак, Макарчук прыйшоў позна. Вацця з самага вечару спаў, пасьля прачнуўся і ўвесь час ня мог заснуць. Усялякія думкі лезьлі яму ў галаву. Цішыня пустое кватэры варушыла ў ім усе глыбіні чуласьці яго. Зноў хацелася яму заставацца тут у горадзе і зрабіць тут нейкі парадак у жыцьці сваім. За ўвесь час лясное работы свае ён пацьвярдзеў і нават сам бачыў гэтую зьмену сваю: здавалася яму, што ня так успрыймае ён нават усё тое, што раней магло даводзіць яго да ўсялякае вастраты настрою.

Ён доўга ляжаў, шырока расплюшчыўшы вочы і прыслухоўваючыся да цішыні. Мусіць было позна, бо каля вагзалу і на вуліцы ня было аніводнага зыку. Патроху ён зноў пачаў драмаць, аднак задрамаць зусім не давалі яму думкі. Тады за сьцяною раптам пачалі хадзіць, нечым стукаць, весела гаварыць. Адзін голас быў яму вельмі знаёмы, і аднак ня мог ён ніяк прыпомніць цяпер, хто гэта. Другі голас быў незнаёмы, але нагадваў ён нешта чутае калі, ці бачанае. Гаварылі аб нейкім здарэньні, якое, мусіць, вельмі цікавіла іх:

— А ўсё-ж ён дурны.

— Я гэтага не сказаў-бы.

— А я скажу.

— Але чаму?

— Гэтулькі пакутаваў, стараўся, а калі дайшло да справы, ды адразу ўзяў ды й здрэйфіў.

— Можа, добра й зрабіў.

— Гэта іншая справа. Усю дарогу з-пад самага Мэлітопаля выхваляўся, а пасьля й змоўк. Бабы спалохаўся.

— Не, тут ня то, што ён гэта спалахоўся.

— А што?

— А от гэта-ж і самае важнае. Разьбяры тут.

Нечым зазьвінелі. Сон у Ваці зусім прайшоў. Было толькі жаданьне прыпомніць, чый гэта гэтакі знаёмы голас.

Усё высьветлілася неспадзявана. Толькі што ўвайшоў Макарчук і запаліў сьвягло, як нехта застукаў у дзьверы. Той самы знаёмы голас, заікаючыся, гаварыў нешта ў кухні Макарчуку. Пасьля Макарчук падыйшоў да Ваці:

— Суседзі запрашаюць адсьвяткаваць іх прыезд.

— Адкуль?

— З Каўказкіх гор.

Ваця прыпомніў тую ранейшую выпіўку тут, за сьцяною.

— Мяне запрашаюць?

— Нас абодвых.

— Як-жа яны даведаліся, што я тут.

— Я сказаў.

З кухні знаёмы голас дадаў:

— Ён мяне паінфармаваў.

Ваця ўсхваціўся, абцягнуў зашмальцаваныя свае галіфэ, неяк устрапянуўся ўвесь і сказаў:

— Чаму не пайсьці.

Макарчук згадзіўся:

— І я так думаю.

У кухні знаёмы голас абазваўся:

— Душу адвесьці.

Ваця кпліва пажартаваў:

— Хаця аджыць, хоць на адну ноч.

Той у кухні загаварыў:

— Гэта ты дарэмна. Аджыць? Ад чаго аджыць? Хадзем, бо там чакаюць. Макарчук!

Ваця гукнуў:

— Чаго ты стаіш там у кухні? хадзі сюды!

Той зьявіўся ў дзьвярах. Ваця прывітаўся з ім. Рука ў таго была гарачая, мяккая.

— Суджана нам ізноў спаткацца.

— Але-ж.

Ваця акінуў яго ўзрокам з ног да галавы, заўважыў, што той вельмі цесна надпяразаны, запытаў:

— Пішаш усё?

— Пішу.

Замкнулі кватэру і пайшлі. І там, у гурце незнаёмых, Ваця Браніславец заўважыў таго самага вайсковага, які ў вагоне тлумачыў яму пра лыжны спорт, калі ехаў Ваця ў свае лясы.

II

Так ён і пражыў на Цівунчыкавай кватэры тры дні. Там за сьцяною праседзелі да добрае раніцы і ня было цяпер ахвоты Вацю гэтак, як тагды, зьдзекавацца над гаспадаром гэтае вясёлае, а можа больш сумнае, чым весёлае, кватэры. Ваця маўчаў увесь час. Адно папытаўся ў вайсковага.

— Як вы трапілі сюды?

— Чаму?

— Вы знаёмы з імі?

— Едучы, у вагоне пазнаёміліся. Яны ехалі з Каўказу, здаецца, а я з водпуску. От і пазнаёміліся. А вы тут жывеце, ці як?

Ён не пазнаў Вацю, і Ваця ня прызнаўся яму, што быў ужо з ім знаёмы раз. Адыйшоўся ад яго і з боку глядзеў, як усе расказвалі вясёлыя гісторыі і рагаталі. Таксама шчыра рагатаў, падпіўшы трохі, і студэнт Макарчук.

А назаўтра ня ведаў, што рабіць, Ваця. Пасьля поўдня, вольны ад усіх справаў сваіх, сам ня ведаючы чаму, пайшоў шукаць Казімера. Знайшоў яго ў клініцы і больш паўгадзіны чакаў, накуль той вызваліцца ад работы. Ішлі з клінікі разам і Ваця, слухаючы Казімера, ніяк ня мог уведаць, ці гэта рад Казімер бачыць яго, ці толькі гэтакім далікатным хоча быць. Увайшлі яны ў вельмі вузкую і зялёную ад каштаноў і клёнаў вулічку.

— Ты ўжо тут жывеш?

— Тут, пераехаў.

Увайшлі ў сьветлую кватэру з двух пакояў. Больша пакой быў застаўлен сталамі з доктарскімі прыладамі, паліцамі з кнігамі. Нефарбаваная падлога была чыстая, засланая каля большага стала шэрым палатном.

— Тут сяджу і працую.

— Над чым працуеш?

— Над чалавечым сэрцам. Опэрацыі сэрца. Вельмі цікавая і страшная работа.

— Страшная?

— Я-ж, наагул кажучы, ня прывык, як сам ведаеш, рабіць і больш простыя опэрацыі...

— А што-ж у сэрцы страшнага?..

Казімер падсунуў яму крэсла. Холад гаворкі іх усё больш павялічваўся.

Нарэшце Ваця сказаў:

— Вясною бачыўся з Маняю.

— Дзе?

— У Дараганаве. Сама туды прыяжджала.

— Да Анці?

— Але.

— А ты чаго быў там?

— Я там жыву. У Анці й жыву якраз.

— У Анці?

— Лясы мераю.

Казімер нахмурыўся.

— А што-ж расказвала Маня?

— Хіба ты яе ня бачыў?

— Чаму?

— Што пытаеш?

— Бачыў.

Казімер востра паглядзеў на Вацю. Больш пра Маню яны не гаварылі. І Ваця адчуў, як вялікая варожасьць зноў расьце ў яго да Казімера. І яшчэ зьявілася ў яго нейкае горкае пачуцьцё, якое магло быць тады, калі-б Маня была ў нейкай змове з Казімерам супроць яго. І гэта страшна калола яго, бо, як здавалася яму, нават тая халоднасьць, з якою Маня была тагды разьвіталася з ім на станцыі, шмат абяцала яму. Гэта цяжка было выразна ахваціць разуменьнем, але гэта ляжала на дне істоты яго. З таго часу гэта прытупілася, уляглося, але ня згінула і вельмі часта, на моманты, выплывала наверх.

— А ты што цяпер робіш?

— Я-ж табе казаў—лясы мераю. Зараз паеду назад.

І падумаў: „чаго нам быць адзін з адным гэтак. Што нам дзяліць?"

Устаў, падыйшоў да стала і пачаў аглядаць Казімеравы кнігі і прылады.

— Будзеш абедаць у мяне?

— Не, я пайду зараз. Там мяне чакаюць якраз абедаць... ты ня зьбіраешся ехаць у свой бок, дадому?

— Я заяжджаў туды ў пачатку лета. Быў там трохі. Праехаў дзеля разрыўкі. Родных там цяпер нікого няма ў мяне...

— А Ватасон дзе цяпер?

— Даўно ня бачыў. Працуе недзе...

— Што ты, ня дружыш з ім?

— Холадна нейк усё між намі цяпер.

— Што вам дзяліць?

— Няма агульнага ў інтарэсах нашых. Разумееш?

— Так як у нас з табою?

Казімер паглядзеў на Вацю, закурыў і рашуча сказаў:

— Можа й так.

— Я цяпер лепш адчуў сябе ў цябе, калі шчырае слова пачуў.

Абодва ўсьміхнуліся. Абодва адчулі, як нешта няпрыемнае парвалася між імі і лепш стала ім.

— А можа, застанешся абедаць?

Ваця падумаў:

— Давай, будзем абедаць.

Ваця скінуў плашч. Казімер пайшоў, сказаў гаспадыні, каб давала абед.

— З Маняю часта бачышся?

— Яна табе не гаварыла, як бачыліся ў Дараганаве?

— Тое было вясною. Даўно.

— Я жыў у яе ў школе, калі падыходзіў канец водпуску. Пра цябе яна нічога не ўспамінала мне.

— Няма, значыцца, чаго ёй успамінаць пра мяне.

Толькі падумаў гэта і сказаў моцна, сам сабе. Казімер заўважыў яго смутак ад гэтага і некалькі хвілін ня зводзіў з яго вачэй. Перасядаючы ў другі пакой да стала, Ваця адчуў, як хочацца яму хутчэй выйсьці адгэтуль, перарваць усю гэтую фальш, якая сама зьяўлялася, усё вырастала, і ніяк ад яе нельга было пазбавіцца.

— Можа, гарэлкі вып'ем, гаспадыня можа прынесьці.

— Няхай прынясе.

Казімер на хвіліну выйшаў.

Вельмі добра і цёпла разьвітаўся Ваця з Казімерам праз паўгадзіны. І заўважыў, што Казімер увесь час думае нешта сваё. Што моцнае нешта і важнае, можа адзінае, для яго пануе над ім. Ён, разьвітваючыся, адчуваў, што зараз застаўшыся адзін, Казімер забудзе ўсё дзеля свае справы.

І Ваця сказаў на адыход:

— Садзіся, працуй.

Казімер ажывіўся:

— Я сяджу да позьняе ночы. А перад сном выходжу на вуліцу. Праходжу некалькі разоў уздоўж дому, часам абыйду некалькі вуліц...

Памаўчаўшы:

— Добра.

Ваця пайшоў, ведаючы, што адмяжоўваецца ён ад Казімера сваёю неспакойнаю дарогаю. Тады, калі ў Казімера усё спакойна і вырашана, дзеля таго, каб вырашаць тое, вырашэньне чаго стаіць перед ім, як мэта ўсяго жыцьця.

І застаўся Ваця да канца таго дню хадзіць па вуліцах.

І ўсё перадумваў:

— Казімерава дарога разыйшлася з маёю. Таксама і Ватасонава. Што было ў дзіцячыя гады, пасьля жыло, сагрэтае першым юнацтвам, халадзее, калі прыходзіць разважаньне жыцьцёвае сьпеласьці. І тыя хваляваньні апошняга часу былі мяжою на канцы юнацкай кіпучасьці.

Ён пайшоў начаваць сваю апошнюю ноч на Цівунчыкаву кватэру. І была там неспадзяванасьць: Цівунчык сядзеў за сталом і выскрабаў відэльцам з скаварады астаткі нейкага смажэньня. Твар яго быў утомлены, валасы на галаве, рэдкія і мяккія, растрапанасьцю сваёю закрывалі лысіну. Ён усхваціўся Вацю насустрач:

— Сядайце, сядайце...

— Як-жа гэта вы?

— Яблыкі прывезьлі прадаваць. Я, мусіць, пабуду тут з тыдзень, пакуль зноў не падвязуць. Тады з фурманкамі паеду назад.

— А я тут бяз вас прыстроіўся на кватэры. Заўтра паеду. Вы выбачайце.

— Што гэта вы, бог з вамі. От маладцы, што засталіся. Што хаты мае, як той казаў, ня мінаеце.

Недалёка было да зьмярканьня.

### III

Казімер выйшаў на ганак спаткаць Маню. Яна ўваходзіла ў дом яго весёлая, зьлёгку задумённая.

— Папраўілася ты як з таго часу, як быў я ў цябе.

Яна сьмяялася:

— Можа.

— Пажыві тут, што табе рабіць там аднэй.

— Толькі ўгавор.

— Які?

— Ці ня перашкоджу табе?

— Як гэта ты ўсё папярэджваць навучылася.

— Я застануся.

— Тыдняў тры таму Браніславец да мяне заходзіў, расказваў, што з табою ў Анці бачыўся. А ты нічога тады мне пра гэта не ўспамінала.

— Да мяне цяпер настаўнік назначаны новы—Макарчук. Прыяжджаў. Слаўны такі.

— Я ведаю яго. Я яму гэтаю вясною опэрацыю рабіў. Жыў у аднэй кватэры з Абрамам.

— А дзе Абрам цяпер?

— Кінуў сваё цырульніцтва.

— А што робіць?

— Над перабудоваю гораду галаву ломіць. Плян цэлага прыгараду абдумвае цяпер?

— Бачыш яго?

— Ня часта.

— У N ён быў адзіным прыяцелем мне.

— А мне тады, на хутары, калі абодва мы падрасьлі. Доўгі час, тады як маці яго памёрла. Асабліва тады. Душыць мяне нешта, калі ўспамінаю тыя часы.

— А цяпер як вы з Абрамам?

— Халодныя прыяцелі.

— Чаму?

— Нічога дрэннага між намі няма і ня можа, здаецца, быць.

— Вы-ж раней вельмі блізкімі былі.

— Былі.

— Дзіўна.

— Няма, разумееш, таго, што да глыбіні душы зьбліжае. У маленстве гора зьвяло было нас...

— А цяпер?

— А цяпер наша праца не дазваляе нам часта бачыцца, а яшчэ—выразна—гэта не агульная работа.

— Няўжо ты гэтакі сухі?

— Чаму?

— Ці вы абодва гэтакія сухі?

— Гэта што толькі праз агульнасьць інтарэсаў блізкімі можам быць?

— Але.

— Можа, я ня так сказаў... І сам я выразна сказаць не магу, але няма між намі тае ранейшае блізасьці. Ён-жа вельмі слаўны, добры, разумны. Мы нават і дружым, калі на тое пайшло, але нават часам і ня зусім шчырымі адзін перад адным можам быць. Гэта патроху заўважылася нейк.

— І мусіць да таго часу, калі што-небудзь не зьвядзе вас разам.

— Можа.

— Табе можа ня хочацца пра ўсё гэта гаварыць?

— З Вацем можа быць іншая справа.

— Як?

— З гэтым льга зусім быць блізкім, вельмі хутка здружыцца з ім, але-ж гэтаксама хутка і разыйсьціся, нават ворагам стаць... Я ведаю, ён прагнуў цябе ўбачыць, сам шукаў цябе. Нават, ведаю я, зьбіраўся да цябе ў N ехаць. Што-ж ён гаварыў табе, убачыўшыся?

— Я бачыла, што ён вельмі рад быў.

— І не гаварыў доўга?

— Ты ўгадаў. Ён быў неспакойны нейкі. Праводзіць мяне хацеў да мае станцыі, але мне, чамусьці, самой нядобра нейк перад ім было. Я папрасіла яго не праводзіць мяне зусім. І цяпер шкадую—мусіць я пакрыўдзіла яго гэтым. А гэтага я не хачу. Ён добры. Нават больш за гэта. Бадай што ён лепш тут за ўсіх. І за цябе нават. Усё-ж ты сухім стаў цяпер. Таксама як, мусіць, і Абрам. А можа ў вас гэта ідэя якая, ці мэта ў кожнага засланяе сабою ўсё іншае.

— Найлепш як Ваця, бяз ніякае мэты. Ён добры і слаўны, ты ацаніла яго, але слабы ён, як саломіна, як вялая цівіна.

— *Наадварот. Ён вельмі моцны. І ён ідзе па сваёй дарозе.*

— Няпэўна.

— Ідзе да свае пэўнасьці

— А мабыць, пакуль што без дарогі?

— Важна тое, што ён дамагаецца сэнсу ўсяго дзеля сябе, шукае.

— Шукае тое, што даўно знойдзена.

— Можа ня зусім?

— Больш за ўсё гэтак у яго.. Ён дамагаўся ўбачыць цябе, а раз убачыўшы, ні аб чым не пагаварыўшы, не сказаўшы таго, што, мусіць, меў сказаць, зьнік ад цябе і ўсё гэтым скончыў.

— А я думаю, што гэта далікатны ён. Думае, што зусім не хачу бачыць яго і не надазаляе. Я думаю, што гэта ў яго.

У пахмурны Казімераў твар глядзела Маня. Казімер маўчаў, вадзіў пальцамі па стале.

— Сухія, сухія вельмі вы ўсе. Жывое душы больш патрэбна чалавеку..

Маня гаварыла доўга, будзячы раптам у Казімера мінулыя даўно хутарскія дні.

IV

Восень падыходзіла ўпарта.

Інакш сьвяціла сонца над горадам. І ночы станавіліся звонкія і глыбокія.

Маня зьбіралася на ўсю зіму засесьці ў сваёй школе, разьлічваючы пасьля зімы некалі канчаць сваю асьвету. Яна дажывала свае апошнія дні ў горадзе. І цяпер сама хацела пабачыцца з Вацем. Каб дагаварыць тое, што тады не пачата нават было ў гаворцы. Яна лічыла гэта і сваім абавязкам і нават цікавасьць была да гэтае, новае гаворкі, а часамі нават дайходзіла гэта да мяжы з нечым большым.

Адзін раз вечарам яна вярнулася з Казімерам з Цівунчыкавых кварталаў—праводзілі Макарчука, які зусім сабраўся ўжо на тую станцыю. Маня зьбіралася ехаць неўзабаве.

Дома чакаў Абрам:

— У школу зноў?

— Зноў.

— Хіба ня можна тут застацца?

— Не хачу цяпер.

— Чаму?

— Я й там патрэбна.

– Тут таксама патрэба ёсьць. Тут-жа і працаваць лепш, у горадзе.

— Можа, там затым мне і лепш, што там цяжэй.

І Казімер і Абрам змаўчалі. Яна паглядзела на іх абодвых і мяккім матчыным голасам зноў як тады сказала:

— Душы жывое больш, родныя мае!

І правялі яны той вечар ціха і радасна. У той вечар як-бы тым далёкім хутарам павявала на іх.

А назаўтра, пад вечар, Казімер яе праводзіў на вагзал. Пасьля адыходу поезда ён моўчкі прайшоў з пэрону праз няпрытульную залю, праціснуўся на ганку скрозь натоўп і раптам заўважыў шчуплую постаць старога чалавека. Чалавек стаяў наводшыбе ад усіх і нешта думаў, разглядаючы брычкі і фурманоў уздоўж панурай драўлянай загарадзі.

Заўважыўшы Казімера, чалавек устрапянуўся, падазрона агледзеў яго і пайшоў насустрач. Казімер пазнаў старога Цівунчыка. Той ужо падаваў яму руку:

— А студэнт мой паехаў учора. Зусім, небарак, працаваць паехаў.

— Я праводзіў яго.

— Я, такі, пазнаў вас адразу. Гляджу сабе стоячы—аж гэта вы. Гэта-ж вы доктар? Што тагды прыйходзілі?

— Я.

— Я ведаю. Тагды гэта што да цырульніка зайходзілі. Вы з ім мусіць, дружыце?

— Дружу.

— Але, вы з ім дружыце. І, скажу я вам, гэта цяперашнім сьве там, можна сказаць, навіна. Цяпер—сёньня дружыць, а назаўтра пры губіць гатоў. Гэта, я вам скажу факт.

-- Чаму вы гэтакі недаверлівы да цяперашніх людзей?

— Ня то, што гэта я да людзей. У мяне дачка, дык—я не патра бую лішне ад яе, каб яна там памагала мне, але, каб хоць пісала час цей. Божа мой, божа. Я адзін на сьвеце заўстаўся... што ты зробіш. Напіша гады ў рады і больш нічога... Вы павінны ведаць лясьнічаг Браніслаўца. Ён з цырульнікам трохі дружыў.

— Ведаю.

— Гэта дык чалавек!

— Добры?

— Найлепшы. Ён мне ні сват, як той казаў, ні брат. Як каж прыказка, мы з ім дзяцей ня хрысьцілі. А—чужы-чужаніца—успомні мяне. Даўно ўжо было гэта. Я вам раскажу.

Ён доўга расказваў аб Вацінвм лісьце, радаваўся, тужыў. Казіме спакойна слухаў яго. Яны паволі ішлі змрочнаю вуліцаю. Цівунчы сьпяшаўся, каб пасьпець усё расказаць.

— ...таксама яшчэ гэты студэнт мой добры, што жыў у мяне.

— І я его люблю.

— А Браніславец, лясьнічы гэты, пераяжджае на зіму ў горад зноў мне ліст прыслаў—на кватэру просіцца. Я і рад, што гэтакі ча лавек. А то пусьці якога-небудзь, дык пасьля сам ня рад будзеш Я гэта пазаўчора вярнуўся дадому. Зусім вярнуўся. Ночы, сказаць, х лодныя пачынаюцца, дык на дварэ начаваць мне ўжо не гады. Мін лася тое, што бывала холад, ці ня холад, а я магу, дзе хочаш і я хочаш. Дык я вярнуўся дадому—бачу студэнт мой патроху ў дарог зьбіраецца і гаворыць мне—ліст, кажа, да вас прыйшоў. Хадзем, са прачытаеце яго лісты, калі хочаце.

— Яно-та можна, але я сьпяшаю вельмі.

— Ну, та няхай другім разам калі... Цырульнік гэты таксама некалі мы з ім гэтак-жа добра жылі, а гэта ўлетку нейк спаткаў быў я з ім, дык ён пагаварыў са мною адчэпнага і падаўся як ма хутчэй у свой бок, нават не разьвітаўшыся палюдзку... Заходзьце ка небудзь. А пасьля, я-ж кажу, лясьнічы гэты перабярэцца. Будзем п троху меркавацца. А можа зойдзем? Няўжо вы гэтак сьпяшаецце?

Казімер разьвітаўся з ім. Ветліва і далікатна.

Радзівон Цівунчык застаўся глядзець, як Казімер пайшоў шпа чэй. Сказаў сам сабе:

— Што-ж тут рабіць? Куды-небудзь хіба падацца трэба. А то спаць пайсьці легчы, ці што.

Павярнуўся і зьнік недзе сярод растрэпаных ночаю будынкаў. Адно кашлянуў, суха і дробна, з свайго двара. Пасьля загаварыў, узыходзячы на ганак:

— Развальваецца усё, раскідаецца. Што ты зробіш. Мне правіць? Здароўе не дазваляе, не гады мне. А нехта-ж потым застанецца гаспадаром пасьля мяне. Нехта застанецца. Божа-ж мой, божа—пажыву я яшчэ, ці не? Хто ведае. Ніхто нічога ня можа ведаць.

Пастаяўшы на ганку:

— Калі ён застанецца гаспадаром, дык раней усяго яму трэба будзе браму новую паставіць. Бо з такою брамаю—гэта сьмех адзін. Гэта ня брама, а сьлёзы. Але, але, гэта сьлёзы... Ганак таксама прыдзецца яму паправіць. Дошкі гэтыя яшчэ, можа, і трымаліся-б, дык падвалінкі згнілі. А раз падваліна згніла, дык дошка табе трымацца ня будзе. На чым-жа яна будзе трымацца? Пасьля, мусіць, яму давядзецца яшчэ ўвесь дом перакрыць...

Казімер ішоў шпарка, раздумваючы аб сваіх упартых практыкаваньнях

*Канец будзе.*

# Калі асядае муць [1])

XIV

А дні бягуць... Халодная адвечнасьць
Прымае ўсё, што можа дагарэць...
Мо' ад таго на сэрцы супярэчнасьць,
І на душы нявыказаны грэх...

Каму грашыў?!.. Скажэце, калі ласка!..
Ну, як згадаць?!.. А можа, і грашыў...
... Роман жыцьця... Сюжэтная разьвязка..
... І таямніцы нейчае душы.

Ну што за ліст?!.. Ніяк не разумею,
Адкуль і як?!... І кім прынесен ён?!..
Такія звыш дзівацкія падзеі
Не зразумее нават Саламон.

Часы бягуць, бягуць сваім парадкам,
Скрыжалі дзей расказваюць бяз слоў...
Прыкметны дзень таемнае разгадкі
Так няпрыкметна, здэцца, надыйшоў.

І на душы нібыта хваляваньне,
Нібыта хтосьці сэрца надарваў...
Пасьля шматдзённай далі разьвітаньня
Сягоньні я і Яську напаткаў.

Яго сустрэў я сёньня і зьдзівіўся,
І быў здаволен вельмі, што сустрэў...
О, Яська, Яська—ён перамяніўся,
І не на жарт, здаецца, пастарэў.

Зламана ўсё... Захована ў тумане,
І першы хмель, і першая любоў...
Прапіта радасьць палкіх парываньняў
І хараство далёкіх васількоў.

Губляць жыцьцё і мілую за квартай—
Прасьцейшы шлях да раньняе труны...
Трагічна стаць бяздомным кватэрантам
Пустэльных вуліц, трэкаў і карчмы.

О, Яська, Яська, так-жа бяспрытульным
Начную ціш на плітах шліфаваў...
Чытаў жыцьцё на камяніцах вуліц
І алькоголем сьлёзы запіваў...

Але паўстаў з пустэльні заміраньня
Прыняць усьмешкі мудрае зямлі...
На аўтары разьбітага каханьня
Агаркі сьвеч узноўку запаліць...

---

[1]) Гл. „Узвышша“, № 2 (8), за 1928 г.

## XV

— Я перажыў,—расказывае Яська,
Узьлёт душы, абвал і міражы,
Я сонца бачыў блізка так і ясна,
І тройчы быў расьпяты на крыжы.

Дзе ня бывае спрэчак і праклёнаў,
Там пустата, і заміраньне там...
Я на труне жыцьцёвыя законы,
Загадку дзей і мудрасьць прачытаў.

Я ня шукаў вядомасьці ні славы,
Я хлеба лусту чорствую шукаў...
А начаваў на трэках і канавах,
І на панэлі нават начаваў.

Пасьля шматдзённай скаргі і блуканьняў
Вярнуўся я да працы і жыцьця...
Людзкое сэрца жорсткае, што камень,
На ім заўжды халодная пячаць.

Ды што казаць пра гэта? Мабыць годзе,
Так заўсягды бывае... так... але...
Мяне сустрэлі жорстка на заводзе,
Інтэлігэнтам клікалі мяне.

Але пасьля найлепшым чалавекам
Зрабіўся я на працягу часоў...
Там сапраўды ня купленая веліч,
Дзе на абліччы праца і любоў.

Чые ад працы жорсткія далоні,
Той разгадае мудрую зямлю...
Я ўсім на сьвеце здэцца задаволен,
А вось фальшывых рухаў ня люблю.

А паглядзіш, пад кожную жалейку
Тут нехта тройчы Лазара пяе,
І нават „Юрку“ скача за капейку,
І за пятак ідэі прадае.

— Пакінь ты Яська... Годзе баламуціць,
З пустое бочкі квас пераліваць...
Нікога, брат, як бачна, ня прымусіш
Па прадпісаньню „Лазара“ сьпяваць.

Скажы вось лепш ты што нібудзь пра Ніну...
О, Ніна, Ніна:—дальняя вясна...
У душы так многа сьветлых успамінаў...
О, дзе яна?!.. Скажэце, дзе яна?!..

## XVI

А вечар плыў... У вокны сутарэньняў
Зьвісалі цені карай галавой...
Я расказаў калегу пра здарэньне,
Я расказаў пра ліст і неспакой...

... Дарога... Сум... і замізралі бомы...
Між пералесіц слалася раса...
Я гаварыў... а ў сэрцы несьвядома
За Нінін лёс трывога ўсё расла.

Крычалі совы... Рэха замірала...
Даўжэй ад мілі кожная вярста...
О, сапраўды ня маняць адчуваньні...
Што-сь абарвалася... І ў серцы пустата...

І ў сэрцы дрож... І памутнела неба...
У ачох кругі... Крывавыя кругі...
Ня трэба слоў... Ня трэба ўжо, ня трэба...
Ня трэба ёй ні Тодар, ні другі...

І толькі сосны голаў нахілілі,
За упакой маліліся цішы...

. . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер, чытач, над нейчаю магілай,
Разьвяжам тайны нейчае душы.

XVII

У памятны вечар ля N-скай алеі,
Калі з рэсторану ішлі мы з Андрэем,
Яго адвяла няпрыкметна жанчына,
О, то была Ніна, любімая Ніна.
У памятны вечар яна расказала,
Што ўсіх адраклася, усіх раскахала,
Што даўнія мары сплылі нібы вецер,—
І толькі Андрэй даражэйшы у сьвеце.
Надзеі на шчасьце ніхто не сагрэе,
Апроч аднаго дарагога Андрэя.

Пакінем Андрэя, пакінем дзяўчыну,
Давайце заглянем ў карчму на хвіліну,
Дзе ў той час за шклянкай балюча і гостра
Адпетыя людзі узносілі тосты.

XVIII

Пі, цыганка,
Мілая цыганка!

Гэй, буфэтчык, дайце „кюрасо"!..
Прамяняў любімую на шклянку...
Дапівай, цыганка „крэм д'оранж"!..

Шчасьце сон!..

Дапівай, бяздомная каханка,
Мо' гуляем прадапошні раз...

За цыганку,
Сьцёпка, за цыганку

Дапіваем „крэм д'оранж"...
За жыцьцё, за палкія гарэзы,
Каб ярчэй пад сонцам дагарэць...
... А учора чатырох зарэзаў...

Грэх!...

— Не зважай, любімы, чарнавокі,
Хай рыхтуюць молайцу пятлю...
Ходзім мы пад месяцам высокім,
А яшчэ пад Д. П. У.

— Так, цыганка,
шкадаваць аб некім,
Так!..
За пятак зарэзаў чалавека,
За пятак...

Пазаўчора маці каля будкі
З залатым Ісусам на грудзёх
Адвяла сястру у прастытуткі...
... жыцьце!..

Падымайце куфлі за гарэзы
І за новы труп...
Сёньня маці родную зарэжу
І сястру...

Будзе менш пад месяцам халодным
Жабракоў...
У мяне ні блізкіх, а ні родных,
Ні бацькоў...

Пі цыганка,
мілая цыганка!

Налівайце „Северны лікёр"!..
Войстры нож і трэснутая шклянка—
Наш партнёр.—

Гэта цені вулічнага шчасьця
І турэмных крат.
Кожны горка плакаў і сьмяяўся,
Гледзячы назад.

У душы у кожнага пацёмкі,
Нож і крыж...
Гэта ўсё далёкага абломкі,—
Дальні крык.

Гэта цені драмы і раманаў
Даўных дзён.
Сам господзь і Мікалай Раманаў
Іх партнёр.

Дайце кінем п'яныя падзеі,—
Крык і плач.
Пашукаем Ніну і Адрэя,
Мой чытач.

## XIX

— Андрэй, скажы, бяз жаднае прычыны
Апрыкраў сьвет, апрыкрала зямля...
Штодня ідзеш да нейкае канчыны,
Каб дагарэць малітвай „Шамяля".

Якая проза... Крыўдна мне і горна...
Няма каго і словам памянуць...
Мне падабаўся колечы Кляшторны,
Калісьці Яська сэрца закрануў.

Але хіба-ж на сьвеце гэта нова—
Спаткаць... Зьвязаць... і разьвязаць пуці...
На нейкі час сышліся выпадкова,
Каб выпадкова далей адысьці.

Я ня люблю сягоньнешніх поэтаў,
А з даўных толькі Надсана люблю...
Я праклінаю гэтую плянэту,
Я праклінаю жорсткую зямлю.

Ды ты, Андрэй, мяне не зразумееш...
Бяз году дзень як ты інтэлігэнт..
Ты на руінах даўнага ня млееш,
І не ляціш ў стыхію, як поэт...

Вы ідзяце назад, да атавізму,
А мо' наперад, за рубеж вякоў...
У вас няма ў натуры романтызму,
У вас свае імкненьні і любоў.

— Ня веру, Ніна, гэта анэкдоты..
Ды гэта-ж, проста кажучы кошмар...
Прынамсі ты архіўная істота,
І вельмі-вельмі рэдкі экзэмпляр.

У нашы дні ня гэтак развжаюць,
Нам даражэй ня хмары, а зямля...
Таму ля ног любімых ня рыдаем.
І не гарым малітвай „Шамяля".

Ня вабяць нас трухлявыя палацы,—
Мы ня шукаем выспу забыцьця...
Хто пакахаў зямлю сваю і працу—
Не застанецца пасынкам жыцьця.

— Андрэй, Андрэй, пакінем пра старое,—
Пакінем, дружа, годзе развжаць...
Мне-ж расказаць хацелася другое,
І то ня ведаю...ну, як табе сказаць...

Хоць у жыцьці так мала дарагога,
Часамі ў даль ня хочацца ісьці,
Але ня ўсе загублены дарогі,
І нешта сэрца грэе у жыцьці...

Я не кахаю Тодара, ні Яську,
І толькі ты, і толькі ты, Андрэй,
Як ля вакна расквечаныя астры,
Ад усяго на сьвеце даражэй...

XX

У памятны вечар на N-скай алеі.
Так доўга, так доўга яны прасядзелі.
А бэзавы вечар, асмучаны вечар
Таемнаю ласкай ахутаваў плечы.
Ад хмелю вясны зачыняліся вочы...
Ну, хто не растане ў абоймах жаночых?!.
Рыдалі ўначы салаўіныя гусьлі,
І вусны шукалі гарачыя вусны.
Гадзіны ішлі... пачало разьвідняцца...
Пара ўжо, даўно ім пара разьвітацца.
А дзесьці далёка гітары рыдалі...
„Адпетыя“ людзі карчму пакідалі...

XXI

— Сьцёпка!.. Эй!.. Бяры цыганку!..
Я прыду...
Мо‘ знайду яшчэ каханку,
Мо‘ знайду.—

Калі іх праходзіць Ніна...
— Выбачай!..
Гэй, пастой, пастой, дзяўчына,
Пачакай!..

Пачакай, мая вэнэра,
Не ўцякай!..
Ах ты сьцерва, ах халера,
Пачакай!..

Пачакай, а то застрэлю,
Будзе швах...—
Дзіка блудзіць па алеі
Чорны жах...

А ў карчме рыдаў гармонік
„Шамяля“.
Ніна плача, Ніна моліць...
...Эх, зямля!..

XXII

Лятункі пішуць бэзавы малюнак
І не на фоне бэзавай вясны...
Юнацтва—ром... А першы пацалунак—
Агонь сьвячы над кветамі труны..

Хто першы раз над вуснамі любімай
Агнём душу і сэрца апаліў,
Той першы крок да дальняе магілы
Ужо зрабіў...

Лятункі—дым,—і соладкі вядома,
Як многа сіл ляціць ў гэты дым...
І не сьвядома, заўжды не сьвядома
Для будучых людзей гарым.

Такі закон, як бачна на плянэце,
Каб дагараць ствараючы другіх,—
Каб на жыцьцёвым кораткім банкеце
За тостам тост узьняць за маладых.

Цяпер вясна... і кожная істота
У дурнап'яне месячных начэй
Кудысь рабіла палкія узьлёты,
Каб дагарэць ярчэй.

Цяпер Андрэй да сіняга сьвітаньня
Ужо з другой пад ліпамі сядзіць...
Ты дурнавата, Ніна, як каханьне,
І, як архіў, закінута людзьмі.

Ты прысягала, плакала клялася,
А паглядзі, дзе зараз твой Андрэй...
. . . . . . . . . . . . . . .
Такая ноч!... І дзесьці салавей
Да болю плакаў, плакаў і сьмяяўся.

---

Усё замірала да званьня
Пад шолахі першай зары.
Натхненную слодыч каханьня
Там хтосьці камусьці дарыў.

*Першы голас:*

Ня трэба для сэрца прысягі,
Прысяга ня тайна крыжоў.
Цалуй-жа мяне без развагі,
Цалуй без развагі і слоў.

*Другі голас:*

Даволі!.. Ты хлусіш!.. Даволі!..
Мужчыны умеюць хлусіць..
Таму і цалуюць да болю,
Што вечна ня ўмеюць любіць.

*Першы голас:*

Жыцьцё не марознае раньне,
Узьлёты душы ня зіма...
Таму і ня вечна каханьне,
І вечных узьлётаў няма.

*Другі голас:*

Няпраўда!..
Праз шумнае мора
Праносім мы іскры ідэй.
Дзе гаснуць асеньнія зоры,
Там гасьне каханьне людзей.

*Першы голас:*

Таму і ня трэба прысягі,
Прысяга ня тайна крыжоў...
Цалуй-жа мяне без развагі,
Цалуй без развагі і слоў.

*Другі голас:*

Цішэй!... Супакойся!.. Пачуюць...
... Аб гэтым мяне не малі!..
Андрэй!...
Без развагі цалуюць
Адпетыя людзі зямлі.

---

А месяц плыў пад каменным сусьветам
Лічыць заранкі дымнае зары.
Адна камэта сёньня ня прыгрэта,
Яна згарыць.
Яна згарыць у ночку сінявую...
О, п'яны май!..
І ты, Андрэй, цалуючы другую,
Ня скажаш тэй камэце: *„пачакай!“*

XXIII

Наляцелі з поўначы
Ветры непакорныя,
Надламалі буйныя
Белую бярозку.
А яна-ж пад месяцам
Мала красавалася,
Казкі шумналістыя
Ёй не пераказаны,
Песьні падарожныя
Ёй не пераслуханы.
А зялёным вечарам
У дурнап'яне бэзавым
Так гітара нейчая
Квола надламалася.
А яна-ж пад месяцам
Песьні разьвітальныя,
Парываньні нейчыя
Не перасьпявала.
Тым-жа самым вечарам,
Тым-жа самым вечарам
Злыя людзі дзеўчыне
Жыцьце пакалечылі.
А наступнай раніцай
У садох расквечаных
Кукавала-плакала
Шэрая зязюля.
Для адных прарочыла
Маладосьць кіпучую,
Для другіх трагічную
Песьню лебядзіную.

З гэтай самай раніцы
У сады вішнёвыя
Ніна ня выходзіла,
Бо ня ёй прарочыла
Маладосьць кіпучую
Шэрая зязюля.
А наступным вечарам
Ніна піша плачучы
Ліст не адрасаваны.

## XXIV

### *Ліст*

Даруй, жыцьцё!.. Даруйце, дарагія,
Апрыкраў сьвет, апрыкрала зямля.
Няхай жывуць, красуюцца жывыя,
Я-ж дагару малітвай „Шамяля“.

Прайшла вясна... І адзьвінела восень...
О, шчасьце, шчасьце,—толькі міражы...
І мне кахаць на сьвеце давялося,
Людзкую злосьць прышлося пеshould пражыць.

І не кляну нікога над магілай,
І не заву нікога дарагім...
Няхай, хто называўся мілым,
Цалуе вусны палкія другім.

Я чалавек прыгожых парываньняў,
Мая душа ў разбураным старым,
І для мяне на сёньнешнім экране
Застаўся дым.

Даруй зямля і сонечныя далі,
Апошні раз пад месяцам пішу...
Усё дарагое людзі адабралі,
І цела збэсьцілі і збэсьцілі душу.

Ня хочу я, каб кожная кухарка
Сьмяялася над дальнім дарагім...
Каму патрэбна выпітая чарка?..
Прывет жывым!..

Я не кляну нікога над магілай,
Даруйце, людзі, сонца і зямля...
Забудзьцеся, прашу,
Ня ўспамінайце Ніну.

Да вас з пашанай Н. С-кая.

### *Ліст другі*

*Мой паважны Тодар!*

Пазаўчора
К табе прынесла я дзівацкі ліст.
Ты прачытаў...
Мне сорам, дружа, сорам,
Што крыўдзіла цябе калісь.

*Хоць не аб тым я чорным ды па белым*
Астатні раз пад месяцам пішу..
Цябе я толькі зараз зразумела,
Я зразумела мудрую душу.

Але дармо,—я чалавек аджыты,
Маё мінулае далёка па-за мной...
Калі бакалы п'яныя дапіты—
Не наліваць вадой.

Жыцьцё па свойму ў далечы бруіцца,
Жыцьцёвых дзей нікому ня стрымаць...
Аджытым нельга зноўку нарадзіцца,
А блудным цяжка паўставаць.

Не зразумець аджытаму маэстру
Жывога сэрца сёньнешні ўзьлёт..
Я уміраю такжа без пратэсту,
Як адмірае леташні чарот.

І так, на век расходзяцца дарогі...
Ты гэты ліст у вершах скарыстай
Найвыразьнейшым сымбалем старога...
...Бывай!..
Н. С—кая.

XXV

Маўчала ноч,
Маўчалі далі,
А ў цішыні,
А ў цышіні
Жывыя рукі заміралі
Пры дагараючым агні.

І толькі зоры,
Толькі месяц
Ахвяру захаду нясьлі
Па-за кулісы пералесіц
Акамянелае зямлі.

Маўчала ноч,
Маўчалі далі.
І недзе там,
І недзе там
Андрэй у бэзавым тумане
Другія вусны цалаваў.

*(Канец)*

**Максім Гарэцкі**

# Мэлянхолія

Подъ тымъ-же часомъ... человек мудрый и великого захованя у людей... ово не ведетъ зъ чого впал въ мэланхолию, о всем собе зле тушачи, же мыслил о учинене якой смерти собе.

*Т. Еўлашэўскі*

III[1])

Сам ён прыехаў, а багаж яго яшчэ ня прышоў. „Мусіць, на перасядцы забавіўся“,—сказалі яму зусім нядбайна ў багажнай каморы.

Што-ж, трэба чакаць, пакуль прыдзе другі цягнік з таго боку. Гэта шмат часу, дык затое можна, хоць і ў нудзе пахадзіць па станцыі, паглядзець, падумаць і супакоіць занадта руплівыя нэрвы... ну або яшчэ болей ускалатнуць іх.

---

Станцыя, як і ўся чыгунка, выглядае ў нашым краі кавалкам нейкага чужога краю, толькі троху-троху зьвязанага з намі праз службу ці работу ў яго панстве нашых простых людзей: счэпнікаў, стрэлашнікаў, нашэльнікаў або хоць падзёньнікаў і падзёньніц, што ходзяць правіць палатно дорогі.

Станцыя ў нашым краі—маленькае вакенца з нейкага другога, сьвятлейшага і багацейшага жыцьця.

І на станцыю, як на вакно мухі, паўзьлі сяляне, калі ім дужа дакучалі свае ўбогія хаты, а працы пільнае ня было.

Яны ішлі падзівіцца на вагоны міжнароднага таварыства, збудаваныя водле апошніх дасягненьняў тэхнікі. Яны ішлі паглядзець на шчасьлівых людзей, што ўсё некуды едуць і заўсёды маюць грошы на білет і на смашную яду і выпіўку ў буфэце.

А стоячы і пазіраючы, як жабракі ў парозе, гаманілі яны аб гэтым панскім і машынным сьвеце то з паўмысным, няшчырым захапленьнем, то з бяспрычыннаю, здаецца, і вельмі злою лаянкаю.

І калі ўжо цягнік раўкне, пойдзе і схаваецца далёка, любілі яны часам, у форме прыгожага слоўнага адступленьня, пазьдзеквацца з убогасьці свайго роднага сьвету. А потым, калі было сьвята і было за што, любілі яны выпіць, каб весялей было цягнуцца назад туды, дзе тэхніка і ўсё жыцьцё ня варта ані пса...

Станцыйка тая—маленькая, нячыстая і п‘яная станцыйка. Калі гасьцей шмат, абдасьць яна вас цяжкім духам, мужыцкім гамам і прастуднаю proймаю ад няшчыльных дзьвярэй.

У куце ў ёй—вялікі і бліскучы, як у царкве, абраз, і кожную суботу ўвечары прыяжджаў сюды поп з бліжэйшага сяла, правіў набажэнства, гарэлі бедныя жоўтыя і мажнейшыя белыя сьвечкі, а ў

---

[1]) Першыя і апошнія часткі гэтага апавяданьня, пад асобнымі назвамі, друкаваліся даўней у розных беларускіх газэтах. Апрача таго, гл. апав. „У чым яго крыўда?“ (Белар. дзярж. выдавецтва, Менск, 1926 г.)

нядзелю на лавах і ля лаў і проста на падлозе валяліся п'яныя людзі, мужчыны, а часам і жанчыны, у брудных і калматых вопратках. І было там у той час таму, хто ня выпіўшы, дужа цяжка і паскудна.

Ля буфэту людзі ў чорным пілі піва і закусвалі з талерачкі і з відэльцам. Зрэдку падходзілі туды і мужыкі. Зрэдку—бо тут дарага, лепей напіцца з манапольті, дзе-небудзь за ражком глухога будынку, а сюды прыйсьці і глядзець. І калі яны пілі ў буфэце колькі чарак гарэлкі, дык нічым не заядалі. Тады стаяў хрыпаты і сіпаты гоман, п'яны тлум. Круцілася буфэтніца і, прыкідаючыся, бедавала перад людзьмі, што ў чорным, што ніякім чынам ня можа йна ўпільнаваць, каб мужыкі чаго з-пад рук ня ўкралі. Але кралі ў яе вельмі рэдка і невядома якія людзі.

Так заўсёды і жыла тут сумная затуканасьць і крыклівая пустота, а за імі сьледам ішло троху схаванае, але няўхільнае псаваньне нэрваў.

---

Было ўжо пасьля паўдня, калі прышоў другі цягнік, і яму выдалі багаж—невялікі кошык, ня ўзяты з сабою ў вагон толькі дзеля ідэалістычнага пагляду на справы і малога веданьня розных магчымасьцяй у дарозе.

У залі 1-ае і II-е клясы было ўжо пуста. Паглядзеўшыся ў пыльнае люстра на сьцяне, Лявон з нялюбасьцю адхінуўся, пастаяў і пашоў на ганак наймаць падводу. Там ля плоту было ці мальска нейкіх коні. Хадзілі і ўсякія людзі. Хурманы хціва пазіралі на скрыпушчыя надворныя дзьверы і грудам падступалі да ўсякага, хто выходзячы выглядаў пасажырам, падступалі і лезьлі з пугамі ў руках, у даўгіх шабадраных польтах-халатонах, што былі ім добрыя ад сонца і ад ветру, ад пылу і ад дажджу, і ў некаторых халатоны гэтыя былі яшчэ падпяразаны паясамі быццам трапкамі. Яны падступалі, і штурхаліся, і сварыліся, і крычэлі:

— Паніц, паніц! Кудой вам сьледуіт?

— Ну сто, паедзем, паніцок?

— Хур, хур! На Целяпенічы? Ну едзем, ну!

— Я магу падвезьці вас схадней, калі недалёка,—набіваўся нейкі ні вясковы, ні местачковы дзядзька, такісь ціпленькі і рахманы з выгляду, але з дзесяткам мужыцкіх д'яблаў пад гэтаю сумыснаю рахманасьцю. І Лявон ужо ведаў, што заўсёды прыямней ехаць з балаголам, чымся з мужыком, які адарваўся ад зямлі і гаспадаркі, ня пpыстаў у месьце да фабрыкі і зрабіўся прамысловым д'яблам на беднай станцыі.

Ён умовіўся з стараватым і маўклівым балаголам-яўрэем, падобным з усяго аблічча да селяніна-земляроба і балазе нарэшце-ткі паехаў.

Калі хурманка павязла яго, загрымеўшы ад вагзалу па каменьню гнёт нудоты, аднак-жа, так і цiснуў яму сэрца.

Але вось пачуў, што йграюць на гармоніку... І пяюць. Гэта-ж было як раз нейкае сьвята і перад нядзеляю, два дні сьвят, і самы час, калі працоўная моладзь, са станцыі і блізкая да станцыі гуляе, тут па вуліцах, лузгае семячкі і заляцаецца. І яму ад таго іграньня і ад тых гуляў раптам і дужа-дужа захацелася павесялець, забыцца на маркоту, пайсьці па вуліцы, абняўшыся з дзяўчатамі, і гаманіць з імі пра абы-што, ведаючы, што ўсё будзе добра, што не агудзяць і не зганяць, а разгарнуць сваё сэрца простаю сяброўскаю ласкаю. А што-ж на сьвеце можа быць лепей за сяброўскую дзявочую ласку? Каханьне вымагае

мукі і няволі і выпіваецца, як чарка хмелю,—сяброўства з дзяўчынаю дае радасьць і прыемны супакой. Ды што-ж горка падумаў ён, калі мы, адарваныя ад родных гоняў панскаю культураю, можам толькі ў думках расчульвацца ад гармоніка і прыпевак, ад жаданьня пайсьці па вуліцы абняўшыся, і ў пыльных ботах і ў белым жупане, і пяяць, як там, як вось яны... Дык што-ж, калі тая культурнасьць у ім не дазволіла яму навет пажартаваць з дзяўчаткамі, едучы міма, калі яны глядзелі на яго і пасьмяхаліся. Ён толькі скоса зірнуў на іх і праехаў міма моўчкі, як пан. А недалёчка, хлопцы-гульцы, вясёла пяялі пад гармонікавае рыпаньне:

Колькі богу ні маліўся,
А ў сьвятыя не папаў.—
Колькі з мілай ні вадзіўся,
А ні раз не цалаваў...

І песьня іхная абудзіла ў ім абраз яго адносін да любае дзяўчыны. —„Так ні раз не цалаваў",—у злосьці на яе і на самога сябе падумаў ён, калі песьня так проста назвала ўсе рэчы.

І яшчэ болей захацелася яму хутчэй выбрацца з цеснае вуліцы на вольную прастору, хутчэй агарнуцца тым, што ёсьць у полі: сумным супакоем, ціхамірнасьцю і сьвежасьцю.

## IV

Аднак-жа, потым, Лявона вельмі змучыла гэтая даўгая і нарэшце нудная дарога канём, на мулкіх і дрогкіх балагольскіх калёсах—і ў дакучлівай цямноце з вечара да познае ночы, і на сьцюдзёна-росным золку раніцы, і пад пылам і ветрам у дзень.

Пасьля невялікага соннага прыпынку ў брудным местачковым заезьдзе, на цьвёрдай клапінай канапцы, балела галава.

І калі-ткі пад позны полудзень, на другі дзень, узьехалі ўжо на цёмналескае поле, быў Лявон трывожна рады, што бачыць усё сваё роднае, і ўжо не шавяліўся, чакаючы, што зараз адпачнуць яго пабітыя і змуленыя косьці.

Выехаўшы з лесу, вёскі яшчэ ня відаць, бо яна стаіць у доле, з абодвух бакоў канавы. Тырчаць толькі стрэшкі, з двумі-тромі камінамі, і купкі дрэў. Толькі ўзьехаўшы на бліжэйшы ад хатак курганок можна ўбачыць перад сабою хмурыя і ціхія гумны, абгарэлыя лазьні і паснулыя хаты.

„Пад родным небам.. Прымеце мяне, сьценкі любыя, свайго валачобніка няўдалага!"

Сэрца заныла ад убоства роднага месца і ад чаканьня сустрэчы з роднымі.

Але каб узьехаць на вуліцу, трэба было прашчаміцца між плоту і Юркавага саду, вузенечкім закавулкам-каўдобінаю, дзе было вечна мокра ад вузкасьці і засені, і цяпер стаялі брудныя лужы ў глыбокіх калюгах, не пасьпеўшы высахнуць пасьля дажджу, што няма ўжо ведама калі быў.

Колькі гора было тут малым паваждаём, на талацэ, як вазілі гной. Ніяк няможна было разьмінуцца двум вазом, няможна было і завярнуцца, не зачапіўшыся за рагавую шулу ці за кол у плоце, не парваўшы атос і не заплакаўшы горка, каб большыя беглі ратаваць.

Эх, закавулачак, які быў у гады маленства, такім і застаўся, калі, ён, Лявон, вырас і пазнаў іншыя дарогі, і застанецца такім самым, мусіць, яшчэ на многія-многія, такія шпаркія ў сваім лёце, гады... Ат, няхай!

Соцна і пуста было на вуліцы, ня гледзячы на сьвята. Ні жывое душы ня сустрэлася ля чужых хат.

Вось і родны двор!

---

Балагол спыніў каня і азірнуўся на свайго пасажыра. Лявон, зморaны, з замлелым целам, рухава, аднак, выскачыў з калёс, увесь у пыле, і пабег адчыняць вароты. Не пасьпеў ён узяцца за клямку ў фортцы, як яму пад ногі, з радасным гаркатаньнем і салодкім прыгібаньнем да зямлі, кінуўся зьнедкуль Буян, нюхнуў яго, скокнуў вышэй, на грудзі, вясёла гаўкнуў і закруціўся.

Прыемна, што пазнаў сабака. Але чаму-ж нікога няма?

Адкінуў завал, адчыніў вароты, махнуў балаголу, каб узьяжджаў на падворак. Балагол занэкаў, зацмокаў, і конь рушыў, упіраючыся нагамі ў салому на дворы, бо цяжка везьці. Тады Лявон неяк мімаволі азірнуўся і ўбачыў, што з саду ішла маці.

Ён пайшоў ёй насустрэчу.

— А Лявонічка мой!..

— Добры дзень, мама!

Ён прыпаў да яе рукі, а яна саромілася, што рукі закарэлыя ад працы, і адбірала іх. На ўсю сілу, асьмеленая, пацалавала свайго Лявонічку ў адну шчаку і ў другую... Тады няма ведама чаго, мусіць, ад радасьці, заплакала, ды шчупянуўшыся, што ён таго ня любіць, хуценька абцёрла вочы крайчыкам хвартука.

— А дзе-ж усе нашы?

— Усе, усе зараз зьбяруцца, мой сынок! Пойдзем у хату... Я забяру, я!—кінулася яна наперабой сыну да хурманкі, каб узяць яго рэчы.

Завёўшы сына ў хату, яна ня ведала, што рабіць, і зараз выбегла назад на двор і схапілася пасабляць хурману прыбіраць хурманку. Разам з ім пакаціла яе пад павець: балагол цягнуў за аглоблі, а яна адзаду падпіхала.

Лявон бачыў яе ў вакно, і на вачох сваіх пачуў сьлёзы. Зморшчыны, глыбокія, старыя, што толькі вось цёпла прыціскаліся да яго сьцюдзенаватых шчок, зрабіліся раптам балюча любымі і дарагімі.

*„І колькі-колькі гэтых зморшчын у нашым нешчасьлівым краі“*, —мільганула думка і паглыбіла яго боль.

У сенцах затупалі маладыя ногі, дзьверы шыбка і дрыжача адчыніліся—і паказалася белавалосае, радаснае і быццам трошку нясьмелае Лаўрынькава аблічча.

Сярод агульнага старога ўбоства, дарагі браток здаўся большым, як раней, і сьвятлейшым за ўсё. Чынна падыйшоў ён да Лявона і з дзяцінай яшчэ простасьцю пацалаваўся з ім.

Потым ізноў прышла матка.

— Нашто гэтак хату запусьцілі?—спытаўся ў яе Лявон, азіраючыся па хаце і супроць волі спыніўшы погляд на гальні, што валяўся кінуты мёўшы і не дамёўшы.

— Як запусьцілі?—не зразумела яна спачатку, а тады паправілася:—усё за работаю, некалі... Хваліць бога, што ты прыехаў, Лявонічка, цяпер ужо пачысьцім.

— Не канешне дзеля мяне; наагул добра, як хата чыстая, а не запушчаная,—сказаў ён і змоўк.

Сказаў мякка, без абурэньня, зусім ня так, як у бывалыя свае прыезды, калі казаў казаньні, не пасьпеўшы пераступіць парогу: „Нашто хату запусьцілі? Гэта-ж яна згніе без пары. А вапроў трэба карміць на дварэ ці ў сьвінарцы, а ня ў хаце. Курыца на лаве напаскудзіла і міску пабіла,—навошта пушчаеце курэй у хату? чаму балонку ня ўставілі? Ці-ж гэта хораша выглядае, калі вакно заткнута нейкімі анучамі?...“

Цяпер вось гэтак не сказаў-бы: ня мае ўжо сьмеласьці дый ня бачыць патрэбы... Дык абдумаўся і весялейшым голасам, пасьля першых, троху даўгаватых і дзеля таго ніякавых моўчак, запытаўся:

— Ну як-жа вы ўсе тут... жывы-здаровы? Чаму нічога ня кажаце?

— Усё, усё, сыночак мой, скажам. Во дай троху справімся... Ага цётка-ж Марына памёрла...—раптам дадала яна.

Цётка Марына была замужам у далёкай ад іх вёсцы, і Лявон дужа любіў яе за вялікую дабрату.

— Цёткі Марыны ўжо няма?..—з нейкім неспадзяваным жахам пахіліўся ў яе бок Лявон. Потым, паглядзеўшы міма людзей, у пустую невядомую прастору, з крыўдаю сказаў:—Чаму-ж мне ня пісалі, што памёрла?

— А ня ведаю; мусіць, неяк забыліся...

---

— Пойдзем, Лявон, у сад!—запрасіў Лаўрынька.

— Дай ты яму пасядзець з дарогі... у сад ужо!—запярэчыла маці.

— Не, чаму? Пайду пагляджу, які цяпер наш сад.

Лаўрынька пабег наперад, а Лявон прыстоіў на падворку, дзе балагол карміў каня ахрап'ем, што ласкава падкінула маці. Балагол меў супакойны выгляд працоўнага чалавека і супакойна гладзіў каню шыю. Лявону зрабілася сорамна за свае нэрвы. І тут-жа мляўкі халадок незлавімым мамэнцікам ахапіў яму сэрца: шкода было жыцьця, адчуў, што моцна любіць жыцьцё...

Калі пераступаў высокі парог у фортцы, што была з двара ў сад, ля ног з тэю-ж нястрыманаю радасьцю праскочыў Буян і пабег, задраўшы хвост, наперад пад яблынкі. Палётаў там, пакруціўся, але стаў „колам“ і глядзеў назад, зводаль, глядзеў з чаканьнем, куды пойдзе і што цяпер робіць госьць.

Госьць марудна ішоў па вузкай сьцежачцы, макравай, з прыліплымі і ўтаптанымі ў зямлю гнілымі лісьцінкамі.

Сумна ўжо было павосеннаму ў садзе. Ня было ўжо тут чырвонага макавага цьвету і жоўтых галовак сланешніку. Мінулася ўжо тая пара, калі здавалася тут так густа, так багата і так шчасьліва. І ўздумаў Лявон на свае даўнія леці, калі так смачна была вырваная рэпка, што елі яны з Лаўрынькам напалам, калі так прыемна было пакаштаваць яблычка з-пад кожнай яблынкі. Бедным і пустым здаўся яму цяпер сад. І не захацелася яму цяпер ісьці пастаяць пад страхою ля гумна, з дымным і пыльным ад старога курава пахам.

— Пойдзем, Лаўрынька, у хату!—гукнуў ён брата.

— А дулек ня хочаш?—са зьменшанаю радасьцю спытаўся Лаўрынька.—Глядзі, якая сьпеленькая... на!—падаў яму дульку, вылазячы з малінавых кустоў, дзе знайшоў яе.

— Зьеж сам... Я не хачу,—сказаў, і шкода стала, паглядзеўшы ў Лаўрынькавы вочы.

— Чаму ня хочаш? Яна сьпеленькая... Мы-ж цэлае лета елі, а ты ня еў. Ну, зьеж, братка... Яна смашная.

— Ну, дай сабе!—узяў і схаваў у кішэню.

Так ішлі з саду—Лявон сьпераду, а Лаўрынька адзаду.

---

— А! Во дзе ён пахаджае!—загаманіў, ідучы насустрэчу, бацька.— Здароў, здароў!—І як цалаваліся, Лявон пачуў, што ў бацькі з роту пахне гарэлкаю. Бацька быў выпіўшы.—Хадзі-ж у хату, будзем абедаць. Там і сват сядзіць.

У хаце ля столу сядзеў сват, а ў парозе стаялі грудком суседзкія дзеці, прыйшоўшы падзівіцца. Матка падавала страву на стол.

Лявон прывітаўся з сватам, а тады абыйшоў дзяцей і даў ім па цукерцы.

— А цяпер марш да хаты!—скамандаваў ім бацька. І яны пайшлі худыя, саплівыя, бедна апраненыя.

— А гэта вам гасьцінца!—сказаў Лявон, кладучы мяшочак з цукеркамі на стол перад бацькам і сватам.

— Ат, гэта салодкае матцы аддай... Лаўрыньцы... Нам каб ты чаго горкага прывёз.

— Я прывёз...—і Лявон паставіў на стол прывезеную пляшку гарэлкі, хоць і дужа ня любіў п'янства і п'яных, як было ім усім добра ведама.

— Во, гэта гасьцінец. Ну, сядай-жа сам,—павесялеў бацька.

Лявон мусіў залезьці на кут, між бацькі і свата, і пачалося частаваньне. Толькі маці ўсё тупала і ня мела часу прысесьці.

— Скажы мне, Лявон, што цяпер дзеецца на сьвеце?—пытаўся бацька, выпіўшы чарку.—Бунтуюцца?

— Хто бунтуецца?!

— Ну, хто... вашая-ж брацыя,—троху колкімі вачмі ўскінуў ён на сына.

— Не, ужо сьціхла, як далі троху перцу жыдкам, — патураючы на словы бацькі, заўважыў сват і няшчыра засьмяяўся. Адылі ўбачыў, што Лявону гэта няпрыемна, і, каб усё было добра, дадаў:—А памойму хай сабе бунтуюцца, ці нам гэта клопат.

— Забыўся я на тое, што вы ведаеце...— хмеляючы марматаў бацька і ўсё наліваў чарку.—Вучоныя! Бунтуюцца! Эх! Слухаюць жыдоў і самі парабіліся, як жыды. Ну, ды ўсё добра! Балазе во ў госьці прыехаў. І за тое дзякуй. Ці карміла ты балагола?—раптам павярнуўся ён да маткі.

— Малака давала. Стравы-ж ён есьці нашае ня будзе. З салам.

— А, ён законны жыд, маладзец. Трэба яму чарку гарэлкі даць, калі п'е.

— Пі ўжо сам. Яму ехаць трэба,—запярэчыла матка.

— А, ну, няхай едзе. Жыд нам ня кумпанія. Колькі—тры рублі ўзяў? Во, дзяруць.. Лаўрынька, ідзі выпі чарку.

— Я не хачу..

— Што?!

— Я ня буду піць,—упарта адказаў Лаўрынька.

Бацька метануў на яго погляд з захаванаю злосьцю і пагрозаю, але змоўчыў, адкладаючы, відаць, расправу на пазьнейшы час.

— Дык ідзі гукні дзядзьку ды спытайся, ці не засталося ў яго ад талакі гэтага зельля. Хай пляшку прынясе, пазычыць.

— Ай некалі мне... Па каня пара йсьці ў поле,— увесь аж пачырванеў Лаўрынька. Ён не хацеў, каб на стале зьявілася яшчэ адна проклятая пляшка.

Бацька выскачыў з застольля і кінуўся да яго.

— А я табе што кажу?!—закрычэў ён і схапіў яго за руку.

— Я пайду, пайду...—прасіўся Лаўрынька, каб ня было большага скандалу.

— Пасароміўся хоць-бы Лявона! Ня бачыў ён тваіх п'яных штук! —уступілася матка.

— Што такое? Бацькі ня слухаць! Я вам пакажу! Бунтаўнікі, самакраты!.. Саплі яшчэ ня ўмее абцерці палюдзку, а ён ужо з сваімі законамі.

Лаўрынька, чырвоны, зьбянтэжаны, з захаваным дзіцячым гневам і крыўдаю, пашоў з хаты.

---

— А чаму, Лявон, нічога не ясі?—весялейшым і сумысьля звычайным голасам першы ўзноў парушыў цішу бацька.—Ці можа не ў спадобу бацькавыя навучаньні?

Лявон маўчаў. Ён сядзеў маўклівы і смутны, у самым куце. Усе прыціхлі.

— Ну, што? Вясёла?—з мяккім насьмяханьнем паглядзела на бацьку маці, прыймаючы з столу талерку.

— Ат, мала што бывае,—лагодна сказаў сват.

— Ідзі, ато во як кіну, што й чарапкоў не падбярэш,—ці-то жартам, ці-то як п'яны ў злосьці гыркнуў на яе бацька і зусім ціха піхнуў пустую талерку, але талерка ўсё-ткі паляцела, і матка ледзь пасьпела яе падхапіць.

— У-у, сораму ты ня маеш,—ужо гнеўна абурылася яна.

— Сораму ня маю... Сораму ня маю... Вып'ем, сваток. Бачыш, якую пашану маю за сваю працу, за свой клопат. Як я сораму ня маю, дык усе бачыць, а як я век-вяком капаюся ў гаспадарцы бяз усякае падмогі і прасьветласьці, дык ніхто таго ня бачыць. Наўтрае во малацьба... І Ці пойдзеш з намі малаціць, сынок?—раптам зьвярнуўся ён да Лявона, з захаваным злым сьмехам у дужа далікатнай жартаўлівасьці. Ды не, не... Я пажартаваў! Каб ты і хацеў пайсьці, дык я не дазволю. Няхай ужо мы, няўчоныя, век чорныя ходзім, а цябе-ж я не на тое вучыў, каб ты пыл наш гуменны глытаў. Ці надоўга-ж прыехаў у госьці? Хоць-бы раз даўжэй пажыў, ато ўсё толькі пакажашся дый назад.

— Сам ня ведаю... Можа й надоўга. Я кінуў службу...

— Што? Ці ты гэта праўду кажаш?—праўдзіва і трывожна дзівіўся бацька.

— Як-жа гэта так?—сказаў і сват.

— Пасьля аб гэтым пагамонім,—ухільна адказаў Лявон.—Старую службу кінуў...—дадаў падумаўшы.

— Пасьля, дык і пасьля...—невясёла згодзіўся бацька.—Але зноў нейкія самакраціі тут ёсьць... Эх, деткі мае. Не па мысьлі маёй нешта робіцца... Што ўжо будзе з Лаўрынькі? Я яму пакажу, як бацькі ня слухаць, я яму пакажу! Ужо ён у самакраты лезе. Не, пачакайце!

„Нашто я сюды ехаў? Нашто я сюды ехаў"?—думаў Лявон, выходзячы з застольля і ня ведаючы, перахрысьціцца яму дзеля віду ці не, і адышоў так: ат няхай болей гневу і разбурэньня...

V

Душа маўчыць, душа схавала ў сабе той сум і сама замкнулася... Устаць, ня устаць? Трэба-ж устаць. Не, трэба рабіць тое, дзеля чаго прыехаў. А калі-ж ня можа во цяпер уявіць сабе патрэбы ў гэтым учынку. Здрабнеў чалавек зусім. Э, было-б запраўды сьвінства, каб яны прышлі запрацаваныя і знайшлі-б яго акачуранага, самагубцу. Фэ, гідасьць! Але вось прыехаў... Яны малоцяць—ён ляжыць. Як абед, дык яму лепшы кавалачак. Усю затаўку паесьць. Навошта-ж прасіў учора, каб яго будзілі? Устаць, ня ўстаць? Ня хочацца ўставаць.

Добра жыць на вёсцы між летам і восеньню, калі, аднак, ня хочацца ўставаць досьвіткамі і йсьці на гумно малаціць. Але трэба ўстаць. Прэч усе думкі!

Лявон устаў—і быў адзін ува ўсёй хаце, аж неяк жудасна. Знайшоў упоцемку на судніку карэц і выйшаў у сенцы напіцца. Смага разабрала за ноч, пасьля дарогі і вясковае вячэры. Са смакам напіўся. Выйшаў на ганак, паглядзеў на неба. Прыгожае надвор'е, зоркі мігцяць, дрэвы дрэмлюць, стрэхі сьпяць... Ахоплены за ногі халадком, вярнуўся ў хату.

Сорам спаць, хоць і дужа хочацца. Трэба-ж пайсьці на гумно, падмяніць у рабоце матку. Пачаў абувацца, напрануў замест свайго пальта, бацькаў жупан, бо там будзе пыл. Старанна зачыніў дзьверы і выйшаў на двор, а тады цераз фортку пайшоў у сад, на гумно.

Сад ціхі сонны... І яблынкі сьпяць, і лісьцікі на дульцы трызьняць паціхеньку, праз сон... Але няма ўжо тэй салодкасьці, што была ў маленстве, няма, няма... Прытупілася ўспрыйманьне, прыйшла проза жыцьця.

---

Але на гумне: пук-пук-пук! пук-пук-пук! тра-та-та! тра-та-та! Малоцяць. Прыемна слухаць. Хутчэй пайшоў туды.

На сасе збоку, цьмела жоўтая лямпачка. Пыл лез у нос і ў вочы. У пыльным павучыньні былі жоўтыя торпы. Ад варот-жа да асеці, на таку—жоўтая снапяная дарога, поўны пасад. Снапы яшчэ цёплыя, нядаўна скінуты з цёплае асеці, так ад іх цяплом і вее пасьля надворнае сьвежасьці.

— Тра-та-та!—малоцяць у тры цапы: з аднаго боку ідзе бацька, а з другога маці і Лаўрынька. 'Лянь! А хто-ж гэта, дзяўчына, ідзе з цэпам ад асеці? Лёкса! Яму не сказалі, што яе гукнуць малаціць. Лявон троху спыніўся: гэта-ж ёй пісаў ён той бязглузды ліст, і яна яму адказвала. Няўжо ў іх было каханьне? А ён яе адразу не пазнаў. Яна супакойна падыйшла да малацьбітоў з сваім цэпам, супакойна сказала: „Гэты ўжо будзе ямчэй“ (відаць, мяняла каля асеці цэп),—і стала малаціць з імі разам, у чатыры цапы. Матка перайшла на бацькаў бок, а яна стала з Лаўрынькам. Эх, некалі Лаўрынька пісаў, што ў яе на руках кароста.

— А, устаў-ткі!—дужа ласкава прывітаў Лявона бацька, ня кідаючы махаць цэпам. –І ахвота-ж была. Я думаў, што ты жартуеш. Спаў-бы сабе пасьля дарогі.

— Лявонічка, што ты гэта выдумаў,—таксама ня спыняючы работы, толькі мяняючыся на руку сказала й маці.—Бацька табе сьмехам учора казаў, а ты ўзяў ды прышоў. Ідзі ты сьпі.

— Не, мама, дай мне твой цэп, а ты йдзі ў хату.

— Пашоў ты, дам я яму цэп!—сьмяючыся адбівалася матка.

— Дай сабе, няхай троху пасобіць, калі яму дужа хочацца заняцца мужыцкаю работаю,—сьмяяўся й бацька. Учорашняга хмелю як-бы й ня было ў яго ніколі.—Ідзі, ідзі, гатуй там сьнедаць. Сяньня пасады невялікія, справімся і без цябе.

Матка выпусьціла цэп яму ў рукі, і адыйшла, а ён, старанна трапляючы ў лад, замахаў гэтым цэпам.

— Ну, дык пайду,—сказала матка і пайшла з гумна.

---

Лявону адразу здалося, што ён зараз саб'ецца з ладу. І ён пакладаў усю ўвагу, каб гэтага ня было, і пільнаваў ударыць цэпам то дужэй, то цішэй, каб як раз прышлося добра.

— Раўней, раўней!—заўважыў бацька.

Трэсь!—ударыў нечы бічук, здаецца якраз Лёксін, па Лявонавым бічуку,—і Лявона ўзяло на поты, што ўжо троху зьбіўся. Было сорамна і перад Лёксаю, што ня ўмее малаціць. А чаму ня ўмее?—бо ніколі бывала не працаваў. прыяжджаючы з школы дамоў, а пайшоў вучыцца, яшчэ ня ўмеючы малаціць. І задумаўся, што Лаўрыньцы яшчэ рана хадзіць на малацьбу, каб сям'я была большая.

— Ну, ну!—крыкнуў ізноў бацька, ні-то з дакорам, ні-то асьмельваючы яго, няўмелага.

Тра-та-та!.. Тра-та-та!..—Бацька біў так, што аж снапы варушыліся. Лёкса малаціла падзявочаму; яе цэп не лятаў высока, але бічук лажыўся ўвесь і лажыўся ёмка, дзеўка была здаровая. Толькі бедны Лаўрынька „гладзіў“, хоць і стараўся паказаць перад братам і сваю сілу і сваё ўмельства. Так наглядаў Лявон, махаючы то дужа высока, то калі хапаўся, каб не астацца, дык зусім нізка і ўжо пачуў, што морыцца... Аж раптам—стаўся зусім брыдкі перабой. Тра-та-та!—і ўзноў трэсь!—ён няўмысьля ўдарыў па цапу Лаўрынькі і цэп яму выбіў з рук. Лёкса ўсьміхнулася, хоць і не хацела.

— Дык ты-ж, братка, і ў чатыры ня ўмееш, - сказаў Лаўрынька, падхопліваючы цэп.—Ці малаціў ты калі ў пяць?

— Кінь, Лявон; зьбіваемся!—прыхільна, але паважна сказаў бацька.—Кінь, брат, не твая гэта работа.

— Гэткія госьці—добрыя! Што й малаціць ходзяць,—першы раз прамовіла і Лёкса і першы раз паглядзела на яго. Але як-бы спалохалася, ці не сказала дрэнна.

— Не, не... Яшчэ трошку прайду... Гэта я няўмысьля. Ужо болей не саб'юся,—выбачаўся і прасіўся Лявон, з ніякавасьцю ў голасе.

Ён напружыў усе свае сілы, каб болей ня зьбіцца, каб паказаць, што і ён ня горшы малацьбіт. Малацьбіты цяпер былі павярнуўшыся і йшлі ўжо ад варот, назад пад асець. Усе бачылі, што Лявон стараецца, і самі стараліся, каб ён ня зьбіўся, і каб ня было яму сорамна. А ў яго ўжо лоб быў мокры, і ён чуў, што й на сьпіне, пад кашуляю, мокра. „Не дайду да канца“,—са страхам думаў ён, бо ўмеў малаціць толькі на правую руку, а яны ўсе, і Лаўрынька, часта мяняліся, то на правую, то на левую. І так дайшлі да пасяродку, да сахі, каля якой нязручна было яму прайсьці, бо тарпа дужа нахілілася. „Не дайду стараны“,—пякла прыкрая думка;—пастаю трошку, пакуль саху абойдуць“. Ён паважна вышаў з строю і абцёр пот.

— Лезь ты, Лявон, скідай з асеці на новы пасад, што там засталося, а гэтую старану мы ўжо адны дойдзем,—сказаў яму дужа ласкава бацька.

---

І хоць няхораша было, што ён, а не Лаўрынька адходзіць на лягчэйшую працу, і ўсе разумелі, нашто бацька так яму кажа, але быццам само сабою так зрабілася, што ён пашоў да асеці, павесіў свой цэп і палез на драбінках у васетнае вакно. Як улез, там было цёпла і пахла густым зямельна-жытным пахам, які застаўся ў памяці з тэй пары, калі дзед пёк бульбу ў падасецьці і даваў яе маламу Лявоньку. Цапкі, на якія садзяць снапы, былі чорныя, спрадвечныя,—можа, яшчэ дзед зрабіў іх у сваёй маладосьці. Лявон сеў на цапкі, рассунуўшы іх троху і спусьціўшы ногі на гліняны под, і ўзяўся за лёгкія сухія снапы; паволі скідаў іх сквозь ваконца на ток. Адчуваў спачатку салодкасьць працы і ўспамінкаў, зьвязаных з такою-ж працаю ў даўных часох маленства. Але нейкі, перш надта маленькі і слабенькі, клубочак прыкрасьці, нездаволеньня і жалю цяпер ўсё рос і ўзьнімаўся вышэй. Лявон і сам не сказаў-бы, адкуль гэтая крыўда і гэтая прыкрасьць. Ці хацелася, каб малацілі машынаю, а не цэпамі? Ці хацелася, каб малацілі толькі дарослыя людзі, а ня дзеці, як Лаўрынька? Ці прыкра было, што ён сам у іх вачох – нейкі недалуга, пан ня пан, мужык ня мужык? Можа найболей было жалю, што ён адарваны ад простага, роднага... Што ён мае гэтыя думкі, якія мучаць яго? Можа хацелася скінуць з сябе той смутак, тую хваробу духа, каб быць здаровым чалавекам? Работа здавалася мэханічным ківаньнем, яго жыцьцё—падобным да таго ківаньня. А што Лёкса тут, яму было зусім усёроўна. Толькі маленькае засмучэньне ахоплівала, што некалі быў такі наіўны, лёгкадумны, выбражаў сабе, што мог-бы з ёю жаніцца... Пустота нейкая засьцілала яго ўсяго. Найлепей было-б зрабіць сабе сьмерць, і навет там, на чужыне, ня едучы дамоў; брыдка было, што і ў гэтай справе аказаўся ён такі непаважны, што і думку аб самагубстве зрабіў цяпер такою мізэрнаю, дурною думкаю. Пустота, пустота... Болей няма нічога. А некалі-ж глыбока--глыбока адчуваў салодкасьць жыцьця, калі бывала скарадзіў папар і надвечар, змарыўшыся, садзіўся на барану і пад залатымі касякамі сонейка на заходзе з вялікім здаволеньнем аглядаўся навакол, з вялікім смакам еў засохлы за дзень кавалачак хлеба з салам, маючы на тое за сваю працу поўнае заслужанае права. Дзе яно тое ўсё цяпер?

Калі разьвіднела, калі дамалацілі, зграблі ў кучу, адбілі атору, калі прышла матка і вясёлая гукнула сьнедаць, калі ўсе ішлі спрацаваныя, абкураныя вялікім сівым пылам, ды вясёлыя, здаровыя,—ён ішоў чысьцейшы за іх ды панураны і разьбіты. Усе будуць мыцца сьцюдзёнаю, прыемнаю вадою.... У Лёксы чорна ад пылу пад носам, а яна тым часам прыгожая, лёгка і супакойна ідзе сьнедаць і перад сьнеданьнем будзе з асабліваю спаміж усіх рабачаёў прыемнасьцю мыцца сьцюдзёнаю, толькі што прынесенаю з калодзежа вадою. Лявон ідзе чысьцейшы за ўсіх, яму навет няма патрэбы мыцца, даволі памыць толькі рукі, але затое на сэрцы ў яго так дрэнна, як ні ў кога.

---

І селі сьнедаць, і ён разам з усімі. Лёкса сядзела на ўслоне, супроць яго, з гладкім троху чырвоным носікам і з круглымі, здаровымі і троху далікатна-пакатымі плячмі пад дзешавенькаю паркалёваю блюзачкаю. Усе елі, усё ішло як трэба, як заўсёды ішло.

— Можа, Лявон еў-бы сала? Чаму ты яму не адрэжаш?—сказаў, зірнуўшы на матку, бацька.

— Зараз, зараз... Толькі ад солі абчышчу.

— Дайце сабе...—нудна сказаў Лявон, бязуважна думаючы, што сала ў іх мала; каб было досыць, дык усім малацьбітам далі-б па кавалачку, і кожнаму хацелася сала, хоць і хавалі гэта ў сваіх сялянскіх вачох.

— На і табе, Лёксачка,—адрэзала трошку матка Лёксе, а перад ім паставіла ўсё сала на талерцы.

— Што гэта вы? Нашто?—засаромілася дзяўчына і пачырванела.

— Ты-ж у нас не свая, запрашоная малацьбітачка,—жартавала матка.

— Лаўрыньцы ж дайце,—сказаў Лявон.

— Ды ўжо ўсім адрэж па кавалку... што там!—загадаў бацька.

І ўсе сталі есьці сала, адрэзанае ад таго самага кавалка, што ўчора стаяў на закуску побач з пляшкаю гарэлкі.

„Не свая, а чужая малацьбітачка“,—падумаў Лявон.—„А была-б добрая мне жонка, каб я ня ўчыўся і сядзеў на мужыцкай гаспадарцы“... „А падумай я зрабіць гэта цяпер, усе будуць супраць мае думкі“.—Ён пільна, хоць і як-бы неўзнаку, паглядзеў на яе чыстыя, круглыя і крэпкія рукі, засуканыя троху,—„зусім не каросьлівыя“, уздумаў ён,—і далей узьвёў вочы на яе ня дужа прыгожы, але малады і прыемны твар. Яна адчула, што ён глядзіць, і шыбка ўзьняла і паволі адвяла свае ціхія і падзявочаму ласкавыя вочы, прыгожыя, сінія, як у дзіцяці, вочы. Сонейка восені паказалася ў вакне з-за надворнае страхі, асьвяціла заліты капкамі, без абруса, стол, міску з гарачаю, з скваркамі, бульбаю. І Лёкса зрабілася нейкаю бледаю на сонейку, ня сьвежаю, а стан яе быў пахілены і быццам не дзявочы.—„А пажыве пяць год з мужыком, у цяжкай працы, родзіць дзяцей—і зусім будзе ня прыгожая, старая маладзіца“,—падумаў Лявон. А яна, як і без сонейка, старанна і сьціпла сёрбала бульбу, кусаючы хлеб белымі роўнымі зубамі.

Лаўрынька маўчаў, і толькі зьеўшы сала, спытаўся ў Лявона, ці можна ўзяць з сабаю ў поле „Нашу Ніву“, што ён прывёз.

— Якія табе там „Нашыя Нівы“ цяпер: трэба-ж ехаць жыта завалачыць на ўзмошчы,—сказаў бацька паважна, але бяз злосьці.

— Пакуль зьвееце кучу, я пасьпею газэту прачытаць і каня прыняду,—не згаджаўся Лаўрынька.

— Чытака ты ўжо ў нас!—пасьмяялася маці, а бацька маўчаў.

— Ну, а ты-ж Лявон, можа пройдзешся ў поле ці ў лес пагуляць?—спытаўся ён, памаўчаўшы.

— Пагляджу... Можа, пайду...—Так сказаў, а падумаў, што трэба зараз пасьля сьняданьня аддаць бацьку дзесяць рублёў грошай, толькі пры матцы або навет ёй у рукі, хай-бы яна іх і схавала... Бацька любіў выпіць.

І настрой Лявонаў за сьняданьнем мала зрабіўся лепшы. Хацелася спаць, чуў нейкую зморанасьць, а думкі траплялі ўсё ў тую-ж самую пустоту...

## VI

Лявон ішоў цераз пустое, голае поле.

На курганку хадзілі дыбатыя авечкі, у нізіне рыліся брудныя сьвіньні, там і там цягаліся худыя каровы.

Пастух у старэнькім кажушку і з палатнянаю торбаю цераз плячо сядзеў на высокай мяжы і нешта рабіў.

— Добры дзень!—прывітаў яго Лявон, падыйшоўшы.

— Дзень добры,—ласкава, але не вясёла адгукнуўся яму пастух і зараз пахіліў галаву ізноў на работу. З вялікага, мусіць, бярозавага, палена ён звычайным ножыкам выразаў лыжку.

Лявон з глыбокім жалем глядзеў на яго худы твар з рэдзенькаю бародкаю, на ўсё яго ссохлае цэла ў старэнькім кажушку, з зжаўцелымі кудламі воўны ў незашытых новых і распайсаных старых дзірках, на яго бурыя сіваватыя валасы, што панурымі хвастамі тырчэлі з-пад замасьленае і лёгкае ад зношанасьці шапкі і прыгіналіся да тонкае, зморшчанае шыі... Сядзець яму было нізка, і ён выцягнуў доўгія, але сухія ногі, у жыдзенькіх ільняных штоніках і разьбітых, раскалмачаных лапцёх. А каля ног ляжала ў яго вялізная сабраная пуга, мусіць, доўгая-прадоўгая, бо дужа тоўстая спачатку і цянюсенечкая на канцы.

— Даведацца прыехалі?... Ці надоўга-ж, там, хаця пусьцілі?—спытаўся ён у Лявона, як відаць, дзеля ветласьці. Потым раптам усхапіўся на ногі, зірнуў вакол і крыкнуў на ўсю сілу пісклявым і сіпатым голасам: а юс, а юс ты там, ты там, а юс!.. Адылі схапіў пугу, спрытна размахнуўся і шлэснуў, як са стрэльбы Ізноў сабраў—і сеў.

Лявон ня ведаў, што сказаць, хацеў падзівіць яму, на што мучаецца над лыжкаю з простым ножыкам, чаму не пазычыць сабе ў каго разца, але замест таго мімаволі падумаў: ці даўно быў гэты чалавек маладым і здаровым з выгляду мужчынам—і во ён ужо зусім дзед, і, напэўна, не паходзіць доўга па сьвеце... Падумаў і ўздыхнуў, нічога не сказаўшы.

Аж дзед загаманіў сам пра сваё, пра сваю жальбу, быццам-бы яны ўжо вельмі шмат гаманілі ў гэтай справе:

— Ат, дурныя былі мужыкі! Не ўзялі, там, гэтых краюшкаў ля панскага балота... А цяпер там,—дзе толькі троху расьце, дык і ня наша, а ўсё, там, панскае.

— Чаму-ж яны не ўзялі?

— Дык я-ж кажу, чаму,там: дурныя былі... Міравы пасрэднік ацаніў высока, бо вядома-ж, там, за пана цягнуў. Ну, баяліся, што, там, ня сплацяць, грошы трэба, там, многа, а дзе іх возьмеш, там, на гэтых голых бубачках.

Дзед пачаў нэрвавацца, усё часьцей прымаўляў „там", кінуў работу і сьпярша задраў галаву, паглядзеўшы на Лявона маленькімі, але чыстымі і прыгожымі сьветла-шэрымі вачыма, а потым зусім устаў.

— А ў нашым балоце—ці й тады так дрэнна расло?

— Дзе там! Цяпер во ня родзіць, там, балота, там, згарэла, спусьцела...—Ён безнадзейна махнуў рукою і перакінуў сабраную пугу на другое плячо.—Дзе там! А на маёй-жа яшчэ памяці трава, там, кучма расла, бывала, там, аж у пояс. Каровы пагоніш у балота—і ня відна, там! А цяпер—што! Гразь, патапеча, не падыйсьці, там... А-а-а!—раптам закрычэў ён, ўзьняўшы галаву і паглядзеўшы далёка на ўвесь статак;—ізноў цябе... цябе, там, халера пагнала цябе, там, куды ня трэба! А юс, а юс ты там, ты там, а юс!..

Шлэскаючы пугаю, пастух пабег далёка ў дол, заганяць сьвіней, а Лявон пашоў на сьцежку.

---

„Чаго я тут хаджу, чаго я тут браджу?"—мімаволі і дужа горка, што аж сэрца на момант замлела, падумаў Лявон, адыходзячы ад дзеда. „Чаго я тут хаджу, чаго я тут браджу?.. Ня кукуюць тут мае зязюлюхны, ня шчоўкаюць мае саловухны"...

Нястрыманы жаль разьліўся ў грудзёх, што аж цяжка было йсьці.

1921 г.

**Мамед Саід Ордубадзкі**

# Ханскі палац

*(Хан Сарайі)*

1

Што ты, сьляпая байкуша [1]), галосіш заўсёды,
часу і стану якому спраўляеш жалобу?
Плачаш улетку, узімку, ня рада й вясною,
і, як пустэльнік, ідзеш ад жыцьця стараною.
Вочы твае ня прымаюць ад сонца ‘салоды,
часу старому складаеш ты сквіламі оды.
Ты, з галавой, дзе ня месьціцца думка жывая,
ў дзікім каменьні мяшканьне сваё завіваеш.

2

І ўсё бядуеш... Навошта у сьлёзы ўдавацца,
клясе якой слугавалі ўсе скарбы-палацы?
Тут пассыпаны галовы палонных забітых,
помнік у кожнай колюмне для тысяч забытых.
Могілкі тысячам юных пад кожнай руінай,
грудзі гаротных у кожным кавалачку гліны [2])...
Кажуць, што згінулі ў бойцы „за славу“ краіны,
кажуць, што „з радасьцю“ йшлі паміраць за руіны...

3

Кожная цэгліна—сэрца праданай дзяўчыны [2]);
трубы праз рот—свой праклён шлюць мінулай часіне.
Гора ў скляпеньнях, пад каменем нэндзы бярэма;
тут для палонных нявест будавалі гарэмы...
Тут руйнавалі дзявочыя сны і надзеі,
тысяч каханьне загублена тут ліхадзеем...
Тут панавалі бязьлітасна каты, забойцы,
толькі байкушы тут слухалі лямант бясконцы...

4

Косьці ляжаць, ланцугамі спавіты ў цямніцах,
ім у змаганьні няроўным прышлося скрышыцца;
ханскіх злачынстваў сьляды засталіся на зломе,
згінуў палац, ды ня згінула памяць пра злое.
Згэтуль загады ішлі, рабавалі гаротных,
і змагары бой на іх рыхтавалі сьмяротны.
І змагаровы магутныя, ўпартыя душы
нават пры сьмерці ня вылі, як зараз байкушы.

5

На прыганятых зьбіраўся бязьлітасны вораг,
помсту ўзьнімала цяжкое, нялюдзкае гора.
На касьцякох будавалася „будучнасьць“ гэтта,
шмат хто ў паўстаньні ўжо відзеў жыцьцёвую мэту.

Гневу агонь, што праз край перапоўніў іх сэрцы,
выбухам страшным гатоў быў палацы ўсе сьцерці.
... Зараз руіны там; час іх дашчэнту заглушыць;
стогнуць у іх і па іх няўшчувана байкушы.

6

*Зараз прыгнечаных сьвята і іх перамога,*
дзе гняздавалі байкушы—другая дарога:
зьліквідаваны „адзінае нацыі“ фронты,
новыя дзеі на новыя клічуць узьлёты.
Ганьба назаднікам [3]), што апяваюць руіны,
толькі з байкушамі быць яны разам павінны.
Мкнёмся наперад мы, мкнёмся у сьветлыя далі,
дзе творчы дух пераможны наш будзе крышталіць.

7

*Хай жа ня выюць байкушы на нашым прадвесьні,*
сёнешняму пакаленьню чужыя іх песьні.
Хай кьашанэ [4]) тут паўстане у высі сягоньня,
стане на грудзі забытаму кожнаму помнік.

З цюркскае мовы пералажыў
**Уладзімер Дубоўка**

---

**Мамед Саід Ордубадзкі**—азэрбайджанскі публіцысты і поэта. Зараз працуе ў якасьці адказнага рэдактара газэты „Ені ёл“ („Новы шлях“). Твор, які друкуецца ў перакладзе—„Ханскі палац“, выдрукаваны ў літаратурна-мастацкай і філёзофскай часопісі „Інклаб ве меденіет“, № 1, 1928 г., Баку.

[1]) **Байкуш, байгуш**—у цюркскай (такжа і ў грузінскай) мове—гатунак *савы*, якая гняздуецца ў руінах камяніц, якая „вяшчуе“, „варожыць“ лёс чалавеку. Мамед Саід Ордубадзкі ўжывае гэта слова, асабліва ў разьдзеле 6, у сэнсе *шкоднiка на культурным фронце.*

Справа вось у чым.—*Трэба і карысна* вывучаць гісторыю сваёй краіны, адзначаючы *адмоўнае* і станоўчае, адзначаючы і працу паасобных працаўнікоў, як, напрыклад, беларускага гуманістага, выдатнага вучонага і першага друкара Францішка Скарыну.

*Але шкодна, неразумна і нават рэакцыйна* захапляцца старым часам, старой эпохай, стаўляючы яе як ідэал. Паводле словаў поэты—толькі сьляпыя *байкушы* здольны на гэта.

Адначасна такія *байкушы* ня грэбуюць і іншымі спосабамі, каб перашкодзіць нам у нашым напружным будаўніцтве на культурным фронце. Так, напрыклад, яны могуць сапсаваць популярны слоўнік брыдкімі словамі, даць туды вялікі лік „божественных“ словаў і ня даць многіх патрэбных, створаных рэволюцыяй і г. д.

Такім чынам, слова *байкуша* зусім падыходзіць для ўжытку і на Беларусі, адзначаючы *шкоднiка на культурным фронце.*

[2]) У аўтэнтыку—„у кожным кавалку—мармур грудзей бедакоў“. Як гэты вобраз, так і далейшы—„кожная цэгліна—сэрца праданай дзяўчыны“—вельмі популярны на Ўсходзе і спатыкаюцца ў творах многіх поэтаў. Даволі спаслацца на арабскага поэту Х—ХІ ст. ст. Абуль-Аля Мааррыйскага і пэрскага поэту Омара Хэйяма.

У першага мы знаходзім такія радкі (даю ў пераказе).—„Што ты, ганчар, так топчаш гліну? Станеш глінаю сам. Магчыма—з цябе зробяць глячык, і будзеш таўчыся па сьмерці“.

У Хэйяма ёсьць некалькі робайят на гэту тэму. У адным прыблізна такі зьмест:

„Вось гэты глячок—жыў і кахаў, як зараз мы. Вось гэта пачопачка—пасма дзяўчыніных валос. Вось гэтая ручка з гліны, якая ля шыйкі, была жывою рукою, якая тулілася да любай“. Такім чынам, вобраз гэты не выпадковы, а органічна ўсходні.

[3]) **Назаднік**—рэакцыянэр, які цягне ў стары лад, *назад.*

[4]) **Кьашанэ**—гэта надзвычайна прыгожыя казачныя будынкі—палацы, дзе ідзе добрае жыцьцё.

**Карло Каладзе**

# Пасьля змаганьня

(*брдзолэбіс шэмдэг*)

Перамога зьзяе
хваляй палкіх лалаў [1]),
спапяліла ўкорань смутак і трывогу.

На сьцягох пунсовых
маё імя стала;
глушыць гнеў бясьсільны ў сваім сэрцы вораг.

Мінуламу часу
выкалаў я вочы,
гэта я, што цалкам—радасьць, захапленьне

Памятаюць людзі
руйнаваньне божышч,
мой разьбег з прадоньняў веры і маленьняў.

Хмары ня ускоўдраць
сонцабляск комуны,
бо на ўзвышшы гордым не задрэміць варта.

Яе веру ўзмоцніць
Леніна лоб думны,
і змагацца научыць погляд яго ўпарты.

Мы ізноў пярэйдзем
мклівай навальніцай,
каб у сэрцах палкасьць аж буяла цераз.

Сьвеце! Сонцам будзеш
ад сьцягоў ільсьніцца,
бо Кастрычнік прыдзе красавац ьяшчэ раз.

З грузінскае мовы пераклажыў
**Уладзімер Дубоўка**

---

**Карло Каладзе**—сучасны малады рэволюцыйны поэта Грузіі. Вышла некалькі зборнікаў яго.

[1]) **Лал**—самацьвет (камень) крывава-чырвонага колеру, па-расейску—рубін; гэты радок крыху перайначаны перакладчыкам.

**Крапіва**

# Вось тут і пішы!

Куры, шансонэткі, сабакі... І гэта ўсё вось тут-жа за фанэрнай сьцяною. Куры ў натуры, шансонэткі ў грамафоне, а сабакі і ў грамафоне, і ў натуры. Мой сусед штук пятнаццаць мае курэй і кожны дзень разоў па два, па тры наладжвае ім рэвізію,—як у іх, значыцца, наконт падняцьця вытворчасьці, ці шмат з яйцом. Робіцца ўсё гэта саматужным ручным спосабам, і вядома, што тут усе пятнаццаць курэй разам падымаюць самы энэргічны протэст супроць такога бессаромнага з імі абыходжаньня. Падымаецца такі вэрхал, што хоць ты сьвятых вынось, але дзеля таго, што іх зусім у хаце няма, прыходзіцца паняволі чакаць, покуль рэвізія скончыцца, і покуль гармідар уціхне сам сабою.

„Ну, думаеш пачакаўшы, цяпер-жа ўжо вазьмуся за работу". Але не пасьпееш напісаць і пары слоў, як тут зараз у тры галасы:

— Гаў... гаў... гаў...

Што гэта за намёкі? Ацэнка творчасьці? Зусім знаёмы мне мэтад. Толькі стань да іх прыслухоўвацца, то і пісаць ня будзе калі.

Ганю далей. Але тут яшчэ адно ліха: крахтаньне, шыпеньне, хрыпеньне і потым:

— Пара гнедых, запряженных с зарею
Т-р-р-р... Ч-ш-ш-ш...
Тихо плететесь вы мелкой рысцою
И возбуждаете смех у иных...—

Які тут, чорта, сьмех! Плач на ўме. Але нічога ня зробіш,—прыходзіцца маўчаць. Няхай сабе плятуцца, а іначай гэта пара старых драчоў можа зусім занаравіцца і прахрыпець цэлы дзень на адным месцы.

А пісаць усё-такі трэба і пісаць іменна сёньня, каб да вечара гатова было апавяданьне, бо іначай заўтра мяне рэдактар жыўцом зьесьць. Праўда, што з беларускага пісьменьніка наедак невялікі: худзізна, зубы можна паламаць. Але такая ўжо традыцыя ўсталявалася, што рэдактары павінны есьці пісьменьнікаў. Дык вось, каб ня здарылася такога людаедзтва, я зараз пачынаю пісаць апавяданьне.

Добра сказаць—пачынаю пісаць, але пра што? Напісаць хіба пра тое, што мая знаёмая, цётка Настуля, учора дваццаць першы аборт сабе зрабіла? (Шосты год працуе ў гэтай галіне). Але-ж ня ведаю, як мне тут трымацца—ня то радавацца, ня то сумаваць і ці гэта крок наперад, ці крок назад у савецкім будаўніцтве. Я нават ня ведаю, ці многа гэта, ці мала. Цяпер навука і тэхніка ідзе наперад такімі шпаркімі крокамі, што... можа гэта толькі абавязковы мінімум для кожнай жанчыны? Нарэшце, мая знаёмая проста запротэставаць нават можа і напісаць мне ультыматум, каб я ня ўмешваўся ў яе ўнутраныя справы.

А можа напісаць пра тое, як адзін бюрократ змагаўся з бюрократызмам? Як ён напісаў дзесяць цыркуляраў аб тым, што за год бюрократызм павінен быць зьнішчан, і як загадаў усім сваім падначаленым, каб яны штотыдня давалі пісьмовыя справаздачы аб ходзе барацьбы з бюрократызмам? Але-ж усім вядома, якая гэта прыемнасьць мець справу з бюрократамі,—улезеш у такую кашу, што пасьля й сам ня рад будзеш. Няхай з імі лепей Рабоча-Сялянская Інспэкцыя знаецца.

Можна-б яшчэ пра беларусізацыю напісаць. Тэмы гэтай хопіць для ўсіх гумарыстаў яшчэ на доўгі час. Дык тут зноў-жа хіба ў форме далікатных заўваг у тым сэнсе, што ня шкодзіла-б нарэшце нам усё-такі беларусізавацца. Бо ў мяне, як і ўва ўсіх добрых людзей, ёсьць непасрэднае начальства, дык яно яшчэ пакрыўдзіцца гатова, – падумае, што пра яго. Яно вельмі ня любіць, калі конкрэтна пра беларусізацыю. „Вы зноў? Кіньце! Кіньце! Чулі. Ведаем бяз вас. Партыя... Нацпалітыка... Ды гэта, я вам скажу, захапленьне, як-бы мода некая. Яно вядома—партыі працівіцца ня можна, але-ж... сьпяшацца таксама няма куды. Гэта нічога, гэта ўсё пройдзе. Вы толькі рабеце так, што калі паглядзець, дык, здаецца,вы беларусізуецеся, а калі добра прыгледзецца, дык яно й на месцы... Жылі-ж мы нек раней і без беларусізацыі“...

Не, ня буду я гнявіць начальства.

Яшчэ нават пра адно можна было-б напісаць. Гэта пра тое, як у ваднэй вёсцы сіламі ўсяго вясковага актыву зьліквідавалі няпісьменнасьць, навучыўшы чытаць адну шасьцідзесяцігадовую бабульку—„тэхнічнага працаўніка школы“. Праўда, што ў вёсцы шмат ёсьць маладзейшых дзяўчат, таксама няпісьменных, але-ж актыў разважае так, што маладых, ліха іх ня возьме,—да шасьцідзесяці гадоў пасьпеюць яшчэ зьліквідавацца. А бабка ўжо чуць клёвае. Каб не пасьпяшыліся прыняць меры, яна-б так і памерці магла няпісьменнаю.

Толькі пісаць мне пра гэта таксама нязручна: яшчэ могуць ня так зразумець мяне і абвінаваціць, што я супроць ліквідацыі няпісьменнасьці выступаю.

Ці ня лепей будзе расказаць мне пра аднаго вясковага злодзея?

Тут я ўжо магу разгарнуцца насьмелую. Тут ніякая небясьпека мне ўжо не пагражае, апрача таго, што злодзей, пакрыўдзіўшыся, можа мяне абакрасьці. Але і ад гэтага таксама я застрахаваны, бо, папраўдзе кажучы, яно такі і ўкрасьці няма чаго. Па-другое, на мяне тут і крыўдзіцца няма чаго, бо расказваў мне пра гэтага злодзея мой швагір, які нядаўна прыяжджаў да мяне з вёскі. Там у іх, каля Узды, ня помню, ў якой вёсцы (а хоць і помню, дык памаўчу), жыве адзін чалавек. Ну, скажам, Янкам яго зваць. Працуе ён, як і ўсе іншыя людзі: арэ, косіць, малоціць, колькі там ёсьць чаго, але спрытней і ахватней за ўсё ён крадзе. Ты яго, як кажуць, хлебам не кармі, але ўкрасьці дай. Нават наадварот: чым менш карміць яго хлебам, тым больш ён будзе красьці. А дзеля таго, што карміць яго хлебам ніколі ніхто ня зьбіраўся, і карміцца ён павінен сам, дык крадзе Янка без канца й бяз меры. Ужо змалку па гэтай дарозе пашоў. Кажуць, калі нават яшчэ матчыным малаком карміўся, дык ухітраўся так вылузаць грудзі з-за пазухі, каб маці нават і не пачула. Як трошкі падрос, зьлізваў сьмятану з збанкоў і пасьля ганяўся з папружкаю за кошкаю, складаючы ўсю віну на яе.

Аднаго разу дык бацькавы порткі, падношаныя, але яшчэ цэлыя, аддаў анучніку ў воз за пяць цукеркаў. Назаўтра маці галаву круціць, шукае—дзе іх чорт ухапіў?

— А дзе яны былі, ці ня ў каморы?—пытае Янка.

— Але, ў каморы. За скрыняю ляжалі.

— Ну дык, мусіць, старац узяў. Учора як я быў адзін у хаце, чую—нешта стукае ў сенцах. Адчыніў, дык там старац стаіць, нешта ў торбу пхае, і камора наша адчынена. Ён сказаў, што дзьвярэй у хату ніяк знайсьці ня мог, бо сьляпы, і прасіў, каб я падарыў. Я даў яму кусок хлеба, дык ён і пашоў.

Маці перастала шукаць і пачала клясьці старца.

Калі быў пастушком, Янка лазіў у чужыя агуркі ды яблыкі, краў яйцы з-пад чужых курэй ды купляў за іх махорку ды запалкі. А як вырас ды стаў гаспадаром, дык і на буйнейшых рэчах пачаў практывавацца. Паедзе ў млын, дык пасак з чужога каня сьцягне (два рублі каштуе), або мяшок мліва чужога пад свае мяшкі падкіне, едучы дадому. Пойдзе ў мястэчка, дык у яго ў кішэнях зараз цэлы „дробны гандаль“ апыніцца. Ніткі, запалкі, гузікі, ножыкі-сьцізорыкі—гэтага ён ня меў прывычкі купляць. У вёсцы, у блізкіх суседзяў красьці асьцярагаўся, апрача хіба дробязі, якую ён заўсёды прымаў, калі дрэнна ляжала, але часта і аддаваў, калі ў яго пра гэта пыталіся. А суседзі ўжо і ведаюць. Прападзе якая-небудзь рэч, адразу ідуць да Янкі.

— Ці ня бачыў ты, Янка, мае пугі?—Недзе прапала, ліха яе ведае.

— Пугі, кажаш?

— Але.

— Сырамятная, з ядлаўцовым пугаўём?

— Але.

— Бачыў, чаму не. На сваім двары падняў. Мусіць, дзеці твае прывалаклі.

— Вось ліха іх матары, парасяты!—лаяўся сусед, добра ведаючы, што Янка лжэ.

А Янка сьцёбаў некалькі разоў па зямлі, аддаючы пугу, і хваліў:

— Лоўкая пуга. Вось бы мне такую набыць. А то конь—падла, тупіца—ня хоча бегчы бяз пугі.

А залетась у аднаго гаспадара на другім канцы вёскі нехта сьвіран абакраў. І замок цэлы на дзьвярах і сьлядоў нідзе ніякіх, а сала пудоў чатыры няма. Зразу ўсе сказалі, што гэта, ня іначай, Янкава работа. Міліцыя прыехала, увесь Янкаў будынак пературэсла—няма. Як у воду ўпала.

А Янка ходзіць з міліцыяй ды ня то жартуючы, ня то сур‘ёзна, апраўдваецца:

— Што вы гэта, людцы мілыя, надумалі? За бязбожніка мусіць мяне лічыце. Цяпер-жа вялікі пост. Я й да свайго скаромнага баюся дакрануцца, а то гэта я палез бы невядома куды чужым скароміцца.

Ня мінаў яго рук часамі і жывы тавар—гусі, авечкі, цяляты.Гэтага ён сам не спажываў, а збываў за паўцаны ўзьдзенскаму кавалю Янкелю, Жыве Янкель ня ў самым мястэчку, а трохі на водшыбе, каля свае кузьні. А сын яго мясную крамку мае на Ўзьдзе. Дык Янку вельмі зручна было гешэфт мець з тым кавалём.

Так і ладзілі яны доўгі час, аж пакуль не пасварыліся. А здарылася гэта мінулым летам нек у жніво.

Прывёз Янка сярод ночы Янкелю трое авец. Сышліся яны на дзесяць рублёў.

— Але ведаеш што, Янáчка?—кажа Янкель—грошай пры мне няма, грошы ў сына. А будзіць яго сярод ночы ды шукаць грошай нек ня выпадае. Дык ты пакінь авечкі, а на грошы пачакай. У нядзелю ўбачымся на мястэчку, дык я табе аддам.

— Добра, кажа Янка.—Няхай будзе гэтак, як Сора казала. Ня першы-ж раз я табе на павер пакідаю, ня скруціш, можа, і цяпер.

Сустрэліся яны ў нядзелю на Ўзьдзе.

— Ну, грошы маеш, Янкель? Можа доўг аддасі?

— А чаму-ж не? Што вінен, то аддаць павінен,—кажа Янкель. Вымае потым калітку з грашыма і дае Янку дзьве траячкі.

— А болей?

— Ня варт.

— Дык мы-ж на дзесяць рублёў, здаецца, угаварыліся?

— Ашукаўся я тагды. Папоцемку здавалася, што яны і тлуставатыя, а як пачаў рэзаць, дык ледзь шкуру ад мяса адлупіў. Ты хочаш, каб я сабе на ўтрату купляў? Добры гешэфт!

— А дзе тваё сумленьне, Янкель?

— Яно разам з тваім, Яначка. Ты крадзенае прадаеш, а я крадзенае купляю.

— Дык не дасі яшчэ чатыры рублі?

— Не магу, Яначка, сабе на ўтрату.

— Ну пачакай-жа, ідалава душа! Я табе ўпамянуся!

— Перш за ўсё, Янка, пакінь ты дурную мужыцкую прывычку лаяцца. А далей—калі я тваё што заняў, дык можаш падаваць на суд. Там разьбяруць, хто чаго варт.

Прайшло месяцаў са два, і яны не гаварылі, хоць і бачылі адзін аднаго. Нарэшце, аднаго разу Янка ня вытрымаў і, сустрэўшыся на мястэчку, загаварыў першым:

— Дзень добры, Янкель.

— Здароў, калі не жартуеш.

— Ці ня злуеш ты на мяне?

— Я ўжо такі чалавек: ня маю прывычкі злаваць тагды, калі за маё сыходзіць.

— А я на цябе—ох, моцна зазлаваў быў. Але ўжо чорт тваю жыдоўскую душу бяры. Вельмі ты ўжо чалавек патрэбны. Давай мірыцца будзем.

— Ну, чаму не? Абы твая кварта.

— За квартаю справа ня стане, толькі цяпер у мяне грошай няма. Вось дастаўлю табе тавар, а тагды і кварту вып'ем.

— А тавар маеш?

— Я ня маю, дык людзі маюць. А ты-ж ведаеш мяне: калі ў людзей ёсьць, то і ў мяне будзе. Няхай адно ў вока мне што ўкінецца.

— І добры тавар?

— Ох, тавар! Ахнеш, як рассмакуеш. Ублагатвару цябе што называецца. Чакай у скорым часе. Толькі ўжо фігу пакіну я табе напавер,— з рук у рукі.

— Ну добра, нек памяркуемся.

Праз сутак двое ці трое, апоўначы, Янка асьцярожна стукаў Янкелю ў вакно.

— Янкель, Янкель, ты сьпіш?

— Сплю.

— А тавар купіш?

— Куплю.

— Ну, то хадзі сюды.

Вышаў Янкель, пярхаючы паціху ў бараду:

— Ну што ў цябе за тавар?

— Карову прывёў табе.

— Можа скрэнда якая?

— Хоць сабе скрэнда, але ня горшая за тваю.

— Ого! Каб ты гэтак добра краў, як ілжэш, дык бы мы з табою багатымі людзьмі былі.

— А ведаеш ужо што: калі яна будзе горшая за тваю, дык я дарэмна табе яе аддам.

— Пакажы, дзе гэта твая хвалёная.

— Ды вось тут, недалёка, за тваім хлявом у хмызьнячку стаіць.

— То пачакай, я сына пабуджу. Усёроўна аднаму ня ўправіцца будзе.

Падышлі яны ўтрох да таго месца. Праўда—стаіць карова і ад камароў хвастом бароніцца. Чорная, лысая, з белымі лапінамі на баках, і ногі заднія па калені белыя. Калі падыходзілі, прыветна мікнула,—рахманая. Падышоў Янкель, за пахвіну ўзяўся, каля хваста памацаў.

— Колькі хочаш?

— Давай палавіну твае каровы.

— Вазьмі трыццаць рублёў.

— Заткні іх... ведаеш куды?

— Ну, то як ты думаў?

— Я думаю, што мы падзелім яе папалам, хоць мае тут больш працы. Дасі мне паўсотні? Ды скарэй думай, а то і разьвіднівацца пачне. А не дасі, дык павяду ды назад пушчу да гаспадара. Не хачу за няшчасныя трыццаць рублёў паскудзіцца ды яшчэ і чалавека калечыць.

Сын тымчасам кругом ужо абмацаў карову, торкае бацьку: бяры, тут можна добра зарабіць.

— Але які ты, Янка, не памяркоўны чалавек! Ды што ўжо з табою рабіць? Можа, хоць пачакаеш рублёў з дваццаць?

— Не, я ўжо раз пачакаў,—будзе.

— Ну, то зайдзі ў хату.

Палажыўшы ў кішэнь пяць чырвонцаў, Янка накіраваўся па дарозе да хаты і хутка зьнік у цемнаце, а Янкель з сынам пачалі ўвіхацца каля каровы. Трэ' было ўправіцца так, каб раніцаю мяса было ўжо ў краме, а скура ў вырабе. Карова была цельная і, відаць, малочная,—на мяса шкода было і рэзаць, але нічога ня зробіш: не на рынку куплена.

Да сонца яшчэ ўхадзіліся каваль з сынам. Сын мяса ў воз пакуе, а скура ў мяшку ляжыць. Трэба татарыну аднесьці, - тут недалёка. Ды толькі раней трэба карове сена даць.

Адчыніў Янкель хлеў,—не тарчыць у варотах рагатая пыса. Рана яшчэ, сьпіць недзе ў кутку. Увайшоў у хлеў, глянуў ува ўсе куткі—няма.

— Шмуйл, дзе наша карова?

— У хляве.

— Гэта я ў хляве, а каровы няма.

Прышоў і сын, агледзеў куткі і паглядзелі, зьбянтэжаныя, адзін на другога.

— А не сваю мы карову зарэзалі?

— Мішугінэ! Як-жа яна з чорнай пярэстаю зрабілася?

А сын сваё.

Пашлі глядзець скуру. Чорная з вялікімі белымі лапінамі, ды толькі лапіны гэтыя за рукі бяруцца.

— Мел!!! Уй, а халеры, ліха матары яго! Ня здох ён з сваімі авечкамі.

Устала старая Рыва. Узяла яна даёнку і накіравалася ў хлеў.

— Каго ты пойдзеш даіць?

Паглядзела Рыва задзіўлена,—ці не звар'яцеў на старасьць яе Янкель?

— Пастаў даёнку! Карова зламала нагу, і мы яе дарэзалі.

Доўга Рыва не забывалася пра сваю карову і, выціраючы рукавом чырвоныя вочы, расказвала ўсім сваім знаёмым, што іх карова ўшчаміла ў загараду нагу і зламала і што яе прышлося дарэзаць.

Гэта было летась. Сёлета Янкель купіў сабе другую карову, так-сама чорную, а Янка сядзіць арыштаваны. Ён абакраў на Ўзьдзе коопэратыўную краму, ды не пасьпеў схаваць тавар, міліцыя знайшла. Ня іначай Янкель падаткнуў.

Усё гэта была праўда. Мой швагір знае нават і Янкеля таго і Янку. Дык вось, каб да гэтай праўды ды яшчэ прылгаў з гэтулькі, дык бы яно мо' нішто і апавяданьне вышла. Ці варта толькі галаву ламаць? Я раіўся ўжо з адным разумным чалавекам, дык ён кажа, што тут перш за ўсё трэба-б было ідэолёгіі падпусьціць. А як гэта тут зрабіць, дык я ўжо і ня ведаю. Зрабіць, каб карова ня чорная была, а чырвоная? Дык папацёмку ўсёроўна ня будзе відаць. Янку зрабіць кулаком? А як ты яго зробіш, калі ў яго ўсяго адзін конь з кароваю ды жонка з траімі дзецьмі?

А можа Янкеля пасадзіць на зямлю? Не захоча. Ён яшчэ трохі зарабляе ў кузьні, а сын яго добра гандлюе мясам. Вось хіба няхай трохі мацней разаўецца сельска-гаспадарчая коопэрацыя. Як адаб'е ў Шмуйлы ахвоту гандляваць, то тагды—ня дзе дзенуцца—самі сядуць...

Не, ня буду я пісаць гэтага апавяданьня. Няхай ужо лепей есьць мяне заўтра рэдактар. Няхай, паглядзім, як ён гэта выдыхае.

## Уладзімер Хадыка

* * *

Ах, якія вятры! Каляровасьць ракіт
Ля музычнай вадзілі рукі.
Ах, якія шляхі!—Па адхону зямлі
Веснавую вадзіцу лілі.

Перабегла трава па вільготным пяску,
Пракувала зязюля ў ляску.
На каменчыках звонкі прысеў ручаёк
І замоўк... А чаму-ж ён замоўк?

Ад зары да зары, ад цямна да цямна
Калыхалася хмарак сьцяна.
Праліваліся буйна на зелень дажджы,
І гукалі русалкі: „Пажджы“!..

Многа ў шопатах хворых бяссэнсавых дрвін.
Я стаяў паміж хвоек адзін...
Чорным вугалем мазала зорка брыво
І ківала вятрам галавой.

Ў захапленьні я тварам халодным прыпаў
Да калосьсяў гарачых снапа—
А шляхамі вятры і вятрамі шляхі
Пацягалі салому з страхі.

На узвышшы адным пабудованы дом.
Над узвышшам—і стрэлы і гром...
На каменчыках звонкіх сядзіць ручаёк,
І зьбягае вадзіца ў лясок.

* * *

Я бачыў новую карыкатуру:
У зямлю устромлены штылет.
А навакол клясычнай авантуры
Падзел раскладзены газэт.

Чытаю я адну перадавую,
Другую, потым вестак груд...
Якую прыказку перакладу я
Абводам беларускіх рут?

Апошні нетактоўнай Польшчы танец
Ня вытрымаць, не пераяжыць...
Таварышы! Задаўлены паўстанец
Маркотай ходзіць на мяжы.

Варожы сьвет смарагды рэволюцый
На панскі возіць маскарад.
Таварышы! Ізноў дажджы пральлюцца,—
Сьвінцовых кропель вадаспад.

Я бачыў новую перасьцярогу:
Кінджал і чорная вада...
Мізэрнасьць вей ня сполах на дарогу,
Заходніх вёсак Грамада!

Хлусьлівы лад! Драпежныя працэсы...
Над імі більцы... ветрака.
Цярэбіць тор густым абводам лесу
Рэвалюцыйная рука.

* *
*

Пад соннай вярбою
Таемныя вочы гараць.
Мы пойдзем з табою.
Пралескі і ружы зьбіраць.

Збудуем мы ладам
З блакіту і зорак салаш.
Ля кветак пасядам
Пад шолах бярозавы наш.

Ты песьню сьпяеш мне
І казку раскажаш ты мне.
Я буду, канешне,
Тваім хараством паланець.

На смуглыя бровы
Насунеш ты белы каптур—
Прысьніцца дуброва,
І вуліц старых трубадур.

Мы нашу убачым
Такую вандроўную роль,
І ў смутку сабачым
Загубім апошні пароль...

А людзі спытаюць:
Адкуль мы з табой і куды—
Адкажам: з Кітаю!
І мала нам будзе бяды.

## М. Дубовік

* * *

Былі безьмяцежныя, ясныя дні,
з фантастыкай сноў-спадзяваньняў.
Вясковасьць засеяных радасьцю ніў
у сэрцы маім красавала.

Ішоў, любаваўся,—каханьне было,
было і нямала любімых...
Каханьне знасілася,—кінуў далоў,
і мяне
хто раней, хто пазьней разлюбілі.

Бясьпечнасьць мінула,
мінор ад'зьвінеў—
ці вымыслы гэта, ці былі?—
Прыходзіць халодны спакой да мяне,
як вусны тае,
што даўно разьлюбіла.

Ня знаю, ня знаю;
штодзень халадней
страчаю і змрок і сьвітаньне.
Ці вецер маёвы,
ці сыпле лістамі—
ні цёпла, ні холадна мне.

Як нейкі алхэмік начамі сяджу,
капаюся ў сэрцы,
у песьнях гадаю
на ўсё,
перажыў што калі ці адчуў,
што прайшло,
адышло што з гадамі.

І я не шкадую пяройдзеных дзён,
мне спадчынай іх успаміны
і спадчынай—тое другое жыцьцё,
што сёньня заву я любімай.

Любімую—праўда—цалую цяпер
ужо ня з былым захапленьнем,
але і каханьню ня дам праляцець,
разьбіцца ў дарожных каменьнях.
. . . . . . . . . . . . . . .

Спакойныя радасьці прыдуць яшчэ,
і песьні ўзьвіюцца ў прасторы.
Халоднага бляску любімых вачэй
хачу быць сягодня дастойным.

**Крапіва**

## Дэкрэт

— Здароў, Максім!
Забыўся, брат, на нас зусім.
Расказвай, што чуваць!
— Браточак, не магу.
— Ты мо' сюды адпачываць?
— Ды не,—бягу.
Я жду бяды з усіх бакоў.
— А што з табою? Можа не сакрэт?
— Ды ў цэнтры (чуў мо'?) выдалі дэкрэт,
Каб спакладаць усіх быкоў,
Якім мінула дзесяць год.
— Пастой... прысядзь ды вытры пот...
Дык ты-ж чаго падмазаў пяты?
— А мне ўжо, бачыш, дваццаць пяты,
Дык страх такі напаў,—ня ведаю, дзе дзецца.
— Не разумею я... То ты-ж ня бык, здаецца,
Прынамсі ня відаць ні капытоў, ні рог,
І не ўцякаць табе я моцна буду раіць.
— Ты маеш рацыю, аднак-жа на мясцох
Дэкрэты як у нас часамі разьбіраюць?
Не разьбяруцца, зловяць—чык,
Тыгды й даводзь, што ты ня бык.

А. І. Барычэўскі

# Сучаснае ў старажытным [1]

Перад маладою пролетарскаю культураю стаіць задача прыўла шчаньня і крытычнай ацэнкі спадчыны мінулых эпох. Асаблівую каштоўнасьць зьяўляюць помнікі мастацкага слова, з якіх даведваемся, што адчувалі, на што хварэлі душою, на што спадзяваліся, да чаго імкнуліся нашы як блізкія, так і далёкія продкі.

У Расіі гэта задача азнаямленьня з скарбамі сусьветнай літаратуры вырашаецца досыць упраўна: штогод зьяўляюцца новыя пераклады выдатнейшых пісьменьнікаў, пераклады, нярэдка выкананыя вельмі ўдала. Для беларускага-ж чытача гэта скарбніца яшчэ амаль зусім зачынена. А між тым для разьвіцьця беларускай культуры наогул вельмі важна ўзяцца за пераклады выдатнейшых твораў сусьветнай літаратуры.

У беларускай літаратуры ўжо ёсьць некаторыя пачатковыя спробы ў перакладах. Адным з высока-асьвечаных і ўлюбёных у сваю справу перакладчыкаў зьяўляецца Ю. Н. Дрэйзін. Але яго працы, за выключэньнем „Антыгоны“ Сафокля, выданай асобным выданьнем у кніжніцы „Маладняка“, з прычыны таго, што на гэтую важную сторану культурнай работы дасюль ня зьвернута належнай увагі, застаюцца ня выдадзенымі: такі лёс „Эдыпа цара“ Сафокля, „Бакханак“ Эўрыпіда, „Лізістраты“ Арыстофана, першай кнігі поэмы філёзофа-матарыялістага Люкрэцыя „Аб прыродзе рэчаў“. Ня выдрукавана таксама перакладзеная ім супольна з М. А. Грамыкам першая песьня „Одысэі“.

На прапанованых ніжэй балонах чытач знойдзе зроблены Ю. Н. Дрэйзіным пераклад урыўку з „Іліады“, таго урыўку, які лічыцца лепшай пэрлай у славутай грэцкай поэме,—сцэна разьвітаньня Гэктара з жонкаю Андромахай. Гэты ўрывак, перакласьці які аўтар гэтых радкоў параіў Ю. Н. Дрэйзіну, спаткаўшыся аднойчы з ім, засмучоным ад таго, што яго пераклады ляжаць у яго ў пісьмовым стале без карысьці для грамадзтва, зьяўляецца цалком закончанай карцінай і датычыць тэмы, якая для нас, што вядуць барацьбу супроць новых войнаў, якія рыхтуюцца імпэрыялізмам, асабліва блізкая.

Гомэр, як вядома, заўсёды захоўвае эпічны спакой і застаецца ў межах конкрэтных зьяў: ён толькі выяўляе жыцьцё, не даючы ніякіх сваіх абагульненьняў і высноваў. Але яго выяўленьні няшчасьцяў

---

[1]) Эпізодычна зьмяшчаючы на балонах свае часопісі пераклады з іншакраёвых моваў (гл. пераклады Ул Дубоўкі з літоўскае і цюрскае—Узвышша №№ 2, 4 за 1927 г., а таксама і ў гэтым нумары Ул. Жылкі з чэскае і францускай—№№ 2, 3; А. Дудара з нямецкае—№ 2; Крапівы з украінскае і польскай—№ 6; а таксама агульныя артыкулы пра іншакраёвыя літаратуры амаль праз усе №№ часопісі) і ў тым-жа парадку даючы месца ўзору перакладу з стара-грэцкае, зробленага Ю. Дрэйзіным, з увагаю да яго А. І. Барычэўскага, рэдакцыя лічыць сваечасовым узьняцьце і пастаноўку пытаньня аб організацыі перакладаў і выданьня ўзораў сусьветнай літаратуры ў беларускай мове. Каб гэта пытаньне магло знайсьці свае ўпраўнае вырашэньне і ажыцьцяўленьне, рэдакцыя прасіла-б сваіх чытачоў выказаць свае думкі, што да перакладаў наогул, а ў прыватнасьці і да тых спробаў іх, што ўжо ёсьць у беларускай літаратуры, так і свае меркаваньні наконт організацыі іх выданьня.

*Рэдакцыя.*

вайны—гора Ахіла, які страціў свайго лепшага сябра Патрокла, Гэктара, які разлучаецца з сваёю сям'ёю, старога Прыама, што ўпрошвае аддаць яму труп дарагога сына—прасякнуты глыбокаю людзкасьцю і незалежна ад аўтара ня могуць ня дзейнічаць на сучаснага чытача агітацыйна, яшчэ раз паказваючы ў мастацкіх вобразах канечную патрэбу палажыць канец войнам, канец, які надыйдзе толькі ў будучым бесклясавым грамадзтве.

Любоў, што рупатліва ўзрошчвае і кунежыць чалавечыя жыткі, і вайна, што бязьлітасна іх разбурае, выяўлены Гомэрам у іх узаемным адмаўленьні і поўнай нязьміранасьці. Глыбокая ўпэўненасьць Гэктара і Андромахі, што ім ня суджана больш спаткацца, робіць іх разьвітаньне асабліва цяжкім. Выкліканы глыбокім болем, хоць і несправядлівы дакор Андромахі ў тым, што ён, адыходзячы на поле бойкі, не шкадуе яе і сына, яе просьба застацца за моцнаю сьцяною, „каб не зрабіць сіратою сыночка, а жонку ўдавою", выклікае ў Гэктара, які хоць і адхіляе гэту просьбу, прызнаньне, што, ідучы ў бойку, з якое ён наўрад ці вернецца, ён больш за ўсё аклапочаны лёсам яе, Андрамахі. Як яна ня ўтаіла свае думкі аб яго нямінучай загубе, так і ён ня ўтойвае сваіх горкіх дум пра яе сумную і няслаўную долю пасьля яго сьмерці. На гэтую сцэну разьвітаньня, поўнага ўзрушальнай шчырасьці, незганьбенага ніводным словам нікчэмнага і фальшывага пацяшэньня, падае толькі адзін прамень сьвятла, што выходзіць ад дзіцяці, іх сына „прыгожага, як зорка". Выгляд яго выклікае ў маці нават у гэту беспацешную хвіліну міжвольную ўсьмешку праз сьлёзы; для яго здымае Гэктар шолам, што спужаў дзіця сваім злавесным бляскам,—гэты атрыбут і сымболь вайны, і дазваляе нам, чытачом, угледзець за суворым воблікам воя аблічча пяшчотнага бацькі. Малюнак вялікай людзкасьці, стварэньне мастацтва, перад якім раступіліся вякі!

Мернаму руху вобразаў адпавядае рух вершу. Ня лірычныя кароткія плёскі ручаёў, ня мітусьліва-імклівыя струмені вадаспадаў чуюцца ў ім: не, гэта магутныя і вялічныя хвалі таго вялікага старажытнага мора, з шумавіньня якога, згодна міта, нарадзілася багіня красы Афродыта, а разам з ёю і культура, аддаленымі нашчадкамі якое мы зьяўляемся. Прыслухаймася да сьпеву гэтых, што йдуць з глыбінь вякоў, хваль.

# Разьвітаньне Гэктара з Андромахай

## Іліада VI, 390—496.

*Памяці дачушкі мае нябожчыцы Жэні.* **Ю. Д.**

...Гэктар, вышаўшы борзда з палацу,
Шляхам ранейшым пайшоў па брукованых вуліцах Трої.
А як да брамы наблізіўся, горад вялікі прайшоўшы,
Скейскае брамы, адкуль на раўніну павінен быў выйсьці,
Тут, бягучы напярэймы, сустрэла яго Андромаха,
Жонка з багатым пасагам, дачка Гэціона—гэроя.
Той Гэціон жыў калісьці пад Плякам, гарою лясістай,
Ў Тэбе Плякійскай, і быў ‘ладаром кілікійцаў адважных.
Вось-жа з дачкой яго Гэктар пабраўся медзяна-шаломны.
Мужа яна тут сустрэла, і разам ішла з ёю служка
І да грудзей прытуляла пяшчотна дзіцятка малое,
Гэктара любага сына. Бы зорка, прыгожы быў хлопчык.
Бацька Скамандрым[1]) яго менаваў, а ўсе іншыя звалі
Астыянактам, бо Гэктар адным абаронцам быў Трої
Моўчкі глядзеў на сыночка з усьмешкаю ласкавай бацька.
А Андромаха бліжэй падыйшла, праліваючы сьлёзы,
Мужа ўзяла за руку і гэткае слова сказала:
„Муства загубіць цябе, мой гаротны. Ты не шкадуеш
Сына-дзіцяткі і жонкі бяздольнае. Хутка ўдавою
Буду тваёй я, бо хутка цябе ўжо заб‘юць там ахейцы[2]),
Разам напаўшы усе. А калі мець цябе я ня буду,
Легчы ў магілу мне лепей тады, бо ня будзе мне болей
Шчасьця ў жыцьці, як сьмяротнаму лёсу ты пойдзеш насустрач,
Горанька-ж толькі. Ня маю я бацькі, ня маю і маткі.
Бацьку майго Ахілес[3]) богароўны забіў, кілікійцаў
Горад прыгожы і людны калі зруйнаваў ён дашчэнту,
Высакабрамную Тэбу. Ды, Гэціона забіўшы,
Зброі з яго ён ня зьняў[4]), бо ў душы да яго меў пашану,
Але спаліў яго цела са зброяю пышнаю разам.
Потым насыпаў курган. А навокал вязоў насадзілі
Горныя німфы, Зэўса[5]) эгідатрымацеля дочкі.
Родных было у мяне сем братоў у палацы вялікім,
Разам зыйшлі ўсе яны ў дзень адзіны ў Гадэс[6]) падземны,
Разам усіх шпарканогі забіў Ахілес богароўны

---

[1]) Скамандры—ад імя траянскае ракі Скамандра. Астыянакт—ад слоў astu—горад і anax (род. скл. anactos—уладар).

[2]) Ахейцы—грэкі.

[3]) Ахілес—галоўны гэрой грэкаў пад Трояй. Ён і забіў потым Гэктара.

[4]) Гомэраўскія гэрої біліся ў паядынках. Пераможца зьнімаў з забітага ворага зброю (вельмі каштоўную ў тыя часы), а цела яго кідаў сабакам і драпежным птахам.

[5]) Зэўс—галоўнае боства грэкаў, „бацька багоў і людзей“, бог пяруноў і маланак. Эгіда—казіная скура, сымболь сілы і ўлады Зэўса.

[6]) Гадэс—падземнае царства, дзе жывуць душы памершых. Пагнаць чалавека ў Гадэс—значыць забіць яго.

Ў полі паміж крываходных[1]) быкоў і авец беларунных.
Матку-ж, якая калісь панавала пад Плякам лясістым,
Разам з здабычаю іншай сюды ён спачатку прывёў быў,
Але дамоў адпусьціў неўзабаве за выкуп бязьмерны.
Ў бацькавым доме забіла яе Артэміда[2]) стралою.
Гэктар, ты-ж бацька цяпер мой, а разам і маці—ўладарка,
Разам і родны браток, ды разам і муж мой прыгожы.
Дык пашкадуй ты мяне і застанься са мною на вежы,
Каб не зрабіць сіратою сыночка, а жонку ўдавою.
Войска сваё ты пастаў ля смакоўніцы, дзе найлягчэйшы
Подступ да гораду ёсьць, на сьцяну найлягчэй дзе узьлезьці.
Тройчы ў тым месцы ўзыйсьці прабавалі найлепшыя воі,
Што за Аянтамі двома, за ўслаўленым Ідомэнэем,
І за Атрыдамі йшлі, і за сынам магутным Тыдэя[3]).
Мо‘ варажбіт паказаў ім які-небудзь гэтае месца,
Ці накіроўвала ўласнае сэрца туды іх і гнала“.
І адказаў ёй Гэктар вялікі ў бліскучым шаломе:
„Жонка, турбуе таксама й мяне гэта ўсё, але сорам
Перад траянцамі мне і траянкамі ў вопратках доўгіх
Так уцякаць ад баёў, бы боязкі нейкі няздара.
Сэрца мне так не дазволіць, бо сьмелым я быць прывучыўся
Заўжды і ў бойках з траянцамі першымі біцца супольна,
Бацьку свайму дый самому сабе набываючы славу.
Добра я ведаю гэта і думкай сваёю і сэрцам:
Прыдзе некалі дзень, і загіне магутная Троя,
З ёю загіне Прыям і народ дзіданосца Прыяма[4]).
Але ня столькі клапоціць мяне лёс наступны траянцаў,
Лёс нават маці Гэкубы і бацькі Прыяма старога,
Як і адважных братоў ‘сіх маіх, што ў ліку вялікім
Мёртвыя ў прах упадуць пад мячамі ваякаў варожых,
Колькі сама ты, якую ахеец ў броні медзянай
Ў злую няволю пагоніць, ты-ж ліць будзеш горкія сьлёзы,
Будзеш ты ў Аргосе[5]) ткаці на кроснах для іншай жанчыны,
Будзеш ваду ты насіці з Мэсэіса ці Гіпэрэі[6]),
Волі насупроць сваёй, але злая няволя прымусіць.
Скажа хто-небудзь тады, як убачыць, што плачаш ты горка:
„Жонка вунь Гэктара. Быў ён найлепшы між коньнікаў—троян
У бойках зацятых, што некалі йшлі навакол Іліону“[7]).
Скажа вось гэтак і ў сэрцы тваім павялічыць цярпеньне,
Гора аб мужу адважным, што вызваліць мог-бы з няволі.
Але раней хай памру я, курган перш мяне хай накрые,
Чымся пачую твой енк, як цябе у няволю пацягнуць“.
Скончыў і рукі свае да сыночка працягвае Гэктар.
Але сынок да грудзей прыгожа апранутай мамкі
З крыкам адкінуўся ўзад, бо спалохаўся выгляду бацькі.
Медзі бліскучай страхаўся дзіцёнак і конскае грывы,

---

[1]) Eilipodessi—якія перастаўляюць ногі наперад не па простай лініі, а па крывой, робячы капытом фігуру на ўзор дужкі.

[2]) Артэміда—багіня месяцу, паляваньня і дзявоцтва.

[3]) Два Аянты (сын Тэлямона і сын Оілея), Ідомэней, Атрыды (сыны Атрэя) Агамэмнон і Мэнэляй і сын Тыдэя Дыамэд - правадыры грэкаў пад Трояй.

[4]) Прыям—уладар Трої, бацька Гэктара.

[5]) Аргос—уладарства Агамэмнона, галоўнага правадыра грэкаў пад Трояй.

[6]) Крыніцы ў Аргосе.

[7]) Іліон—другі назоў Трої.

Што над шаломам страшэнна хісталася бацькі-гэроя.
І ўсьміхнуліся бацька каханы і родная маці.
Зьняў безадкладна шалом з галавы свае Гэктар бліскучы,
І на зямлю палажыў той шалом, і зьзяньне з шалома лілося.
Любага потым цалуе сынка, на руках калыхае
І да Зэвэса і іншых багоў ён з малітваю кажа:
„Зэўс і багі несьмяротныя, дайце, каб гэты мой хлопчык,
Роўна як бацька яго, найслаўнейшы з траянцаў зрабіўся,
Каб ён магутны ўзрос і цьвёрда у Троі ўладарыў.
Хай-жа гавораць аб ім, якісьці будзе з бою дадому:
„Бацьку ён шмат перавысіў“. Хай ворага броню, крывёю
Усю залітую, нясе ён, і маці хай цешыцца сэрцам“.
Так загадаўшы, аддаў ён на рукі каханае жонкі
Сына свайго, а яна да грудзей прытуліла дзіцятка
І ўсьміхнулася ў сьлёзах. Шкада жонкі Гэктару стала.
Жонку рукой прыгалубіў і гэткае слова прамовіў:
„Сэрцам, гаротная, ты ня сумуй так занадта балюча,
Лёсу насупроць сьмяротны мяне не пагоніць у Гадэс,
Лёсу-ж свайго ня унікнуў, кажу я, ніводны з сьмяротных
Ні палахлівы, ні сьмелы, ледзь толькі на сьвет нарадзіўся.
Але да хаты ідзі і справы жаночыя ведай,
Кросны і прасьніцу, разам і служкам дамовым загадвай,
Працу сваю каб рабілі. Вайна-ж будзе клопатам цяжкім
Усім нам мужчынам, найболей-жа мне, ў Іліоне раджоным“.
Гэтак сказаў ён, і з конскаю грывай шалом свой на голаў
Гэктар бліскучы ўзлажыў. І дадому пайшла яго жонка,
Усё азіралася ўзад, а сьлёзы струменем ліліся.

Пераклаў з старагрэцкае мовы. **Ю. Дрэйзін**

**Ант. Адамовіч**

# Максім Гарэцкі [1]

## VII

Сьледам за „Руньню“ ідзе і непасярэдня да яе прымыкае драматычная аповесьць ці, як сам аўтар яе называе—„абразы жыцьця“, „Антон“. Гэта—першы вялікі памерам твор ня толькі ў творчасьці Максіма Гарэцкага, але і ўва ўсёй беларускай літаратуры наагул[2]). Асноўным сваім фонам ён мае распаўсюджаную соцыяльна-бытавую зьяву беларускае вёскі—п'янства, алькоголізм. Гэтым дадзены твор цесна зьвязуецца з разгледжаным ужо намі драматычным абразком „Атрута“ з папярэдняга зборніка „Рунь“ (гл. разьдзел II дадзенае монографіі); можна заўважыць яшчэ, што паміж гэтымі двума творамі існуе і пэўная ды цесная формальная сувязь, пра што ў сваім месцы. Фактычна, „абразы жыцьця“, дадзеныя ў „Антоне“, выяўляюць з сябе ня што іншае, як шырока-разгорнены, яшчэ больш трагічна-напруджаны і псыхолёгічна-надзіўлены „кароткі жалобны абразок“ „Атруты“. Мала таго, у гэты асноўны фон „Антона“ уваходзяць і элемэнты тых соцыяльных. „праклятых“ і нават часткова нацыянальных пытаньняў, якія адыгрывалі, як бачылі мы, вялікую ролю ў тэматыцы „Руні“. Пры гэтым трэба адзначыць і тое, што галоўны націск у гэтых пытаньнях і ў „Антоне“ прыпадае на надзённыя, як мы казалі, для таго часу „праклятыя“ пытаньні, чым „Антон“ яшчэ больш зьвязуецца з „Руньню“. Адно слова, вобразна кажучы, „Антон“—гэта першы буйны колас, які дала „Рунь“.

Тэмаю „Антона“ зьяўляецца войстра-колізійнае стыкненьне з кагадзе згаданым асноўным фонам аповесьці яе галоўнага гэроя, які сам вырас і ўзгадаваўся ў абстаноўцы гэтага фону, стыкненьне з трагічна-катастрофічнымі вынікамі. Завяршэньнем гэтае тэмы зьяўляецца ацэнка прычын, абставін і вынікаў, як асноўнага фону, гэтак і згаданага стыкненьня.

Такая ў асноўных рысах тэматычная схэма „Антона“. Тры галоўныя моманты яе, якія коратка можна назваць фонам, стыкненьнем з фонам і ацэнкаю палажэньня, абумоўліваюць і вядзеньне аўтарам самое аповесьці ў трох плянах, у межах якіх дзеюць паасобныя гэрої аповесьці. Так, галоўным гэроем першага, падваліннага, так сказаць, пляну—пляну „фону“, зьяўляецца стары лясьнік; такім-жа гэроем другога асноўнага пляну- пляну „стыкненьня з фонам“ выступае ягоны сын, галоўны гэрой усяе аповесьці „Антон“; галоўным гэроем трэцяга, завяршальнага, „ацэначнага“ пляну зьяўляецца „Беларускі Аўтар“. Галоўныя гэрої кожнага пляну вядуць і адпаведную інтрыгу ў гэтым пляне. Так, у пляне „фону“ маем дробную, пабочную, але ў самым-жа пачатку аповесьці моцна завязаную інтрыгу выпадку з „дубкамі“, інтрыгу між Аўтухом, Іцкам Броўдам і Міронам Блошкам; у другім пляне маем галоўную, згадваную ўжо, інтрыгу стыкненьня з фонам; у

---

1) Гл. „Узвышша“ №№ 1 (7) і 2 (8) за 1928 г.

2) „Антон“ быў напісаны ў 1914 г. (дакладная дата—22 II) пасьля чаго, паляжаўшы ў рэдакцыі „Нашае Ні ы“ да 1918 г., быў выдрукаваны без аўтаравага ведама ў віленскай газэце „Гоман“ і выпушчаны ў 1919 г. асобным выданьнем.

трэцім – інтрыгу спрэчкі пра беларускую літаратуру між „Беларускім Аўтарам“, „Польскім Публіцыстым“ і „Маскоўскім Дэмакратам“. Другі плян, зьяўляючыся галоўным, накладаецца на першы, „падвалінны“, пераплятаючыся з ім; трэці, ацэначны плян накладаецца на два першыя як-бы ў выглядзе „шапкі“. Другарадныя і шматлічныя эпізодычныя гэроі або дзеюць у межах паасобных плянаў (як, прыкладам, лясьнік Панас і Мірон Блошка ў межах першага, дзед Кузьма і эпізодычны Дзёмка ў межах другога, доктар у межах трэцяга), або ў межах розных плянаў ці зусім па-за плянамі (Паня, Клава, большасьць эпізодычных гэрояў). Разгледзім-жа цяпер кожны плян і ягоных гэрояў паасобку.

Пабочная інтрыга першага пляну, як мы казалі ўжо, завязваецца ў пачатку аповесьці, перад галоўнаю інтрыгаю, менавіта у другім разьдзеле, калі п‘яны лясьнік Аўтух прадае ці, праўдзівей кажучы, дазваляе ўкрасьці дубкі з панскага лесу „хлебнаму і пяньковаму купцу, ягомасьцю Іцку Броўду“. У далейшым гэтая інтрыга зусім хаваецца ў аповесьці, і толькі з слоў Аўтуха ў XIII разьдзеле мы даведваемся пра яе разьвязку, якая, побач з разьвязкаю інтрыгі галоўнага пляну, зрабіла вялікі ўплыў на лёс, палажэньне і самаадчуваньне Аўтуха. Гэтаю разьвязкаю дадзеная інтрыга, галоўным чынам, і важна ў першым пляне аповесьці; наагул-жа яна займае ў ім другараднае месца. Галоўную ролю ў першым пляне адыгрывае сам Аўтух.

Аўтух выступае ў самым пачатку „Антона“, яшчэ раней нават за згаданую інтрыгу першага пляну, і адразу-ж выяўляе перад чытачом сваю соцыяльную існасьць. Лясьнік паводля свайго палажэньня, ён зьяўляецца таксама своеасаблівым сялянскім выхадцам, ці, праўдзівей кажучы, мае моцныя тэндэнцыі да такога выхадзтва. „Своеасаблівым выхадцам“ яго трэба назваць таму, што ягонае выхадзтва ня мае нічога супольнага з тым выхадзтвам, з якім ужо нам даводзілася мець дачыненьне ў папярэднім. Гэта—выхадзтва „ў людзі“ ува ўсім банальным, так сказаць, сэнсе гэтага выразу, выхадзтва „у паны“, калі больш конкрэтызаваць асноўную накіраванасьць яго, гэта тое выхадзтва, за якое Аўтуху прышчапляецца сялянамі справядлівая, заслужоная ім, мянушка „панскі сабака“ (дарэчы сказаць, вядомая ўжо нам з разгледжанага ў II разьдзеле монографіі невялічкага апавяданьня зборніка „Рунь“—„У панскім лесе“, дзе гэтая мянушка таксама прыстасоўваецца да лясьніка). Гэтае выхадзтва надае яму асаблівага „лясьнікоўскага гонару“. „Ня знаеш ты Аўтуховай галавы, о-о-ох не зна-еш!“—кажа ён Іцку Броўду—„Я ўсё віджу!.. Ты ведаеш, як я з панамі гавару? Не раўнуючы, як з табою ці з ім. О-го! Паны, брат, за тое мяне любяць і даражаць мною, што я знаю абхаджэньне“[1]). Гэты „лясьнікоўскі гонар“ выступае і падкрэсьліваецца Аўтухом усюды, праяўляючыся ў дачыненьні да сялян, якіх ён называе „мужыкамі, хамуйламі“. З другога-ж боку, у дачыненьні да паноў гэты гонар зьмяняецца на самае нізкае падхалімства, якое праяўляецца пры першым-жа выступленьні Аўтуха ў I разьдзеле аповесьці (гаворка з паняю) і зусім апраўдавае кагадзе згаданую мянушку яго. Гэтае падхалімства ўзмацняецца яшчэ й тым, што Аўтух зусім не адмаўляецца ад гэтае мянушкі, стараючыся толькі распаўсюдзіць яе на ўсіх сялян: „Га... усі мы панскія сабакі“. Такім чынам, Аўтухова падхалімства, якое прыводзіць яго да прыраўнаваньня сябе з сялянамі, ад якіх ён сваім „лясьнікоўскім гонарам“ адпіхаецца, зьнішчае зусім гэты гонар. Праўда,

[1]) Гл. „Антон“, ст. 12.

гэтае прыраўнаваньне Аўтух стараецца апраўдаць ізноў такі пры дапамозе свайго гонару. „Я ўсё знаю... На зямлі жывеш—калі ладна, дык усё ладна, у лясьнікі пайшоў—калі разумны, дык ня будзеш дурнем бяз хлеба. Ат, што там. Я ў лясьнікох служу, а пад бацькінымі абразамі хлеб-соль ем“ [1]), кажа ён другому лясьніку Панасу, які зусім адмоўна-пагардліва глядзіць на сялянскую працу на зямлі і на самых сялян, строючы кепікі з іхнага трыманьня за гэтыя самыя „бацькіны абразы“.

Найбольш-жа Аўтухова „выхадзтва“ праяўляецца ў ягоных ідэялах, якія ён меў у дачыненьні да свайго сына Антона, хоць ім і ня прыйшлося зьдзейсьніцца дзякуючы „няўдаласьці“, з Аўтуховага пункту гледжаньня, самога Антона. Гэтых ідэялаў два: мінімальны, які выцякае з успамінанага „лясьнікоўскага гонару“ Аўтуха і выражаецца ім у набліжэньні да ўласнай асобы, і максымальны, які больш набліжаецца да Аўтуховага падхалімства і выражаецца ў палажэньні лёкая, якога Аўтух дужа хацеў свайму „няўдаламу“ сыну. „Я ўсё знаю—гаворыць ён на свой улюбёны лейт-матыў—„каб-ткі мой сын задаўся ладны... (Паднімаець голас). Я—лясьнік, я - лясьнік, а яго-б, на чом-бы ні стаў, у лакеі-б яго вывеў... Ага! О, каб майму Антону хацця палавіна таго, што ў маёй галаве...“ [2]) і ў другім месцы: „Ну, даў бог сынка, га... Хоць-бы-ж палавіну бацькінага меў у галаве, хоць-бы палавіну... А я гадаў: у лакеі выведу... Куды з дурнем паткнешся? А вывеў-ба,—паны мяне любяць і даражаць мною...“ [3]). Крах гэтых ідэялаў і зьяўляўся, мабыць, аднэю з прычын таго страшэннага п'янства, у якім захлынаецца Аўтух. Але тут ужо мы пераходзім да разгляду яго, як носьбіта таго фону аповесьці, пра які гаварылася ў пачатку гэтага разьдзелу, як гэроя першага пляну яе ў вузкім сэнсе.

Погляд Аўтуха на гарэлку нічым не адрозьніваецца ад звычайнага погляду сялян на яе, і толькі падкрэсьліваецца ноткамі „лясьнікоўскага гонару“. „Дурню выпіўка—шчасьце вялікае. Не-е, ты пі, ды галаву мей на плячох. Праўда, Іцка? Прапіў калі Аўтух галаву? Я п'ю, ды дзела разумею. затое мяне і паны любяць і даражаць мною“ [4]). Аднак, гэта не замінае яму суздром выпраўдаць словы Іцкі Броўды, што „агой за гарэлку і родную матку аддасьць“ і, увязаўшыся ў згадваную ўжо інтрыгу першага пляну, згубіць нават сваё месца ў пані, дайшоўшы літаральна да старэцкае торбы. Прычыны свайго нахілу да гарэлкі Аўтух бачыць у нудзе: „А што ты мне: „Ня пі, ня пі...“ А калі мяне нуда заядаець, калі я ня ведаю тады, за што мне ўзяцца, рукі вянуць, а вып'ю—забываюся на яе, праклятую...“ і крышку далей: „... У лясу я адзін, бяз людзей, дык мне спакою даволі, мне спакайней, сэрца ня рвець сын дурнаваты і суседцы добрыя. Я п'ю дык мяне нуда ня гложыць. А я не магу... Адзінота... Трэба выпіць дзеля здароўя, дзеля вясёласьці...“. [5]) Прычыны-ж гэтае нуды, як бачым, зьмяшчаюцца ў адзіноце, адчужанасьці ад сына і людзей, створанай Аўтуховым палажэньнем „панскага сабакі“. Тут-жа можна ўгледзець і глухое, праўда, успамінаньне пра тую прычыну, пра якую кагадзе згадвалася, як пра крах ідэялаў у дачыненьні да сына.

Апрача гэтых соцыяльна-бытавых элемэнтаў „фону“ аповесьці, у Аўтуху суасяроджваецца і некаторы элемэнт „праклятых“ пытаньняў.

[1]) Гл. „Антон“, ст. 42.
[2]) Там-жа, ст. 18.
[3]) Там-жа, ст. 46.
[4]) Там-жа, ст. 13.
[5]) Там-жа, ст. 48.

Так, ня гледзячы на сваю адвечную прымаўку „я ўсё знаю“, Аўтух адказвае на Антонава асуджэньне чараўніцтва: „А ўсё-ж ткі грэх, калі ён у загаворах да іх моліцца, грэх... Няма грэху, калі бог памінаецца, сьвятыя, Цар Давід... А так-то грэх“, нядбайна-агностычным: „Ат! Што мы ведаем“ [1]), а ў другім месцы выказвае такі погляд на царкву і гэтае самае чараўніцтва: „... там (у царкве. А. А.) не малітва, яго [2]) толькі пацяшаюць.. Сьмяюцца, шэпчуцца, а ён сядзіць сабе на сьценцы ды на валовую шкуру грахі пішаць... Га-а, шальмоўства. Я за асець пайду маліцца, чараўніком няхай завуць... Каб я ўмеў чараваць, я падчараваў-бы вам“ [3]). Імкненьне свайго сына Антона да царквы і да ўсяго „маліцьвеннага“ ён войстра асуджае, бачачы ў гэтым нават прычыну сыновай „дуроты“.

Такім выглядае Аўтух, як галоўны гэрой першага пляну апосьці. Да некаторых рыс яго нам яшчэ прыдзецца зьвярнуцца пры разглядзе другога пляну, здарэньні якога, у спалучэньні з згадванымі ўжо здарэньнямі інтрыгі першага пляну, прыводзіць яго да старэцтва, у стане якога мы, для паўнаты і завяршэньня характарыстыкі, яшчэ павінны на ім спыніцца. Ужо па самой надворнай характарыстыцы, якую дае аўтар Аўтуху ў гэтым пэрыодзе, можна бачыць, якія зьмены ўнесла ў яго жыцьцё згадванымі здарэньнямі—„А не пазнаць Аўтуха, быццам падрос, павышэў, хоць і сагнуўся пад белым хатылём; вочы глыбей уваліліся, валасы адрасьлі, але сам, увесь, нейкі чысьцейшы стаў...[4]). І гэтае „пачысьценьне“ супраўды адчуваецца ўва ўсёй натуры Аўтуха: відаць яно і ў шчырай ягонай маліцьвеннасьці, у нейкай новай, нязвычайнай для Аўтуховага „лясьнікоўскага гонару“, хрысьціянскай пакорнасьці. Праўда, некаторыя згукі гэтага гонару яшчэ адчуваюцца ў тым, што Аўтух аніяк ня хоча прызнаць сябе „старцам“ ды імкнецца выбрацца з гэтага, прыкрыга яму, палажэньня: „Ня думай, Ходка, мы ня старцы, мы сваю зямлю маем, хоць... аддаджана наўсёды мусіць... у арэнду... бо грошы... затое Аўтух даўгоў ня маець... Я сады ў шляхціца буду сьцярэжч, ты пойдзеш грады палоць... Мы ня старцы. А што зайдзем пераначаваць, капусты ў людзей сербанём—на тое мы людзі, на тое мы хрысьціяне...“ [5]). Мала таго, у ягоным голасе яшчэ чуюцца ноткі ранейшае расчараванасьці ў сваіх ідэялах, якія ён паьзней перанёс быў і на сваю ўнучку Ходу: „Відаць ня суджона табе ў панох жыць... Эх! думаў я, што выйдзе з цябе хоцьпакаёўка добрая—не!“ [6]) і крыху далей: „А не задалося сынка вывесьць у людзі, каб іншы розум, ці бог яго ведае, чаго яму не хапала, лакеем быў-ба, а так... Ой... І дачушка ў бацьку... не патрапіла сярод паноў жыць...“ [7]). Але ўжо ў самым тоне гэтага выказваньня адразу заўважаецца нейкае пагаджэньне, пакорная абыякавасьць да таго, што гэтыя ідэялы ня зьдзейсьніліся: „мусіць так лепі“, „Няхай усё роўна...“ Затое зусім зьмяніліся ягоныя погляды на паноў, прынёсшы яму поўную расчараванасьць у гэтых апошніх: „А паня—хай ёй бог аддасьць, як радзеў ёй, вераю-праўдаю, сваё губіў, а панскае пільнаваў, а яна мяне са службы далоў... Хай ёй бог аддасьць...“ [8]). Расчараванасьць гэтая пашыраецца, Аўтухом і на тых „маёншчыкаў“, дзякуючы якім ён, галоўным чынам

---

1) Гл. „Антон“, ст. 58.
2) „Нячысьціка“ (зноска аўтара А А.).
3) Гл. „Антон“, ст. 48.
4) Там-жа, ст. 116.
5) Там-жа, ст. 122.
6) Там-жа, ст. 119.
7) Там-жа, ст. 121.
8) Там-жа, ст. 120.

і згубіў сваё месца: „І Броўда сканаець... нахапаець панскіх лясоў, нажарэцца мужыцкай крыві, дый лопнуць яго лантухі...“, а праз іх і на жыдоў наагул: „Толькі к жыдом у батрачкі не аддам“—кажа ён да Ходы—„Канаць буду, не аддам! Каб яны кпілі з мужыка, каб яны агоем звалі“ [1]). Праўда, на „бунтаўшчыкоў“-сялян у Аўтуха засталіся старыя погляды, што, зрэшта, зусім гармонюе з ягонай новай пакорнасьцю. „Я-ж не пайшоў абору падпаліваць, як той бунтаўшчык, дэмократ Мяхвод...“ кажа ён і далей называе гэтых „бунтаўшчыкоў“ дурнямі. Такім чынам, можна выразна бачыць, што новае социяльнае палажэньне Аўтуха зьмяніла зусім і ягоную социяльную існасьць, пакінуўшы старое толькі як, так сказаць, атавістычныя перажыткі.

Сьледам за Аўтухом ідзе другарадны гэрой першага пляну, таксама лясьнік, Панас, пра якога нам ужо даводзілася раз успамінаць. Соцыяльная існасьць яго зусім тоесама соцыяльнай існасьці Аўтуха і выражана ў концэнтраваным выглядзе ў самых-жа першых ягоных словах: „Вот і сядзі на зямлі. А што мне твая зямля, калі я лепшы хлеб знайду? Зямля працу любіць, а праца дурня любіць, і як ня было мужыцкага царства, так яго й ня будзець...“ [2]). У далейшым ён, больш разьвівае гэтыя погляды, параўноўваючы сваё лясьнікоўскае палажэньне з сялянскім палажэньнем свайго брата. Тут ён выказвае і тоесамы Аўтуховаму погляд на паноў і „панскіх сабак“ („Мой дзед нябожчык, ён-жа быў шляхціц, не абы які, а й то за хартоўняй даглядаў у вяльможнага Вішнявецкага; ён за харта душу-б аддаў, любіў. Так і лясьнік“ [3]): і тое-ж прыраўнаваньне сябе да селяніна) („Такі-ж я бедны чалавек, як і ты, няхай сабе ты мужык, няхай сабе дзед мой даглядаў хартоўню ў вяльможнага Вішнявецкага) і той-жа „лясьнікоўскі гонар“, які, як бачым з папярэдняга, мае ў яго грунт яшчэ ў шляхоцтве дзеда („Лясьнік—адно: розум мей... Не-е, падажджы-ка шчэ ты такіх лясьнікоў, як Панас Хартоўня, альбо дзядзька Аўтух“).

Нарэшце, трэцім, самым крайнім і яскравым гэроем першага пляну, хоць і эпізодычным, зьяўляецца селянін Мірон Блошка, „з чорнаю кудлатаю галавою і войстраю, клінком, рыжаю бародкаю; ён удушлівы, хрыпіць, такі мізэрны, а п‘яніца горкая“ [4]), як характарызуе яго сам аўтар. І супраўды, гэтая мізэрнасьць, нікчэмнасьць Мірона Блошкі адчуваецца ўва ўсім ягоным, пачынаючы ад самога прозьвішча. Асабліва яскрава выражаецца яна ў нейкай абезасобленасьці Мірона, у тым, пра што кажа Шахцёр, назваўшы яго „чужою душою“. Праўда, калі ён кажа ў адным месцы „Ты—шахцёр, я—Мірон, ён—лясьнік, той—жыд...“ [5]), вызначаючы сваё імя, як адзіную сваю прыналежнасьць можа здасца нават, што ён высока і незалежна ставіць сваю асобу. Адылі-ж, ува ўсёй ягонай „гарэлачнай“, так сказаць, філёзофіі моцна адчуваецца гэтая абезасобленасьць. „Мужыцкая галава на ўсякія рыхмецікі, крутню-матню,—слабая. Хай яно згарыць,—пісаць ды лічыць, ці-ж гэта работа?--а я табе лепі асець жыта змалачу, а чымся драбязу якую зьлічыць, галаву ўсушаць. Гэта не гарэлку піць, а на гарэлку таксама са слабой галавой схавайся“ [6]),—вось галоўнае палажэньне ягонае філёзофіі, у якім яскрава відаць і той грунт—п‘янства, на якім паўстала Міронава абезасобленасьць.

---

1) Гл. „Антон“, ст. 121.
2) Там-жа, ст. 41.
3) Там-жа, ст. 42.
4) Там-жа, ст. 11.
5) Там-жа, ст. 16.
6) Там-жа, ст. 17.

Апрача гэтых другарадных гэрояў, у „Антоне“ выступае ў ролі гэроя першага пляну сялянская маса. Асабліва характэрна ў гэтым дачыненьні гутарка двох дзядоў—„Адзін. Э, каб мы так пілі, як нашы дзяды-прадзеды, сьвятыя радзіцелькі, няхай сьвяты ляжаць... не хварэлі-б мы так ды па сто гадоў жылі... Другі. Бог жа ведае... ці мы, цёмныя людзі, можам што разумець. Няхай бог прасьціць грэху, як ня выпіць“ [1]).

Па-за гэтым усе разгляджаныя гэроі ўступаюць у другі плян аповесьці.

(Працяг будзе).

[1]) Гл. „Антон“, ст. 25.

Ул. Дзяржынскі

# Да пытаньня аб псыхолёгічным стылі нашаніўскае поэзіі [1])

Ад пэўнага часу мяне цікавіць проблема псыхолёгічнага, калі можна так выразіцца, стылю або эмоцыянальнага характару беларускае нашаніўскае поэзіі. Зацікавіла мяне гэта проблема ў сувязі з тымі поглядамі на яе, якія пачалі складацца ў пасьлякастрычніцкую пару і ўгрунтоўвацца большасьцю дасьледчыкаў беларускае літаратуры. Гэтыя погляды зводзяцца да наступнае формулёўкі: „Цяжкае ўражаньне робяць на чытача малюнкі Беларусі, напісаныя рукою і сэрцам песьняроў-нашаніўцаў, прыдушаных і прыгнечаных цяжарам міжрэволюцыйнае рэакцыі. Няма сілы, няма веры, няма сонца і ясных дзён“...„Няма сіл у адраджэнца, каб даць яскравы малюнак будучай шчасьлівай, вольнай Беларусі, бо няма моцнай, як загартованая сталь, веры ў яе, бо рэакцыя прыдушыла, бо рэакцыя падрэзала магутныя крыльлі іх пясьнярскае фантазіі“. „Цяжкі бязвыходны настрой наогул нашаніўцаў выкліканы цемрай міжрэволюцыйнай рэакцыі, часам усё-ж такі зьнікае і аддае сваё месца бодрым мотывам і настроям“[2]).

Гэта ацэнка нашаніўскае поэзіі ўжо a priori выклікала ў мяне сумненьне наконт адпаведнасьці яе рэчаіснасьці; бо сапраўды, як-жа дапасаваць усе пералічаныя яе атрыбуты да таго бясспрэчнага факту, што нашаніўскі нацыянальны рух, выразіцелькай якога была і нашаніўская поэзія, зьяўляўся рухам ярка-рэволюцыйным у адносінах да старога рэжыму? Лёзунг гэтага руху—адраджэньне Беларусі нацыянальнае на грунце карэнных політычна-соцыяльных зьмен. Задачам гэтага адраджэньня ў першую чаргу і служыла нашаніўская поэзія, чаму да яе часта і прыкладаецца прыметнік—адраджэнцкая, а поэтаў-нашаніўцаў завуць адраджэнцамі. Кідалася ў вочы, паўтараю, ужо a priori пэўная супярэчлівасьць паміж такімі ацэнкамі і самым характарам нацыянальнага беларускага руху (а ў тым ліку і літаратурнага).

І. Гроссман-Рошчын, робячы соцыялёгічны аналіз зьяваў пэсымізму і оптымізму ў сучаснай мастацкай літаратуры, грунтуецца на наступным палажэньні (пэрыфраза Плеханаўскае думкі): „Восходящий класс оформляет сознание в духе оптимистического утверждения жизни и истории. Нисходящий—в духе пессимизма. Восходящий класс организует эмоции, волю для преодоления элементов распада. Нисходящий класс подчеркивает элементы распада и этим дезорганизует волю к преодолению“[3]). Калі гэту тэзу дапасаваць да нашаніўскага руху, то стане відавочным, што апошні павінен быў афармляць сьвядомасьць у духу оптымізму, павінен быў організоўваць эмоцыі і волю для перададленьня элемэнтаў распаду, бо насіцелямі яго былі пераважна такія соцыяльныя групы, якія нельга аднесьці да „нисходящего класса“. І перш чым прыпісваць пэсымізм нашаніўскай поэзіі, належала-б давесьці, што беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух пасьля 1905 г., г. зн. нашаніўскі, быў рухам пераважна „нисходящего класса“.

[1]) Даклад, прачытаны на пасяджэньні Клясы Мовы і літаратуры Інбелкульту ў маі м-цы 1928 г.

[2]) Проф. У. Ігнатоўскі. „Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX ст.“; стар. 94, 95 і 97.

[3]) Часопіс „На литературном посту“, 1927 г., № 1.

І калі на акадэмічнай конфэрэнцыі ў 1926 годзе ў дакладах аб беларускай літаратуры зноў былі выстаўлены палажэньні аб пэсымізьме нашаніўскае поэзіі (М. Гарэцкі, проф. Піотуховіч), то я выступіў з наступнай заявай: „Я маю сьмеласьць сказаць, што погляд, быццам пэсымізм прасякае ўсю нашаніўскую літаратуру,—ёсьць погляд традыцыйны, але тым ня менш памылковы“. І, каб полемічна завастрыць гэту думку, я дадаў: „Я скажу, што ў пачатку XX ст. у Эўропе ня было больш оптымістычнай нацыянальнай літаратуры, як літаратура беларуская“[1]). Паўтараю, гэта маё палажэньне было тады пабудована яшчэ толькі на aprior'ных прадпасылках, часткай грунтавалася на маім разуменьні соцыяльнага характару беларускага нашаніўскага руху. Востры адказ гэтай маёй заяве даў проф. Піотуховіч, які, солідарызаваўшыся з прадстаўнікамі пэсымістычнае концэпцыі (проф. Ігнатоўскі, акадэмік Карскі, М. Гарэцкі), зазначыў: „Для ўсякага, хоць колькінебудзь знаёмага з беларускай літаратурай, парадоксальнасьць гэтага палажэньня настолькі відавочна, што спыняцца на яго абвяржэньні г. зн. толькі дарма марнаваць час“[2]). І гэтая вострая заява накірована была ня толькі супроць майго супастаўленьня беларускае літаратуры з іншымі эўропейскімі літаратурамі ў даных адносінах. Не! Уся яе вастрыня накірована была іменна супроць майго паходу на тэорыю пэсымізму нашаніўскае поэзіі. І проф. Піотуховіч ня толькі на Акадэмічнай Конфэрэнцыі ў такой вострай форме бараніў палажэньне аб пэсымізьме нашаніўскіх поэтаў. У цэлым радзе артыкулаў паважаны дасьледчык разьвіваў, угрунтоўваў (і часамі ня кепска ўгрунтоўваў) гэта палажэньне. У гэтым сэнсе ён пайшоў яшчэ далей за сваіх папярэднікаў. Бо калі яны пэсымізм нашаўніцаў разглядалі толькі як настрой, проф. Піотуховіч выставіў тэзу, што нашаніўская літаратура ня толькі пэсымістычна настроямі, але і сваёй філёзофічнай сыстэмай. Пэсымізм, як філёзофічная сыстэма, паводле яго думкі, побач з пэсымізмам настрою, характэрны для апошняе.

Так, ужо ў 1923 г. проф. Піотуховіч пісаў аб М. Багдановічу: „Скептыкам і пэсымістым выступае перад намі і Максім Багдановіч. Парою ён нават сумняваецца ў каштоўнасьці моцных мігаў і ўражаньняў, якія часам ён так высока ставіць... Спыняючыся на ростанках жыцьця, поэта безнадзейна ставіць пытаньне „куды ісьці і што рабіць?“[3]) Гэтае-ж палажэньне аб панаваньні пэсымізму (і як настрою, і як сьветагляду) у творчасьці М. Багдановіча паважаны дасьледчык разьвівае і ў другім артыкуле: „Цені і сьвятло ў творчасьці М. Багдановіча“[4]). Праўда, гэта ўгрунтаваньне нашаніўскага пэсымізму поэзіяй М. Багдановіча было моцна пахіснута грунтоўнай працай проф. Замоціна,[5]) у якой ён адносна пэсымізму ў творчасьці М. Багдановіча адзначыў наступнае: „Допушчаючы некаторы ўхіл поэта ў пэсымізм..., трэба зрабіць дзьве сур'ёзныя агаворкі: папершае, г. зв. „пэсымізм“ Багдановіча ня быў філёзофічна абаснованы, таму што мы ня бачым у яго ніякага захапленьня філёзофіяй пэсымізму (напр., Шопэнгаўэрам, Гартманам)... і таму ён зводзіўся толькі да паасобных настрояў і мотываў, якія ня мелі стойкага і пастаяннага характару“.. І далей проф. Замоцін у тэй-жа працы падкрэсьлівае: „...вершаў, у якіх адчуваецца

---

[1]) „Працы Акадэмічнае Конфэрэнцыі“, Менск, 1927 г.

[2]) Ibidem.

[3]) „Максім Багдановіч, як поэта імпрысіяністы“. Полымя. 1923, № 7—8.

[4]) Полымя, 1927, № 3.

[5]) „М. Багдановіч. Крытычна-біографічны нарыс“. Узвышша. № 2, 3, 4, 5.

некаторы ўпадак жыцьцярадаснасьці і часовая ўтрата веры ў значнасьць жыцьця, у Багдановіча параўнаўча мала... Багдановіч заусёды перамагае тыя пэсымістычныя настроі, якія часамі ў яго бывалі: ён перамагае іх бадзёрымі адносінамі да лепшага будучага, як сваёй бацькаўшчыны, так і чалавечага жыцьця наогул". Як бачым, пасля працы проф. Замоціна падмацоўваць тэорыю нашаніўскага пэсымізму поэзіяй М. Багдановіча бадай ці ёсьць сэнс. Але-ж проф. Піотуховіч ім не абмяжоўваецца. У сваім артыкуле „Асноўныя этапы ў разьвіцьці лірыкі Янкі Купалы"[1]), ён разьвязвае тую-ж проблему пэсымізму-оптымізму ў творчасьці другога выдатнейшага і тыповейшага поэта-нашаніўца. І тут мы бачым, што і Я. Купала таксама пэсымісты. „У зборніку „Гусьляр"—чытаем у названым артыкуле—перад намі выяўляецца досыць акрэсьленая сыстэма агульна-філёзофскага сьветагляду поэта. Гэты сьветагляд афарбован у пэсымістычны колер. Яго падставай служаць ідэі агностыцызму, хаосу і кругазвароту рэчаў..." Далей там-жа проф. Піотуховіч прыпісвае Я. Купале уласьцівасьці „гамлетызму". Гэтую-ж думку ён яшчэ больш разьвівае ў другім артыкуле „Ля вытокаў лірыкі Янкі Купалы"[2]). Не адрозьніваецца ад Я. Купалы і М. Багдановіча ў сэнсе псыхоідэолёгіі, паводле думкі проф. Піотуховіча, і Якуб Колас. Нашаніўская яго поэзія таксама наскрозь пэсымістычна. Гэтаму палажэньню паважаны дасьледчык прысьвяціў асобны артыкул на якім я спынюся ніжэй.

Як бачым, у той час, калі іншыя дасьледчыкі беларускай літаратуры наогул гаварылі аб пэсымізьме нашаніўскай поэзіі, не падмацоўваючы свае тэорыі спэцыяльным аналізам у гэтых адносінах творчасьці паасобных поэтаў-нашаніўцаў, проф. Піотуховіч зрабіў рад досьледаў у падмацаваньне гэтай тэорыі. Праўда, гэтыя яго досьледы мала пераканаўчы, пакольні, як мы вышэй маглі заўважыць, усе яны зроблены па нейкім адным шаблёне, з аднымі і тымі-ж рубрыкамі і з аднымі адказамі ў гэтых рубрыках. Так, усе дасьледжаныя ім поэты—пэсымістыя, гамлетыкі; у кожнага з іх проф. Піотуховіч бачыць „душэўны разлад", „дваістасьць", „дызгармонію" і г. п. Гэту уласьцівасьць дасьледчае мэтоды проф. Піотуховіча даволі востра скрытыкаваў С. Замбржыцкі ў артыкуле „Нацягваньне чужога халата"[3]).

Зусім зразумела, што і довады проф. Піотуховіча не маглі пахіснуць маіх apriori'ных прадпасылак, аднак прымусілі заняцца конкрэтным вывучэньнем гэтае проблемы і праверкай зробленых ім вывадаў[4]). Перш за ўсё ў мяне ўзьнікла пытаньне: на падставе якіх даных прыхільнікі тэорыі пэсымізму прыйшлі да такога вываду аб эмоцыянальным характары нашаніўскае поэзіі? На падставе свайго суб'ектыўнага ўспрыйманьня фактаў гэтае поэзіі? На падставе выключна таго ўражаньня, якое робяць на іх гэтыя творы сёньня, цяпер? Мабыць, іменна на гэтых даных пабудавалі яны свае вывады, бо спасылак на якія-небудзь іншыя даныя ў іх не знаходзім. А калі так, то ці могуць гэтыя вывады ўносіцца ў навуку гісторыі беларускай літаратуры, як бясспрэчныя ісьціны, і ці правяраць іх—гэта толькі, паводле проф. Піотуховіча, дарма марнаваць час? Я з гэтым быў абсолютна ня зго-

[1]) Полымя, 1925 г., № 4.

[2]) „Працы Белар. Дзярж. Унівэрсытэту", № 16, 1927 г.

[3]) Узвышша, 1927 г., № 3.

[4]) Гэта не дае мне магчымасьці ўхіліцца ад полемікі з проф. Піотуховічам. Я ніжэй буду прымушан час ад часу супастаўляць мае думкі з думкамі ў першую чаргу проф. Піотуховіча, як найбольш аўторытэтнага прадстаўніка тэорыі пэсымізму ў нашаніўскай поэзіі.

дзен. Я лічыў канечным тут іншы падход да справы навуковага разьвязаньня такое актуальнае проблемы, як псыхо-ідэолёгічны зьмест нашаніўскае поэзіі. Я думаў, што выточным пунктам тут павінна быць ня толькі тое, якой яна здаецца тэй ці іншай асобе цяпер, якое ўражаньне выклікае яна ў нас цяпер, якімі эмоцыямі і настроямі яна заражае нас цяпер, а як успрыймалася яна ў свой час, якое ўражаньне выклікала яна ў нашаніўскіх сучасьнікаў, якімі эмоцыямі і настроямі заражала яна чытацкія масы ў нашаніўскую пару. Мне здавалася, што ў першую чаргу (гэта, зразумела, не выключае і іншых спосабаў высьвятленьня данае проблемы) трэба пачынаць з гэтага, што гэта шлях найбольш об'ектыўны, бо апіраецца на фактах, на помніках, а не на суб'ектыўных успрыйманьнях і пабудаваньнях.

Працу сваю я і распачаў зьбіраньнем матар'ялаў аб тым, які псыхо-ідэолёгічны ўплыў рабіла поэзія Я. Купалы на нашаніўскія чытацкія масы, у які бок організоўвала іх сьвядомасьць, пачуцьці і волю. І вось, на падставе сабраных і вывучаных докумантаў, у выглядзе рэцэнзій, артыкулаў, заметак і гэтак далей, узятых з беларускага, рускага, украінскага, польскага і чэскага друку, датованых 1908—1913 г. г., у артыкуле „Янка Купала ў крытыцы нашаніўскіх сучасьнікаў“ [1]) я прыйшоў да наступнага вываду: „творчасьць Я. Купалы ўспрыймалася чытацкімі групамі ў нашаніўскую пару, як грамадзкі фактар оптымістычнага парадку, як фактар, які будзіў, заклікаў, бадрыў, дадаваў веры ў лепшую будучыну і энэргіі да змаганьня за яе, які яркай бліскавіцай бязупынку праразаў цёмныя хмары політычнае рэакцыі, цяжкога экономічнага прыгнечаньня, нацыянальнага ўціску, што панавалі ў гэты час на Беларусі. Ноты бязьвер'я, роспачы, пэсымізму толькі мімалётныя зьявы, паяўляюцца толькі часамі і часта маюць характар контрасту, каб ящчэ ярчэй запраменіліся колеры жыцьця, надзеі і змаганьня“.

Але калі я гэту працу зачытваў увосень мінулага (1927) году ў Літаратурнай Катэдры Інстытуту Беларускае Культуры, мне было зазначана, што, каб разьвязаць проблему псыхолёгічнага стылю нашаніўскае поэзіі, нельга абмежоўвацца толькі дасьледваньнем яе ў аспекце нашаніўскіх ацэнак. Патрэбен побач з соцыялёгічным і іманэнтны аналіз яе ў гэтых адносінах. Гэга заўвага была бясспрэчна слушнай. І вось рэзультатам яе і зьяўляецца папярэдні, як спроба, іманэнтны аналіз лірыкі другога выдатнейшага і тыповейшага поэта-нашаніўца, Якуба Коласа, аналіз пераважна ў пляне яе эмоцыянальнага характару.

Коласаўская лірыка ўжо ля самых сваіх вытокаў падзялілася на два струмені: на лірыку пераважна суб'ектную, г. з. лірыку мысьлі, пачуцьцяў і імкненьняў поэта непасрэдна, ці ў ролі беларуса-сяляніна, і лірыку пераважна об'ектную, г. з. прырода-і бытаапісальную. У той час, як першы струмень меў характар чыста лірычны, другі набліжаўся больш або менш да эпосу, прадракаючы поэту славу на гэтым іменна шляху. Гэтыя два творчыя струмені ў нашаніўскую пару насілі на сабе адзнакі пэўнага адрозьненьня, адрозьненьня пераважна эмоцыянальнага. Гэта заўважылі ўжо першыя нашаніўскія крытыкі, гаворачы ў 1910 г. аб Я. Коласе, як аб поэце, які „будзіў у нас веру ў будучыну“ (суб'ектная лірыка), „або сумна пяяў аб тым, як жывём цяпер“ (об'ектная лірыка [2]). Ужо ў гэтай кароценькай фразе крытык даў

[1]) Полымя, 1927 г., № 8.

[2]) „Наша Ніва, 1910 г., № 40.

формулу эмоцыянальнага характару коласаўскае лірыкі: у суб'ектнай лірыцы ён будзіць у нас веру ў будучыну (оптымістычны настрой), у аб'ектнай—сумна пяе аб тым, як жывём цяпер. Сумна пяе! Але ці значыць гэта, што ў сваёй прырода—і бытаапісальнай лірыцы Я. Колас вытварае пэсымістычны настрой? Спынімся на беглым аналізе яе ў гэтых імення адносінах.

Як прадстаўляецца коласаўская лірыка (пераважна нашаніўская) у сьвятле сучаснай беларускай літаратурнай крытыкі і навукі? Звычайна, як поэзія жалю, нуды, сьлёз, мэлянхоліі, пэсымізму.

Найбольш ярка формулёван гэты погляд на яе эмоцыянальны характар у артыкуле проф. Піотуховіча, прысьвячоным спэцыяльна аналізу коласаўскае поэзіі з боку яе сьветаадчуваньня[1]). „Распачынае Якуб Колас з сумных песьняў", піша аўтар названага артыкулу. „Першы яго зборнік, які вышаў у 1910 г., так і называецца „Песьні Жальбы". Ужо самая назва добра характарызуе творы, зьмешчаныя ў гэтым зборніку; сапраўды, у першых песьнях поэты выяўляюцца скаргі і енк; у іх яскрава выступаюць настроі гамлетызму... У першым зборніку выступае шэры аднастайны пэйзаж; занатоўваюцца сумна-элегічныя вобразы, якія выклікаюць адпаведны настрой аўтара". А далей проф. Піотуховіч характарызуе і другі зборнік коласаўскае лірыкі „Водгульле". „У вершах ранейшых, датованых 1910 г. і іншымі, выступаюць настроі, ужо вядомыя нам па „Песьнях Жальбы". Але адначасна ёсьць і некаторыя далейшыя паглыбленьні і разьвіцьцё гэтых настрояў; тут выступае акрэсьленая сыстэма філёзофскага пэсымізму аўтара".

Ці адпавядае аднак гэта рэчаіснасьці? Ці не зьяўляецца гэта цьвярджэньне простай дэдукцыяй з нашумеўшай концэпцыі аб пэсымізьме ў нашаніўскай поэзіі?

Разгледзім коратка з гэтага пункту погляду спачатку об'ектную, а затым суб'ектную коласаўскую лірыку. Пры вывучэньні апошняе такая дыфэрэнцыяцыя канечна патрэбна, бо ў коласаўскай лірыцы, як ужо вышэй адзначана, ярка выражаны розныя мастацкія стыхіі з рознымі ў некаторай ступені эмоцыянальнымі зарадамі. Распачнём з прырода-апісальнай лірыкі. Вершы гэтага жанру датованы пераважна 1906-1912 г. г. У якіх фарбах даны ў іх малюнкі прыроды?

„На усходзе неба грае
Пераліўным блескам,
Сыпле золата над гаем
І над пералескам

Чуць-чуць дрогне, праліецца
Чырвань на усходзе—
Гэта неба усьміхнецца
Людзям і прыродзе.

Сьмех адказны, сьмех шчасьлівы
Ходзіць на пагорках...
Час сьвітаньня—час жычлівы...
Гаснуць, нікнуць зоркі."

У такіх-жа пышных танох разгортваюцца сем далейшых строф вершу „Усход Сонца" замыкаючыся наступнай канцоўкай:

„Як прыемна пахне збожжа!
А вакол—спакойна.
Эх, як слаўна, як прыгожа,
Хораша, прыстойна"

---

[1]) „Поэтычнае сьветаадчуваньне ў творчасьці Якуба Коласа". Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, № 16, 1927 г

Ці не выступае яўна ў радкох гэтага вершу, напісанага ў 1908 г., аўтар разьдзелу „Летнім часам“ з „Новае Зямлі“, і многалікіх малюнкаў прыроды ў „Сымоне Музыку“? Але можа гэта характэрна толькі для мэтэоролёгічных тэм? Можа бляскі бачыць поэт толькі на небе? Зьвернемся да зямлі. Вось верш „Ручэй“. Пералічым толькі некаторыя з яго вобразаў і эпітэтаў: „І шуміць і грыміць срэбразвонны ручэй“, „і глядзяцца кусты пышным верхам сваім“, „і вяночкі яму выплятаюць кветы“, „а ён жэўжык-пястун гучным сьмехам дрыжыць“, і наступная канцоўка вершу:

„Люба слухаць той сьпеў,
Так ён лашчыць твой слух,
І пад песьні яго
Адпачыне твой дух“ [1]).

Але можа гэта выключэньне толькі адносна об‘ектаў прыроды, незакранутых чалавечай культурай? Вось перад намі малюнак нівы ў вершы „На полі“, датаваным 1910 г.:

„Шэпчуць згодна каласінкі,
Гойдаюцца нівы;
Ходзіць гоман срэдзь збажынкі,
Мілы і шчасьлівы.

Як старанна заараны,
Поле, твае скаты!
Межы кветкамі убраны
Пышна і багата!

Над жытамі песьні льлюцца,
Толькі сонца ўстане.
Люба глянуць, азірнуцца,
Стаўшы на кургане“.

У такіх-жа калёрах напісан верш „На лузе“, датаваны таксама 1910 г. Вось яго заключны акорд:

„Сьпевам, гоманам і звонам
Поўніцца ўвесь луг,
І дрыжыць над ім, зялёным,
Жыватворчы дух“.

Але можа гэта толькі адзіночныя вершы ў коласаўскай лірыцы? Можа ў яго усё-такі пераважаюць малюнкі тыпу. „Я ня знаю, чым мне дораг від палёў благенькіх, нудны воклік у родных горах, вербаў рад кравенькіх?“ Бо-ж іменна гэтым апошнім вершам пастаянна ілюструецца коласаўская прыродаапісальная лірыка (проф. Ігнатоўскі, акад. Карскі, проф. Піотуховіч). Ні ў якім выпадку! У фарбах вышэйпрыведзеных вершаў напісана большасьць коласаўскае прыродаапісальнае лірыкі і прытым іменна ў нашаніўскі пэрыод. І гэтыя фарбы, фарбы сьветлыя, фарбы бляскаў, стыхійна выступалі ў творчасьці Коласа ў нашаніўскі пэрыод ня толькі ў яго чыста-лірычных жанрах, але і ў тых дзесяці разьдзелах „Новае Зямлі“, якія былі напісаны ў 1911 г. А які характар маюць малюнкі прыроды ў гэтых дзесяці разьдзелах „Новае Зямлі“, можна меркаваць па першым яе разьдзеле „Лясьнікова Пасада“, у якім даны раскошныя палотны беларускага пэйзажу.

І таму зусім ня мае рацыі проф. Піотуховіч, калі ён пра нашаніўскую лірыку Я. Коласа піша: „ У жалобную вопратку апранаецца песьняром і прырода; у гэтай прыродзе ён бачыць толькі вобразы пакуты“ (курсыў мой—Ул. Дз.[2]).

[1]) Гэты і ўсе ніжэй цытаваныя і ўпамінаныя вершы зьмешчаны ў „Зборы твораў Я. Коласа. Т. І., выпуск 1 і 2“.

[2]) „Поэтычнае сьветаадчуваньне ў творчасьці Якуба Коласа“.

З паасобных тэм прыродаапісальнай лірыкі найбольш ўлюбёнай для Я. Коласа зьяўляецца бура, навальніца, гром, маланка і г. д. Поэт асабліва захапляецца дынамікай у прыродзе, змаганьнем у ёй стыхійных сіл і бачыць вялікае хараство ў гэтых грозных зьявах прыроды. Гэта тэма апрацоўваецца ім на ўсім працягу творчасьці, пачынаючы з раньняй нашаніўскай лірыкі і канчаючы найдасканальшым мастацкім уцяленьнем гэтае тэмы ў „Новай Зямлі“ у разьдзеле „Летнім часам“. Найглыбей узварушае поэта гром, гэты сымболь магутных сіл прыроды:

„Першыя громы! сэрцу вы мілы,
Люб мне ваш сьмех паміж гор!
Міл майму сэрцу гоман далёкі,
Водгук вясёлы і шум.
Гром ты магутны, гром адзінокі!
Колькі ўскатурхаў ты дум.“

(„Першы гром“, 1910 г.).

Але міл поэту ня толькі першы гром, зьвястун прабуджэньня ад зімовага сну прыроды. Гукі грому наогул лепшая музыка для поэта, бо гэта музыка прыроды ў найвышэйшым напяцьці яе магутных сіл зьяўляецца жыватворчым ачышчэньнем яе.

„Люблю я ночы той час дзіўны,
Калі прастор, абняты сном,
Пабудзіць голас пераліўны—
Далёкіх хмар магутны гром.

Калі працягла заракоча,
Гугухне голас у гары,
І шыба ў вокнах забразгоча,
І гоман пойдзе па бары.

А хмара грозна націскае,
Маланка неба баразьніць.
А ночка сьпіць, а ноч ня знае,
Што зараз бура зашуміць“.

(„Ноч прад навальніцай“, 1910 г.).

Такім-жа пачуцьцём і настроем прасякнуты і вершы: „Будзе навальніца“ (1912 г.), „Верабіная ноч“ (1913 г.) „Веснавыя хмаркі“ і мн. інш. І нават вобраз мяцеліцы не прыгнятае поэта, а выклікае ў ім прыліў энэргіі:

„Эх гуляюць віхры ў полі,
Ветравыя дзеці!
Як зайздрошчу я іх долі
Вольна песьні пеці“.

(„Мяцеліца“ 1910 г.).

Прыведзеныя прыклады даводзяць поўную памылковасьць цьвярджэньня проф. Піотуховіча, калі ён у названым вышэй артыкуле піша аб Я. Коласе: „Раней (г. зн. у нашаніўскі пэрыод.—Ул. Дз.) ён любіў сьпяваць супакой прыроды; ён любіў, падобна Цютчаву, Мэтэрлінку, прыслухоўвацца да начное цішыні, бо раненае сэрца патрабуе цішыні і спакою“.

Наадварот, Я. Колас—пясьняр буры, навальніцы, грому, бліскавіц. Ні ў кога з беларускіх поэтаў гэтыя грозныя зьявы прыроды не знайшлі такога мастацкага выяўленьня, як іменна ў Якуба Коласа. Не дарма-ж ён да сваіх найранейшых дзіцячых успамінаў адносіць

ўражаньне аб навальніцы (Аўтобіографія). Тэма аднак гэта ў трактоўцы Я. Коласа вырастае ў вялікі сымболічны вобраз у проекцыі да грамадзкага жыцьця, і тады яна ўспрыймаецца ў падвойным пляне.

З паасобных пор году ў лірыцы Я. Коласа найбольш вершаў прысьвячона вясьне. Вобраз вясны распрацоўваецца звычайна поэтам таксама ў пышных, яркіх, багатых танох і трактуецца найчасьцей таксама сымболічна. Коласаўская вясна—гэта сымболь перамогі сьвятла над цемрай, жыцьця над сьмерцю, дабрадзейных сіл над злачыннымі. Да гэтага вобразу, як і да грому, поэт зварачаецца на працягу ўсяе свае творчасьці, але найчасьцей у сваёй нашаніўскай лірыцы. Так, у 1907 г., у годзе рэакцыі, поэт пяяў голасам поўным веры і ўпэўненасьці, што—

„Вясна прыйдзе, сьнег пагіне,
Вышай сонца хадзіць стане,
Промень ясны ўсюды кіне,
Рунь падыме на паляне.

З гор пальлюцца пераралы,
Раскуюцца рэчкі з шумам,
Выйдзе з хаты стар і малы
Гаманлівым дружным тлумам“.

(„Вясна“)

У 1909 г. вясна для поэта таксама сымболь перамогі аб‘яднаных сіл працоўнае грамады над цемрай і холадам няволі. Здрузготаны аковы лёду пад дружным напорам вясьняных ручайкоў, „бо яднаньне—сіла ў сьвеце! Хто-ж дужэй ад грамады?“ („Песьні вясны“). А колькі веры ў колектыўную сілу грамады ўлажыў поэт у гэтым вершы ў песьню ручайкоў?

„Мы імчым, мы гонім воды,
Затапілі мы брады.
Дружнасьць—першы крок свабоды,
Згода—сіла грамады“.

А калі распасьцірае над зямлёй свае халодныя крыльлі лютая зіма, гэты нашаніўскі сымболь політычнае няволі і гвалту, поэт ня траціць веры ў прыход новае вясны:

„Вясна, вясна
Жаданая!
Ты прыйдзеш зноў,
Ты вернешся.

(„Вясна“, 1910 г.).

Поэт ня толькі верыць у гэты зварот жаданае вясны: ён паказвае ёй на тую працу, якой ад яе чакае зямля:

„Ідзі, згані,
Сьнягі з палёў
І выведзі
Ваду з акоў“

Акрый лугі,
Адзень лясы,
На жыта кінь
Крышталь расы.

(„Да вясны“, 1911 г.).

А калі прыход вясны ўсёткі не такі скоры, як гэта патрэбна было-б, калі занадта доўга скуты путамі лёду жыватворчыя сілы зямлі (або чалавечага грамадзтва), поэт у натхненных вобразах кліча вясну:

„Ты прыдзі, вясна жаданая.
Прыдзі!
Гукам жыцьця, песьняй працы
Загудзі!
На узгор'і, на нізіначкі
Зірні,
Сон трывожны, сон цяжкі наш
Разгані!

(„Закліканьне вясны" 1912 г.).

Вобраз вясны, як сымболь надзеі, не пакідае поэта нават у сумную, панурую восень, калі жыцьцёвы пульс прыроды, здаецца, восьвось замрэ, перастане біцца, калі „хвалююцца дрэвы, а красачкі ў скрусе зямлі адбіваюць паклон", тады—

„Ня бойцеся!"—з неба гукаюць ім гусі:
Ня вечны зімовы палон".

(„У восень", 1914 г.).

Малюнак восені ў лірыцы Коласа нязьменна суправаджаецца напамінаньнем аб вясьне, што згладжвае цяжар, журбу восені:

Эх, пануры лес!
Ня журыся, брат:
Для твае вясны
Сьцежка бітая—
Жыцьцё новае
К табе вернецца.
Зашуміш ты зноў
Гучна лісьцямі".

(„Перад восеньню", 1910).

І нават адзінокі пожоўклы лісток на дрэве ўвосень родзіць у поэта не адну толькі мэлянхолію і смутак, але і бодрую сьвядомасьць:

„Эх, аджыў ты свой век,
Жоўты ліст-бедачок,
А на весну цябе
Скіне новы лісток".

(„Апошні лісток", 1910 г.).

І так праз усю лірыку Я. Коласа праходзіць яркі вобраз вясны, вясны-пераможніцы над цемрай—зімой. Тэмы грому і вясны пануюць над усёй яго прыродаапісальнай лірыкай, у якой, паўтараю, пераважваюць сьветлыя, яркія, прамяністыя колеры. Зразумела, нельга адмаўляць у існаваньні вершаў гэтага жанру са змрочнымі фарбамі, але не яны зьяўляюцца характэрнымі для поэзіі Я. Коласа. Ня спыняўся я на іх яшчэ і таму, што іменна вершы гэтай другой катэгорыі так часта выпяльваліся як укладчыкамі розных хрыстаматый-чытанак, так і дасьледчыкамі беларускай літаратуры, што яны проста ўжо сталі трафарэтамі, але, як мы пераканаліся, трафарэтамі, далёка не характэрнымі для творчасьці Я Коласа.

Зьвернемся цяпер да другое часьці яго об'ектнае лірыкі нашаніўскага пэрыоду, да лірыкі бытаапісальнай. Тэматыка яе замыкаецца ў коле рольніцкае працы селяніна і яго хатняга быту. Голад на прадвесьні, калі „хлеба толькі да нядзелі, на два разы ўсяго круп"; сваркі і калатня на грунце гэтага убоства; сялянская цемра, як рэзультат таго, што ядынай школай селяніна зьяўляецца шынок; цяжар падаткаў

і наогул экономічная эксплёатацыя гэтага селяніна; доля батрака; цяжкая праца плытніка і да гэтага падобныя тэмы ў розных вар'янтах апрацоўваюцца поэтам. Калі нашаніўскі крытык сказаў, што „Я. Колас сумна пяе аб тым, як цяпер жывём", то гэта адносіцца іменна да гэтага разьдзелу коласаўскай лірыкі. Быт беларускага селяніна паказан пераважна ў змрочных танох, якія зьяўляюцца контрастам у стасунку да прыродаапісальнай коласаўскай лірыкі. Але-ж гэта не суб'ектыўная пэсымістычная настраёвасьць поэта, а толькі об'ектыўная тыпізацыя тагочаснага жыцьця. Іншага паказаць і нельга было, бо гэта не адпавядала-б ні тагочаснай рэчаіснасьці, ні тым мэтам і задачам, што ставіў перад сабой беларускі нашаніўскі адраджэнскі рух. Выяўленьне цёмных бакоў тагочаснага сялянскага жыцьця ніяк нельга лічыць пэсымізмам. Тут трэба грунтавацца на тым, якія настроі радзіла гэта змрочная, але рэалістычная, тыпізацыя сялянскага быту ў нашаніўскага чытача? Ужо ў 1908 г. І. Сьвяціцкі адносна такога вершу, як „Вёска", пісаў: „Хіба кожны, да каго адносіўся першапачатковы заклік, ня вычытае тут, да чаго клічуць яго, якое справы патрабуюць ад яго? Гэта зразумее ня толькі беларус, але кожны, хто толькі ўмее чытаць на малюнках будзёнага жыцьця шэрае масы"[1]). І. Гроссман-Рошчын у сваіх тэзах аб упадніцтве ў сучаснай мастацкай літаратуры пісаў: „Падкрэсьліваньне цёмных бакоў ні ў найменшай меры не зьяўляецца паказчыкам упадніцкага настрою. Важна, каб гэта падкрэсьліваньне пабуджала волю да змаганьня, а ня нуднае адчуваньне бясплённасьці змаганьня". Мне думаецца, што гэта тэза можа быць узгоднена з нашаніўскай поэзіяй наогул і з коласаўскай лірыкай паасобку. Як першая, так і апошняя бясспрэчна мелі сваёй мэтавай установкай пабуджаць да змаганьня волю шырокіх працоўных мас дарэвалюцыйнае Беларусі. Але поэты-нашаўніцы, у тым ліку і Я. Колас, як выдатнейшы прадстаўнік іх, разумелі дасканала, што не ідылічныя вершы могуць раскатурхаць сон, не ідылічнымі вершамі трэба прамаўляць ад імя прыгнечаных у той час экономічна і культурна сялянскіх мас. Толькі енкам і галосным лямэнтам мужычы поэт дарэвалюцыйнае Беларусі мог зьвярнуць увагу і самых гэтых мас і ўсяго сьвету на іх соцыяльную і нацыянальную няволю.

„Кінь ты жальбу нашу ў неба—
Няхай неба ўскалыхнецца.

(„Месяц", 1907 г.).

„Няхай плачам у тэй далі
Песьня разальлецца,
Каб усе на сьвеце знаці,
Як нам тут жывецца"—

так закончваецца знамяніты, поўны жалю і тугі, верш „Вісьне скарга уздоўж Нёмна Беларусі сына", напісаны ў 1909 г. Сваё поўнае мастацкае credo наконт заданьняў нашаніўскае поэзіі выразіў Я. Колас у той час (1910 г.) у вершы „Песьняру":

„Засьпявай ты мне песьню такую,
Каб мне душу паліла яна,
Каб у ёй ты нядолю людзкую
І ўсё вычарпаў гора да дна.

Скажы, як у няволі жывецца,
Як нам шыі здушыла ярмо,
Як душа наша топіцца, рвецца,
Як жыцьцё прападае дармо".

[1]) „Відроженне білоруського письменства", Львів, 1908 г.

З прыведзенага адрыўку відаць, што поэт разумее заданьні свае поэзіі ў тым, каб адбіваць соцыяльнае дарэвалюцыйнае жыцьцё ва ўсёй яго няпрыгляднасьці, без падфарбоўваньня і згладжваньня яго цёмных бакоў, наадварот, як мага высоўваючы на поверх, на сьвет грамадзкую нядолю; але, па яго думцы, гэтым поэзія не павінна абмежавацца, і Я. Колас ў натхненных поўных агністага запалу словах зварачаецца да поэта, а ў першую чаргу, зразумела, да самога сябе:

„Засьпявай-жа ты песьню такую,
Каб маланкай жахала яна
І паліла нядолю людзкую,
Каб грымела, як гнеў Пяруна".

(„Песьняру").

Як поэт выканаў гэту пастаўленую перад сваёй музай мэту, у якой меры „маланкай жахала яна", ці сапраўды яго песьня „паліла нядолю людзкую" і „грымела, як гнеў Пяруна",—пераканаемся з разгляду другога струменю яго лірыкі, а іменна лірыкі суб'ектнае.

Коласаўская суб'ектная лірыка разьвіваецца пераважна ў двох плянах: у пляне грамадзкіх мотываў і настрояў і ў пляне асабіста-інтымных перажываньняў. Гэтыя два струмені яго суб'ектнае лірыкі даволі рэзка адрозьніваюцца характарам сваей эмоцыянальнасьці. Характар першага струменю вызначан самым поэтам у паданай вышэй строфе вершу „Песьняру". Так, ужо ў 1906 годзе мы бачым Я. Коласа ў ролі поэта-трыбуна, поэта-заклікачага, які ў вершы „Беларусам" магутным, поўным веры і натхненьня, голасам гукаў: „Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі! Ўстань ты, наша старана". І цікава адзначыць, што поэт ужо ў гэтым найранейшым вершы свае грамадзкае лірыкі не абмяжоўваецца толькі заклікам, а паказвае і конкрэтную мэту гэтага заклiку:

„Выйдзем разам да работы!
Дружна станем, як сьцяна!
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана".

(„Беларусам")

Але гэтае „разам", гэтае „дружна" не адносіцца да такога, хоць бы і нацыянальнага, колектыву, які спалучае людзей розных соцыяльных станаў і кляс. Не! Поэт словам „разам", „дружна" абымае толькі працоўныя групы, супроцьстаўляючы ім групы эксплёататараў і прыгнятальнікаў. Паміж гэтымі групамі вечнае заўзятае змаганьне. І поэт, як прадстаўнік працоўных станаў, гукае ў вершы „Ворагам" (1906 г.):

„Багачы і панства,
Нашы „дабрадзеі"!
Мы на суд вас клічам,
Каты, вы, зладзеі!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чыімі рукамі
Вы дабро зьбіралі?
На чые вы сьлёзы
Дабрабыт куплялі?"

І ў далейшых строфах гэтага вершу поэт у жудасных, але яркіх вобразах пералічвае розныя спосабы і віды соцыяльнага прыгнечаньня і зьдзеку над тымі, да каго ён і сябе адносіць, гаворачы „Мы". Але поэт адчувае магутную сілу гэтага працоўнага колектыву і верыць, што

канчатковая перамога будзе на яго баку, і што перамога гэта ўжо недалёка. І вера гэта выліваецца ў апошніх строфах з грозным, нястрыманым імпэтам:

„Багачы і панства,
І вы, ўсе брадзягі!
Ў бок з дарогі, каты,
Бойцеся сярмягі!

Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Сьлёзы праліваюць".

Але перамога ня так блізка, як гэта здавалася ў 1906 г. поэту. Наадварот, рэакцыя старога політычнага рэжыму ўсё больш і больш сьцягвае сваю сьмяртэльную пятлю на ўсіх жывых маладых парастках рэволюцыі 1905 году, у тым ліку і на беларускім нацыянальным руху. Некаторыя працаўнікі і дзеячы гэтага апошняга часамі паддаюцца бязьвер'ю, роспачы, пачынаюць апушчаць бязьдзейна рукі. Але Я. Колас не належыць да іх ліку. Наадварот, ён бодрым голасам расьсейвае гэты часовы настрой наўкольнага пэсымізму:

„Што вы, хлопцы, пахмурнелі?
Ці каго вы пахавалі?
Ці няшчасьце так здалела,
Што нуда апанавала?

Плюньце, хлопцы! Засьпявайма,
Каб аж вокны задрыжалі:
На ўсе грудзі загукайма,
Каб і думкі паўцякалі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За работу жыва, жыва!
Каб нас доля ня ўшчувала,
Каб ня сохла наша ніва,
Каб нуда нас больш ня гнала".

(„Кіньце смутак", 1907 г.).

Вось у такіх бодрых, оптымістычных танох напісана бадай уся грамадзкая лірыка Я. Коласа. Каб пацьвердзіць гэта, я падам зараз некалькі найбольш характэрных для гэтага коласаўскага жанру зачынаў і канцовак вершаў.

Тым жа 1907 г. датованы вершы „На ростанках" і „Не бядуй". Першы з іх пачынаецца і канчаецца наступнай страфой:

„Ты скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрца жалем калыхаць?"

Другі пачынаецца наступнай страфой:

„Не бядуй, што сонца нізка,
Што прыходзіць нудны дзень,
Не бядуй, што восень блізка,
І лягла на зямлю цень".

і канчаецца так:

„Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Ўсё, што душыць нас і гне.
Вер, брат, жыцьце залатое
Будзе ў нашай старане".

1908-ым годам датованы наступныя вершы: „Нягода“, „Сябром“, „Толькі стогне зямля“, „Сябром выгнаньнікам“, „Наша возьме“ і інш.

Канцоўка першага вершу:

„Перакідаем, брат, лета
І сяк-так пераражывём.
Час наш будзе—вер у гэта—
З верхам працу мы зьбяром“.

Канцоўка другога вершу:

„Што-ж! Няхай віхры
Надрываюцца,
Няхай ворагі
Насьміхаюцца.
Хоць на дзераве
Зжоўкла ўся ліства,—
Вясна вернецца,
Адрасьце трава“.

Канцоўка трэцяга вершу:

„Не маўчы-ж ты, сава,
У цёмным лесе гукай;
Ведай: ночка ня год,
Заварушыцца гай“...

Канцоўка чацьвёртага вершу:

„Гэй, выгнаньнікі,
Сябры любыя!
Да канца, браты,
Будзьма цьвёрдымі“.

Канцоўка пятага вершу:

„Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся,
А ўсё-ж такі хоць некалі,
А праўды дапытаемся“.

1909-ым годам датованы: „Сябру“, „Мужык“, „Горкая доля“, „Цемра“ і інш.

Канцоўка першага вершу:

„Раскатурхай народ,
Сьвет яму разьвяжы
І за долю яго
Працу ўсю прылажы“.

Канцоўка другога вершу:

„Я, мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
„Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!“

Канцоўка трэцяга вершу:

„Але пачакайце,
Помніце, псякосьці!
Эх, прыпомнім крыўды
Мы вам, ягамосьці“!

Канцоўка чацьвёртага вершу:

„Эх, вы, дармаеды,
Моль вы, вош людзкая,
А хто-ж вас, праклятых,
На плячох трымае?“

Рад падобных прыкладаў можна было-б працягваць і працягваць праз усе, бадай, гады коласаўскае творчасьці. Для нас аднак найбольш цікавымі пры аналізе яго лірыкі зьяўляюцца нашаніўскія гады. Вось чаму я не магу ўстрымацца, каб не падаць тут яшчэ хаць па аднаму прыкладу яго грамадзкае лірыкі ў 1910 і 1912 г.г. Да першага году адносіцца верш „У цемры“ з наступнай канцоўкай:

„Ды ня бойся, мой брат,
Гэтай жудкай цішы
І свайго ты агню
Ня тушы, ня тушы!

Пройдзе ноч! Згіне цьма,
Непраглядны мрок-цень,
Змоўкнуць совы ў дуплах,
Як разьвідніцца дзень“.

Да 1912 г. адносіцца верш „Эх, скажы мне, небарача“ з наступнай канцоўкай:

„Бо я цьвёрда веру ў тое,
Што наш засеў ў полі дзікім
Гневам вырасьце вялікім
І затопіць усё злое,
Усё няшчасьце векавое“.

Як бачым, першы струмень суб'ектнае лірыкі Я. Коласа, струмень грамадзкіх мотываў і настрояў, мае пераважна оптымістычны эмоцыянальны характар. Будзіць, заклікае да змаганьня, улівае веру і энэргію змаганьнікам за справу працоўных мас, раскатурхвае гэтыя масы, запаляе іх гневам і помстай сваім адвечным ворагам, паказвае пробліскі сьветлай будучыны новага жыцьця.

Іншы характар мае другі струмень суб'ектнае лірыкі, лірыка яго асабіста інтымных перажываньняў. Элегійнасьцю і мэлянхоліяй, засмучонасьцю, журбой і сьлёзамі—часамі аж да безнадзейнасьці, аж да роспачы—часта прасякнут гэты струмень яго лірыкі. Але гэтыя ноты пэсымізму былі толькі часовымі настроямі, якія выплывалі не з пэўнага сьветагляду, а тлумачацца акалічнасьцямі перш за ўсё і галоўным чынам асабістага жыцьця, якое, зразумела, злажылася пад уплывам тагочасных грамадзкіх умоў. 1906—1911 г.г.—надзвычай цяжкія ў жыцьці поэта. З пачатку бадзяньне бяз працы і хлеба пад наглядам паліцыі, затым тры доўгія годы за кратамі вастрогу. Кажу доўгія, бо-ж гэта як раз годы вясны Коласа, годы росквіту яго фізычных і духоўных сіл. Вось чаму так бязупынку поэт скардзіцца, крывава плача, што вясна яго праходзіць так пагана. А яна-ж больш ня вернецца! А яна-ж толькі раз даецца чалавеку! Поэт аб сабе кажа: „На сьцежку жыцьця з простаю душою стаў я, поўны веры, радасьці і сілы“. („Рана засмуціліс“). Значыць, гэты смутны настрой паходзіць не ад прыроднага характару поэта, не ад яго тэмпэрамэнту. А адкуль-жа? І поэт таксама ставіў гэта пытаньне:

„Ці краіны роднай
Балаты гнілыя
Смуткам вас акрылі,
Думкі маладыя?“

Але, як відаць, ня толькі ў гэтым бачыць поэт прычыну свайго смутку. Бо-ж побач з „гнілымі балотамі роднай краіны“ бачыў поэт і ясныя і сьветлыя вобразы яе прыроды, і гэтыя вобразы натхнулі поэта не на адзін высока-мастацкі твор. А можа гэтыя „гнілыя балоты“— алегорыя на жыцьцё родных поэту грамадзкіх пластоў, на жыцьцё беларускае вёскі? Але-ж мы вышэй мелі поўную магчымасьць пераканацца, што па грамадзкай лініі коласаўская лірыка пераважна оптымістычна, што ў ёй нязьменна паказваецца шлях ад цені да сьвятла, ад сьмерці да жыцьця.

„Ці маё так жыцьце
Склалася няўдала?
Ці мая дарога
Ў туманы папала?“—

гэтай страфой поэт замыкае рад пытальнікаў самому сабе на гэту тэму. Замыкае і найбольш вычэрпвае, бо ў гэтай строфе поэт знайшоў нарэшце галоўную прычыну смутку свае лірыкі асабіста-інтымных перажываньняў.

І эты пераважна смутны ў сэнсе настрою характар аднаго з струменяў коласаўскае лірыкі (кажу пераважна, а ня выключна, бо і ў лірыцы яго асабіста-інтымных перажываньняў нярэдка журботны настрой зьмяняецца сьветлым, у якім пераважвае радасьць жыцьця, надзеі, асабліва ў заключных канцоўках вершаў; парывы да волі, якой пазбаўлен поэт, характэрны мотыў гэтае лірыкі) даў повад проф. Піотуховічу ўсё ў тэй-жа працы прыпісаць наогул лірыцы Коласа дарэволюцыйнага пэрыоду „настроі гамлетызму“ і нават цьвердзіць, што ў ёй „выступае акрэсьленая сыстэма філёзофскага пэсымізму“; у другім месцы гэтай-жа працы ён гэту коласаўскую сыстэму філёзофскага пэсымізму называе „зграбнай“.

Ці так гэта? Перш за ўсё кідаецца ў вочы нявыразнасьць самой тэрмінолёгіі „настроі гамлетызму“. Як вядома, існасьць гамлетызму, як і сам Шэкспіраўскі вобраз Гамлета, у гісторыі літаратуры трактаваліся і трактуюцца па-рознаму і пэўнай згоднасьці ў гэтым пытаньні не дасягнута. Так, напрыклад, Гётэ, які даў у романе „Вільгэльм Мэйстэр“ свой аналіз Гамлета, існасьць характару апошняга бачыць у неадпаведнасьці волі і інтэлекту, у слабасьці волі перад вымаганьнямі інтэлекту. Романтыкі (А. Шлегель, Тік, Кольрыдж і інш.) разьвівалі далей гэты погляд Гётэ. Празьмерная рэфлексія, паводле іх думкі,—асноўная рыса гамлетызму. Іншыя крытыкі бачаць існасьць гамлетызму у пэсымістычным сьветаглядзе, уласьцівым апошняму; а ў Гамлеце бачаць ўвасабленьне скептыцызму, як цэлай філёзофскай сыстэмы (Паульсэн, Тургенев і інш.). Проф. Розанов асноўны настрой гамлетызму азначае, як расчараваньне ў ідэалах.

У апошнія часы ў літаратурнай навуцы складаецца зусім адваротны погляд на гэтага шэкспіраўскага гэроя. Так, напрыклад, В. Волькенштэйн, разьвіваючы думку Гордона Крэга, піша: „з лёгкай рукі Гётэ крытыка прызнала Гамлета слабавольным... Повад да такога тлумачэньня падаў сам Гамлет у сваіх знамянітых монолёгах, дакараючы сябе ў невыстарчальнай рашучасьці... Аднак,... гэтыя монолёгі—самападсьцёбваньне волі, і менш за ўсе яны сьведчаць аб яе слабасьці... Дзейнічае Гамлет больш чым энэргічна; ён адзін вядзе доўгае і крывавае змаганьне з каралём, з усім дацкім дваром... Сапраўды, ён вядзе тытанічнае змаганьне... Гібкаму і сільнаму характару Гамлета адпавядае

яго фізычная прырода .. Гэрой трагэдыі ёсьць maximum волі, і мы не адчувалі-б трагэдыйнага эфэкту ад Гамлета, калі-б гэрой быў нерашучы і слабы [1]).

Паўстае запытаньне, да якой катэгоры гамлетызму адносіць проф. Піотуховіч настроі коласаўскае лірыкі? Ня ясна. Але паколькі паважаны дасьледчык бачыць у лірыцы Коласа „акрэсьленую", „зграбную", сыстэму філёзофскага пэсымізму, значыць і гамлетызм ім разумеецца пераважна ў духу Паульсэна-Тургенева. Якімі-ж літаратурнымі фактамі пацьвярджае дасьледчык свой вывад? Пяцьцю наступнымі вершамі.

Першы з іх „Раздум'е" (1910 г.). Верш гэты мае чатырохкаленчатую тэматычную будову. Тэмы разьвіваюцца прыёмам паралельнае проэкцыі ў прыроду Першая тэма: „І мысьлі то-ж часта бяз сьледу праходзяць, таксама зьнікаюць яны". Ці на гэтай думцы можна будаваць вывад аб нейкай філёзофскай навуковай сыстэме? Памойму, калі ў гэтай фразе шукаць канечна нейкай філёзофіі, то філёзофіі толькі жыцьцёвай, практычнай. Усім вядомы факт, што думкі, калі яны не запісаны, часта зьнікаюць. Больш у гэтай фразе нічога нельга пабачыць. І ніводзін прыхільнік оптымістычнага сьветагляду гэтаму не запярэчыць. Другая тэма: „У жыцьці таксама часьцютка нямала гібее такой жыватворчай красы". Заўважма, не заўсёды, а „часьцютка", ня ўся, а „нямала"! Нават поэт не сказаў многа, што таксама адпавядала-б любому філёзофскаму сьветагляду, бо ізноў поэт мае на ўвазе не аксыолёгічную проблему, а жыцьцёвы факт. Трэцяя тэма: „І маладасьць наша тым лісьцям падобна: як лісьце яна адцьвіце". Ніякай філёзофскай сыстэмы тут не заўважым. І толькі ў апошняй тэме гэтага вершу мы бачым рысы пэсымізму, але не як філёзофскай сыстэмы, а проста настрою: „І ты, чалавеча, як сьнег у адлігу упаў і сканаў і няма. З трывогай глядзіш ты ў адвечную кнігу, і душу агортвае цьма". Гэта наймацнейшы, бясспрэчна, аргумант у проф. Піотуховіча. Але ці на падставе яго можна зрабіць вывад аб філёзофскай сыстэме?

Другі верш „Вярба", на тэму аб трагічным канцы няўдалага каханьня, напісаны сымболічнымі вобразамі народнае песьні, ня можа быць нават аднесен да лірыкі мысьлі, і ўжо ні ў якім разе не выяўляе філёзофскага сьветагляду поэта.

Трэці верш „Пад новы год" (1914). Тэма гэтага вершу тая, што чалавечай прыродзе ўласьціва даўжэй трымаць у памяці зло, ніж дабро. Нічога іншага ў гэтым вершы няма. Гэта абсолютна ясна. Аднак, проф. Піотуховіч, прааналізаваўшы яго, знаходзіць у ім і другую тэму, а іменна тэму аб тым, „штό зьяўляецца пануючым прынцыпам у гісторыі, дабро ці зло?" І паводле яго думкі, Якуб Колас гэтым вершам дае адказ: „У гісторыі больш зла, больш дзейнічаюць сілы зьніштажэньня, разбурэньня і мрака". Якім жа матар'ялам падмацоўвае сваю думку паважаны дасьледчык? Наступным:

„Годы з напісам чырвоным
Усе асобна сталі,
Мноствам страшным, нязьлічоным
Пушчу загаўнялі;
Годы добрыя нясьметна
Сталі ўсе па чыну.
Цьмяна, бледна, чуць прыметна,
Зьліўшыся ў раўніну"

Чырвоныя гады, г. зн. гады зла па замыслу гэтага вершу, былі ў „мностве нязьлічоным". Добрых гадоў быў лік „нясьметны";

[1]). „Драматургия" 1923 г, стр. 136-138.

нясьметны—тое-ж, што і нязьлічоны. Значыць, у гэтым адрыўку поэт зусім ня цьвердзіць, што злых гадоў болей, як добрых. І тых і другіх нязьлічоны лік. Зло мяжуецца з дабром уперамежку. Толькі памяць аб злых гадох даўжэй трымаецца ў народзе. Але ці-ж гэта можа мець якія-небудзь адносіны да філёзофскай сыстэмы пэсымізму?!

Зьмест чацьвёртага вершу „Мара": падарожны ў пустыні адчувае вялікую смагу. Раптам бачыць у аддаленьні „пышных росьлін чараду" над азярком. Падбягае і нагібаецца, каб напіцца вады,—

„Ды адскочыў небарака:
Там шыпяць, кішаць вужакі,
Твань прасьмердлая і бруд!"

Якую-ж асноўную думку ўлажыў поэт у гэты вобраз? Тую, што не заўсёды надзеі збываюцца. І толькі.

Яшчэ пару слоў аб апошнім довадзе коласаўскага пэсымізму, на які спасылаецца проф. Піотуховіч, аб вершы „Дубы". Праўда, гэты верш напісан у 1921 годзе, і ім, мне здаецца, нельга ілюстраваць нашаніўскае лірыкі Я. Коласа. Але паколькі ён усёткі высунут, то я павінен зазначыць, што і ў ім ні намёку няма на філёзофскі пэсымізм. Расьлі магутныя дубы, пакуль ня зрэзалі іх пілы. А гэта значыць, што чалавек дужэй за магутных дубоў. Аб гэтым сам дасьледчык піша: „Дубы высокія і каранастыя вытрымлівалі барацьбу з ветрамі і навальніцамі, але ня вытрымалі яны барацьбы з чалавекам". Значыць, чалавек магутней за ветры і навальніцы. Дык дзе-ж тут пэсымізм? Мушу, аднак, дадаць, што калі Я. Коласа ў неорганічнай прыродзе захапляе сваёй сілай і магутнасьцю гром, то ў расьлінным сьвеце сымболем такой сілы для яго зьяўляецца дуб. У цэлым радзе коласаўскіх вершаў мы бачым дуб, як увасабленьне сілы і непаможнасьці („Дуб", „Старыя дубы"), і тады ён ня валіцца пад пілой чалавека, як у вышэйразгледжаным вершы.

Як бачым, на падставе пяці прааналізованых вершаў (а больш вершаў проф. Піотуховіч ня прыводзіць у падмацаваньне свае тэорыі аб пэсымізьме коласаўскае лірыкі і нават не называе іх), смутная настраёвасьць коласаўскай лірыкі асабіста інтымных перажываньняў нічога супольнага ня мае з філёзофскай сыстэмай пэсымізму. І калі такі аўторытэтны дасьледчык ангельскае літаратуры, як проф. М. Розанов, аб шэксьпіраўскім Гамлеце, які нязьмерна больш мае ў сабе рыс пэсымізму (паводле старога, традыцыйнага разуменьня гэтага гэроя) ніж Я. Колас, піша, што: „Пэсымізм Гамлета ёсьць іменна толькі настрой (курсіў Розанава) выкліканы расчараваньнем у ідэалах, а зусім не прадуманая і прыведзеная ў стройны лёгічны парадак філёзофская сыстэма. Пэсымізм яго карэніцца ў абражаным пачуцьці, а не ў адцягненай думцы. Таму было-б вялікай памылкай лічыць Гамлета (як робіць Паульсэн) прадстаўніком пэсымістычнага сьветагляду (курсыў Розанава)", [1])—то зусім беспадстаўным, зусім памылковым будзе бачыць у коласаўскай лірыцы „акрэсьленую", „зграбную" „сыстэму філёзофскага пэсымізму аўтара". У процівагу прыведзеным проф. Піотуховічам пяці вершам можна было-б падаць дзесяткі коласаўскіх вершаў, у якіх пераважаюць сьветлыя блікі жыцьця і надзеі. Аб гэтым сьведчыць і той доўгі рад яго вершаў, на якія я спасылаўся ў гэтым артыкуле. Ноты „пэсымізму", які так шырока прыпісваецца Я. Коласу, нічога супольнага ня маюць з філёзофскай сыстэмай пэсымізму і не зьяўляюцца

---

[1]) Библиотека великих писателей под ред. С. А. Венгерова. Шекспир. Т. III. 1902 г

нават домінуючым настроем яго лірыкі: як мы бачылі, прыродаапісальны струмень гэтае лірыкі пераважна афарбован у сьветлыя колеры; лірыка быту, хоць і выяўляла, галоўным чынам, адмоўныя бакі тагочаснага жыцьця, то, аднак, выклікала ня роспач, не апатыю ў чытацкіх масах, а была своеасаблівым протэстам супроць старога грамадзкага ладу; лірыка грамадзкіх мотываў—наскрозь пранікнута верай у лепшую, сьветлую будучыну і агністымі заклікамі да змаганьня за яе; лірыка асабіста-інтымных перажываньняў, хоць часта і была прасякнута пэсымістычнымі настроямі, але гэтыя настроі ня мелі ў Коласа стабільнага і пастаяннага характару, залежалі, галоўным чынам, ад цяжкіх момантаў у яго асабістым жыцьці і ні ў якай меры не грунталіся на філёзофіі пэсымізму, якая зьяўляецца чужой сьветагляду нашага поэта.

А. Бабарэка

# Пералом у станаўленьні натуральнай культуры ў творчасьці З. Бядулі [1])

*(Замест рэцэнзіі)*

Ня так даўно беларускія песьняры, выступаючы ў сьвет з сваімі мастацкімі творамі, зазвычай лічылі патрэбным публічна, праз тыя-ж творы, агаварыцца, што яны не поэты, і тым самым як-бы адмовіцца ад гэтай годнасьці. Яны ахватней вызначалі сябе за работнікаў, ратаёў, сейбітаў, будаўнікоў або ў крайніх выпадках за складальнікаў песень ці песьняроў ад прыроды. І гэта не таму, што беларускія песьняры знарок выдавалі сябе за сьціплых, як гэта думаюць некаторыя крытыкі, або баяліся адказнасьці, да якой абавязвае чалавека годнасьць поэты. Яны адчувалі сваім нутром, што не надыйшоў яшчэ час поэзіі, тэй поэзыі, пра якую яны-ж самі склалі ня мала прыгожых песень. Яны ведалі, што не яе пара тады, калі кожны дзень клаўся каменем на шыю, калі кожная часіна катавала пытаньнем: „каторы будзе дзень сьсякаць?“ У такія дні не да поэзіі было. Не пра яе тады думалі ды радзілі лепшыя людзі свайго часу. Думалася пра тое, як жыць, каб не памерці, каб застацца хаця жывым, перажываючы страшэнную навалу, што руйнавала народную самабытнасьць ды сьцірала чалавечы твар з працоўных. Гэта былі часы народнага суму і гора. І ў гэтыя часы для песьняроў, верных самым сабе, заставалася або галасіць „над народу сконам“, або жаліцца на сваю долю, праклінаць яе, наракаць на свой лёс, або клікаць аб дапамозе, зьвяртаючыся да людзей з такім словам, з-пад якога пырскалі іскры самаўсьведамленьня, або, нарэшце, клікаць у няведамую даль, дзе і сонца і зоры ярчэй, дзе і жыць прастарней і вальней, або бунтаваць і протэставаць супроць вызначанага для працоўных палажэньня панскіх нявольнікаў... Вядома, усё, што яны рабілі, было далёка ад поэзіі, як ідэала, які жыў унутры кожнага з народных песьняроў. Гэта было будзённае жыцьцё не пазбаўленае, праўда, у сабе поэзіі, але гэта ня было жыцьцём, поўным для сябе поэзіі. Апошняе зьявілася толькі тады, калі лёс жыцьця і доля працоўных сталі залежаць ад волі самых працоўных, калі яны прымусілі гэту долю служыць сваім патрэбам і інтарэсам, калі яны пачалі падпарадкаваць яе сабе. А гэта стала магчымым толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Вось тут і пачынаецца тое, што выклікае да жыцьця поэзію ва ўласным сэнсе гэтага разуменьня. Менавіта цяпер патрэбавалася поэзія для паўнаты жыцьця, для яго пышнага разьвіваньня, а не для таго, каб праз яе выказваць свае скаргі, жалі, ці нараканьні; патрэбавалася поэзія для харства жыцьця, для ажыўленьня яго быту. І патрэбавалася яна так-жа, як патрабуецца зараз ад чалавека працоўнай культурнасьці, унутраной організаванасьці, адданасьці справе рэволюцыі, разумнай дзейнасьці, жыцьцёвасьці і да т. п. Яна патрэбавалася, як краса і гордасьць працоўных гаспадароў жыцьця, як іх годнасьць, як убор іх духу, як само ўвасабленьне

---

[1]) З. Бядуля. „Танзілія“. Узвышша. Менск, 1927 г.

гэтага духу, як концэнтраваны мастацкі фокус сучасных дзей, як душа творча-рэволюцыйнай сучаснасьці, як тая вялікасьць, што роўна вялікасьці нашай эпохі, якая адкрыла для чалавецтва новыя шляхі да новых яснот і радасьцяй рэальнага жыцьця. І гэта поэзія нараджаецца, яна настойліва стукаецца ў дзьверы да кожнага, хто ўзяў на сябе ролю і абавязак тварыць і служыць ёй. Гэта поэзія, нязнаная ў мінулым як рэальная, а толькі ўяўленая лепшымі людзьмі і другамі працоўных у лятуценьнях пра будучыну, патрабуе зусім новых твораў, выклікае да жыцьця новых поэтаў. І яны ідуць, ідуць адтуль, адкуль ідзе і сама поэзія новая.

Ад тых-жа поэтаў і творцаў мастацкага слова, якія прышлі раней, у дні народнага суму і гора, ды вызначалі сябе ратаямі і сейбітамі, яна патрабуе зараз цалкам новае нутраное пераўстаноўкі, новага, т. ск., пераўсталяваньня свайго творчага апарату праз замену адных яго частак другімі, праз прыстасаваньне сябе да вымаганьняў гэтай новай поэзыі жыцьця. Яна патрабуе ад поэтаў пераацэнкі ўсіх цэннасьцяй, перагляду сваіх творчых шляхоў, вызначэньня новай і яснай мэтаўстаноўкі, якая-б адпавядала духу сучаснага разьвіцьця жыцьця, ходу яго падзей, яго тэндэнцыям, што абумоўліваюцца канечнасьцю. Яна патрабуе ня толькі ведаў, адпаведных сучаснаму культурнаму стану, яна вымагае яшчэ і таго, што не даецца аніякімі ведамі і практыкаваньнямі—гэта такое асновы ўнутранога адчувальнага апарату, якім-бы поэта бясхібна ўлоўліваў рытмы сучаснага жыцьця, увазнаваў-бы яго формы, яго нязьменнасьць у зьменнасьці і зьменнасьць у нязьменнасьці. Яна вымагае ад сваіх поэтаў чуцьця чалавека і жыцьця, чуцьця таго чалавека, які нараджаецца ў сучасных умовах быту і якому належыць будучына. Яна вымагае чуцьця тых культурных формаў жыцьця і быту, якія творацца ў многа-і markedly рознастайнай будзёншчыне нашага рэволюцыйнага часу.

Усё гэта кладзе вялізарныя і цяжкія абавязкі на тых, каго зазвычай вялічаюць поэтамі або мастакамі слова. Гэта абавязкі упартай і вялізарнай працы над сабою і над тымі матар'яламі, якія дае само жыцьцё для поэзіі, ці, кажучы словамі поэты, над тымі рытмамі і словамі, якія поўнай жменяю дае жыцьцё. Гэта—абавязкі навучыцца бачыць і тварыць поэзію ў самым жыцьці, навучыцца адчуваць і думаць так, каб само адчуваньне гэта, само думаньне было поэзіяй, мастацтвам новага жыцьця, якое-б адкрывала ня выяўленыя і ня выражаныя яшчэ магчымасьці дзей чалавека і формаў яго жыцьця. Вядома, праца гэта ня лёгкая. Гэта работа, на якой „не адзін ужо зьмяк, жадаючы схапіць выбрыкі гадзін", не адзін ужо змогся або зламаўся і адышоў, кінуўшы гэту не па сілах для яго працу, ды або замоўк, або пераструньвае абыяк і абышто выключна для самога сябе, або нудзіць і скардзіцца на крыўды, або, надзеўшы спэц-адзежу, прымайстраваўся да новае бяседы ды шчыгіляе ў новым уборы з старою істотаю.

Наша эпоха асабліва багата на зломы, пераломы ды пераходы ўсякія. У ёй шмат ёсьць людзей, якія або зломаны ходам жыцьця, або самі сябе зламалі ў гэтым „спаборніцтве бегу". Гэта і сярод поэтаў ды пісьменьнікаў. Тыя, што мелі ад прыроды вялікую прагу жыцьця, тыя што не маглі не тварыць, тыя, для каго творчасьць зрабілася такою-ж істотнаю патрэбаю, як есьці і піць, каб жыць, пачалі ламаць, прыстасоўваць сябе да новых умоваў творчасьці, да новых яе формаў, што ўтварыліся самім жыцьцём, самою рэвалюцыйнаю рэчаіснасьцю. І шмат якія з гэтых, што былі больш гнуткія, сагнуліся толькі

часова, але не зламаліся, хоць, праўда, і не ператварыліся цалком у новых людзей, у тых, што іх патрабуе для сябе новая поэзія працоўнага жыцьця. Адным з гібкіх пісьменьнікаў з вялікаю прагаю жыць і тварыць новае слова—сеяць шчыр-думкі,—якія ламалі сябе на працягу некалькіх гадоў, ёсьць і аўтар паказанай пры загалоўку кнігі. Ломячы сябе жаданьнем быць адгучным сучаснасьці, З. Бядуля прыняў гэту сучаснасьць, і яна ўвайшла ў яго творы досыць шырокім струменьнем. Але ўвайшла яна ўсё-ж ня як сапраўдная поэзія новага жыцьця, а як тое, што настойліва патрабуе сабе водгуку ў поэзіі, што вымагае прызнаньня сваіх правоў на годнасьць поэзіі, на годнасьць адзінай уладарніцы творчых дум і настрояў. І гэта таму, што поэта не пераламаў быў сябе, схіліўшыся ў пояс перад ім. Поэта ня глянуў на сьвет іншымі вачыма ад тых, якімі дзівіўся на яго раней, да зьяўленьня новага жыцьця і яго сваеасаблівай поэзіі, да зьяўленьня новага госьця, што пастукаў у дзьверы яго творчасьці. Зьявіліся новыя падзеі, выніклі ў процэсе рэволюцыі новыя зьявы,—і поэта адчыніў для іх дзьверы, прыняў іх, але прыняў, як роўнапраўныя элемэнты сярод іншых, што прымаліся ім як праявы творчасьці жыцьця, як праявы адзінага ўсемагутнага пачатку, адзінага абсолюту. На зьявы рэволюцыі поэта глянуў праз тое-ж шкло містычнага прыяцьця сьвету, праз якое дзівіўся ён на сьвет і да зьяўленьня новых падзей. (Ён прыняў гэтыя падзеі, як праявы ўсё той-жа адзінай тайны жыцьця, адзінай існасьці яго—ідэі хараства, таго хараства, якое было для поэты і законам, і душою, і рэлігіяй, і богам,) як выказаў гэта сам поэта ў вершы „Хараству“. Сябе ён лічыў яго жрацом, яго сейбітам і ратаем. Яго праявы ён бачыў скрозь і ўва ўсім, дзе быў сьлед людзкое творчасьці або творчасьці натуральнай, прыроднай. Фактычна гэта была творчасьць чалавечага духу (фантазіі і выабражэньня), узьведзеная поэтам на ступень абсолюта, перад якім ён і схіляўся, і якому пакланяўся, як усемагутнаму „богу“. У зьявах рэволюцыі поэта ўбачыў зьяву таго-ж абсолюту, таго-ж адзінага пачатку—творчага духу. І таму ён прыняў іх, расчыніўшы для іх дзьверы свае поэзіі. І творы, прысьвечаныя гэтым зьявам ці падзеям, ёсьць нішто іншае як або сваявідныя псальмы, або гімны, або проста знакі зьяўленьня гэтага абсолюту хараства ў постаці рэволюцыйных падзей, у адмену ад тых конкрэтных постацяй, у якіх ён меў месца да рэволюцыі. Для поэты і Беларусь, і рэволюцыя, і быт—гэта зьявы аднаго парадку, роўныя ў сваёй велічы і дзіўнасьці, як зьявы адзінага „бога“—хараства. Пра гэта і казаў поэта людзям фактамі сваіх твораў. І калі ўважна прыглядзецца да „Буралому“—гэтага зборніку вершаў на рэвалюцыйныя тэмы,—то ня цяжка заўважыць, што гэта тыя-ж „Абразкі“, толькі зробленыя з іншага матар'ялу. Але калі вы, не зважаючы на гэта, адчуеце, што „Буралом“ усё-ж нешта ня тое, што „Абразкі“, у сэнсе поэтычным, калі „Буралом“ ня зробіць на вас таго ўражаньня, якое здольны зрабіць „Абразкі“, то гэта не таму, што поэта стаў горш пісаць; гэта ад таго, што рэволюцыйныя зьявы, якія паслужылі матар'ялам для твораў „Буралому“, стаяць у супярэчнасьці з тэй формаю, у якой яны прадстаўлены прад вамі, што гэтыя зьявы увабраны ў вопратку, якая ня зусім ім да твару, і яны ў ёй падобны статуям, апранутым у сапраўднае адзеньне.

Дух разбурэньня і дух змаганьня—гэта нешта іншае ад таго хараства, якому служыў поэта і якому складаў свае натхненныя песьні і гімны. Гэта адчуў і сам поэта, разам з тым адчуўшы патрэбу самапераўстаноўкі ці, калі льга так сказаць. самапераарганізаваньня. А гэта

ў сваю чаргу пацягнула ўпартую нутраную працу, якая не прайшла для поэты дарма: яна нарадзіла ў яго задуму, развагу і барацьбу таго, што ад пачуцьцяў, з тым, што ад развагі, рассудку. Істота поэты не магла адкінуць таго, што было ў васнове яго сьветаадчуваньня, чым жыў поэта ў часы творчага ўздыму. Яна не магла адкінуць таго, што сьвет—гэта рэальная, відомая зьява „бога"—характва. Гэта увайшло ўжо ў яго цела і кроў, яно сталася ўжо неад'емнаю часткаю самога поэты. Новае-ж настойна стукала ў дзьверы і бунтавала ўсё, чым жыў поэта. І розум падказваў яму, што ўсё тое, што ён прымае за праяву свайго абсолюту характва і тайны жыцьця, ёсьць нешта іншае, ёсьць зьява далёка ня тайны абсолютнай, а зьява чалавечага, грамадзкага, зьява барацьбы. Тады перад поэтам паўстала пытаньне: або увераваць (а ня верыць—гэта не ў яго прыродзе) у новы пачатак—змаганьне і ў яго сьвятле прадставіць сьвет, ім растлумачыць яго праявы, адкінуўшы старога „бога", або знайсьці нешта трэцяе, вышэйшае, ў якім-бы, як у моры, расталі абодва гэтыя ручаі, абодва пачаткі, у якім-бы яны прымірыліся ды былі-б толькі постацямі адзінага абсолюту. Поэта спрабаваў першае і ў выніку адчуў сваім нутром, што гэта ёсьць ламаньне сябе, якое ён ня ў сіле зрабіць так, каб не застацца ўрэшце яго зломкам. Вынікам гэтага ўнутранога дасьведчаньня, перажытага ім востра ў апошнія гады, і ёсьць „Танзілія".

„Танзілія"—гэты зборнік новэль, як іх назваў аўтар,—ёсьць нішто іншае, як помнік, пастаўлены поэтам перажытаму ім у сваім шуканьні прымірэньня таго, што йшло ад адчуваньня сьвету і жыцьця, як творчасьці ўсемагутнага мастака, з тым, што ішло ад разуменьня праяваў сучаснага жыцьця, як вынікаў змаганьня. Усе гэроі зьмешчаных у гэтым зборніку апавяданьняў—і Танзілія, і Барташук, і Арнаут, і Іслам-бэй і нават Музыка—сын сінягрывага Нёмну—усё гэта ня тыпы, а сьцені самога аўтара, як-бы яго двайнікі. Усё гэта індывідуальныя вобразы, у якіх аб'ектывізаваліся перажываньні самога поэты, што мелі месца ў пасьлярэволюцыйны час яго разьвіцьця. Гэта адлюстроўкі гэтых перажываньняў у люстэрцы індывідуальных зьяваў рэчаіснасьці. Вось Танзілія—гэрой апавяданьня тае-ж назвы—гэта ўвасабленьне інстынкту маці, як інстынкту жыцьця,—не парываючы з прывычкай да устанаўленьняў і традыцый у сямейным быце, асьвечаных мусульманскай рэлігіяй, і будучы пабуджаная інстынктам мацеры, становіцца ў супярэчнасьць з формаю быцьця і прыходзіць да таго, што пакідае гэты быт вар'яткаю з мёртвым дзіцём на руках. Гэта-ж адна з пэрспэктыў, якая адкрылася была перад вачэй пісьменьніка, як хада ў сьвет з творамі, што жывуць адзін дзень і гінуць у барацьбе прыроднага з устанаўленьнямі чалавечага розуму, у змаганьні таго, што адчуваецца, з тым, што ідзе ад разуменьня, ад развагі. Вось Барташук, закатаваны на сьмерць пытаньнем: „Дзе ест твуй сын?" Вось Іслам-бэй—асколак, зломаны сваім-жа братам, які адкрыў яму—Ісламу—супярэчнасьць між формамі выяўленьня адзінай існасьці (Іслам-бэй забіў брата, думаючы, што ён служыць меншавіком, але брат служыў таму-ж, каму і сам Іслам-бэй—бальшавіком). Вось Арнаут, што хварэе і ачуньвае натуральна ў тэй абстаноўцы, ў якой і захварэў, ды пасьля хваробы адчувае сябе амаладжаным. Нарэшце, Музыка—сын сінягрывага Нёмна—што, застаўшыся верным сабе, выходзіць на шырокія прасторы жыцьця. Усё гэта пэрспэктывы, якія вырысоўваліся перад самім пісьменьнікам: пры думах аб шляхох свае творчасьці, пры шуканьні формаў для выйсьця сваіх адчуваньняў сьвету, пры ламаньні сябе і прыйманьні новае „веры". Гэта менавіта докумэнты і помнікі гэтых поэтавых перажываньняў.

„Танзілія“—пераломны зборнік і знак на тое, што поэта выходзіць на шлях шуканьня сынтэзу натуральнага хараства і натуральнае барацьбы за жыцьцё. Першаю зьяваю ў гэтым новым этапе разьвіцьця пісьменьніка ёсьць аповесьць „Салавей“. „Танзілія“ ня ёсьць новэлі ва ўласным сэнсе. У іх не хватае таго, што адрозьнівае новэлю ад апавяданьня,—гэта сюжэту дзей, эпічнага характару. („Танзілія“—гэта лірыка ў вопратцы расказаў пра індывідуальныя (ня тыповыя) зьявы ў рэчаіснасьці. Але сама гэта лірыка—зьява таго тыповага ў сучаснасьці, якое настойліва стукаецца ў пролетарскую поэзію.) Гэта зьява таго тыповага, жывым увасабленьнем якога былі некаторыя і расійскія поэты, адны з якіх, стараючыся забіць у сабе лірікаў, ня вытрымлівалі і ламаліся да-шчэнту, як людзі, а другія знаходзілі для свае лірыкі прадуху ў расказах пра зьявы жыцьця, як конкрэтныя ўвасабленьні іх адчуваньняў сьвету. З. Бядуля таксама апавядае пра зьявы, якія цалком увасабляюць яго перажываньні і як-бы падзяляюць яго ўдзел, адлюстроўваючы яго думы падобна таму, як і ў Ісламa-бэя яго відзеньні забітага ім брата ёсьць адлюстровак яго—ісламавых—ўласных дум. І апавядае З. Бядуля так, быццам ён сам перажыў гэта, быццам сам прайшоў праз нутро тых зьяваў, пра якія апавядае.

Па апавяданьнях зборніку „Танзілія“ З. Бядуля не належыць да тых пісьменьнікаў, якія „паказваюць жыцьцё“, робячы гэта так, што, чытаючы іх творы, ўяўляецца, быццам, перад табою не тварэньне мастака, а самае сапраўднае жыцьцё, і ты ня можаш ужо ўстрымацца (да таго забываешся, што перад табою твор мастацтва), каб не ўмяшацца ў гэта жыцьцё і ці то судзіць, ці то радавацца разам з асобамі апавяданьня. У „Танзіліі“ З. Бядуля выяўляецца адным з тых пісьменьнікаў, якія сваімі творамі толькі паказваюць на зьявы жыцьця. Творы такіх пісьменьнікаў робяцца так, што ў іх на кожным кроку адчуваецца сам аўтар, які штурхае цябе ад таго, што чытаеш, у бок, за межы чытанага, у самую рэчаіснасьць, і ўвесь час як-бы гаворыць: глянь, якаво жыцьцё ў гэтай рэчаіснасьці. Пісьменьнік гэтага характару як-бы знарок увесь час дае чытачу знаць, што перад ім толькі знак, што каб захоплівацца, трэба глядзець за твор, трэба самому тварыць, трэба сваім выбражэньнем і фантазіяй аднаўляць перад сабою малюнкі дзей, гэрояў ды іх стасункі і г. д. Гэтыя творы ўсёроўна што зерні, а сам чытач—поле, і ці вырасьці гэтым зерням ці не—гэта залежыць не ад твору, а ад самое глебы, на якую яны ўспалі,—ад самога чытача. Іначай кажучы, гэтыя творы разьлічаны на творчасьць самога чытача, на яго выбражэньне, але не на яго волю да дзейнасьці, не на яго непасрэдны ўдзел у жыцьці твору, як гэта бывае ў пісьменьнікаў першага тыпу.

Для пісьменьнікаў, якія паказваюць ці, праўдзівей, твораць жыцьцё, чытач—гэта дзейная асоба іх твораў, без яго—чытача—і твор ня будзе творам. Такія пісьменьнікі, творачы новэлю, апавяданьне ці аповесьць або які іншы род твору, заўсёды маюць перад сабою чытача, як адну з дзейных асоб свайго твору, адпаведна чаму будуецца і сюжэт. У яго нявіднымі ніткамі ўплецен і чытач. Зусім інaчай ставіцца да чытача пісьменьнік, які толькі паказвае на зьявы жыцьця. Для яго чытач гэта толькі той, хто цікавіцца сам творамі пісьменьніка, як свайго роду помнікамі, і які сам па гэтых помніках можа сваім выбражэньнем прадставіць сабе карціну жыцьця, суглядаць яе хараство і любавацца ёю. І гэтыя пішуць, мала зважаючы на чытача, як на адну з галоўных дзейных асоб свайго твору. Для іх важна паставіць помнік, знак на тое, што было, што самі яны бачылі і перажывалі ў жыцьці.

Для іх важна азначыць той шлях, па якім яны прайходзілі сваё жыцьцё ў думах пра абсолютнае, адвечнае і нязьменнае ў рознастайнасьцях рэчаіснага, рэальнага сьвету. Па іх творах лёгка аднавіць гэты шлях—яны вельмі індывідуальны і біографічны ў сэнсе разьвіцьця адзінай ідэі, якою жывуць самі аўтары іх і якою апраўдваюць існаваньне сьвету, сваю ролю і месца ў гэтым сьвеце. Іх творы—гэта сапраўды расказы пра тое, што было ці што ёсьць, але ня творы мастацтва поэтычнай ігры ў перажываньне дзей, ня творы мастацкае ігры ў жыцьцё, чым фактычна зьяўляюцца творы пісьменьнікаў першага тыпу. Гэтыя, першага тыпу, пісьменьнікі, фактычна іграюць з чытачом у жыцьцё і да таго захопліваюць яго гэтаю ігрою, што чытач ня можа кінуць яе датуль, пакуль ня скончыць ігры сам мастак. Мастак гэтага тыпу піша творы як-бы ў двух плянах, піша так, каб у сьвядомасьці чытача выклікаць да жыцьця пэўныя магчымасьці і завязаць іх ігру, кіруючы яе хадамі так, каб, ня морачы чытача, а, наадварот, уводзячы яго ў азард, даць урэшце яму—чытачу—усе ніткі ў рукі, каб ён адчуў сябе мацнейшым, чым быў да чытаньня твору, што набыў ён некаторае новае дасьведчаньне, што сілы яго і энэргія, яго жыцьцяздольнасьць павялічыліся, што ён сам ускрыў наяўнасьць таго, чаго да гэтай ігры ня ведаў і не адчуваў у сабе. Перад такім пісьменьнікам ва ўяўленьні заўсёды ёсьць плян дзейнасьці, якая павінна адбывацца ў істоце чытача, і плян таго, што гэту дзейнасьць выклікае да жыцьця, кіруе ёю і вядзе яе. Перад ім як-бы два творы: адзін, які ён піша, і другі, які павінен зьявіцца ў выніку чытаньня першага ў самога чытача (твор уяўны).

Аўтар зборніку „Танзілія“ належыць да пісьменьнікаў другога тыпу. Яго ўстаноўка на чытача, які шукае асмысьленьня існага, які шукае абсолюту для апраўданьня сьвету і свайго палажэньня ў ім, свае ролі ў рэальным жыцьці, словам, які шукае угрунтаваньня таму, што ёсьць. З. Бядулі быццам здаецца, што людзі ўтрацілі гэты абсолют, згубілі яго і ад гэтага няшчасны ў жыцьці. І вось, каб вярнуць ім шчасьце, ён паказвае на яго існаваньне, як навучальнік, які кажа: збаваньне ваша ў шуканьні адзінага абсолюту, у пазнаньні яго наяўнасьці ўсюды, у конкрэтных зьявах рэчаіснага сьвету; імя гэтага абсолюту—натуральнае харастворства сьвету, тайна яго жыцьця і натуральнае змаганьне за сваё існаваньне, за выяўленьне свае вялікасьці і магутнасьці перад чалавекам; вось вам знакі гэтага абсолюту, па іх вы пазнаеце яго і ў жыцьці. І творы З. Бядулі—гэта помнікі праяваў гэтага абсолюту, гэта знакі самога гэтага абсолюту, зьяўленага ў конкрэтных вобразах—зьявах. Вось апавяданьне „Танзілія“, пабудованае накшталт апісальнага вобразу, заключанага ў рамкі наяўных дзей,—гэта помнік зьявы натуральнае прыроды ўва ўсёй яе магутнасьці перад тварам людзкіх устанаўленьняў і традыцый. Вось апавяданьне „Поведзь, дзе ест твуй сын?“, пабудованае накшталт песьні з прыпеўкаю,—помнік моцы тайны перад тварам сьмерці. Вось ап. „Іслам-бэй“, пабудованае накшталт сьпіраідальнага трыкутніка,—помнік зьяўленьня тайны жыцьця перад тварам жаданьня ўчынкаў, перад тварам служэньня людзкім справам. Усе яны як-бы пераказы твораў самога жыцьця, і як пераказы не зьяўляюць сабою саміх твораў, а толькі знакі іх, так і гэтыя апавяданьні ёсьць толькі знакі, ёсьць толькі пераказы тых раманаў, драм і песень, якія стварыла само жыцьцё.

і таму ня дзіўна, калі ў іх дае сябе адчуваць публіцыстычны мэтад у пабудове асобных частак твору, які ня рэдка завэлюмоўвае сабою мастака цэлага твору. Аднак, ня ў гэтым апошнім цікавасьць апавяданьняў „Танзіліі“. Іх цікавасьць у тым, што яны прадстаўляюць сабою адзін з этапаў у разьвіцьці пісьменьніка, менавіта той этап, у які адбываўся процэс пераломліваньня творчае ўстаноўкі на шляху станаўленьня натуральнае культуры ў поэзіі, як адзінай ісьцінай для поэты культуры. Іх цікавасьць у тэй пропаведзі натуральнай культуры, якую яны сабою зьяўляюць. Менавіта з гэтага боку яны прадстаўляюць сабою ўдзячны матар'ял і для крытыкі, ад якое чакаюць прысуду ня толькі гэтыя творы, а ўвесь творчы досьвед З. Бядулі

**Уладзімер Дубоўка**

# Беларускі композытар Мікола Равенскі

I

Сьледам за разьвіцьцём літаратуры і тэатру пачалося разьвіцьцё нашае музыкі і пpacтopaвыx мастацтваў. Калі ў першых двух галінах мы наглядаем пэўнае ажыўленьне, рух, значныя дасягненьні, дык гэтага пакуль што няма ў галінах апошніх. Усебеларускія мастацкія выстаўкі пасьведчылі нам пра наяўнасьць на Беларусі значнага ліку мастакоў выяўленчага мастацтва, пра наяўнасьць некалькіх добрых карцін і толькі. Чым-небудзь асабліва выдатным з гэтай галіны пахваліцца пакуль што мы ня можам.

Прыблізна таксама, калі ня горш, стаіць справа і з музыкаю. Адзначалася ўжо, што наш нацыянальны музычны скарб—народная песьня, народная мэлёдыя—не ўпарадкаваны, ня вывучаны. У свой час я падаў быў некалькі меркаваньняў пра кірунак пажаданай працы у дадатак да выказваньняў у нашым друку на гэтую тэму іншых таварышаў [1].

Тым больш патрэбны такія выказваньні зараз, бо агульна даступных вынікаў працы музычных комісій і экспэдыцый няма (няма выдрукаваных матар'ялаў). Самыя экспэдыцыі і досьледы наладжваюцца бяссыстэмна і выпадкова. Пра гэта сьведчыць хоць-бы факт зьяўленьня ў аднэй з нашых газэт нататкі прыблізна такога зьместу: „У зьвязку з тым, што на франкфурцкай выстаўцы адзначана каштоўнасьць нашых музычных інструмантаў, Інстытутам Беларускае Культуры вызначана столькі вось тысяч рублёў на досьледы“ і г. д.

Трэба, мабыць, чакаць яшчэ якой выстаўкі, выказваньняў „варагаў“, пасьля чаго пачнуць зьяўляцца ў друку зборнікі запісаў народных песень з нотамі у большым ліку, чым да гэтага часу.

Нашы знаўцы музыкі, нашы композытары не выяўляюць належнай цікавасьці і актыўнасьці ў гэтай справе. Пра гэта сьведчыць той факт, што да апошняга часу на Беларусі няма адмысловай часопісі (хоць двухмесячнай, хоць пакwартальнай), прысьвечанай музыцы. У тым разе, калі чаму-небудзь немагчыма організаваньне такой часопісі на працягу бліжэйшага часу, можна было-б адчыніць адпаведны аддзел у нашай часопісі. Адзін-два друкаваныя аркушы ў кожнай кнізе часопісі—гэта ўжо значна ўзварушыла-б справу. Абмеркаваньне пэрспэктыў, высьвятленьне сучаснага становішча—гэта ўсё пасунула-б наперад справу разьвіцьця нашае музыкі. Адначасна такі аддзел ці часопісь зацікавілі-б у належным памеры працаўнікоў культуры наогул, што таксама мае вялікае значэньне. Калі да гэтага часу можна было абысьціся выпадковымі артыкуламі, дык далейшае патрабуе перайначаньня. Сапраўды, апрача некалькіх артыкулаў (больш юбілейна-аглядальнага характару), на гэтыя тэмы ў друку нічога не зьяўлялася. А пагаварыць ёсьць пра што. Возьмем для прыкладу такое пытаньне: разьвіцьцё беларускае музыкі і народная песьня.

[1] Мои арт. у часопісі „Узвышша“, № 1, 1927 г., бал. 145—148.

Некаторыя трымаюцца таго пагляду, што нашы композытары павінны карыстацца народнымі мэлёдыямі пры ўтварэньні ўласных твораў падобна таму, як гэта рабілі композытары суседніх народаў (ня толькі са сваімі, але і з нашымі мэлёдыямі). Але мы ведаем адначасна, што скарыстаньне народных мэлёдый, нават зусім умеркаванае, выклікала рэзкія напады [1]). Скарыстаўшы і вывучыўшы практыку суседніх народаў, трэба дэталяваць гэтае пытаньне і ў нас.

Альбо другое пытаньне: як трэба апрацоўваць народную песьню для харавога выкананьня? Ці даваць такія гармонізацыі, як да апошняга часу, ці гармонізацыі, падначаленыя ладу народнай песьні, даваць ў народным ладзе?

Апошняе пытаньне мае надзвычайнае значэньне. Ня кажучы пра досьледы некаторых тэорэтыкаў, бачым, што само жыцьцё вымагае неадкладнага перагляду. Некаторай ілюстрацыяй можа быць і выкананьне хорам Тэраўскага ў Менску і хорам Равенскага ў Маскве часткі песень „у народнай гармонізацыі“, а таксама ўражаньні ад такога выкананьня.

Падобных проблем багата. Калі даўней у нас не выстарчала працаўнікоў у галіне музыкі, калі раней ня было адпаведных устаноў і організацый, якія-б гэтымі проблемамі цікавіліся, дык зараз становішча зусім іншае. У друку ўжо адзначалася пра наяўнасьць ў нас значных кадраў падрыхтаваных працаўнікоў [2]). Калі гэтыя працаўнікі выявяць яшчэ больш актыўнасьці і замілаванасьці да беларускае музыкі, дык посьпехі забясьпечаны.

Не кранаючы пакуль што прынцыповых пытаньняў, адкладаючы іх на далейшае, я перайду зараз да пытаньня, закранутага ў загалоўку—да кароткага агляду працы Міколы Равенскага, які займае адно з выдатнейшых месц у ліку нашых композытараў. Шлях яго разьвіцьця, шлях яго творчасьці зьяўляецца вельмі характэрным і тыповым у беларускіх умовах, дзеля чаго я спынюся ля яго больш падрабязна.

## II

Паходзячы з асяродку Беларусі (Чэрвеншчына), Мікола Равенскі ў маленстве атрымаў магчымасьць азнаёміцца з народнай песьняй і з музыкай камэрнай—яго бацька быў службоўцам (садоўнікам) у панскім маёнтку. Гэта-ж таксама дазволіла яму яшчэ ў маладым веку атрымаць пачатковую, хоць і ня школьную, музычную адукацыю, а такжа сьвядома рыхтавацца да творчае працы ў галіне музычнага мастацтва. Зразумела, што гэта падрыхтоўка не магла, дзеля матар'яльных прычын, праходзіць нормальна. На 19-м. годзе свайго жыцьця [3]), у 1905 г., каб мець кавалак хлеба, М. Равенскі пачаў пра-

---

[1]) Напр., нападкі на расійскага композытара Н. А. Рымскага-Корсакавага. Для цікавасьці падам невялікі ўрывак з яго кнігі „Летопись моей музыкальной жизни“, выд. 3-е, 1926—1928 г.).—„Музыкальные рецензенты, подметив две-три мелодии, заимствованные в „Снегурочку“, а также и в „Майскую ночь“ из сборников народных песен—(много они даже и заметить не могли, так как сами плохо знают народное творчество), об'явили меня неспособным к созданию собственных мелодий, упорно повторяя, при каждом удобном случае, такое свое мнение, несмотря на то, что в операх моих гораздо более мелодий, принадлежащих мне, а не заимствованных из сборников“... (бал. 243) „Обработка народных тем и мотивов завещана потомству Глинкой в „Руслане“, „Камаринской“. Или и Глинку мы будем обвинять в скудости мелодической изобретательности“ (бал. 244).

[2]) Гл., напр., арт. Ю. Дрэйзіна „Кастрычнік і беларуская музыка“, „Узвышша“, 1927, № 5, бал. 167—180.

[3]) Радзіўся 5 (17) сьнежня 1886 г.

цаваць у якасьці рэгента і выкладчыка сьпеваў у школах г. Навагрудку. Толькі ў кругабезе 1913—15 г.г. яму пашэньціла пабыць на рэгенцкіх курсах: два гады ў Маскве і год у тагочасным Пецярбургу.

Вялікія гарады, наведваньне концэртаў, опэрных тэатраў, а таксама пэўная тэорэтычная падрыхтоўка—вось гэта ўсё зрабіла ўражаньне на маладога композытара, дало яму імпэт да далейшай упартай працы.

Яшчэ да паездкі на курсы М. Равенскі пачаў запісваць народныя песьні Наваградчыны. На вялікі жаль, яго багаты архіў загінуў у часе імпэрыялістычнай вайны, у часе „бежанства" [1]). На той-жа кругабег прыпадае пачатак яго композытарскай працы, якая абмяжоўвалася гармонізаваньнем народных песень, спробамі стварэньня ўласных твораў (імпровізацыі і г. д.).

Імпэрыялістычная вайна перарвала аж да 1920 г. працу М. Равенскага: бежанства і зьвязаныя з ім нэндза, галадоукі не спрыялі ні ў якім памеры творчай працы. Ад 1920 г. М. Равенскі асталёўваецца ў Менску, дзе працуе па сваёй спэцыяльнасьці ў беларускім рабочым клюбе, а затым—у Беларускім Дзяржаўным Тэатры.

Кіруючы хорам, М. Рав^нскі значную частку рэпэртуару даваў сам, гармонізуючы народныя песьні або ствараючы ўласную музыку на словы беларускіх поэтаў. Частку твораў гэтага кругабегу ён выдаў асобным зборнікам [2]). Некаторыя большыя творы, з прычыны дрэнных выдавецкіх варункаў, у зборнік не ўвайшлі.

У канцы 1923 г. М. Равенскі пераехаў для атрыманьня грунтоўнае музычнай адукацыі ў Маскву. Тут ён закончыў музычны тэхнікум ім. Стасава, папрацаваўшы ў ім пад кіраваньнем проф. Кавалёва і проф. Крылова. У 1927 г. М. Равенскі залічыўся на трэці курс Маскоўскае консэрваторыі, дзе працуе зараз (на творча-композытарскім аддзяленьні).

Такім чынам, шлях М. Равенскага падзяляецца на некалькі кругабегаў: падрыхтоўчы (да 1920 г.), першы творчы кругабег (да 1924 г.), другі творчы кругабег (ад 1924 г.). Пра падрыхтоўчы кругабег мною ўжо сказана даволі; спынімся зараз ля далейшых, найбольш важных і цікавых.

## III

Вынікам першага творчага кругабегу зьяўляецца згаданы ўжо зборнік песень і дзьве большыя рэчы, якія ў зборнік не ўвайшлі: опэрэта „Залёты", на словы В. Дуніна-Марцынкевіча, і спроба сюіты, на словы вершу К. Буйлы „Курган". Гэта апошняя выконвалася некалькі разоў у 22-23 г. у Менску.

У зборніку 13 гармонізацый народных песень і 13 орыгінальных твораў на вершы беларускіх поэтаў (В. Дунін-Марцынкевіч, М. Багдановіч, З. Бядуля, К. Буйла, Я. Купала, Я. Колас і інш.).

Ня гледзячы на адносную недасканаласьць тэхнічнай апрацоўкі некаторых твораў, яны сьведчылі за бясспрэчную таленавітасьць М. Равенскага, паказалі кірунак яго далейшай працы, яго самабытнасьць. На першы погляд і ў выбары народных песень, і ў ўласных композыцыях яго пераважаюць колькасна мінорныя настроі. Прысутнасьць іх

[1]) У пазьнейшым часе М. Равенскі запісаў больш 100 народных песень на Случчыне. Гэтыя запісы, як пабачым далей, скарыстаны ім часткова для гармонізацый і для ўласных композыцый.

[2]) М. Равенскі. „Зборнік песень з нотамі", выданьне беларускага кооп.-выдав т-ва „Савецкая Беларусь", Менск, 1923 г., бал. 72.

знаходзіла сваё апраўданьне як у агульных настроях грамады таго часу, так і ў водгуках нашаніўскіх мотываў (напр., „Край наш бедны, край наш родны“—Я. Коласа). Усё-ж, ужо ў гэтым зборніку вырысоўваецца асабістасьць М. Равенскага: яго жыцьцярадасьць. Міноры яго—гэта ня вынікі беспадстаўнае тугі, а вынікі глыбокага сугляданьня жыцьця з яго станоўчым і адмоўным, адкуль пэўная засмучонасьць, элегійнасьць. У гэтым—выразная і моцная сувязь яго творчасьці з творчасьцю народнаю.

Найбольш яскрава гэтыя настроі адлюстраваны ў творах на словы М. Багдановіча („Ня кувай ты, шэрая зязюля“ і „Завіруха“) і В. Дуніна-Марцынкевіча (урывак з поэмы „Гайон“).

Праўда, абмежаваны задачаю зборніка (для чатырохгалосага хору), М. Равенскі ня меў магчымасьці разгарнуць гэтыя творы ў жаданым і магчымым кірунку. Усё-ж сказанае вышэй сьцьвярджаецца цалкам. Элегійнасьцю прасякнута музыка да вершу „Ня кувай ты, шэрая зязюля“. У гэтым выказваецца ня толькі пагоджанасьць з настроем вершу. Намяненьне на сьветлае, бадзёрае адчуваецца ў музыцы да вершу „Завіруха“, каб поўнасьцю разгарнуцца ў трэцім творы „Шум, крык, гоман у карчме“. Ноткі смутку ў апошнім праходзяць як водгульле, трацяцца ў агульнай хвалі жыцьцярадасьці.

Гэта-ж самая двуадзінасьць, з большым ці меншым выяўленьнем паасобных настрояў, праходзіць і цераз два большыя творы: „Курган“ і „Залёты“, у якіх наш композытар здолеў параўнаўча больш глыбока разгарнуць музычную тэму і выявіць сваю асабістасьць.

Калі „Залёты“ цікавы, як спроба ўтварэньня першай беларускай опэрэты, дык „Курган“, апрача ўсяго, цікавы яшчэ, як адлюстровак настрояў музыкі, як выразны паказчык яго далейшага поступу.

Верш К. Буйлы „Курган“ не выпадкова прывабіў композытара: романтыка мінулага, асабістыя перажываньні, соцыяльная няроўнасьць (няхай сабе ў вершы выяўленая слаба)—усё гэта давала ўдзячную тэму, якая і скарыстана вельмі ўдала.

Даступныя для нашага композытара ў той час формы не задаволілі яго. Прышлося шукаць новае. І гэта новае вылілася стыхійна ў форму, падобную на сюіту. Кволая лірычнасьць, элегійная засмучонасьць нітуецца з хвалямі імкненьняў вызваленага творчага духу з настроямі супакойнай і ўпэўненай бадзёрасьці ў фінале. Адначасна гэты твор дае нам уражаньне цэльнасьці, суладжанасьці, чым выгадна розьніцца ад ранейшых.

У агуле, першы творчы кругабег М. Равенскага цікавы для нас і каштоўны наогул, нават пры згаданай ужо недасканаласьці тэхнічнай, як выказчык характэрных настрояў. Глянем, як гэта адлюстравалася ў другім творчым кругабезе.

## IV

Сучасны музыка-композытар павінен прайсьці вялікую школу, пакуль набудзе патрэбныя для свае працы веды. Ён павінен вывучыць ня толькі адцягненую тэорыю контрапункту і г. д.,—ён павінен дасканала азнаёміцца з творчасьцю сваіх выдатных папярэднікаў. Бяз гэтага праца не пасунецца наперад. У гісторыі расійскай музыкі мы мелі прыклад, калі таленавітыя композытары распачыналі працу без належнай тэорэтычнай падрыхтоўкі, напр., удзельнікі „могучей кучки“ Мусоргскі, Рымскі-Корсакаў. Але пасьля ім, асабліва апошняму, прышлося ўсё-ж вярнуцца да гэтай падрыхтоўкі, перарабляць свае ранейшыя творы.

Уласьне кажучы, такая-ж падрыхтоўка патрабуецца і для працаўнікоў іншых мастацтваў. Адзін талент без падрыхтоўкі ў нашы дні значыць вельмі мала. Праз некаторы, нават самы кароткі час, поэты, мастакі „выпісваюцца" у абудвых значэньнях гэтага слова...

Некаторыя сьцьвярджаюць, што музыка—інтэрнацыянальнае і нейкае надклясавае мастацтва. Такое сьцьверджаньне, памылковае ў поўным памеры, грунтуецца ў першую чаргу на вонкавых адзнаках—на спосабе перадачы музычных твораў. Ноты рэч інтэрнацыянальная,але і толькі.

Што датычыцца самога зьместу, нават формы, дык яны зьяўляюцца прадуктам свае краіны, свайго часу, свае клясы, як і кожны мастацкі твор з іншых мастацтваў. Н. А. Рымскі-Корсакаў кажа: „Но музыки вне национальности не существует, и в сущности всякая музыка, которую принято считать за общечеловеческую, все-таки национальна"... „Быть может лишь контрапунктическая музыка старых нидерландцев и итальянцев, основанная более на расчете, чем на непосредственном чувстве, лишена какого-либо национального оттенка" (бал. 371—372 згаданае „Летописи")[1]).

Нацыянальныя элемэнты музычнага твору прыцягваюць да сябе нашу ўвагу і захапляюць нас. Часам творы найвялікшых композытараў сьвету ня робяць на нас таго ўражаньня, якое робіць добра выкананая народная песьня.

Гэта тлумачыцца тым, што музыка эўропейскіх народаў, уласьне кажучы, чужая нам. Яна, з большага, зьяўляецца выражэньнем асабістых перажываньняў і настрояў прадстаўнікоў чужых нам пануючых кляс. Апрача таго, у значным памеры яна грунтуецца на народнай поэзіі адпаведных народаў. Гэта можа цікавіць нас, але ня можа цалкам захапіць нас.

Некаторыя людзі дзеля псэўдо-сораму, каб не аказацца „нячулымі", „адсталымі", расхвальваюць „выдатныя" творы гэтых агульнапрызнаных композытараў. Тады, калі ў сапраўднасьці яны зусім не закранулі пачуцьця.

Каб мяне не зьвінавацілі ў схізьме, падам аналёгію з літаратуры. Многія выдатныя композытары, цікавыя з формальнага боку, з боку зьместу выяўляюць для нас такую-ж цікавасьць, як Клёпшток, якога ўсе хваляць, але вельмі мала хто чытае.

Узгадаваная на такім псэўдо-сораме, наша грамадзкасьць не заўсёды атрымоўвае асалоду слухаючы творы Клёпштокаў ад музыкі. Гэтым тлумачыцца той факт, што ў нашы дні зацікаўленасьць да камэрнае музыкі падтрымліваецца штучным парадкам, або той факт, што ў вялікай залі Маскоўскай консэрваторыі працуе кіно...

Музыка толькі тады здолее заняць належнае ёй месца ў нашым жыцьці, калі яна стане блізкай для грамады, для масы ўва усіх адносінах. Адзін буржуазны музычны крытык Г. А. Ларош сказаў яшчэ ў 60-х гадох:

„Но образованные классы далеко не весь народ. Тогда как первые живут быстро, беспрестанно меняя свои вкусы, взгляды, верования и идеалы, народ в массе в продолжение многих веков остается, верен себе и преданию. Вот почему теперь музыка, питающая эстетические потребности высших классов, далеко ушла вперед от музыки с которою некогда была тождественна: от музыки простонародной. Гар, мония современная, верная истолковательница сомнений и страстей волнующих образованные классы, не имеет ничего общего с простым и ясным миросозерцанием народа" [2]).

[1]) Як нам вядома з гісторыі музыкі, і старыя композытары, асабліва нідэрлянд цы XV-XVI ст. ст., тэмамі для сваіх твораў бралі народныя песьні.

[2]) Г. А. Ларош „Собрание муз.-критических статей", т. I, 1913 г., бал. 14.

Такім чынам, ад сучаснага композытара вымагаецца вельмі шмат. Абагулім ўсё сказанае па гэтым пытаньні: толькі грунтоўная тэорэтычная адукацыя, азнаямленьне з творчасьцю выдатнейшых композытараў і з творчасьцю свайго народу, ясны клясавы сьветагляд у зьмесце і нацыянальная па духу форма дадуць магчымасьць сучаснаму композытару быць зразумелым і пажаданым для грамады, быць карысным у агульнай перабудове жыцьця на соцыялістычных падставах.

Глянем-жа, наколькі адпавядае на гэтыя ўмовы Мікола Равенскі.

## V

За час свайго побыту ў Маскве Мікола Равенскі стаў на магчымую ў нашы дні вышыню музычна-тэорэтычных ведаў. Вялікая праца па вывучэньні строгай формы, грунтоўнае вывучэньне клясыкаў, пранікаsuccеньне ў сэкраты прыгажосьці іх твораў адчынілі перад вачыма М. Равенскага новы сьвет у літаратурным сэнсе гэтага слова. Усё тое, што раней выражалася несьвядома, што цяжка падавалася перадачы з мовы пачуцьцяў на мову суладжаных гукаў, атрымала новы кірунак, знайшло пэўнае і трывалае выйсьце ў выглядзе бездакорных з тэхнічнага боку і дасканалых наогул твораў.

Частка іх на першы погляд мае характар адцягнены як у форме, так і ў зьмесьце. Гэта—фугі. Вось іх няпоўны пералік:

1. Двухгалосых—тры.
2. Трохгалосая—адна.
3. Чатырохгалосых—сем.
4. Ор. I, № 1, подвойная—квінтэт для струнных інструмэнтаў,
5. Ор. I, № 2, чатырохгалосая, для мяшанага хору (c-dur), на словы вершу „О, Беларусь, мая шыпшына“.
6. Ор. I, № 3, патройная, васьмігалосая (d-moll), для оркэстры.

Сапраўды, Бах уцалку ня мае такой сугучнасьці з нашым часам, як, напр., Пракоф'еў. Тым ня менш, форма яго фугі, як узор композыцыйнай дасканаласьці і выразнасьці, яшчэ доўга будзе ўважна вывучацца, выклікаючы фармальнае насьледаваньне. Форма гэта, што разьвілася з імітацыі, цікава і ў нашы дні, асабліва ў беларусаў. Элемэнты яе мы маем у некаторых купальскіх і вясельных харавых сьпевах. Гармонізацыя народных песень, якая нагадвае сваёй пабудовай фугу, карыстаецца нязьменным посьпехам пры выкананьні[1]).

Калісьці Буалё выславіўся адносна формы сонэту ў поэзіі: „Адзін дасканалы сонэт варты доўгай поэмы“. Тое-ж самае можна сказаць адносна фугі ў музыцы.

Што датычыцца вокальнай фугі М. Равенскага, а таксама падвойнай і патройнай (ор. 1, № 2, 1 і 3), дык яны наогул зьяўляюцца тымі творамі, якія ўвойдуць у скарбніцу беларускае музыкі.

Праз некаторыя фугі мільгае часам народная мэлёдыя. У большасьці іх—толькі нацыянальны колёрыт, бяз выразнай народнай тэмы. Гэта паказвае на вялікі поступ нашага композытара. Прыгадаем хоцьбы выказваньне Лароша: „Наконец, песни не везде должны и не везде могут видимо присутствовать в композиции. Если мы вполне изучили красиво-волнистые линии их мелодий, тональности их гармонии, безбрежное раздолье их ритмических сочетаний,—мы проникаемся этими качествами, мы срастаемся с ними корнями, мы будем...... в нашей музыке, и не внося в свои сочинения той или другой песни“[2]).

---

[1]) Прыгадайце „Ой рана, рана“ у гармонізацыі Прохарава.

[2]) „Собр. муз.-крит. статей“, бал 53.

Далейшыя творы М. Равенскага, як концэртныя мазуркі, перакладзеныя і для квартэту (ор. 3, № 1—a-moll, ор. 3 № 2—c-dur), паказваюць, што ня толькі творчая фантазія аўтара, але і яго ўладаньнв рознастайнымі композыцыйнымі формамі не абмежаваны. Творы гэтые захапляюць нас сваёй жыцьцярадасьцю. Прэлюдыі (ор. 4, № 1—d-dur-№ 2—des-dur) і ноктурны (ор. 2, № 1—As-dur і № 2—f-moll), апрача згаданай якасьці, як-бы пераклікаюцца сваёй настраёвасьцю з творчасьцю першага кругабегу, асабліва з „Курганом". Але якая розьніца ў апрацоўцы, у адценьнях!

Ноктурн As-dur цікавы яшчэ і тым, што М. Равенскі ў яго другой частцы скарыстаў народную вясельную „Вясёла бяседачка", якую ў свой час разьвіў у іншым кірунку Ф. Шопэн[1]).

Такой-жа дасканаласьцю вызначаецца і сюіта (ор. 6) для струннага квартэту. У падставу яе паложаны народныя песьні Случчыны[2]): 1. „Удоў ж ды плыве стада". 2. „Ой высоча-высоча клён-дзерава ад вады". 3. „Ня стой, каліна". 4. „Ці ўсё-ж тыя чобаты, што зяць даў" (апошняя тэма апрацоўваецца паасобна для струннага квартэту).

Наогул, у Міколы Равенскага наглядаецца імкненьне да сынтэтычнай оркэстровай музыкі. Усе яго творы апошняга часу даводзіцца разглядаць, як элемэнты нейкага вялікага твору (сымфонія, опэра), да якога композытар рыхтуецца і які зьявіцца ў блізкім будучым.

Разумеецца—пры вядомых спрыяючых умовах. Асобна стаіць праца М. Равенскага ў галіне вокальных твораў.

Ужо згадвалася вокальная фуга. Цікавы гармонізацыі народных песень для чатырохгалосага хору, музыка на словы беларускіх поэтаў: „Гэй вольныя птахі"—Я. Купалы, для хору, „Такая ноч"—на словы аўтара гэтых радкоў—для сопрано (ор. 5, № 2) і г. д.

Ня спыняючыся падрабязна[3]), я закончу гэты свой агляд некалькімі абагульненьнямі.

## VI

У асобе Міколы Равенскага мы маем першага высока-кваліфікаванага беларускага композытара. Яго таленавітасьць і праробленая ім да гэтага часу праца сьведчаць нам, што разам з новымі працаўнікамі, якія рыхтуюцца ў беларускіх музычных тэхнікумах, менавіта яму давядецца палажыць пачатак беларускаму музычнаму мастацтву ў сьціслым значэньні гэтага слова.

Пажадана, каб нашы адпаведныя організацыі паклапаціліся пра наладжаньне ў галоўных гародах Беларусі концэртаў з твораў М. Равенскага. Не пашкодзіла-б да X гадавіны існаваньня БССР выдрукаваць частку яго твораў. Нашы дасягненьні да гэтага часу павінны быць прадстаўлены ўва ўсіх галінах мастацтваў.

---

1) Гл „Узвышша", № 1, 1927 г., бал. 147.

2) Запісы М. Равенскага.

3) Усё гэта, як і праца М Равенскага ў галіне популярызацыі беларускае народнае песьні, якую ён праводзіць у Маскве пяты год, паслужыць удзячнаю тэмаю для паасобнага агляду ў далейшым.

# Думкі пра сатыру

Сутнасьць сатыры ў тым, каб выстаўляць на паказ, на сьмех адмоўныя зьявы жыцьця. Але адмоўнае можа быць пазнана толькі ў параўнаньні з дадатным. Інакш кажучы, сатырык заўсёды мае крытэрыем нейкія пэўныя, рэглямантаваныя ці нерэглямантаваныя, нормы жыцьця, пад якія не падходзіць, якім супярэчыць тая зьява, якую ён выстаўляе на сьмех. Ясна, што такія нормы могуць быць толькі ў чалавечай грамадзе. Па-за грамадою іх ня бывае. У прыродзе ёсьць пэўныя, ад веку існуючыя законы, поводле якіх усялякія зьмены і адбываюцца. Там можа быць гутарка толькі аб неабходным, аб нямінучым. Гаварыць аб тым, што павінна быць, можна толькі ў грамадзе. І сапраўды, даволі хоць збольшага прыглядзецца да жыцьця, каб пераканацца, што об'ектам сьмеху (асьмяяньня) ніколі ня бываюць зьявы прыроды, а заўсёды людзі з іх учынкамі і характарамі.

Наогул у жыцьці гэта робіцца часта несьвядома, але сатырык заўсёды сьвядома бярэ сваім об'ектам або зьявы грамадзкія, або такія зьявы чалавечай псыхікі, якія могуць мець уплыў (шкодны, вядома) на грамадзкае жыцьцё.

Якіх людзей і якія іх учынкі будзе браць сатырык для свае творчасьці, і як ён іх будзе падаваць,—гэта залежыць ад клясавае сутнасьці самога аўтара, ад таго, у якіх адносінах ён знаходзіцца да найбольш дзейных, важных па сваім гістарычным значэньні, сіл грамадзкасьці. У гісторыі сусьветнай літаратуры мы маем прыклады сатыры як прогрэсыўнай, так і глыбока консэрватыўнай ці нават рэакцыйнай. Вывадам з вышэй сказанага зьяўляецца, папершае, тое, што сатырык ня можа адарвацца ад грамадзкага жыцьця таксама, як ня можа выскачыць з свае ўласнай скуры; падругое, паколькі сатырык выстаўляе на паказ, на сьмех зьявы жыцьця, якія не падыходзяць пад пэўныя ідэолёгічныя ці этычныя нормы, дык ён павінен мець гэтыя нормы цьвёрда ўстаноўленымі. Ясна, што яны могуць і не застацца нязьменнымі на працягу ўсяго разьвіцьця яго асобы, але ў кожны даны момант яны павінны быць выразнымі, інакш кажучы, павінна быць выразнай яго позыцыя ў адносінах да асноўных дзейных сіл, якія вядуць змаганьне ў грамадзе.

Для сатырыка ў нашых савецкіх умовах, калі ён хоча, каб яго сатыра была сапраўды прогрэсыўным фактарам, ёсьць дзьве асноўныя групы об'ектаў. Першая—гэта тыя рэшткі старой грамадзкасьці, што існуюць у няпрыкрытым выглядзе: кулакі, духавенства, прыватныя гандляры. Гэтыя элемэнты іграюць адмоўную ролю ў грамадзе, і сатырык, бязумоўна, не павінен іх пакідаць бяз увагі. Аднак, з задаваленьнем можна адзначыць, што роля гэтых элемэнтаў у грамадзе з кожным годам зьмяншаецца. Кулака—дзякуючы ўзьняцьцю самасьвядомасьці беднаты і эканомічнаму нівэліраваньню вёскі; духавенства—дзякуючы ўсё большаму ўкараненьню ў масы пролетарскай ідэолёгіі і, галоўным чынам, дзякуючы натуральнаму фізычнаму адміраньню старога рэлігійнага пакаленьня. Маладое выхаванае ў савецкіх школах пакаленьне ня можа служыць апораю рэлігіі, і за 2—3 дзесяткі бліжэйшых

гадоў роля рэлігіі ў савецкай грамадзе зьменшыцца да мінімуму. Прыватнік таксама паступова траціць сваё значэньне дзякуючы ўсё большаму развіцьцю социялістычных форм гаспадаркі. Бязумоўна, з паступовым зьмяншэньнем удзельнай вагі гэтых груп грамадзтва і ўвага сатырыка будзе прыцягвацца імі ўсё ў меншай меры, а пакуль што яны знаходзяцца яшчэ ў цэнтры яго ўвагі.

Другая група рэштак мінулай грамадзкасьці—гэта тыя элемэнты, якіх рэволюція толькі на хвіліну зьбянтэжыла. Яны вельмі хутка злаўчыліся прыстасавацца да новых форм грамадзкасьці і выкарыстаць гэтыя формы ў сваіх уласных інтарэсах, якія ідуць ўразрэз з інтарэсамі социялістычнага будаўніцтва. Пазалазілі гэтыя шкоднікі ва ўсе шчылінкі савецкіх устаноў, грамадзкіх, а часамі нават і партыйных організацый. Шчылінкі настолькі вузкія, панцыры іх службовых аўтарытэтаў настолькі моцныя, што гастрыё сатыры можа іх даставаць да жывога толькі з вялікай цяжкасьцю і... небясьпекаю. Неасьцярожны крок—і такі браніраваны таракан, карыстаючыся сваім аўтарытэтам, можа праглынуць няшчаснага сатырыка з усім яго нутраным зьместам пад самым „благовидным предлогом“. Аднак, гэта не павінна спыняць сатырыка, калі ён ня хоча ісьці па лініі найменшых перашкод і ня хоча заплюшчваць вачэй на шкоднасьць гэтых элемэнтаў. Бо адмоўнае значэньне такога „элемэнта“ проста пропорціянальна вышыні яго палажэньня ў грамадзе. А яно часта бывае вельмі высокім.

Апрача гэтых асноўных дзьвюх груп об'ектаў, ёсьць яшчэ пэўная катэгорыя людзей, якія лёяльна або нават прыхільна настроены ў адносінах да савецкага ладу, але якія ў сваім быце абвешаны рознымі перажыткамі, забабонамі старога ладу, зьяўляюцца інэртным, консэрватыўным элемэнтам і вісяць цяжкімі гірамі на нагах тых, хто імкнецца ісьці наперад. Сатырыку, бязумоўна, грэх было-б пакінуць іх бяз увагі.

Гэта ўсё гаварылася пра зьмест сатыры ў нашых савецкіх умовах. Цяпер ня шкодзіць сказаць пра форму сатыры ў нашых савецкіх беларускіх умовах. Задачы формы могуць быць намечаны толькі тады, калі мы ясна ўявім сабе тую функцыю, якую выконвае форма мастацкага твору. А функцыя гэта, на маю думку, вось якая.

У мяне ёсьць пэўныя думкі і пачуцьці. Я хачу перадаць гэты зьмест мае псыхікі другому чалавеку, другім людзям. А дзеля гэтага я павінен прыдаць гэтаму зьместу адпаведную форму. Інакш кажучы, форма зьяўляецца спосабам выклікаць у псыхіцы іншых людзей процэсы, аналёгічныя тым, якія адбываюцца ў маёй псыхіцы. Але псыхіка „іншых людзей“ далёка не аднастайная: яна розьніцца ў залежнасьці ад класавай прыналежнасьці, культурнага ўзроўню і шэрагу іншых прычын. Дзеля гэтага і форма мастацкага твору будзе розная ў залежнасьці ад таго, на якую групу чытача пісьменьнік орыентуецца. А ў сваёй творчасьці кожны пісьменьнік іменна орыентуецца на пэўную групу чытачоў, хоць найчасьцей гэта робіцца падсьвядома. Дасканаласьць формы вызначаецца здольнасьцю мастака, характар яе—галоўным чынам асаблівасьцямі псыхікі чытача пэўнай катэгорыі.

На якога-ж чытача ў асноўным павінен орыентавацца савецкі сатырык? Задача сатыры, памойму,—выстаўляць адмоўныя зьявы жыцьця на суд, на асьмяяньне шырокіх мас рабочых і сялян, культурны ўзровень якіх не вызначаецца вялікаю вышынёю. Адгэтуль, як неабходнасьць, вынікаюць некаторыя асаблівасьці формы сатырычных твораў, у першую чаргу стылю, які павінен імкнуцца да адноснай прастаты. Мова павінна набліжацца да народнай як сваім слоўным складам, так і фразэолёгіяй. Сынтаксычная пабудова сказу павінна вызначацца

выразнасьцю. Калі лірык і можа часамі выліваць у радкі чуць прыкметныя эмоцыі, то для сатырыка[1]) гэта рэч немагчыма. Сатырыстычны твор створыць належны эфэкт толькі тады, калі об'ект асьмяяньня будзе абмалёван з усёю выразнасьцю. Аднак, прастату стылю я ні ў якім разе не разумею, як апрашчэньне, г. зн. паніжэньне яго мастацкай вартасьці. Я мысьлю якраз наадварот. Просты чалавек ня прывык мець справу з абстрактнымі паняцьцямі, і да яго псыхікі лепшы доступ будуць мець прадстаўленьні, вобразы. З тае-ж прычыны вобразы павінны быць конкрэтныя, рэчавыя, супастаўляцца павінны не абстрактныя паняцьці, а рэчы і зьявы. Матар'ял для вобразаў належыць браць знаёмы для чытача. Багатаю крыніцаю для гэтага зьяўляецца прырода і бытавая абстаноўка, у якой жывуць працоўныя масы. З усяго гэтага, вядома, ні ў якім разе не вынікае, што з такой устаноўкай мастацка напісаны твор не задаволіць больш культурнага чытача. Але наадварот заўсёды можа быць: нават высока-мастацкі твор, дзякуючы асаблівасьці свайго аформленьня, можа высока цаніцца інтэлігентным чытачом і застацца незразумелым і недаступным для чытача масавага.

Што да сатырычных жанраў, дык яны выразна дзеляцца на дзьве асноўныя катэгорыі. Першая катэгорыя—жанры тымчасовыя, сатырычны фэльетон (прозаю і вершам), жарт. Яны зьяўляюцца выключнай спажывай сатырычных часопісяй і вельмі ўлюбёнай стравай газэт. Жанры вельмі недоўгавечныя: жывуць часамі ня больш аднаго дня, але чытаюцца з ахвотаю і робяць вялікі ўплыў.

Да іх набліжаецца драматычны шарж.

Другая катэгорыя—гэта жанры, якія прэтэндуюць на большую сталасьць і доўгавечнасьць. Гэта часта тыя-ж самыя рознастайныя эпічныя, драматычныя і лірычныя жанры, ад поэмы і роману да новэлеты і эпіграмы, толькі ў сатырычнай афарбоўцы Найчасьцей-жа практыкуецца сатыра ў цесным сэнсе слова (верш-сатыра), сатырычнае апавяданьне, байка. Розьніцу паміж гэтымі дзьвюма катэгорыямі сатырычных жанраў некаторыя бачаць у тэматыцы і азначаюць першую катэгорыю, як літаратуру надзённую, „на злобу дня".

Але, на маю думку, розьніца тут ня столькі ў тэме, колькі ў яе аформленьні. На адну і тую-ж самую тэму можна напісаць газэтны фэльетон і сатырычны роман. Гэта другая катэгорыя жанраў адрозьніваецца большай тыпізацыяй зьяў, шырынёю абагульненьняў і глыбінёю псыхолёгічнага аналізу.

У фэльетоне. зьява трактуецца, як прыватный выпадак, гэроі ледзь намячаюцца і вызначаюцца крайняй схэматычнасьцю.

Якія-ж жанры варта культываваць, а якія лічыць „устарэлымі"? Тут павінен быць адзін нязьменны крытэры: наколькі той ці іншы жанр, як адзін з элемэнтаў формы, можа выконваць свой службовы абавязак—перадачы зьместу мае псыхікі чытачу. Калі ён выконвае сваю функцыю дасканала, я ахвотна гатоў яго культываваць. Калі ён гэтага рабіць няздолен, я магу яго або зусім адкінуць, або ўнесьці адпаведныя зьмены. Некаторыя „страшныя рэформатары" спрабавалі, напрыклад, давесьці непатрэбнасьць байкі, як жанру ўстарэлага, але практыка паказвае, што байка прыхільна сустракаецца чытачом (і слухачом) і стварае належны эфэкт. А покуль яна здольна на такую службу, да таго часу яна можа жыць і разьвівацца, ня гледзячы на ўсе выдумкі „страшных рэформатараў".

[1]) Процістаўленьне лірыка сатырыку можа быць толькі па пераважнасьці лірычнага ці сатырычнага элемэнту. Вельмі часта абодва гэтыя элемэнты зьліты ў адным творы Узорам такога сынтэзу могуць служыць творы Г. Гейнэ.

Аб устарэласьці таго ці іншага жанру ў беларускіх умовах нельга гаварыць часта яшчэ і таму, што шмат якія з літаратурных жанраў у нас яшчэ зусім не практыкаваліся, і кожнае мэтазгоднае ўвядзеньне такога жанру зьяўляецца ўкладам у скарбніцу беларускае літаратуры.

Але адгэтуль яшчэ не вынікае, што не павінна быць імкненьня да стварэньня новых жанраў. Наадварот,—гонар і слава таму пісьменьніку, які здолее стварыць новы літаратурны жанр. Гэта будзе каштоўным укладам ня толькі ў беларускую літаратуру, але і ў сусьветную.

**К. Пушкарэвіч**

# Ю. Тувім

*(поэта сучаснай Польшчы)*

Jeżelim, Stwórco, posiadł Słowo, dar twój świetny,
Spraw, by mi serce biło gniewem oceanów,
Bym, jak dawni poeci, prosty i szlachetny,
Wichurą krwi uderzał w możnych i tyranów.

(Prcśba o piosenkę. J. Tuwim. Słowa we krwi
126, стр. 18)
9

Сярод сучасных польскіх поэтаў выдзяляецца Юліан Тувім—поэта, які выступіў на літаратурную ніву са свайго роду дэклярацыяй яшчэ ў той час, калі сусьветная вайна была ў поўным разгары і будучы лёс Польшчы быў яшчэ няясны.

У Варшаўскай часопісі „Pro arte“ за травень месяц 1916 г., якая выдавалася гуртком маладых поэтаў і літаратараў, т. з. „пікадораўцаў“ (pikadorczycy)—ад назвы варшаўскага артыстычнага кабарэ „Pikador“—зьявіліся два вершы маладога поэты (Ю. Тувім радзіўся ў 1894 годзе)—„Teofanja“ і „Modlitwa“.

Польская літаратура да выхаду „Pro arte“ (сакавік 1916 г.), з слоў крытыка, жыве перажываньнямі мінулага і ня шукае новых шляхоў, не паўстае супроць старых літаратурных лёзунгаў і традыцый. На сьцягах моладзі, аб‘яднанай вакол „Pro arte“—S. Sechon, J. Tuwim, Z. Karski, A. Słonimski, J. Iwaszkiewicz—служэньне хараству і чыстаму мастацтву, вечныя лёзунгі, якія з асаблівай сілай выяўляюцца ў эпохі соцыяльнага распаду. Пад лёзунгам „pro arte“ моладзь шукае новых шляхоў, новай поэзіі. „Teofanja“ і „Modlitwa“ Тувіма—дэклярацыя маладога поэты, зварот да „новай поэзіі“, набліжэньне якой поэта адчувае.

Idziesz! Przeczuwam ciebie! Jak daleka łuna,
Czerwieni się olbrzymia moc błyskawicowa!
Widzę cię, śwista moja wizjo złotostruna!
Widzę cię—świtasz—idziesz, o Poezjo Nowa!
Choć nie dostrzegłem jeszcze twojego oblicza,
Z którego bogiem tryśnie wieków treść ukryta,
Wiem, że będziesz szalona! będziesz tajemnicza,
O Duszo, która idziesz, w której przyszłość świta!
A będzie ci na imię groźne, twórcze: „Jestem“!
Obejmiesz sobą wszystko, tyrańska, potworna!
I objawisz się swiatu—Ognia Manifestem:
— Przyszłam po sny szaleńców, ksieni niepokorna!

(Czyhanie na Boga, W 1922, стр. 9)

Для поэты яшчэ няясна аблічча гэтай новай поэзіі, якой ён зьбіраецца служыць у імя мастацтва для мастацтва. Толькі з цягам часу

ў сьвядомасьці поэты яно прымае ўсё больш і больш пэўныя абрысы, поэзія перастае быць мэтай у сабе, нечым самагодным, што існуе адно „для звуков сладких“.

Poezja moja—to nie tylko śpiewność,
Zrodzona szczęściem lub żalem głębokim...
To Rewolucja Dusz! To śmiałe Rzuty!—

заяўляе поэта (Poezja. Spojrzenie w przyszłość. Czyhanie na Boga, 155) і далей:

Idziesz, Poezjo Nowa! Jak przed burzą
Duszno nam...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Idziesz, Poezjo! Wkrótce się zespoli
Myśl i żelazo, westchnienie i Miasto!
Nowego boga urodzisz, Niewiasto!
Wstanie ogromny w życia oureoli
I będzie ludy nauczał żywota
I będzie Nowych Zdarzeń protoplastą
A pójdzie za nim uboga hołota
Z twierdz, z miast, z podziemi, z fabryk, z ulic, z roli
I wszystkich jutrznia rozsłoneczni złota.

(ibid. стр. 160)

Так у поэты адбылася эволюцыя ў разуменьні назначэньня поэзіі. Ад лёзунгу „мастацтва для мастацтва“ ён пераходзіць да іншых лёзунгаў, выкліканых новым жыцьцём. Цяпер поэта ўжо канчальна адмаўляецца ад „гімнаў“ у чэсьць харaства, мастацтва—

Nie natchnij mnie hymnami, bo nie hymnów trzeba
Tym, którzy w zżartej piersi pod brudną koszulą
Czore serca noszą, krzycząc za kawałem chleba,
A biegną za orkiestrą, co gra królom.

(Prośba o piosenkę. Słowa we krwi. W. 1926, 18)

Жыцьцё з яго вечна зьменнымі рытмамі адлюстравалася ў творчасьці Ю. Тувіма востра і рознастайна. Томікі яго вершаў (Czyhanie na Boga, W. 1918; Sokrates tańczący, 1920; Siódma jesień, 1921; Wierszy tom 4—1923; Słowa we krwi, 1926) зьмяшчаюць у сабе цэлы сьвет рознастайных перажываньняў, якія заключаны ў новыя ці модэрнізаваныя формы. Вэрхарн, Рэмбо, Уітман, італьянскі і расійскі футурызм зрабілі свой уплыў на поэтычнае фармаваньне Ю. Тувіма. Ён сам усьведамляе і не адмаўляе гэтых уплываў.

„Wpływy“? Ja wpływów nie wstydzę się wcale!
To duma moja, że bożych olbrzymów
Uczniem się stałem! Że śród moich rymów
Znajduję echa, co dźwięczą wspaniale!
Że dusza moja znalazła Patronów
Wielkich Kapłanów...

(Czyhanie na Boga, Poezja, 159)

У тым-жа вершы, які мае характар праграмы поэты, Тувім называе сябе футурыстым.—

Będę ja pierwszym w Polsce futurystą,
A to nieznaczy, bym się stał głuptasem,
Co sport z poezji czyni i z hałasem
Udaje maga, a jest tylko glistą.

(ibid., 158)

Аднак ён, падобна футурыстым, не парывае з традыцыямі, з мінулым. Новы зьмест поэзіі ён не баіцца падаваць у старых формах. Ён футурысты таму, што жыве будучым і імкнецца ўнесьці ў сваю поэзію частку гэтага будучага—

Gromada śpiewa, współczesności chór,
Tłum ekstatyczny, który w bezmiar urósł!
Hej, życiu drogę! Stanął groźny zbór,
A na spotkanie zborowi—futurus.

(ibid., 158)

Цяга да рэалізму ў поэты сымболістага Тувіма адчуваецца ўжо ў першых яго творах. Не дарма-ж яго верш „Wiosna“, dytyramb (Sokrates tańczący, 63) выклікаў такую полеміку ў літаратурных колах Польшчы, якой, згодна слоў М. Шыйкоўскага (Współczesna liter. polska, P. 1923), ня было з часу выступленьня Пшыбышэўскага. Поэту абвінавачвалі ў тым, што ён зьнішчыў хараство, пераступіўшы межы дазволенага ў поэзіі, што ён даў у літаратуры „dzieje grzechu“.

Горад-страшыдла пад уплывам праменьняў вясеньняга сонца ажывае, адусюль, з усіх шчылін і нор выпоўзвае „miljard pstrokatej hołoty“—

Szurgają nóżki, kołyszą się biodra
Gwar, gwar, gwar, chichoty
Gwar, gwar, gwar, piski...

Уся немарасьць вялікага гораду, жах супярэчнасьцяй сучаснай культуры паўстае перад намі пры чытаньні гэтага твору, які заканчваецца поўным сарказму воклічам поэты:—

— Och, sławie ja cię, tłumie, wzniosłemi słowami
I ciebie, Wiosno, zato, że zbrodniarz się płodzi.

(Wiosna, ibid. 66)

У поэзіі Тувіма горад з яго кіпучым жыцьцём, з хуткабежнымі моторамі—антыхрыстамі (верш „W Warszawie“, Sokrates tańczący) атрымаў сваё адлюстраваньне.

Горад—вялізман расьце, усё ўбірае і бязьлітасна паказвае супярэчнасьці нашай культуры. Пасынкі гораду паўстаюць і „Горад, які расьце“, гіне ў руінах у часе рэволюцыі, якую поэта ўспрыймае як бунт чэрні, водкідаў культуры „Гораду, што будуецца“, як прыход „будучага хама“.

Ty kotle wrzącej zgrozy! Ty zbrodnio! Ty zbirze!
Nadciągający Chamie! Monstrum bezforemne!
Kipiało! Ktoś zew rzucił: Rewolucja, bracia!
Wypełzła na ulicę czarnych ludzi chmara,
Śpiewając, nieśli przodem pokrwawioną szmatę,
Z więzień z dzikim tryumfem wypuścili łotrów.

(Na Wieży. Sokr. tańcz. 59)

Натоўпы п‘яных ад крыві людзей ідуць, валяцца—

Śród łomotu motorów, drgających jak ciała,
Śród rosnącej zagłady Rosnącego grodu!

Горад гіне ў руінах.—

A na cegłach, kamieniach, na obmierzłych brudach
Zasiadały opryszni, ladacznice, zbiry,
Rajfury tęgie, starce sprośne i obleśne,
Wrzeszcząc na całe gardło hymny bogoburcze.

(ibid. 61)

Уся культура „Гораду, які будуецца“, загінула:—

„... I znowu nad wodami krążył Duch prawieczny...“

Так поэта, які адчувае подых рыволюцыі ў гарадох, што ліхаманкава будуюцца, бачыць у ёй бунт чэрні, што руйнуе горад, які для самога поэты зьяўляецца новым Бабілёнам, будаўніцтвам якога кіруе шатан:—

A rządzi planem ludowy
Bies: bratobojca, idjota,
Stinnes tyciącpudowy.

(Poezyj t 4, Walka, стр. 24)

Стыннэс, тысячапудовае страшыдла капіталізму найяскравей за ўсё паказвае сваё аблічча ў горадзе, поўным супярэчнасьцяй, дзе людзі, якія жывуць на першым паверсе, ня могуць зразумець людзей, якія знаходзяцца пад стрэхамі дамоў, зьнябываючыся ад летняй сьпякоты гораду.

Gdy pani z pierwszego piętra przechodzi w chłodnej sieni,
Snuje się za nią przewiew majowych perfum: bez...
Ale dla nas, s czwartego, niema tej wiosennej jesieni,
Od rana wali przez okno słońce, płomienny bies.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

A na ulicach asfalt gotują w kotle. Żli są.
Tłuką kamienie na szosię. Duszą się. Muszą tłuc.
Pęka ze smiechu i skwaru bies biały z mordą łysą,
Proch miałki końskiego łajna wdycha nędrarzom do płuc.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Panowie jedwabni i chłodni! Nie znacie naszych nóg!
Jakie są poranione, jakie brudne i spiekłe,
Starte w zdartych trzewikach o rozpalony bruk!
... Pani z pierwszego piętra w kaflowej białej wannie
Konwalje mydeł piennych natryskiem rzęsistym zmywa.

(Skwar nędzarzy. Słowa we krwi, 33)

Усюды ў горадзе поэта натыкаецца на страшэнную бяду—

Zmarzłe kartofle surowe
Kaszel suchy, piec zimny,
Deska twarda pod głowę.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Szmaty w oknach i na ciele łachmany
I krzyk w nocy, krzyk, świsty, przeklęty:
„Tato, tato kochany!“

(Nędza. Słowa we krwi, 22)

А зімой, калі „szklany wiatr kraje twarze, sypie kłaki śnieżne“, калі ў цёплых кватэрах, у дарагіх рэсторанах шчасьліўцы карыстаюцца дабром гарадзкой культуры,—поэта чуе, як за сьценамі дамоў—

Zaczyna się pod murem taniec wybijany,
Podskoki niecierpliwe, pląsy histeryczne,
Na zziębłem ciele martwe trzęsą się gałgany
Wyprawiając na wietrze harce ekstatyczne.

(Mróz nędzarzy. Sokrates tańczący, 82)

Ніводная рыса жыцьця шумлівага і халоднага городу не застаецца ня ўгледжанай праніклівым вокам поэты. Вось што бачыць ён на дварэ вялікага дому:

Śpiewa na podwórku, tuląc się w łachmany
Mały biedny chłopiec. Żydek obłąkany.

(Żydek. Słowa we krwi, 31)

А з першага паверху бязудзельна глядзіць на няпрытомнага пан.

Сусьветнай вайне Тувім прысьвяціў некалькі вершаў—Sztab, Extrablatt, Mort Homme, Atak, Krwawy chleb (Czyhanie na Boga, 89—96).

Недарэчнасьць вайны, мізэрныя фігуры вайсковых начальнікаў, якія рыхтуюцца весьці ў атаку людзей, жорсткае зьнішчэньне чалавека чалавекам,—зьмест гэтых вершаў.

Поэта „рэволюцыі душ“ Тувім ясна адчувае тое, што шкодзіць чалавеку ўспрыняць новую поэзію—нікчэмнасьць і мяшчанства ва ўсіх яго праявах. Характэрным зьяўляецца „niedzielnie na ulicy“ (Sokrates tańczący, 57) або „Piotr Płaksin“ (poemat sentymentalny) (ibid. 93), дзе нікчэмнасьць мае трагічны вынік. Гэроямі сэнтымэнтальнай поэмы аб Пятру Плаксіне—тэлеграфістым, які знаходзіцца

Na stacji Chandza Umyńska
Gdzieś w Mordobijskim powiecie...

зьяўляюцца расійцы—„русыфікатары“.

Мотывы творчасьці Ю. Тувіма, які зьяўляецца пераважна поэтам гораду, рознастайныя. Побач з пяшчотнай любоўнай лірыкай (зборнік „Siódma jesień“)—романтычная, поўная сымболікі, поэма „Świtoraz“ (Czyhanie na Boga, 146) з рэмінісцэнцыямі з „Слова аб палку Ігаравым“, такі верш, як „Wiosna“ (dytyramb), верш на сьмерць прэзыдэнта Нарутовіча.

Асобнае месца ў томіках вершаў поэты займаюць вершы аўтобіографічнага характару, поўныя жалю, выкліканага ўспамінамі пра маленства, школу—Wtedy, Nad Cezarem, Sitowie (Sokrates tańczący); Dzieciństwo; Motyle; Nauka (Poezyj t. 4). Асабліва ўдалы па форме верш „Nad Cezarem“, у зьмест якога ўплятаюцца фразы з так добра вядомага ўсім школярам—Ю. Цэзара „De bello gallico“—

Szkoło! Szkoło!
Gdy cię wspominam,
Tęsknota w serce się wgryza
Oczy mam pełne łez!
... Gallia est omnis divisa
in partes tres...

(Nad Cezarem. Słowa we krwi, 50)

Лірыка Тувіма рознастайная ня толькі зьместам, але багатая і па форме. Поэта з увагай сочыць за словамі, за іх злучэньнем. Слова для яго ня толькі простае злучэньне гукаў, якім умоўна надаецца пэўнае значэньне. У словах ён бачыць нейкі асобны, захованы ў іх, сэнс:

Słowo jest winem i miodem,
Słowo jest mięsem i chlebem.

„Każde słowo ma korzeń w czarnej głębi ziemi" (Słowo i ciało. Słowa we krwi, 7).

Слову, як такому, Тувім прысьвячае некалькі вершаў (Słowo i ciało, Słowem do krwi, Słowa). Адзін з яго зборнікаў носіць назву—„Słowa we krwi"—затым што:

Niedarmo z śpiewem rymuje się krew
Niedarmo krwi oddzwania gniew
Słowo—wie, jakiem brzmieniem pobrzmiewa.

(Słowo i ciało, V)

Поэта павінен ускрыць сапраўдны сэнс, захованы ў слове, ён—усяго „лавец слоў". Тувім—віртуоз формы. Брусаў і Бальмант зрабілі на яго ўплыў; не дарма ён пераклаў шэраг твораў гэных поэтаў (Balmont i Briusow. Przekłady z liryki rosyjskiej). Расійскі ўплыў заўважваецца ў вершах, аб'яднаных назвай „Słopiewnie"—Zielone Słowa, Słowisień, Kalinowe dwory, O mowie rosyjskiej, Św. Franciszek, Wanda.

Асабліва характэрным зьяўляецца „O mowie rosyjskiej".

Tiéwnaja piewúnnica
Miłoj mi raduny!
Zwòniestie, zagòristie
Swietaładl struny!
Wjárkoti żurczáłowo,
Wjúnica płaczewna,
Grústiwie pieczáłowo
Tiewnaja słopiewna!

(Poezyj, t. 4, 58)

Пачаўшы сваю літаратурную дзейнасьць у гуртку „пікадораўцаў", Тувім перажыў ужо тыя лёзунгі, якія давалі яму натхненьне ў пачатку яго поэтычнай дзейнасьці. Аблічча „новай поэзіі" зьявілася перад поэтам, і ён кідае на адрас поэтаў, якія служаць чыстаму мастацтву:

Wasze słowa są, jak salonowe pieski,
A moje—jak wściekłe psy!
Pal licho wasze arabeski, burleski
I—zamiast stawiać wielokropki, kreski—
Policzkujcie w swych wierszach,
Pięścia, walcie w łby!
Rwać, drzeć na strzępy
Wasze sonety i firli tryolety,
Kpy!
Niechaj poezję znienawidzą
Mdłe i płome
Panny lubieżne!
Słowem do krwi—jak tasakiem w głowę!
O, słowa! słowa ostre i złote!
Słowa prężne i drapieżne,
Jak lwy! Jak lwy!

(Słowem do krwi. Słowa we krwi, 17)

Поэта буржуазнай Польшчы ўжо чуе набліжэньне новага жыцьця, ён ведае, скуль яно ідзе, хто творца гэтага жыцьця, і сам гатоў прыняць удзел у руйнаваньні „Гораду, які будуецца“, у руйнаваньні панаваньня Антыхрыста.

Gniewnemi oczyma burzę
Teatry i parlamenty,
Dyrekcje, redakcje, banki,
Gdzie rządzi bies przeklęty!
Oczyma biję drągiem
W szyby wspaniałych wystaw,
Taranem krzyku druzgocę
Królestwo Antychrysta.

(Walka. Poezyi, t. 4, 24)

# БІБЛІОГРАФІЯ

**Янка Купала. Збор твораў—том чацьвёрты.—Сон на кургане—Адвечная Песьня.—На папасе—Песьня аб паходзе Ігара—Галька (перакл)** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, 226 стар., ц 2 р., Менск 1928 г.*

Шкада, што Янка Купала пад творамі гэтага тому не паставіў дат. Даты, якраз у гэтым выпадку, рэч вельмі паважная, бо яны дапамаглі-б устанавіць у некаторай ступені позу аўтара да сваіх твораў, а так надзвычай цяжка, напрыклад, гаварыць аб опэры „Галька“ Уладзімера Вольскага, якая, здаецца, у друку яшчэ нідзе ня была, і якую аўтар знайшоў магчымым, а мабыць, і патрэбным, выдрукаваць у 1928 г. Наогул цікава было-б ведаць, у якую гэта паласу свае творчасьці Янка Купала выбіраў гэткія творы для перакладу, калі мне здаецца, што яны ідуць ў разрэз з агульнай накіраванасьцю творчасьці поэты. А можа яна якраз адпавядае сучаснаму погляду поэты на поэзію, на шляхі яе разьвіцьця, можа, ён у ёй знайшоў блізкае да свайго сьветаадчуваньне? Акрамя таго, даты ў даным выпадку мелі-б значны ўплыў і на выбар пункту погляду рэцэнзэнта, а адсюль і на ацэнку гэтых твораў: ці зьяўляюцца, скажам, яны жывымі мастацкімі організмамі для сучаснага стану нашае поэзіі, ці можа яны ўсяго помнікі з гісторыі нашай літаратуры, дакумэнты з поэтычнага архіву народнага поэты?

Аднак, ня гледзячы на ўхіленьне аўтара ад датаваньня сваіх твораў, усё-ж вядома, што „Сон на кургане“, „Адвечная песьня“ і „На папасе“—творы нашаніўскай пары; „Песьня-ж аб паходзе Ігара“ зьявілася ў друку ў часы грамадзянскай вайны, пасьля Кастрычніка,—гэта, значыць, твор нашых дзён; магчыма, што і пераклад „Галькі“ зроблен у гады рэволюцыйнага дзесяцёхгодзьдзя.

Мы звыклі, з лёгкай рукі нашых крытыкаў, успрыймаць нашаніўскую пару і пару адраджэньня як сынонімы, ня гледзячы на тое, што ў словах нашаніўская пара куды менш зьместу, як у словах пара адраджэньня,—знаку роўнасьці ні ў якім выпадку мы сягоньня ставіць ня можам. Што такое нашаніўская пара? Пэўны кругабег часу (1906—1915), зьвязаны з выхадам газэты „Наша Ніва“, у які ажывіўся росквіт нашае поэзіі, якая, галоўным чынам, тужылася разьвязаць проблему нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня. Бясспрэчна, што ў гэты кругабег палажан пачатак і пары адраджэньня ў шырокім разуменьні гэтага слова, але толькі пачатак. Нашаніўская пара замкнула сваё кола 1915 г., пара-ж адраджэньня толькі з Кастрычнікавай рэволюцыі перайшла ў новую фазу свайго сапраўднага росквіту, місія якога яшчэ далёка не закончана нават у БССР, ужо ня кажучы пра Заходнюю Беларусь.

Калі мы называем нашаніўская пара, дык адразу ў нашым ваччу з поэтаў вырысоўваецца Янка Купала, як быццам ён вышэй на галаву за ўсіх сваіх сучасьнікаў, па-за гэтай парою Янка Купала ўяўляецца менш выразна. Ды і ня дзіўна, што так: ён-жа быў на чале нашаніўскай пары, а разам з тым і раньняй пары беларускага літаратурнага адраджэньня. Лёс нашага адраджэньня іншы ад лёсу эўрапейскага адраджэньня, або, сьціслей кажучы, італьянскага. Ня буду я ўдавацца ў аналіз гэтага пытаньня ў рэцэнзіі, толькі адзначу, што для італьянскага літаратурнага адраджэньня характэрным зьяўляецца яго духоўная ўвязка з антычнай літаратурай, толькі яно не давала копій з клясычных аутэнтыкаў, а ўсяго ўспрыняло іхнюю меру апоэтызаваньня, унутраную гармонію, рэалістычныя тоны, жыцьцёвую мужнасьць, а сокі, якімі яна кармілася, былі з нацыянальнай глебы. Таксама характэрна для поэтаў італьянскга адраджэньня, што яны ў сваёй творчасьці бачылі не пабочныя мэты, а якраз творча-мастацкія; гэта дало ім магчымасьць стварыць і новыя формы, жанры, якія ляглі за аснову ўсяе эўропейскай поэзіі. Даволі назваць у лірычным жанры Пэтрарку, каб пераканацца, што эўропейская лірыка аж да Вэрхарна, а нават можа і пазьней, знаходзілася пад яго ўплывам.

Беларускае-ж літаратурнае адраджэньне свой лёс увязала не з антычнасьцю, не з эўропейскім адраджэньнем, за выключэньнем, праўда, М. Багдановіча, а з распадаючымся расійскім сымболізмам ды з другараднымі польскімі поэтамі, адсюль яго і малакроўнасьць. Яно не знайшло ў сабе мужнасьці паўтарыць дантаўскіх слоў аб Гомэры: „Шануйце найвялікшага поэту, які ўзьвіўся над другімі быццам арол“,—прыстасоўваючы ўжо іх да Гомэра, Дантэ і Шэкспіра. Гэтымі словамі я ніколі не хочу сказаць, каб беларуская поэзія дваццатага стагодзьдзя ў сям'і эўропейскай была нейкай старамоднай, архаічнай. Якраз не, яна-б была самай малажавай ад усіх іх і самай жыцьцярадаснай, калі-б выцякала з антычных крыніц, а не з забросьнеўшых затонаў расійскай і польскай літаратур.

Тры орыгінальныя творы IV тому Янкі Купалы напісаны поэтам у гады распаду сымболізму, асабліва ў расійскай літаратуры, з якім Купала ўсё ж у нейкім сваяцтве быў і на зьмену якому ўжо ішоў

акмэізм, ды не за гарамі быў і футурызм. Праўда, Купалаўскі сымболізм—гэта не Салагубаўскі, не Вячаслава-Іванавага. Сонца ў Купалы не салагубаўскае сонца, няма ў Купалы і столькі містыкі, як у Вячаслава Іванавага, і ня бачыць ён цераз яе іскупленьня Беларусі. У Янкі Купалы рэалістычныя тоны ацяняе алегорычнасьць. Сьветаразуменьне Янкі Купалы не прадумана ў пляне сымболічным да яго лёгічнага канца, а таму яго і сьветаадчуваньне ўсё-ж афарбована больш у рэалістычныя тоны. Поэтыку сымболістых Янка Купала вызнаваў, дзякуючы чаму, культуру беларускага вершу ён узьняў надзвычай высока; гэта мы бачым і ў памянёных вышэй рэчах, асабліва з гэтага боку яны заслугоўваюць вялізарнай увагі і цікавасьці на'т і ў сучасны момант.

Янка Купала ў гэтых сваіх рэчах выступае, як драматычны поэта, але баюся я зараз прызнаць, што гэта Купалаўскі жанр. Можа, ён яму ня зусім удаўся таму, што гэтыя рэчы распрацованы ўсё-ж у пляне сымболічным, і таму ў іх страціўся найвялікшы гэрой, дзеючая асоба—чалавек; ён тут завэлюмаваны анімізмам і містыкай; можа быць, гэта давала большы ўзьлёт творчай фантазіі поэты, якая ў некаторых мясцох мяжуе з казачнасьцю, але гэта перашкодзіла разгарнуць дзею ў драматычнай роўніцы. Такі глыбокі зьмест і такі драматычны па сваёй пульсацыі мог быць аформлен у такіх яскравых і жыцьцёвых тонах, што можна было-б паўтарыць Гётэўскія словы пра Шэксьпіра: „Нам здаецца, быццам мы стаім перад расхіненымі вялічэзнымі кнігамі самога лёсу".

Праўда, у „Адвечнай песьні" і „На папасе" перапляліся два пляны: містычны і рэалістычны, і вось, дзе пераважае другі, тыя месцы вышлі больш моцнымі па сваёй унутранай сіле і па сваім мастацкім пераконваньні. У „Адвечнай песьні" гэта будуць месцы, прысьвечаныя працы і наогул, дзе словы ўложаны ў вусны чалавека—мужыка. XII песьня яе „На могілках" узвышаецца па сіле дадзенага вобразу да IV і V сцэн I дзеі „Гамлета" Шэксьпіра, і толькі там—цень дацкага караля, а тут—цень беларускага мужыка, які хоча ведаць, патомкі яго як жывуць:

Ці песьні пяюць, ці як мухі
У цянётах гніюць павука?

І ўсё гаварэце мне, духі,
Што зроблена для мужыка.

„На папасе"—рэч самая аўтобіографічная з усіх, зьмешчаных у IV томе. Тут адразу пад незнаёмым пазнаём мы Янку Купалу, які гарue над праклятай доляй беларускага народу і які добра ўсё-ж разумее, як гэты народ, у такую цяжкую гісторычную пару, ацэньвае і ўспрыймае яго песьню:

3-ці падарожны:
І песьню так пяе працяжна!..

1-шы падарожны:
Душу, здаецца, рве яна.

2-гі падарожны:
О ці помніш усю чыста?

1-шы падарожны:
Пачатак помню ўвесь.

2-гі падарожны:
А я—сяродак галасісты.

3-ці падарожны:
А мне канец у вушы ўлез.

Мне зараз цяжка сказаць, на колькі даўгавечны гэтыя творы Купалы, які іх лёс чакае ў новыя эпохі; ці здолеюць яны там заіскрыцца сваім новым сьветам і жыцьцём і ці расчытаюць нашы патомкі ў іх тое, чаго мы сягоньня ня ўмеем расчытваць? Гэта пакідаю без адказу...

З перакладаў—два: „Песьня аб паходзе Ігара" і опэра „Галька". Першы пераклад надзвычай удалы як блізкасьцю свайго зьместу да аўтэнтыка, так і сваім мастацкім аформаваньнем. Якое мэтрычнае і строфічнае багацьце, а як магутна і вобразна гучыць беларускае мова! Затое нельга гэтага сказаць аб „Гальцы". Шмат сустракаецца зваротаў мовы не беларускай, польскай, а таксама слоў і націскаў; ды і наогул дзіўна, чым магла зацікавіць гэта шляхецкая опэра Купалу? Твор сам па сабе маламастацкі,—няўжо тым, што Манюшка напісаў да яго музыку? Да рэчы, яшчэ некалькі слоў аб мове купалаўскіх орыгінальных рэчаў гэтага тому, хоць вельмі не хацелася-б мне аб гэтым гаварыць, але нейк становіцца няёмка, самому не па сабе, калі чытаеш у Купалы такі звароты:

Як фігуры выразáны,
Як бібулы малявáны.

Наогул скарочаны канчатак у прыметніках беларускай мове не па духу, а ў Янкі Купалы сустракаецца даволі часта.

Або ўжываньне такіх слоў: жалóсна, папсуе, разьмéніць, балéсьне, бескарыґсьне, існéньня... ці: пахалі, абшырна, жалее, прыгадзіцца.. і ўрэшце, як фінал, такі радок: Кáлі бяда ў хаце.

Высноў я ніякіх рабіць ня буду, а ўсяго яшчэ зазначу на адно: калі зараз маладым нашым поэтам на кожным кроку крычаць—выкарыстоўвайце культурную спадчыну, дык я мушу ад сябе зазначыць: у першы чарод зьвярнецеся да поэзіі Янкі Купалы.

**Я. Плашчынскі**

**„Белорусская культура“**—*сборник I. Изд. Белорусского общества культурной связи с заграницей. БССР, Минск, 1928, ст. 76.*

Яшчэ ў 1926-27 г.г. ня раз мне здаралася чуць на юбілеях, конфэрэнцыях гарачыя прывітаньні Аляксандра Цьвікевіча ад імя Беларускага таварыства культурнай сувязі з замежамі, і заўсёды да гэтых прывітаньняў мае адносіны былі сур'ёзнымі. Зважаючы на іх, неяк аднаго разу ў 1927 г. я зьвярнуўся да вітальніка, каб паслаць сякія-такія кніжкі праз таварыства за межы, але ён усьміхнуўся і кажа: „Лепш зрабеце праз Беларускую Дзяржаўную Бібліотэку.“ Прызнацца, пасьля гэтага Беларускае т-ва культурнай сувязі з замежамі ў маіх вачох на палову страціла свой ранейшы аўтарытэт, і я падумаў: мабыць, яго дзейнасьць і абмяжоўваецца ўсяго прывітаньнямі на юбілеях і конфэрэнцыях, аж выходзіць, што памыліўся. У 1928 г. дзейнасьць таварыства набыла больш сталы і сур'ёзны выгляд—мы маем перад сабою першы зборнік „Белорусской культуры“. Адхінем-жа тытульную абалонку і паглядзімо на скарбы гэтай шматпакутнай культуры.

Ужо ў паведамленьні знаходзім уцешныя радкі: таварыства абяцае, што на гэтым зборніку яно не застыне, яно іх будзе выпушчаць і надалей, і што якраз чарговы зборнік будзе прысьвечаны „деятельности высших ученых (!) и учебных заведений БССР“; чаго-ж лепшага і жадаць, калі так жвава дабралася і да „высших ученых“.

Пераходзячы да разгляду зьмешчаных артыкулаў, дазвольце зрабіць маленькую агаворку: буду разглядаць іх я ня ў той чарзе, у якой яны выдрукаваны ў зборніку, бо гэтым абразіў-бы некакорыя артыкулы, што маюць сталы і сур'ёзны характар.

У зборніку бадай усяго тры артыкулы, за якія не пачырванее т-ва і беларуская культура, гэта: „Культурное строительство БССР к X годовщине Октябрьской революции“, „Белорусская государственная библиотека“ і „Белорусское изобразительное искусство“,—хоць, праўда, у апошнім у некаторых абзацах, можа чуць-чуць, але ўсё-ж вада пайшла праз край. Нельга ўсё-ж быць такім лёгкім оптымістым і ўцяшаць сябе такімі выразамі „выдающиеся художественные силы“; наогул у гэтым артыкуле аўтар ня здолеў надаць сваім тэрмінам пэўных мастацкіх катэгорый, ён іх ужывае крыху блытана, напрыклад: „свои определенные формальные и стилистические черты“. Аднэй сваёй рысай гэты артыкул крыху родніцца з артыкуламі, аб якіх буду гаварыць я зараз.

Артыкулы-ж, прысьвечаныя іншым галінам беларускага мастацтва, выглядаюць неяк вельмі мізэрна; думаецца, што гэта інформацыі аб беларускай літаратуры, тэатры, музыцы ўзяты з якой-небудзь провінцыяльнай беларускай газэты, перакладзены на расійскую мову і зьмешчаны ў зборніку „Белорусская культура“.

Характэрнай рысай для ўсіх іх—гэта „дапатопнасьць“ беларускай літаратуры, тэатру і музыкі. Напрыклад, пра літаратуру чытаем: „Первые памятники белорусского литературного творчества относятся к глубокой старине“...; пра тэатр: „Элементы его относятся к глубокой древности—к эпохе язычества и христианства“; пра музыку: „Создание белорусской художественной музыки началось также уже давно“... Ах, як гэта тупа і зьбіта! Няўжо гэткімі пустымі і агульнымі месцамі можна зацікавіць расійскага культурнага чытача? Ён сам аб гэтым добра ведае. Яму куды цікавей было-б пачуць пра тое, якія-ж стылі (кірункі) перажыла беларуская літаратура, музыка, тэатр; якое ўзаемадзеяньне было гэтых галін мастацтва; што ў іх ёсьць орыгінальнага мясцовага, беларускага, а асабліва росквіт іх трэба было выпукліць пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі; а то, як у артыкуле „Белорусская литература“, 6 балонак адведзена літаратуры да Кастрычніка, а ўсяго $2^1/_2$—на літаратуру пасьля Кастрычніка, ды то палова месца ўдзелена на організацыйныя падзеі.

Асобна мушу сказаць некалькі слоў аб гэтым артыкуле і таму, што беларуская літаратура, у параўнаньні з другімі галінамі мастацтва, самая багатая і цікавая, а артыкул-жа вызначаецца сваёй няпісьменнасьцю, тэндэнцыйнасьцю, якую ўсё-ж прыпадносіць расійскому чытачу брыдка і нясумленна.

Пачнем з няпісьменных месц:

а) „После упадка Белорусско-Литовского княжества, вызванного унией Белорусси с Польшей и продолжавшегося около двух столетий, белорусская литература в новых формах начинает возрождаться только в конце XVIII века и затем в первой половине XIX века“.

Што гэтым абзацам хацеў сказаць аўтар? Калі гэта пасьля двух стагодзьдзяў заняпаду Беларуска-Літоўскае княства адрадзілася? Шчыра прашу гісторыкаў даць аўтару артыкулу спэцыяльную лекцыю па гэтым пытаньні, каб больш ён ня выносіў на старонкі „Белорусской культуры“ такіх компромэтуючых сябе і зборнік разважаньняў.

А можа аўтар хацеў сказаць, што пасьля двухсотгадовага заняпаду беларуская літаратура пачала адраджацца? Ну калі гэтак, дык просім прабачэньня і адсылаем аўтара да сынтаксу хоць-бы „Фридлянда и Шалыта“.

б) „Только М. Багданович частично внес в белорусскую литературу того времени струю декадентства и импрессионизма. Но вместе с тем он подарил белорусскому стиху обработанную технику, доведя его построение до рондо и триолета“.

Гэткую рэч пра Богдановіча з беларускіх артыкульшчыкаў хіба змог-бы яшчэ напісаць Скалка. У гэтым сказе ня толькі выявілася неразуменьне аўтарам тэрмінаў дэкадэнцтва і імпрэсіонізм, але і адсутнічаньне нават самай элемэнтарнай літара-

турнай культуры аўтара, які бачыць удасканаленую тэхніку вершу ў рондо і трыолеце. Не рондо і трыолетам цікавы і характэрны М. Багдановіч у беларускай літаратуры; гэтыя формы ў яго зьяўляюцца ўсяго дапаўненьнем да яго, калі ...ль.. так сказаць, поэтычнага ансамблю. Ён вырысоўваецца перад намі куды цікавейшым у сваіх сонэтах, тэрцынах, октавах, пэнтамэтрах, нарэшце ў перакладзе клясыкаў, але ўсё-ж гэта, разам узятае, характэрна для юнацкай пары яго творчасьці, калі хацеў ён выпрабаваць сябе ў канонах клясычнай поэтыкі, даць іх узоры на беларускай мове і, асіліўшы іх, пайсьці далей, да стварэньня орыгінальных вершаваных форм у беларускай поэзыі і тым самым накіраваць яе разьвіцьцё па новаму шляху,— перашкодзіла-ж яму гэта зьдзейсьніць яго заўчасная сьмерць.

в) „Основное течение в с овременной белорусской литературе—революционный романтизм. На ряду с этим бывают оригинальные уклоны в сторону символизма".

Гэтак сказаць аб стылях (плынях) сучаснай беларускай літаратуры, значыць— ці зусім ня ведаць яе, ці мець нейкае дзікае ўяўленьне аб романтызьме і сымболізьме. Ну, скажам, возьмем творчасьць Цішкі Гартнага: дзе вы зможаце знайсьці там „революционный романтизм" ці „оригинальные уклоны в сторону символизма"?

Можна было-б яшчэ шмат выпісаць ляпсусаў з гэтага артыкулу, але я ўжо спыняю, таму што кожны чытач здолее пераканацца сам, прачытаўшы гэты няпісьменны дакумэнт „Белорусской культуры"; вядома, чытач не абміне і такіх „фактаў", як „Полымя" заснавалася ў 1924 г., і што існуе „Всебелорусская федерация читателей", што палякі раней з цікавіліся беларускай літаратурай, як расійцы (хоць мы ведаем зборнік вершаў Янкі Купалы ў перакладзе расійскіх поэтаў, а ня польскіх), і шмат чаго іншага.

Зборнік выдрукаваны на добрай паперы, але ня зусім удала ілюстраваны; ужо адно, што фотографія нар. поэты Янкі Купалы зьмешчана ў тэксьце, дзе гаворыцц про Фр нцыска Скарыну, Васіля Ціянінскага, і Сымона Буднага, за што гаворыць!

У выснове можна сказаць адно: расійскаму чытачу такі малапісьменны зборнік мала што дасьць; ну, няхай сабе так з расійцамі—з імі жывем мы разам, дык можам дадаць у вуснай форме, а што-ж падумаюць немцы, бо гэты зборнік, як сказаны ў прадмове, выдрукаваны і на нямецкай мове?

**Л. Т-р.**

# ХРОНІКА

## ДВА ГАДЫ

28/V у залі Інбелькульту адбыўся гадавы сход згуртаваньня „Узвышша“. Адкрываючы яго Кузьма Чорны спыніўся на некалькіх момантах 2-гадовае працы згуртаваньня, менавіта, на навізьне, унесенай «Узвышшам» у літаратурнае жыцьцё, як з боку організацыйнага гэтак і з творча-мастацкага. Ён зазначыў, што «Узвышша» першае ў беларускіх умовах узьняло голас аб культурнай рэволюцыі мастацтва, і што 2 гады жыцьця паказалі грунт для далейшае працы.

Далей быў заслухан даклад А. Бабарэкі аб выніках двохгадовае узвышаўскае працы. Ён падкрэсьліў, што «Узвышша» два гады працуе ў беларускай літаратуры над утварэньнем фактычнага зьместу таго паняцьця пролетарскай літаратуры, якое нарадзілася, як ідэя, ў агні рэволюцыі. Два гады працы згуртаваньня акрэсьлілі гістарычны кругабег у разьвіцьці беларускай літаратуры. Гэты кругабег пераходны і характарызуецца ён пераходам ад дэкларацыйна-дэструкцыйнага моманту да творча-конструкцыйнага, да стварэньня сапраўдных соцыяльных мастацкіх каштоўнасьцяй. Самы факт утварэньня „Узвышша“ вызначыў новы (узвышанскі) тып літаратурных організацый і палажыў пачатак культурнае рэволюцыі мастацтва, сутнасьць якое, як яна выразілася фактамі ўзвышанскіх твораў, зьмяшчаецца ў мастацкім афармленьні новага жыцьцяадчуваньня («жыцьцявізм»), выкаванага рэволюцыйнай рэчаіснасьцю. Таксама адзначыў дакладчык і імкненьне «Узвышша» ахапіць творчасьцю розныя галіны літаратуры. Гэтым заняліся паасобныя сябры згуртаваньня, што й стварыла як-бы вольную дыфэрэнцыяцыю „Узвышша“ на лірыкаў, эпікаў, новэлістаў, сатырыкаў, романістаў. У „Узвышшы“ менш усяго было аддадзена увагі т. зв. „організацыйным пытаньням“, што й прывяло да плённых вынікаў.

І ўрэшце нельга не адзначыць узвышанскага уплыву на творчасьць другіх пісьменьнікаў, што гаворыць само за сябе. Масы прызналі „Узвышша“, выразілі яму спачуваньне. Лісты рабочых, настаўніцтва, гурткоў, з просьбаю дазволіць называцца імем „Узвышша“, гавораць аб тым, што „Узвышша“ свой шлях знайшло і ўсьцераглося тэй небясьпекі, якая стаяла перад ім у асобе „недакваліфікаванага“ чытача і „перакваліфікаванага“ чытача, і магла прывесьці да полемікі для полемікі, а таксама й да вытворчасьці макулатуры.

У сваім выступленьні па дакладу, Ул. Дубоўка ўспомніў плян працы, зложаны два гады таму назад і спраўджаны на сёньня. Ён гаварыў аб тым, як спрачаліся, агалашалі дэклярацыі і нічога не рабілі літаратары два гады таму назад. „Узвышша“ узялося за працу. І трэба адзначыць поступ у творчасьці маладзейшых супольнікаў згуртаваньня Лужаніна, Глебкі, Дарожнага, што асабліва радасна вітаць чалавеку, які ня ўвесь час мае магчымасьць быць на Беларусі. Далей Дубоўка зьвярнуў увагу прэзыдыуму і рэдколегіі на канечнае распрацаваньне пытаньняў, вызначаных у тэзісах і дагэтуль нечапаных, а таксама на зьмяшчэньне перакладаў з чужаземных літаратур.

І ўрэшце прамоўца заўважае на незамкнутасьць „Узвышша“, на правільнасьць узятага кірунку, што робіць часопіс згуртаваньня асяродкам беларускай літаратурна-мастацкай думкі.

Аб працы „Узвышша“ выказаўся т. Шукевіч,—Я згаджаюся на 95 проц., сказаў ён, а мой болш з об'ектыўнай ацэнкай А. Бабарэкі. Выступаю, не як рэдактар „Вёскі“, а як прадстаўнік ЦК у згуртаваньні. Мне падабаецца шырыня гэтага вопыту супроць леташняга. Узвышша вырасла і не паддалася цкаваньню. Яно не ўвязалася ў полеміку, а ўпарта пашло па шляху працы. Трэба адзначыць працоўны настрой „Узвышша“. Хочацца сказаць яшчэ пра некаторыя хібы. Хібы гэтыя былі не ад схіленьняў ідэялёгіі, не ад контррэволюцыйнасьці, як падкрэсьлівалася гэта некаторымі. Гэта простыя недарэчнасьці. Але некаторыя рэчы трэба было падаваць у другім разрэзе. Яз. Пушчу контррэволюцыянэрам ня лічу. Ён проста харошы пісьменьнік, які любіць папрацаваць над формаю. Думак-жа, высказаных ім у некаторых вершах, не падзяляю.

Недарэчны закіды аб франк-масонсьцьве і замкнутасьці „Узвышша“. Як рэдактар газэты, я хачу сказаць аб тэй вялікай грамадзкай працы, якую прарабілі узвышаўцы праз „Вёску“ і „Чырвоны Сейбіт“. Крапіва, Бабарэка, Кузьма Чорны, Глебка, Лужанін многа дапамаглі ў організаваньні літаратурнага чытача селяніна.

Асабліва хварэў за гэтую справу Дубоўка. Ен пісаў нам, раіў, наогул рабіў усё, што мог.

Працу гэтую узвышаўцы рабілі шчыра, не ганяючыся за грашыма, ні за чым.

Узвышша расьце. Пролетарскі зьмест, удасканаленая форма—адзнакі гэтага росту.

Каб былі на гэтым сходзе таварышы, зараз занятыя ў ЦК, яны сказалі-б тое, што й я. Я маю на гэта мандат. Думаю, што праз год „Узвышша“ ня зьмесьціць сваіх

прыхільнікаў і ў большай залі. Трэба працаваць—усё добрае ва „Узвышшы“ ад неаслабнае працы.

Настаўнік Т. Пратасэвіч зазначыў на ролю „Узвышша“ ў школьнай працы. Настаўніцтва радавалася нумаром часопісі, як неабходнаму матар'ялу. Асабліва добра, што зьвернута увага на культуру мовы, а то ёсьць творы, якія ў гэтых адносінах трэба выкрасьліць і адтачыць іх. У сваёй вышыні Узвышша прыслухоўвалася да росту грамады, якая ня можа быць здаволена прымітывам. Закіды аб зьвіхах ідэялёгіі ня маюць жаднага грунту. Дасягненьні. пачынаньні „Узвышша“ прыходзіцца толькі вітаць.

У заключным слове т. А. Бабарэка спыніўся на наступным:

Некаторыя пункты не выкананы за недахопам часу. Культура мовы ў нашы дні самае актуальнае—таму яна была пастаўленая на першым пляне. Мы перажылі цкаваньне, мы разьбілі погляды на „Узвышша“ як на нешта страшнае. Нам не хацелі пісаць спэцы, казалі, што яны баяцца і пачакаюць, пакуль прытупяцца стрэлы. Правільны наш кірунак і стойкасьць у перамаганьні рознага роду перашкод забясьпечыла кіраўніцтва Комуністычнае партыі, дзякуючы якому усё гэта перажыта. На далейшую працу у нас хопіць і энэргіі. і захапленьня і адданасьці справе пролетарскай літаратуры.

Пасьля дакладаў былі перавыбары кіраўніцтва згуртаваньня, пры чым аднагодна была ухвалена зацьвердзіць ранейшы склад, які з посьпехам працаваў два гады.

Упрэзыдыум вайшлі—Кузьма Чорны, К. Крапіва і А. Бабарэка, у рэвіз. камісію—З. Бядуля, П. Глебка, Я. Пушча і ў рэдколегію—А. Бабарэка, Ул. Дубоўка і К. Чорны.

Сход закончыўся прыёмам новых сяброў. Аднагодна былі прыняты А. Адамовіч (крытык) і Т. Кляшторны (поэт).

# Хроніка замежнага культурнага жыцьця

## Нямеччына

—Выдавецтва O. Ulrich выдае антолёгію маладой лірыкі „Мы моладзь“ пад рэдакцыяй Э. Кунтэра і Г. Пфлюга.

—Пауль фон-Шэнайх выдаў новы роман „Пуга Аўгуста Шмідта“, у якім прапагандуе прымірэньне працы і капіталу.

— У выдавецтве „Heroldo de Esperanto“ вышла 5 кніжак бібліотэкі, прысьвечанай Усходу пад агульнай назвай „Усход“. У выданых кніжках зьмешчаны пераклады на эспэранто з кітайскай, індыйскай і турэцкай мовы.

— „Internacia unio esperantista“ пачало выданьне свайго органу „Esperantisto“. У нумары першым зьмешчан артыкул аб бразыльскай літаратуры.

— Ганс Гюльсен выдаў мэмуары аб Гергарце Гаўптмане.

— Б. Келерман па прапанове „Berliner Tageblatt“ выехаў у падарожжа па паўднёвай Азіі.

— Да юбілею Ібсэна—у Нямеччыне вышла кніжка Гергарда Грана „Генрых Ібсэн, як чалавек, і яго творчасьць“.

— Выдавецтва Universum-Bucherei выдала новы роман С. Штрэйвеля „Ян Кнэхт“. Да романа прыложана біографія аўтара.

— У выдавецтве „Eos-Presse“ выйшлі з друку новэлі Георга фондэр-Фрынга „Der Zuege“.

— У выдавецтве Internationaler Arbeiter Verlag“ выйшаў новы роман Курт Клебэра „Пасажыр 3-цяе клясы“.

— У тэатры Піскатора адбыўся паказ новай пьесы Ж. Блоха „Апошні кайзэр“.

— У Бэрліне і Мюнхене была пастаўлена новая опэра Гуго Вольфа „Коррэхідор“.

— У Лейпцыгу мела вялікі посьпех нановая опэра 28-гадовага Курт Вэйля „Цар здымаецца“. Тэкст да опэры напісаў Георг Кайзэр.

## Францыя

— Пісьменьнік Франц Карко пасьля падарожжа па паўднёвых краінах Эўропы піша роман з жыцьця рабочых на Гішпанскіх капальнях. Пісьменьнікам падрыхтаваны да друку таксама роман „Вуліца“ з жыцьця дробных служачых Парыжу.

— П'ер Амп скончыў апошнюю частку трылёгіі „Пан Гюро“.

— М. М. Кард выпусьціў з друку свой новы роман „Verites du moment“.

— Да 50 гадовага юбілею мастака Курбэ парыскі муніцыпалітэт организоўвае выстаўку, прысьвечаную яго творчасьці.

— Новы твор Р. Ролана „Леоніды“ выходзіць у выдавецтве Сабліе. Прадмова да романа была зьмешчана ў лютаўскай кніжцы „Эўропа“.

— Люсьен Фаўр атрымаў прэмію Конара за кнігу „Чалавек за мурамі“.

— Кандыдатам на нобэлеўскую прэмію 1928 г. Акадэміяй політычных наук і француcкай акадэміяй вызначан Анры Бэргсон.

— Жорж Дюамэль працуе над творам „Падарожжа ў Грэцыю“.

— Эдуард Эрыо працуе зараз над кніжкай аб Бэтговене. Каб азнаёміцца з некаторымі матар'яламі. Эрыо мае намер выехаць у падарожжа па Нямеччыне і Аўстрыі.

— Выдавецтва Флюры выдала другі том біографіі Делякруа „мастака, гравера і пісьменьніка“.—Біографія напісана Рэймондам Эсколье. Уся біографія выйдзе ў 3 тамох.

## Бэльгія

— Сялянскія поэты і пісьменьнікі згурталіся ў групу „Хлеб“.

— Жан Бэрж'е пачаў працу над новым раманам, у якім ён мае мэтай адлюстраваць міжнародную солідарнасьць рабочых розных краін. Падзеі будуць адбывацца ў розных краінах.

## Баўгарыя

— Першамайскія нумары ўсіх рабочых газэт і літаратурных тыднёвікаў сконфіскаваны поліцыяй.

— Кнігавыдавецтва „Светлина“ выдала за апошні месяц драму Д. Войнікава „Райна княгина“ і трагэдыю І. Нэгенцава „Грабовското възстание“.

— Міністр народнае асьветы Найдёнаў падняў пытаньне перад парлямэнтам аб забароне карыстацца ўсім без выключэньня новым правапісам, прынятым акадэміяй навук у часе ураду народнага земляробскага саюзу. У школах ужо даўно навучаюць па старому, але рабочыя газэты і літаратурныя пролетарскія тыднёвікі друкуюцца па новым правапісе.

— Эспэрантысты Гол перакладае забаронены поліцыяй роман Страшымірава „Хоро“ на мову эспэранто.

— І. Крэстапоў склаў на эспэранто „Антолёгію баўгарскай літаратуры“. Антолёгія ахапляе ўсю гісторыю баўгарскай літаратуры і мае вялікаю каштоўнасьць, бо дапамагае больш блізкаму вывучэньню баўгарскай літаратуры.

— Супроць рабочай газэты „Новини“ поліцыяй узьнята 28 судовых спраў; газэта выходзіць вельмі часта сконфіскаванай.

## Англія

— Л. О'Флагэці—ірляндзкі пісьменьнік скончыў свой новы псыхолёгічны роман „*Забойца*“.

— Г. Поуіс выдаў свой роман „У добрым віне м-ра Вэстона“.

— А. Хэй выдаў свой новы твор „Бедны джэльтмэн“, дзе малюе тэатральных зладзеяў, якіх называе „бальшавікамі“.

— Уэльс піша зараз кніжку прысьвечаную сваёй жонцы, кніжка будзе мець назву „Жыцьцё Кацярыны Уэльс“.

Ня гэтак даўно вышаў яго новы твор „Open Conspiracy“.

— Выходзіць з друку 10 том вядомага Оксфордскага слоўніка, над якім пачалі працаваць 40 год назад. На слоўнік патрачана каля мільёну фунтаў стэрлінгаў.

## Чэхаславаччына

— У галоўным горадзе Маравіі Брно з траўня па кастрычнік адкрываецца вялікая выстаўка сучаснае культуры.

— Праскія эспэрантыстыя рыхтуюць да друку „Вялікую антолёгію чэхаславацкай літаратуры“ на мове эспэранто.

У антолёгію войдуць таксама народныя сьпевы і наогул народная творчасьць славакаў.

У газэце „Munkas“ за красавік месяц зьмешчан артыкул аб стане сучаснай чэхаславацкай пролетарскай літаратуры „Сёньня літаратурнай Чэхаславакіі“. У артыкуле высьвятляецца праца толькі пролетарскіх пісьменьнікаў.

## Швэцыя

— У Гётеборге на 19-22 жніўня склікаецца міжнародны конгрэс па пытаньнях рабочай культуры. На конгрэс запрошаны ўсе культурныя ўстановы і пісьменьніцкія організацыі розных краін.

— Эйнар Адамсон выдаў кніжку аб сваіх уражаньнях пасьля падарожжа ў СССР. Кніжка завецца „Пад чырвонымі сьцягамі“.

Выдана кніжка на мове эспэранто.

## Японія

— Удзяку Акіта зрабіў перад культурнікамі Токіо даклад аб сваім падарожжы. Зараз Акіта канчае сваю кніжку аб уражаньнях, а таксама пачатую ў СССР новую драму.

## Італія

— Вясной 1929 г. у Флёрэнцыі адбудзецца ўсясьветная кніжная выстаўка. Ува ўсіх Эўрапейскіх краінах ідзе падрыхтоўка да гэтае выстаўкі. Рыхтуюць экспонаты лепшай кніжнай вытворчасьці.

— Часопіс „Fiera Letteraria“ абвясьціла літаратурны конкурс на 1928 г. Галоўная прэмія 5 000 лiраў за лепшы твор італьянца на італьянскай мове. У конкурсе прымаюць удзел толькі супрацоўнікі часопісі. На конкурс прымаюцца як прозаічныя, так поэтычныя, крытычныя і публіцыстычныя творы.

— Фашысцкі пісьменьнік К. Малапартэ напісаў кніжку „Італія супроць Эўропы“. Прадмову да кніжкі напісаў Б. Крэм'е, які адзначае, што кніжка Малапартэ варта таго, каб заняць месца ў радох вялікіх твораў італьянскае літаратуры.

— У Мілане экзэмпляр першага выданьня „Боскай комэдыі“ Дантэ ад 1743 года прадан за 35 тысяч фунтаў стэрлінгаў (фунт стэрлінгаў на нашы грошы крыху менш чырвонца).

— У Італіі пачала выходзіць новая часопісь „Арандо эспэранто“, мэта якой высьвятленьне на эспэранто культурнага жыцьця краіны.

— Мастак Дзіно Вілані працуе зараз над новым творам з жыцьця Альпійскіх сялян.

## Гішпанія

— У музэі Прадо (Мадрыд) акадэміяй мастацтваў організавана выстаўка твораў мастака Франціско-дэ-Гойя, прывезеных з музэяў Эўропы і Амэрыкі.

### П.-А. З. Ш.

— Вядомы проф. Калумбійскага унівэрсытэту—амэрыканскі тэатральна-літаратурны крытык Крэч выехаў у СССР для азнаямленьня з тэатрамі, мастацтвам у СССР.

— Супроць новага роману Эптон Сінклера „Бостон“, у якім ён піша аб Сако і Ванцэці — пачалася кампанія. Друкарня адмовілася друкаваць часопісь „Букмэн“, дзе друкуецца роман „Бостон“.

— Ф. Дэл пераапрацаваў у п'есу свой роман „Халасты бацька“.

— Чарльз Уолькер напісаў новы роман „Хлеб і агонь“, дзе малюе жыцьцё індустрыяльнага пролетарыя.

— Рут Сэкоу выдала свой новы твор „Сям'я Боні“, дзе малюе вясковае жыцьцё Амэрыкі.

— Выдавецтва „The Jung Hous“ выдала невядомую яшчэ поэму Уітмэна „Малюнкі“.

— У П.-А. З. Ш. прыехаў нямецкі пісьменьнік Э. Людвіг, які мае намер прачытаць некалькі лекцый.

— Е. Корбэт піша кніжку „Уот“—гэроем якой зьяўляецца поэта Уот Уітмэн.

— Нямецкая трупа М. Рэйнгарта мела ў Амэрыцы вялікі посьпех, асабліва карыстáліся посьпехам п'есы „Сон у летнюю ноч“ Шэкспіра, „Сьмерць Дантона“ і інш.

### Польшча

— Літаратурная прэмія гор. Варшавы за 1928 год прысуджана польскаму поэту К. Пшэрва-Тэтмайер (Przerva-Tetmajer), прэмія ў 15 тысяч злотых была перадана поэту ў дзень 3 мая.

— У канцы красавіка т-ва полёністых S. U. W. сьвяткавала XX гадовы юбілей сьмерці Станіслава Высьпянскага.

### Аргэнтына

— Выйшаўшы нумар часопісі „Nosotros“ цалком прысьвечан становішчу сучаснай літаратуры, крытыкі, тэатру і наагул культурнага жыцьця краіны.

*Рэдагуе* Рэдколегія. *Выдае* „Узвышша“.